# Ад аўтара

Жыў-быў пісьменьнік, і быў у яго кот. На жаль, пра ката ўсё ўжо — у мінулым часе. Толькі здымак яго на сьцяне. Але засталіся таксама гэтыя аповеды, напісаныя ў большасьці, можна сказаць, разам зь ім. Раней яму вельмі падабалася падчапляць кіпцюрамі літары ў пісьмовай машынцы, якую мы зь ім любілі бадай аднолькава, кожны па-свойму. Тыя надрукаваныя на машынцы апавяданьні засталіся ў іншых кнігах. Цяперашнія я пісаў, зразумела, на кампутары альбо па-ранейшаму на паперы, як люблю дагэтуль. У гэты час мой хвастаты Базыль звычайна ляжаў у мяне на каленках. Яму было ня вельмі зручна, бо я мусіў працаваць. Але яму відавочна падабалася, думаю, бо ён усьведамляў, што дапамагае мне, што мы зь ім разам слова за словам выдумляем гарадзенскія апавяданьні, моўчкі. Нам было прыемна разам.

# Мытыя яблыкі

Апавяданьне пра 1968—ы

Калі ў тэлеперадачах раптам пачынаюць згадваць аб памылцы, дапушчанай урадам у жніўні шэсьцьдзесят восьмага, мой бацька пахмурнее. Ён нічога ня кажа, але я амаль уяўляю, што ён можа ў такія хвілі думаць. Яму не даспадобы гэтыя размовы, і не таму, што ён ня любіць чэхаў, не. Проста тады былі часы, калі ён быў малады, амаль як я цяпер, і паводле ўрадавага рашэньня ды загаду свайго камандаваньня з тысячамі іншых апынуўся там — у Чэхаславаччыне. Гэта была адзіная вайсковая апэрацыя, у якой яму давялося ўдзельнічаць. Загад ёсьць загад, яго трэба выконваць, і напачатку ўсё складалася даволі драматычна. Але я адчуваю, што бацьку малапрыемна цяперашняя мітусьня вакол той даўняй падзеі.

Мы тады ўжо былі ў Нямеччыне, толькі-толькі прыехалі і не пасьпелі нават як сьлед асвойтацца з чужым, зусім незнаёмым краем. Наш дом быў на самым ускрайку вайсковай тэрыторыі. У адзін бок, за чыгункай, грамадзіліся капаніры лётнішча, зьлева, за плотам цераз асфальтоўку, а потым яшчэ за хмызамі акацыі хавалася ў дрэвах садоў нямецкая вёска. Проста ж, скрозь падвойную агароджу з калючага ржавага дроту, за якой ляжаў палетак, на даляглядзе можна было ўгледзець камянічкі мястэчка, спакой якога раз-пораз парушалі чырваназорныя самалёты. Казалі, што за шум даводзілася дорага плаціць. Вартавала наш кут вышка, спусьцелая, бо пасьля ад’езду калёны, напэўна, ня стала хапаць салдат-ахоўнікаў.

За плотам таго дня выцягнуліся ў доўгі ланцуг зелянковыя машыны. Толькі адна была цывільнага — кавамалочнага — колеру, рэдкая ўжо, як нават і на тыя часы, «Пабеда». У ёй ад'яжджаў мой бацька. Адразу за камбатам,

нашым суседам, у «газіку» якога побач з «бардачком», я гэта бачыў сам, быў усталяваны вайсковы радыётэлефон з антэнай. Мацяркі стараліся стрымаць сьлёзы, а для нас, хлапчукоў, турботная атмасфэра аддачы апошніх распараджэньняў, спробаў спраўдзіць рухавікі была напоўнена своеасаблівай урачыстасьцю. Снаваньне веставых, палявыя мундзіры і пісталетныя кабуры афіцэраў, жалезныя каскі ўзброеных салдат. Прычэпленыя да грузавікоў, гатовыя да далёкага маршу двухколкі палявых кухняў. І вялікая колькасьць машын з паліўнымі цыстэрнамі, якія, як мне здавалася, лішні раз сьведчылі пра тое, што дарога наперадзе сапраўды няблізкая.

Калі, пасьля працяглага стаяньня, калёна скранулася, я міжволі, як бывае пры назіраньні руху цягніка, пачаў падлічваць, колькі паўзь мяне праяжджала машын, кожная зь якіх, цяжка наладаваная, з напругай равучы, пакідала па сабе бруднавата-белы гар ад спаленага бэнзіну. Па аднагодках, якія круцілі галовамі, праводзячы грузавікі, я зразумеў: яны таксама захапіліся падлікам. Мяне апанавала салодкае трымценьне, бо я ўсьвядоміў, што велічыня калёны зьяўляецца вайсковай таямніцай. Па-мойму, машын ад'ехала сем-восем дзясяткаў. На наша вялікае зьдзіўленьне, назіралі ўсё гэта ня толькі мы. Праз дзень ці два заходнебэрлінскае тэлебачаньне паказала кадры, на якіх быў зьняты пачатак руху нашай калёны, і можна было здаўмецца, зь якога прыблізна месца адбывалася здымка. Я з трывогай пачаў аднаўляць у памяці падзеі таго дня, і мне з жудасьцю здалося, што памятаю, як на полі зьбіраў нейкую траву ці лубін, ладуючы яго на багажнік ровара, пажылы немец. Гэткі баўэр, у кепцы, як цяпер помню.

Дык, значыцца, вось які ён, сапраўдны шпіён! Зблізку ён нічым не адрозьніваецца ад звычайнага чалавека. Гэтае адкрыцьцё ўразіла мяне надзвычай.

З таго часу як дзьве або тры калёны пакінулі вайсковы гарадок, у ім стала даволі бязьлюдна і пасяліўся страх. Гаварылі, што нас засталася ахоўваць адна толькі танкавая рота (адкуль ёй было ўзяцца ў авіячастцы!), і ўсё больш упарта з вушэй у вушы сталі перадавацца чуткі пра

вусьцішны «дзень ікс», калі немцы нібыта дружна выйдуць, каб выразаць усіх нас. Ночы якраз стаялі чорныя — хоць пальцам ткні. Нас маткі заганялі дахаты да прыцемку і баяліся расчыняць вокны, церпячы задуху ў пакоях цёплымі жнівеньскімі начамі.

Ніколі не забуду заплаканага твару мамы, калі яна разам з суседкай сустракала нас, двух хлопчыкаў, якія, быццам ня памятаючы аб небясьпецы і перасьцярогах, пайшлі, нічога не сказаўшы, у мястэчка на штогадовы кірмаш у апошні дзень жніўня. Вам ніколі не даводзілася бываць на такім? Вельмі падобна да чэскага «луна-парку». Вандроўныя вагончыкі з забавамі. Карусэлі, атракцыёны, цір. Але не такі, як у нас. Немцу нецікава цаляць у вавёрак, якія, калі не спудлуеш, куляюцца ці пачынаюць круціцца. Кожны стралок мог здабыць тут прыз у выпадку, калі здолее перастрэліць мудрагелістыя канфігурацыі (накшталт нашых саламяных «павукоў» пад стольлю) штучных макаронін, на якіх трымаюцца розныя карысныя рэчы. Нават, як памятаю, пузатая пляшка шампанскага віна. Чым даражэйшы прыз, тым цяжэй яго атрымаць, большых грошай ён вымагаў на кулькі. Мы звычайна задавольваліся ўсялякай драбязой.

Так, але самае горшае чакала нас тады яшчэ наперадзе. Абодвух надзвычай строга, ужо на падворку, каля самага дому, прабрала суседка, камбатава жонка. Мы яе пабойваліся. Сваіх дзяцей яны з камбатам ня мелі, а кабетай яна была, між тым, уладнай і не цярпела пярэчаньняў сабе.

Як там ні было, але жыцьцё, хоць і бяз бацькі, ішло сваім ладам. Хуткія летакі болей не прарэзвалі галасам паветра, затое неўзабаве ў нас пачалі прызямляцца грузавыя «Аны». Мы пасьля ўрокаў бегалі сустракаць іх, бо лётчыкі прывозілі пісьмы, а забіралі нашыя перасылкі туды, бацькам. Разам зь іншым рыштункам у чэрава самалёта кожны раз загружалі ёмістасьці з вадой. Вады чэхі не давалі. А калі яна й была, дык нашы баяліся атруціцца. Ваду ашчаджалі, эканомячы на ўмываньні і ўсім, чым магчыма... Вось чаму, калі мы рыхтавалі бацьку садавіну, часьцей

яблыкі, я па некалькі разоў нагадваў маме, каб не забылася ў пісьме папярэдзіць тату, што яблыкі добра вымытыя і ня трэба марнаваць на іх ваду.

Нашы газэты, не інакш дзеля вайсковай таямніцы, амаль нічога не паведамлялі аб тым, што дзеецца там, за Судэцкімі гарамі. У памяці застаўся толькі артыкул на цэлую газэтную старонку пра тое, як загінулі танкісты, калі горную дарогу на іхнім шляху перагарадзілі ланцужком зь дзяцей. Затое з нямецкага тэлебачаньня (а іншага проста не было) мы ведалі, не валодаўшы нават мовай, шмат болей. Бачылі танкі на праскіх вуліцах, прычым сярод не вайскоўцаў, а звычайных цывільных гараджан. Але яны былі не такія міралюбныя. Доўгавалосыя юнакі падпалілі ззаду танк. Танкісты з запэцканымі тварамі мацюкаліся (гэта было чуваць праз нямецкую гаворку камэнтатара); спрабуючы ратаваць няўклюдную мэталічную гаргару, зьбівалі молатам вялікія бочкі з палівам. А танк гарэў, укрываючыся брудным чорным дымам. Вось вам і «кактэйль Молатава»: перанялі вопыт чэхі.

Сусед-камбат не разумеў, як такое магло здарыцца. У сорак пятым ён, яшчэ зусім юны лейтэнанцік, з адной зоркай на пагонах, бачыў Прагу іншай і танкі ў кветках, якія чэхі кідалі нават пад гусеніцы. Ад тых кветак і ўсьмешак пражан не засталося сьледу. Ён ня мог нічога зразумець. Ён ледзьве не загінуў, едучы на чале калёны. Шафёр-татарын у апошнюю хвілю заўважыў разьлітую на асфальце лужыну машыннага алею. Так, яшчэ чэхі пераварочвалі, пераносілі дарожныя знакі, каб заблытаць, увесьці ў зман войскі хаўрусьнікаў.

Для кожнага ўсё гэта магло скончыцца кепска. Бацька апавядаў, як аднойчы на горнай дарозе па іхняй машыне адкрылі агонь. Кулі раструшчылі пярэднюю шыбу блізка яго галавы. Яны — як звочыць — апынуліся ў рыштоку і наўздагад абстралялі гару. Ці, можа, гэта здарылася з суседам-камбатам? А мо' я прачытаў пра падобнае ў газэце?

А чэхаславацкая армія была здэмаралізаваная. Яна апынулася як паміж двух агнёў. Майму бацьку неяк давяло-

ся суправаджаць аднаго генэрала ў разьмяшчэньні іхняй баявой часткі. Калі яны ўвайшлі ў памяшканьне, усе іхнія афіцэры былі п'яныя, нherself няголеныя і расшпіленыя. Гэта было брыдкае відовішча. Яны не былі падобныя да вайскоўцаў. Усе займаліся хто чым, як нейкія запароскія казакі. Можна было разгубіцца ад нечаканасьці, тым больш што на тых, хто ўвайшоў, ніхто не зважаў. Але тады генэрал зычна скамандаваў: «Устаць! Сьмірна!» І яны не адразу, але падначаліліся.

Надалей паміж нашымі ды іхнімі афіцэрамі завязаліся кантакты, нават сяброўства. Братэрства па клясу і па зброі, як тады модна было гаварыць. Пра гэта сьведчаць і здымкі, на якіх яны, і сярод іх мой бацька, сфатаграфаваныя разам. На вуліцах, каля палацаў, фантанаў, помнікаў. Можна ўбачыць і той, прысьвечаны воінам Чырвонай Арміі, запэцканы фарбай. На ўспамін нашыя бацькі павезьлі сувэніры, падораныя чэхамі або купленыя самімі, паштоўкі, фотаальбомы. Плзенскі піўны бровар, рыцарскі замак на гары, Прага. Ня быўшы аніколі там, я нібыта добра ведаю той край, і ён мне любы.

«Мы цебя любяша». Гэтай фразай канчаўся дарчы надпіс на фатаздымку, на якім некалькі афіцэраў абступілі сям'ю старога камуніста. Як можна было зразумець, пісала маладая жанчына, напэўна тая, што была сярод сфатаграфаваных. Маці яе была рускай, яна ўжо памерла, а бацька — чэх. Вось чаму, маўляў, яна добра ставіцца да нашай арміі і ўдзячная ёй. Зьмест напісанага мне запомніўся, а гэтую адну фразу я ведаю наогул даслоўна. «Мы цебя любяша». З чэскай мовай мы не маглі быць знаёмыя, а таму, я ва ўсякім разе, прынялі ўсё за сапраўдную манэту. Але аднойчы я пачуў, як мама тлумачыла суседцы, што, на яе думку, гэты «чэскі» запіс выдумаў адзін знаёмы афіцэр, дасьціпнік і балбатун. Можа, яна так ад рэўнасьці казала? Ня ведаю.

Сярод памятак тых дзён ёсьць і фатакартка, на якой перад брызэнтавым намётам стаяць побач бацька з прыяцелем. У папругах і галіфэ, з каскамі на галовах і аўтаматамі за плячыма. Гэты здымак я калісьці даўней забраў быў

сабе. Я тады нават нібыта марыў стаць вайскоўцам, але ня стаў ім.

Яшчэ дома захавалася кружэлачка, на сорак пяць абаротаў, «саракапятка». На ёй запісаныя дзьве песьні. «Вочы чорныя» і «Уздоўж па вуліцы мяцеліца мяце». На чэскай мове. Нам яна некалі вельмі падабалася. Але мы штосьці даўнавата яе ўжо ня слухалі. Зрэшты, я нячаста бываю цяпер у бацькоў, а сам бацька, можа, забыўся на яе.

*1991*

# Новы год за мурам

Зімовае апавяданьне

Голаў рыцара рэвалюцыі аздабляў сабою квадрат турэмнага дворыка. Дворык па-ранейшаму служыў для шпацыру, як і дзьвесьце-трыста год таму, калі нічым, апроч малітваў, не занятыя манахі бадзяліся паміж чатырох высозных муроў з думкай, каб гэта перасягнуць вышыню цаглянак і вымкнуцца з пасткі да дзяўчат, да кабет. З абдымнымі клубамі. Грудастых і юрлівых. Цяжка стрываць абяцанку, дадзеную Богу. Мужчыны, якія займалі кельлі сягоньня, таксама сьнілі распусных жанчын, але амаль ня марылі трапіць адсюль на волю, прынамсі больш-менш хутка.

Радаслаў ціхенька, каб не шумець ды не прыцягнуць увагі, не раззлаваць наглядчыка, стаў на зэдлік і зірнуў праз краты вонкі. Уздоўж муроў па галерэях, як нежывыя, рухаліся вартавыя са стрэльбамі ўперавес. Недзе збоку была й кулямётная вышка, якую нельга зьмеціць з вуліцы.

Паўсюдна шурпаты, белы ад скалелага сьнегу, калючы дрот. Як тэлеграфная сувязь абапал чыгункі. Адно птушкі не сядаюць. Небясьпечна.

Не за гарамі Новы год.

Заўтра чорнай раніцай дзяжурны пасьля пабудкі зьмяце дзеркачом сьнег з рэдкіх валасоў гіпсавага помнічка, які яшчэ горш ад арыштантаў мёрз пад чарнільным небам. Калі ён апынуўся тут, ніхто ня ведае. Вельмі даўно. Сам жа чалавек спыняўся ў горадзе ў далёкім дваццатым, каб дапытаць палоннага польскага генэрала. Стаяла лета варшаўскага паходу. Здавалася, ужо блізка-блізка Бэрлін і доўгачаканы пажар сусьветнай рэвалюцыі. Допыт адбыўся ў турме. А памятную шыльду, празь пяцьдзясят гадоў, прычапілі да мура ў іншым месцы, дзе ён сказаў палымя-

ную прамову перад апантанай залай. Парупіліся гарадзкія ўлады, задаволілі хадайніцтва турэмнага начальства.

У Радаслава здранцьвелі ногі. Але злазіць не хацелася. Гэта быў ягоны час. Адбой. Інакш, каб гарэла лямпачка пад стольлю, вартавы яго заўважыў бы. Радаслаў ведаў: ня сьпіць уся турма. Неўзабаве Новы год.

Некалі пасярод двара была мураваная студня. Цяпер — адзін толькі помнічак. Болей — анічога. У душы Радаслава варухнулася штосьці накшталт шкадобы. Адны скалелыя вартавыя і недарэчны голаў нябожчыка. Бездапаможны перад сьнегападам, які паступова мацнее. Самотны і голы як бізун. Ні дрэва. Ні кусьціка. Дрэвы маглі вырасьці (хмызы — схаваць?)... Нават кветак не садзілі вясною, каб не нагадвалі аб волі. Неба ж, яно паўсюдна аднолькавае.

Што, які менавіта сэнс уклаў той колішні турэмны начальнік у гэты акт: крыху бязглуздае, але ўрачыстае адкрыцьцё астрожнага помніка? Шыхты арыштантаў у шэрых фуфайках. Салдацкі аркестрык. Трыбунка. Чырвоная стужка. Нажніцы. Чырвоныя таксама гвазьдзікі. Сэнтымэнтальны напамін аб пачатку радаводу, аб бацьку? Караючы меч рэвалюцыі і г. д. Або задумавалася адкрыцьцё як сродак супакаеньня арыштантаў: маўляў, маем халодную галаву, але гарачае сэрца. І чыста вымытыя рукі. А можа, начальнік быў некалі настаўнікам і хацеў гэткім чынам нагадаць лішні раз аб усяго толькі перавыхаваўчай функцыі ўстановы? Жалезны Фэлікс некалі меў спагаду да беспрытульных дзяцей. Бязьлітасны ён быў адно да разьюшанага ворага, да контррэвалюцыі. Цікава, ці атрымаў палёгку ў сваім лёсе той, як казалі, зьняволены скульптар, які руплівa зьляпіў бюст?

Думка аб тым, што Дзяржынскі, якога Радаслаў зараз бачыў, ніколі ня ведаў волі, бо, пакуль не нарадзіўся ў турме, быў усяго толькі гіпсам, уразіла вязьня. Ён нарэшце зьлез з зэдліка і, стараючыся не рыпець спружынамі, прылёг на ложак. Ён ляжаў і думаў пра гіпсавага арыштанта. Радаслаў прачытаў усю турэмную бібліятэчку, большасьць кніжак у якой (ці выпадкова?) апавядалі аб ім ды ягонай чэкісцкай гвардыі.

За імклівай кавалерыяй ён ледзь пасьпяваў спыняцца ў гарадах і мястэчках, каб прамовай узьняць рэвалюцыйны энтузіязм працоўных. Ужо ў Польшчы ягоны спальны вагон ледзь не зрашэцілі кулямі легіянэры, якія ваявалі ў тыле чырвоных і перастрэлі цягнік. Неўзабаве давялося ўвогуле вяртацца назад, дбаючы толькі аб тым, каб не апынуцца ззаду коньніцы. Што сталася з падрыхтаваным маніфэстам рабоча-сялянскага ўраду і сакрэтным загадам аб прызначэньні Фэлікса Эдмундавіча правадзейным кіраўніком, нічога не вядома. Ён вёз гэтыя важныя паперы ў кішэні сваёй славутай скуранкі.

Яшчэ ў бібліятэцы быў поўны збор твораў Леніна. Але ніхто ў турме, нават нампаліт, не чытаў ПЗТ. Радаслаў узяўся вывучаць друкаваную спадчыну правадыра ад пачатку і неўзабаве ўжо на палітзанятках прымушаў злаваць маёра сваімі пытаньнямі, якім той ня мог даць рады. Скончылася тым, што Радаславу забаранілі чытаць Леніна, які, аказалася, ня толькі аддаваў бульбу дзетдомаўцам і пісаў аб састаўных частках марксізму, але й заклікаў «рабаваць нарабаванае» ды, нібы звычайную справу, красамоўна пяяў тэрор і расстрэлы. Ніхто ў турме пра такое не падазраваў, не чакаў ад Ільліча, і быў засмучаны сам нампаліт, якому паводле службовага абавязку належала ведаць першакрыніцы. Далажылі па камандзе начальніку турмы, і той таксама ня даў веры, нават калі яму прынесьлі кніжкі з закладкамі на адпаведных старонках. Збор твораў забралі зь ленінскага пакою і арыштавалі, замкнуўшы ў незгаральнай шафе. А Радаслава пасадзілі ў карцэр, каб не падбухторваў вязьняў.

Вось-вось настане Новы год. Сьвята, якога міжволі чакаеш, але, прычакаўшы з келіхам у руцэ сканчэньня бою крамлёўскіх курантаў і выпіўшы шампанскае, ня ведаеш, да чаго прыкласьці рукі. Калі не трапляў у сябрыну, Радаслаў зазвычай адразу забіраўся ў ложак. Чаго можна чакаць ад жыцьця: яшчэ большай шэрасьці? Новы год. Ну й што? Шампанскае. Што тое шампанскае, калі марыць, дык па-сапраўднаму. Палову б жыцьця зараз за шклянку кавы са згушчонкай і бутэрброд з галяндзкім, пажадана, сырам. Але ў турме не даюць кавы, нават жалудовай.

У маленстве ён чытаў апавяданьне пра Фэлікса Эдмундавіча, яшчэ рэвалюцыянэра-пачаткоўца. Некалькі дзён той ня меў каліва ў роце. А потым яму пашчасьціла трапіць з грашыма ў кішэні ў рэстарацыю, дзе папрасіў яешню з шынкай і каву з малаком. Страву прынесьлі. Якая казытлівая для ноздраў смажаніна, якая пахкая кава! Але ён ужо заўважыў шпега, што сядзеў за іншым столікам. Абыякава ўстаць, не пакаштаваўшы ежы, нібы толькі на хвілінку, у прыбіральню, і, не апрануўшыся, уцячы праз вакно ў зімовы дзень... Жалезны чалавек. «Гвозьдзі бы дзелаць з эціх людзей».

Стары чорна-белы кінафільм, таксама зь дзіцячых гадоў, апавядаў аб турэмнай жытцы гэтага чалавека. Сапраўды, нязломак. Аднак сядзець за кратамі, каб потым садзіць іншых... Брыдка неяк. А цяпер ягоны бюст зноўку ў турме, у дворыку, які трымае на прыцэле кулямётчык, што на працягу варты ня змружыць вока.

Адсюль не ўцячэш, і гэта не перабольшваньне. Быў, праўда, выпадак, першы і апошні. Апавядалі аб ім новікам неяк мэлянхалічна, знарок абыякава, аднак і сам апавядач, і слухач, кожны сабе думаў: ужо я не спудлаваў бы, ня трапіў бы як шчупак у юшку.

Нэйтралізавалі ахову. Завалодалі зброяй. Рэцыдывісты. Увесь горад трымцеў у страху.

Іх засьпелі за горадам, у лесе. Абрабавалі вясковую крамку: гарэлка, закуска. Стрывалі толькі да лесу. Нажлукціліся. Паснулі. Учулі сьлед сабакі-ваўкарэзы...

Бюст ахінала сьнегам пераднавагодняя ноч. Так будзе цяплей ператрываць падранішнюю халадэчу.

Апроч яго ў турме быў яшчэ адзін гіпсавы небаракавязень. Невялікі бюсьцік самога Ільліча. Ён стаяў у ленінскім пакоі на засланым чырвоным абрусам стале, побач зь пераноснай трыбункай з чаканным дзяржгербом. На вокнах, як і ва ўсіх іншых памяшканьнях, былі краты, нават жалезныя дзьверы да Ільліча мелі закратаванае акенца-«вочка». Адзінае адрозьненьне: і дзьверы, і краты былі пафарбаваныя ў белы колер.

Кім ён быў, той, што зараз на вуліцы, пад сьнегападам? Тутэйшы чалавек. Са шляхты нават. Твар татарскі. Прозьвішча... Паляк, адным словам. Радаслаў ужо аднойчы паспытаў карцэра. Празь яго. Вырашыў бліснуць эрудыцыяй. А ці ведаеце, спытаў у нампаліта, што напісалі польскія газэты, калі памёр Фэлікс Эдмундавіч? «Здох сабака, хоць і меў польскую кроў...»

Напэўна, цяпер дзесь бяз чвэрці дванаццаць (гадзіньнік мецЬ забаранялася), бо наглядчык пачаў абыходзіць калідор, каб пасьпець да навагодняга віншаваньня савецкаму народу. Грук у жалезныя дзьверы ботам. «З коек не ўставаць, к вокнам не падхадзіць! З Новым годам, (...) вашу маць!»

Аднекуль з калідору пачуліся гукі дынаміка: біцьцё гадзіньніка Спаскай вежы. Звонку, з вышыні, іх раптам заглушыў вежавы звон на касьцельнай званіцы, што стаяла адразу за турэмным мурам.

Бах! Бах! Тук-тук-тук-тук. Бах! На беленай столі вязьніцы блякла адбіўся празь нямытыя шыбкі каляровы букет навагодняга салюту і млява растаў. Турэмны дворык паглынула цемра. Муры і вокны пачаў асьцярожна абмацваць пражэктарны прамень.

Надышоў Новы год.

*1992*

# Адбіткі пальцаў

Апавяданьне пра чаканьне дажджу і зьмену дэкарацый

## 1

Сыпякотны жнівеньскі дзень. Захад лета. Горад пацее, мружыцца ад сонца, хавае вочы за шкельцамі цёмных акуляраў, бесьперапынна жлукціць аранжаду. Ты частуешся каля кожнага шапіка з бананамі і лёдамі, пад кожным парасонам з напоямі, цябе абкурваюць, глушаць музыкай у цеснаватай «кнайпе». Усё спрабуеш улесьціць уласны арганізм, здаволіць нібы якога прожара. Ён — твая адмысловая машына, мэханічны голаў, ад якога ты спадзяешся аднаго: тэкстаў.

Прыкры панядзелак. Быццам папярэдне змовіўшыся, агенцтвы, рэдакцыі газэт і радыёстанцыі чакаюць на першую старонку навінаў менавіта адсюль. Дзе вонкава нічога не адбываецца. Ты зьнядужаны гарачынёй, твой віжунскі нюх зьнянацку самахоць узяў сабе выхадны, нікога не папярэдзіўшы. Пульс амаль не намацваецца. Лагодна-бяззбройны настрой. У галаве ані яскаркі. Нуль па фазе. Твой рабак — пачуцьцё абавязку, адказнасьці і да т. п. Носьбіт усіх дабрадзейнасьцяў адразу. Але ён таксама безнадзейна лянотны ад летняга паветра. Ягоныя сямейнікі, сваякі, сябры і проста суайчыньнікі песьцяцца ў салодкім ліпкім рэчыве, прасьвідраваўшы калідорыкі ў бэбахах садавіны, якая высьпявае ў межах камнёвага гораду. Яны напаўсілы працуюць сківіцамі, а не кулакамі ды локцямі. Яму ж выпала самапрымусам разварушваць здранцьвелыя думкі, якія згарнуліся, сьпятрэлі, запаволіўшы даханьне, нібы палоўкі валоскага гарэха, які нарыхтаваўся зазімаваць у сваёй надзейнай касьцёвай шкарлупіне.

Вось бы самому заснуць у гарэху! Ты бадзяешся ад аднае вулічнае кнайпы да наступнае, быццам вандруеш паміж астраўцамі пляжнага архіпэлягу, прымхліва спрабуючы адрозьніць пры гэтым Coca ад Pepsi. Здаецца, усе варыянты не пасуюць. Люстра шчырue: недарэчныя бакенбарды, неўласьцівыя вусы, пачварны нос і сьмешная бародка. Цябе заносіць зусім не Гальфстрымам, а потнапарфумнай плыньню амаль пад жалезны зялёны танк. На п'едэстале, з бяззубым тэкстам бяз часткі літар. Хаваешся пад парасонам, які агортвае цябе аранжавым ценем, нібы лябараторны фаталіхтар. Некранутыя аркушы, асадка, бляшанка аранжады. Ты адчуваеш сябе ледзьве ня Хэмам, у вулічнай кавярні на якой-небудзь авэню. «Не адцягвай свае ўвагі», — загадваеш сам сабе, быццам некаму іншаму, і замест празаічнага ўступу пачынаеш шрайбаваць пра жніво. Хай крыху іранічна, але ўсё адно пра бітву за ўраджай.

За тваёй сьпінай, ускінуўшы крылы, памкнуўся ў нябёсы вялізны мэталёвы Пэгас. Ён намёртва прымацаваны да тэатральнага гмаху жалезным слупам, які гэтак пацэліў у чэрава крылатага каня, што міжволі выклікае думкі пра фалас.

**2**

Мажная кабеціна прышпільвае да дзьвярэй афішку. Караткастрыжаная, з заціснутай у роце папяросай. Нагадвае фільмы пра бальшавіцкую рэвалюцыю.

Канцэрт джазавай піяністкі. Непрызнаная, яна аднойчы купіла ў чыгуначнай касе дзевяцідаляравы білет на варшаўскі цягнік. У Варшаве, паназіраўшы за танцоўнай мітусьнёй ейных пальцаў на клявішах, ёй адразу прапанавалі граць па вечарох у кавярні-клюбе. Трыццаць дэ за гадзіну. Дома яна атрымлівала столькі за месяц. Затым зацікавілі пісаць музыку для тэатру. Яна прыехала дамоў як замежная зорка. На невялічкія гастролі. Яе лічылі дзівачкай, не прыстасаванай да жыцьця. А жыцьцё, як аказалася, бывае розным.

Цябе просяць дапамагчы ўсьцягнуць на подыюм раяль. Нешматлікія слухачы. Сьціплыя букецікі. На білетах чамусьці па-вайсковаму сьцісла паведамлена: «Министерство обороны СССР. 3 руб. 30 коп.». Перад уваходам кантралёрка бесцырымонна парушае іхнюю музэйную каштоўнасьць.

## 3

Навокал паснулі, пагасіўшы люлькі комінаў, заводы і фабрыкі. Там усё адно не плацілі, і даўно не было працы. Цэлы горад гандлюе і перапрадае з рук у рукі, замест таго каб страйкаваць. Няма пораху, а запалкі спачатку адсырэлі, а потым зрабіліся дэфіцытам. Нічога, апроч нябачных кайданаў. Усе гандляры, а пакупнікоў брак. Ты купляеш пачак зерневай кавы з малюнкам: у вулічнай кавярні элеганцкая публіка смакуе з паркіх кубкаў чорную каву — «моцную і духмяную». Вулічная кавярня на пачку з кавай. Пачак кавы з вулічнай кавярняй. Тэлерэкляма крыкма крычыць менавіта пра яе: купі, купі! Спакушае цябе па-польску красамоўна: найдасканальшы водар... надзвычай шляхетны смак... вынік непараўнаўча стараннага пражаньня абавязкова найлепшых гатункаў, выбітна зьмяшаных. Пакаштуй сапраўдны смак сапраўднай кавы! і г. д. У рэшце рэшт ты капітулюеш.

Па начох на заводзкіх комінах паяўляюцца сьцягі. Раніцай яны расквечваюць аднастайнае неба. Міліцыя лезьці на вышыню баіцца і толькі здымае з паверхні комінаў адбіткі пальцаў.

## 4

З помніка Пілсудзкаму апаўзае белая шата. Ён задумна глядзіць удол, абаперся на шаблю, у руцэ маршальскае жазло. Грошы на помнік зьбіраліся пяць гадоў, гарадзкія

ўлады супрацівіліся, не давалі згоды на куток пляца. Пацямнелае неба выбухае іскрамі салюту.

Калісьці ён сказаў на допыце, што — беларус. Ды перадумаў. А пазьней ён разьбіў бальшавіцкае войска пад Варшавай, уратаваўшы Эўропу ад акупацыі, а сьвет — ад сусьветнай рэвалюцыі. У Мінск-Літоўску ўтварыўся першы польскі авіяатрад, а ў Бабруйску — корпус Доўбар-Мусьніцкага. Паэт-палкоўнік, які па загаду Пілсудзкага ствараў і не стварыў беларускае войска, пахаваны на кракаўскіх могілках, памёр ад сухотаў. Усе вашыя паэты паміралі звычайна праз сухоты. Адзін ля сіняга мора, іншыя — у савецкіх лягерах. Спрабавалі рыфмаваць нават генэралы. Нацыя паэтаў, якія пачалі з часам паміраць праз гарэлку.

Лех Валэнса зноў адгадаваў пацучыныя вусы й перапрашае ў мікрафон беларусаў, што палякі нічога для іх тады не зрабілі. Ён гаворыць зьбіўна, мабыць хвалюецца. Самі вінаватыя, гаворыш ты моўчкі сабе. Пілсудзкі калі нават і хацеў, вырашаў ня ён, кажуць, ён толькі камандаваў войскам. Але ці хацеў насамрэч?

## 5

Горача. Вы п’яце каву з адзінай у горадзе жанчынай-пісьменьніцай. Пра фільм аб Сэнт-Экзюпэры яна гаворыць табе: ён быў падобны да лётчыка, але не падобны на пісьменьніка.

Рачныя цеплаходзікі зьмянілі сьцягі і здранцьвелі. Іх апанаваў летаргічны сон. У сваіх непрытомных сьненьнях яны церпяць ад смагі: рака зьмялела.

Гарачы, перапоўнены потнымі целамі тралейбус перапаўзае высокі рачны мост. Сонца ў зэніце. Ты марыш прачысьціць як сьлед галаву, змазаць нібы друкарку, закруціць спружыну, падсыпаць графітнага парашку, зьмяніць чорную вузкую стужку, якая высахла і зблякла.

## 6

На адной бананавай выспе жаўнеры, кіраваныя афіцэрамі — толькі ад кубінскіх інструктараў, штурмам захапілі прэзыдэнцкі палац. Як зазвычай, на досьвітку. Парлямэнт разагнаны, канстытуцыя скасавана. Арыштаванага прэзыдэнта трымаюць у жаўнерні. Прэм'ерміністар пад хатнім арыштам. Лейтэнант, які узначальвае закалат, абвясьціў па радыё, што дэмакратыя завяла астравітаў на няслушны шлях, і войска мусіла сказаць сваё слова.

Ня ведаючы, што далей рабіць з уладай, лейтэнант быў змушаны прасіць прабачэньня ў арыштаванага прэзыдэнта. Ну й лета! Сквар.

## 7

Сьлівы з алычой абсыпаюцца на асфальт. Растаптаныя абуткам. Апанаваныя гніеньнем. Акуляры за шэсьць дойчмарак зь цёмна-зялёнымі шкельцамі. Сэзон сканчаецца, сонца — не. Цэлы месяц цяпла, апошні летні. Ад штодзённай гарачыні баліць галава. Panadol. Кожнага дня падстаўляеш яе пад душ. Вельмі асьвяжае. Але не дадае думак. Ад зьнясіленьня, разумовага вычарпаньня, якое заўжды зьнянацку і якога ніколі не пазьбегчы, ёсьць іншы замежны лек. Безь ніякай хіміі. А яшчэ нэйтралізуе ўплыў вялікай колькасьці кавы, якой таксама не пазьбегчы. Жоўцевай бурбалцы гэта спадабаецца.

Адзіны клопат — ня страціць здольнасьці пісаць, ўратаваць штандар, не дапусьціцца да поўнай капітуляцыі. Своечасова заводзіць гадзіньнікавы мэханізм, запраўляць атрамантам, падсілкоўваць калёрыямі, градусамі, перыядычна спраўджаць дыёптрыі, кардыяграму, вагу, тэмпэратуру, моц гуку, танальнасьць, часьціню літараў, іхні лік у радку, памер інтэрвалу. Стаўленьне да сябе як да мэханізму. Пад'ём а шостай, практыкаваньні, душ, кава, аркуш паперы і твой ceramic pen.

Абкаканы ў цэнтры гораду птушкамі маршал даўно абыякавы да свайго лёсу. П'едэстал пад ягоным абцятым тулавам калісьці належаў Сталіну. Платы заклеены дзівакаватага выгляду вясковай бабай у хустцы. Бясплатна выганяе д'ябла, ратуе ад суроку, спыняе пісаньне пад сябе. І ўсё гэта пад акампанемэнт чытанай уголас Бібліі. Цябе спыняе на вуліцы знаёмы мастак і агітуе наведаць: некаторых пачынае трэсьці, іншыя шалёна рагочуць або роўма равуць. Лухта ўсё гэта, і ксёндз забараняе зьвяртацца да варажбітак, адказваеш ты яму.

Да мура каралеўскага палацу прыхілены вялізны чаканны герб. Бадай трохмэтровы ў дыямэтры. На паверхні расплясканы старыя надпісы і серп з молатам, ад якіх засталіся адно сьветлыя плямы. На молата-серпным месцы прылітаваны ў два шэрагі мэталёвы пасак, унутры — нібы кантрольна-сьледавая паласа. Прыблізныя абрысы бульбяной рэспублікі.

У прыватнай галерэі каля гарадзкой турмы карціны нямецкай мастачкі. Ветракі, прускі фахвэркавы мур, разгорнутая панарама старога гораду на беразе ракі. Нібы тэатральная дэкарацыя.

**8**

Калісьці. Дж.Оруэл абівае парогі выдавецтваў, прапануе свой «Жывёльны двор». Рукапіс не друкуюць, каб не пакрыўдзіць Сталіна. Ні ў Англіі, ні ў Амэрыцы. Ён зусім бяз грошай. Жонка памірае на апэрацыйным стале, ня вытрывала сэрца. Яна вельмі нэрвавалася, што дактарам давядзецца заплаціць пяцьдзясят фунтаў.

**9**

Галава перапоўнена тэкстамі. Чужымі і ўласнымі. Газэтным шрыфтам. Навала. Аблога. Захоп. Агрэсія. Ты больш ня можаш чытаць кнігі, слухаць навіны, успры-

маць музыку, глядзець кіно. Ты зноў ня здатны напісаць ні радка. Твая галава засьмечана, як перасычаны ўвечары радыёэфір.

Напаўняючы з пляшкі келіх, адразу заўважаеш сапсаваны колер. Віно скісла, пачало брадзіць. Яго не абаранілі нават нямецкія словы «Rot Wein». Славянскае віно адтуль, дзе адбываецца вайна і сярод вінаграднікаў людзі забіваюць адзін аднаго.

Чаканьне дажджу. Таямнічы неакрэсьлены час, калі лістота зашамаціць, ствараючы ілюзію яго пачатку.

## 10

Над будкай міліцыянта лунае бела-чырвоны сьцяг. У пакоі ўлоўны пах мускатнага віна, разьлітага ў кілішкі. Жонка консула цяжарная, у вольнай сукенцы. У кухні завіхаецца гаспадыня. Амаль хатняя атмасфэра. Чамусьці ніхто з узнагароджаных не прыехаў. Так, далёка, аўтобусы на вёску ня ходзяць. Яны — старыя і нямоглыя. Але чамусьці не зьявіўся нават спадар Б., які жыве побач. Асабіста польскі прэзыдэнт росчыркам пяра ўзнагародзіў яго Срэбным Крыжам зь мячамі. За 1939-ы год. «Марш-марш, Дамброўскі!» растуляе твае плечы, нібы ззаду ў цябе разгарнуліся крылы. Ты не паляк, але — з вуліцы Дамброўскага.

Прывід страху дагэтуль блукае па гарадзкіх вулках.

## 11

Па лесе ў Крэйдавых гарах разьмеркаваліся алычовыя дрэвы. Жоўтыя і, радзей, чырвоныя ягады вабяць скрозь лістоту, як запаленыя сьвечкі на каляднай ялінцы. Ты спускаешся па гарах да ракі, схаванай за шэрагамі дрэў. Распранаешся і ўваходзіш у ваду. Сонца сядае ў лес на другім беразе. Праплыўшы першы й апошні раз за ўсё лета, ты вяртаешся. У палон шрыфтавых адбіткаў.

## 12

Прыблізна апоўначы зачынаецца дождж і не спыняецца да раніцы. Як утульна было б застацца, вылезьці з ложка, каб толькі запарыць кавы і вярнуцца з кубкам і кніжкай. Але трэба галіцца перад люстэркам у ванным пакойчыку, прыглядацца да вулічнага тэрмомэтра, гадаць наконт адзеньня, пасьпець на апошні аўтобус з разьдзёртымі крэсламі, змакрэлы й жаласны, як стары валачашчы сабака.

А дождж упарта не жадае спыняцца. Згарнуліся, прыліплі да мэталёвых тычынаў псэўданародныя спадніцы арнамэнтных сьцягоў з калгаснага клюбу. Яны ўсьведамляюць сваю недарэчную прысутнасьць над гарадзкім брукам. Ім няўтульна на залітых чорнай смалою дахах адміністрацыйных будынкаў, шэрых і няўсьмешлівых. Вялізны чыгунны помнік на пляцы ніяк не паржавее. Ён стаміўся стаяць.

Упершыню на мокрых платах ня вывешаны тандэтныя карціны. Вулічныя мастакі, адрозна ад цябе, засталіся дома. Амаль ніхто не малюе, нехта п’е гарбату, сёй-той налівае з бутэлькі апошнюю чарку, хтосьці пачытвае заўчорашнюю газэту, і ўсе аднолькава мараць аб замежных турыстах і ганарарах, якія аднойчы — нібы сьнег на галаву... Кніжкі таксама ніхто не патурбаваў. Дождж шкодзіць іхняму здароўю. Кніжныя гандляры засталіся ў сваіх ложках. Яны нічога не чытаюць, як бармэн ня п’е дома кавы, а гвалтам разбудзіўшы тэлевізар, глядзяць мэксыканскую «Трапіканку».

## 13

У рэдакцыі невялікай, але зьедлівай газэты адключаны тэлефоны. Каб ня зьвязваліся з забастоўшчыкамі. Як бяз рук. Бязьлюдная выспа. Самота ў перанаселеным горадзе. Камяніца, адцятая ад астатніх і ад усяго сьвету. Паўзы запаўняюцца кавай. У «кнайпе» яшчэ пуста-

вата. Падае дождж, надта захапіўся, хоць даўным-даўно вымыў неба, шыбы й твары. Даюць гарачыя сасіскі з кетчупам пад сіртакі. Па вуліцы праплываюць панцыры парасонаў, хто куды. На закратаваных шыбах стэнаграфуе дождж, што абсыпаў брук жоўтым лісьцем. У купах дрэў першая сівізна.

Дзесяць ці болей гадоў газэтнай руціны. Карэктуры, клішэ, цыцэра, петыт і нанпарэль, тоны шрыфту, друкарскай фарбы і дэфіцытнай кандапоскай паперы, тры пары акуляраў, якія ня вытрывалі гэткай процьмы бязглуздага чытва, і паслабелыя на пару дыёптрый вочы. Модны партфэль, дыхтоўныя чаравікі, доўгі парасон і акуляры ў нібы-залатой аправе. Пісьменьніцтва пакуль не дало табе нічога, апроч кішанёвае дробязі на каву. Так-так, але зь вінціка і шасьцярэнькі яно спрабуе зрабіць цябе зэгармайстрам.

Лета раптам скончылася. На моры моцна штарміць. Восем балаў паводле шкалы Бафорта. І магчымы нават першы сьнег. Яшчэ дзень-два назад паветра выгравалася амаль да трыццаці градусаў. На заўтра абяцаюць пяцьдзясят літраў дажджу на кожны квадратны мэтар. Прападзе бульба.

*1995*

# Poeti Italiani

Апавяданьне з аварыямі

«Я гоны твар стаў
маскай маёю цяпер.
Тое, што знаў пра яго,
я ўвабраў, перанёс у сябе.
Вось і сыходжу я,
постаць, якая зьнікае,
пайду — і забудуцца на мяне», — Акінчыц разгарнуў том і зачытаўся італьянскай паэзіяй, ня мог спыніцца. Як аазыс, як цудоўны сярэднявечны пляцык сярод шэрай забудовы. Як нечаканае адкрыцьцё зусім побач. Столькі разоў праходзіў паўз гэтае месца. Сёньня меў час, чаму б не паглядзець карціны? А ў перадзале невядомая кнігарня. Шчытна-шчытна ад кніг, якіх няма нідзе ў іншых крамах. Акінчыц нават разгубіўся. З чаго пачаць?

Потым апусьціў вочы перад сабой: на стале рубам сотні вокладак. Кундэра ў розных выданьнях. Бэкет, але раман — тоўсты, ці-ка-вы. Фаўлз, «Чорная вежа» ці як там? О, Ален Роб-Грые! «Рэвалюцыя ў Новым Ёрку», «Праект». І шмат, шмат іншых. Купіў Кундэру, італьянскую паэзію. Са шкадаваньнем, не здаволіўшыся, пайшоў... Сёлета Акінчыц упершыню пабываў у Італіі. Прысмак яе адчуваў дагэтуль.

Шэрая кастрычніцкая раніца. Адразу за Слупскам на дарозе гармідар. Пажарныя. Людзі з абрэвіятурай на сьпінах. На ўзбоччы чорны шкілет згарэлага легкавіка. Здаецца, ці ня опэль-кадэцкі. На траўніку бездапаможна ляжыць мужчына. З горла тырчыць і торгаецца трубка. У машыне, здаецца, абгарэлы труп. Ззаду, зьлева на сядушцы. Нейкія яшчэ людзі, легкавікі. Усе маўчаць. Нямая сцэна. Адзін толькі працягвае з брандспойта гу-

ста заліваць белым шумам згарэлую машыну. Уся дарога занята. Акінчыц нават акуляры выняў, каб лепей разгледзець, хаця звычайна нават адварочваецца, калі ўсе пасажыры кідаюцца да шыбаў побач зь месцам аварыі. Ён упершыню ўбачыў не разьбітую, а згарэлую машыну. Чалавека, які канае. Яго гэта ўразіла.

Астроўскі збочвае ўлева — праз траўны пас на сустрэчную дарогу, каб аб'ехаць месца здарэньня. Хвіліну яны маўчаць. Акінчыц загаворвае першым.

— А «хуткай» дагэтуль няма. Ці вучаць іх аказваць дапамогу? Раней жа як? Амэрыканскія паліцыянты — нават роды прыняць могуць. А нашы — толькі друкамі лупцаваць.

— Ды мала што зьмянілася, мабыць... Туман, напэўна, быў.

— Але каб згарэла машына.

— Замыканьне. Бэнзін выцек. Як паходня...

Астроўскі ўключыў радыё, панацiскаў розныя станцыі. Пачуўся ўпэўнены незнаёмы голас. Эмігранцкае радыё. Акінчыц упершыню чуў. Прычым вельмі якасна. У горадзе пачуць яго немагчыма. Хаця яно не разьлічана на вёску менавіта. Перадалі, што Чыгрын адмаўляецца ад другога туру: яны падлічваюць галасы як хочуць.

— Канечне, калі ўбачыў, што няма шанцаў, — не стрымаўся Астроўскі. — А чаго было туды лезьці? Думаў, яго прапусьцяць? Байкот парушыў. І што цяпер? Поўнае фіяска!

— Цяпер на выбары прэзыдэнцкія кінецца, — выказаў меркаваньне Акінчыц. Зрэшты, гэта было агульнавядома.

Як бы абвяргаючы ягоныя словы, радыёголас паведаміў, што Чыгрын ня стане вылучацца, калі будзе знойдзена кампрамісная для ўсіх асоба.

— Пабачым, — скептычна мовіў Астроўскі.

— Я таксама баюся, што ўсе палезуць, кожны жук і жаба. У палякаў таксама: дзесяць удзельнікаў было. Паўпрацэнта некаторыя набралі.

Па радыё паведамлялася, як у пушчы доблесныя авіятары расстралялі з паветра помнік паўстанцам, які не

разбурылі сваім часам нават камуністы. Мясцовыя патрыёты сабралі грошы і паставілі новы помнік. Далей апавядалася пра бой паўстанцкага атраду з карнікамі, пра дапамогу гарыбальдзійцаў. Акінчыц запыніў сябе на тым, што яму цікава. Цікава слухаць тое, пра што ведаў. Таму не зважаў даўно на публікацыі ў газэтах. Ён усьвядоміў, што гэтая тэматыка зноў зрабілася забароненай на тэлебачаньні і ў дзяржаўнай прэсе. Цікава яшчэ таму, што радыё — не газэта, ня трэба рабіць ніякага намаганьня. Можна проста заплюшчыць вочы.

Ім сустрэліся на дарозе яшчэ дзьве аварыі. Перакуленая дагары нагамі фура пад адхонам, каля якой завіхаліся людзі. Пазьней давялося прытармазіць. Перад імі з даволі глыбокага яру, дзе цякла рачулка, выцягвалі бус. Зьніякавелыя прыгаломшаныя людзі цягнулі ўгару вялізныя «матрацныя» торбы.

У сталіцы Акінчыц пайшоў у радыёбюро — пакінуць гутарку з Астроўскім. Наступнай была газэтная рэдакцыя. У кампутары вісеў ягоны тэкст з кручкамі накшталт музычных знакаў, перасланы ім па і-мэйлу. Італьянскія ўражаньні.

Аб месцы сустрэчы было дамоўлена яшчэ ў дарозе. Акінчыц прыйшоў крыху раней. Зрабілася цёмна. Але сталіца асьвятлялася яшчэ даволі някепска. Чароды машын шамацелі коламі, імкліва рухаючыся па пляцы. Гарэлі жоўтыя ліхтары, сьпяшаліся ня людзі нават — здані. Рабілася халаднавата, асабліва на ветры. Акінчыц стаў за рог, разглядаючы цёмна-чырвоны храм, які быццам змагаўся з цемрай. Яму падумалася: калі на цэнтральным пляцы сталіцы не цыбуліны, а каталіцкі храм, гэта значыць, што горад павінен быць эўрапейскім, а не якімсь губэрнскім. Нэаготыка, якой захапляліся напэўна нават камуністы, першыя сакратары. Інакш немагчыма вытлумачыць, як яго ў рэшце рэшт не разбурылі ў суседзтве з валатоўскай лысай статуяй.

На выезьдзе іх спыніў сяржант. Забраў дакумэнты, недзе хадзіў. Вярнуў моўчкі. Ні «прабачце», ні «да пабачэньня», ні — пагатоў — «шчасьлівай дарогі». Астроўскага

гэта зьнянацку раззлавала. Пэўны час яны маўчалі. Загаварылі пра будучыя выбары.

— Ён мяне ня церпіць, — пачаў Астроўскі. — Калі я ўсё ж рашуся пайсьці, значыцца, буду гатовы да нечаканасьцяў, да самага горшага. Я ведаю, яны ня спыняцца ні перад чым.

— Аматары піначэтаў бываюць аднолькавыя...

— Хаця часам паглядзіш на наш народ — нічога яму ня трэба, абы толькі скварка і чарка. І ці варта змагацца, рызыкаваць дзеля яго?

— Ды ня дзеля яго, я думаю. Калі ў цябе ёсьць імпэт, калі адчуваеш у сабе сілы — варта паспрабаваць. Дзеля нейкай гістарычнай справядлівасьці, дзеля адказнасьці. Маглі, мелі нейкі шанец, а не паспрабавалі. Яны, да нас, зрабілі што маглі, не атрымалася. Зараз наша чарга. Інакш ён можа праседзець да канца сьвету...

— Так, мы нічым ня горшыя за іншых. За суседзяў. Павінны жыць як яны. Мне галоўнае — за дзяцей, унукаў крыўдна. Пакінуць такой краіну, каб яны гібелі, каб ня бачылі сьвятла наперадзе.

Яны ехалі ў цемры, краіна не асьвятлялася. У рэдакцыі была размова пра Астроўскага. Што прозьвішча ў яго становўчае і для заходнікаў, і для ўсходнікаў, не зважаючы на шляхецкі канчатак. Драматург быў такі паволскі, іншы — раманы пісаў пра родную савецкую ўладу. Карацей, да народу з прозьвішчам такім выходзіць можна. («Калі толькі ўлады ня выцягнуць старшыню Цэнтральнай Рады», — падумалася Акінчыцу). Гаварылі пра будучае інтэрвію з Астроўскім і пра фатастудыю, дзе яму наробяць выдатных партрэтных здымкаў. Студыя — вядомая, бо здымаюцца апазыцыйныя дзеячы. Праўда, частка зь іх апынулася пасьля за кратамі, нехта зусім зьнік. Засталіся фатаздымкі.

Акінчыц вяртаецца ў думках да кніжак, набытых у сталіцы. Італьянцы, яны свайго дучэ перажылі. Зрэшты, каб не абставіны... Напрыклад, каб выйгралі вайну. Ён пераżыў бы шмат каго. Як Франка. Альбо Піначэт. Каб раптам выйгралі вайну, яны б хавалі яго шыкоўна-

ўрачыста, але адначасова трагікамічна. Як у апавяданьні Гуэры.

Апошні ў кніжцы італьянскі верш. Пра кітайскага імпэратара. Як яму падаравалі гіганцкі каменны «шалік», каб ратаваў ад паўночных сівераў. Ну, а калі не дапаможа, дык хай стане адзінай прыкметаю Зямлі, якую можна ўбачыць зь Месяца...

«А ці бачна нас з чорнага небнага прадоньня, з космасу? — квола падумаў Акінчыц, каб толькі падумаць. — Два жоўтыя пучкі для асьвятленьня шляху, для змаганьня зь цемрай і пара чырвоных сьветлякоў ззаду».

*2000*

# Савецкае шампанскае

Апавяданьне з пэнтхаўсам

## 1

Апа сутнасьці, чым ёсьць чалавечае жыцьцё? У сэнсе арыфмэтыкі. Простая сума нейкіх дзеяньняў, актаў, учынкаў, падзей, звычайных нават рухаў. Колькасьць авіяпералётаў, адпраўленых лістоў, прачытаных кніг і напісаных, калі такія ёсьць, або — у рэшце рэшт — гадзінаў сну, ужытых таблетак, ці гадзіньнікаў, якія меў, плюс — колькі разоў галіўся, завязваў вузел гальштука, укідаў бюлетэнь у выбарчую скрынку, лічба выпітых кубкаў кавы, келіхаў, кілішкаў, куфляў. Як калісьці у войску два гады вымяраліся колькасьцю зьедзеных яек, даўжынёю «шнура» складзеных разам кавалачкаў сьметанковага масла, прыблізнай лічбай выкарыстаных цюбікаў зубной пасты і бляшанак ваксы.

Лета засяроджвае тваю ўвагу. Абмаляваць бы яго смак, водар, ягоныя гукі! На паперы. Каб адпачыць ад рэчаіснасьці, пабыць асобна. Адвечнае жаданьне. Пісьменьніцтва падобна да мастакоўства. Аднак у сьпякотнае надвор'е, як зазвычай, нічога не атрымліваецца. Нібыта сядзіш за рулём, а рухавік ніяк не заводзіцца. Як быццам усё ёсьць — бэнзін ды астатняе. Не хапае іскры. Не выкрасаецца. Бездапаможнасьць, якой ніхто ня бачыць. Бясплённасьць, аб якой ніхто не падазрае. Марнасьць, ад якой нікому, зрэшты, ніякай шкоды. Файнае ўвогуле лета! Лагодны чэрвень, затым цеплыня, моцныя, звычайна вечарова-начныя, дажджы. Зьверху з акенца пад чырвонай дахоўкай назіраеш людзей, сабак, машыны. Сочыш за пульсам дажджу, за колерам неба, за маланкамі. За тым, як хутка макрэе чарапічны дах і мыюцца пад цёплым дажджом галубы.

Жыцьцё ў гістарычным квартале, а ня ў спальным раёне. Неба і зямля. Усё зьмянілася. Жыцьцёвы радыюс зьменшыўся да мінімуму. Вымяраецца адлегласьцю некалькіх соцень мэтраў. Амаль усё побач: кнігарні, установы, касьцёлы. Кавярні-півярні, нават кінатэатрык («Халодныя закускі» Бэртрана Бліе, «Чырвоная пустэльня» Антаніёні) і драматычны, аптэка, большасьць гарадзкіх помнікаў. І ў гэтай частцы гораду, у ягонай сярэдзіне бадай што тры прыемныя месцы. Пэнтхаўс з катом і кнігамі, катэдра з Маткай Боскай і, магчыма, дом зь бел-чырвона-белым языкастым сьцягам на фасадзе. Стары, але няўтульны дом. Нечаканы сьцяг, быццам гэта кіно.

Лета запавольвае і разьмякчае. Пазбаўляе прагі да барацьбы. Стаміўся ад жыцьця, ад росквіту фіглярства, ад бязглуздай палітыкі, ад свайго рэпарцёрства і ўласнай бязраднасьці. Не, мова пакуль ідзе не аб капітуляцыі, не пра белы сьцяг. Але калі ён застанецца яшчэ? Як пераадолець страту сэнсу? Як аднавіць тады само жаданьне жыць? Працягваць змаганьне, супраціў. Прынамсі тое, што называецца ўнутранай эміграцыяй.

Сёньня мяне ўжо ня дзівіць, што нават людзі сталыя ўпарта лезуць у горы або ў пячоры, у мора. Сядаюць у кашы паветраных шароў, выпраўляюцца ў самотнае плаваньне магелянавымі шляхамі, лётаюць на «фэрары». Усяляк рызыкуюць. А нырцы па пэрліны, а карыда?! Хаця не. Я заўжды на баку быкоў. Іншая рэч — гішпанскія таксама — уцёкі ад быкоў па вуліцах. Дурнота, канечне. З другога боку, кожны мае права на рызыку, якая здаецца меншай праз вялікую колькасьць удзельнікаў.

## 2

Пасьля сарака чалавек, дасягнуўшы або не — сваіх мэтаў, аднолькава стамляецца, расчароўваецца, не знаходзіць болей сэнсу. Не заўжды, але часта. Штосьці залежыць ад жыцьцёвых абставін, штось — ад тэмпэрамэнту. Але гэта — узроставы, псыхалягічны, жыцьцёвы бар’ер.

Даплыў да сваёй выспы пясочыстай пасярод багнаў, выпаўз, аддыхаўся і ўсё. І што далей? Бадай ратуе толькі тое, што можна выйсьці на вуліцу і абавязкова сустрэць кагосьці, хто думае як ты і як ты пакутуе. Але таксама яшчэ трымаецца, ня ўцёк. Нават дзіўна. Дзесяць год прамінула! Яна зацьвіла як ружа. Мы спадзяваліся, што будзем цешыцца, што кветнік разбуяе. Што суседзі будуць захапляцца прыгажосьцю нашых кветак. Але пустазельле заглушыла далікатную расьліну, не заквітнела. Хаця мы спрабавалі, як маглі, палоць, паліваць, не баючыся калючак. Нас білі па рукох, камусьці начаплялі кайданкі, трымалі па турмах. А кагосьці больш няма. На апошняй імшы ксёндз папракаў: адныя прыйшлі да Бога, чакаючы нейкіх дабротаў для сябе, а не дачакаўшыся, адмовіліся. Каго ж ён меў на ўвазе? На імшы ў катэдры няма дзе сесьці.

Маё рэпарцёрства. Займацца пстрычкамі, штось вынюхваць, высочваць, віжаваць. Заўжды напагатове, з наладаванай зброяй, з сухім порахам. Нагадвае паляваньне. Аднак я не люблю паляўнічых. Хаця існуюць выгоды. Можна зрабіць нешта ў першай палове дня і быць далей вольным. Можна нават нічога не рабіць, папросту вычэкваць, быць напагатове, цікавіцца, бадзяцца па вуліцах, зазіраць у кнігарні, у крамы, ва ўстановы, у рэдакцыі, купляць газэты, слухаць радыёнавіны і музыку. Калі я раней марыў аб уцёках з газэтнага палону, аб літаратурных занятках, дык цяпер не. Я й так магу пісаць, што захачу, калі знаходжуся ў адпаведным стане, і гэты стан мала залежыць толькі ад наяўнасьці вольнага часу. Калі ён зьнікае, яго даводзіцца чакаць падоўгу, як чагосьці надзвычайнага, прыкладам зацьменьня сонца. Газэты стамілі. Суды, забароны, зьмена шыльдаў. Зусім не сэзонная лінька, не безбалесная зьмена зьмяінай скуры. Газэты трацяць назвы, як мы свае гады. Раней нашыя «Бацькаўшчыны» душылі варшаўскія ўлады, сёньня — менскія. Ну-ну, вышэй голаў! Рэпарцёрства, у рэшце рэшт, злучана з пачуцьцём свабоды.

Калісьці хацелася забыцца на палітыку і рабіць часопіс з прозай, эсэ, зацемкамі, з дыскусіямі і падарожнымі

нататкамі. Але гэта ілюзія, міраж, няўдзел. Хай лепей штодня шукаць, знаходзіць і паведамляць навіны. Кожны дзень — абавязак пісаць, і пісаць шмат. Вядома, гэта ўрэшце вынішчае. Твая тысяча слоў ператвараецца ў абмежаваны лексыкон, у гэтак званую інфамову. Каб толькі хапіла сказаць: дзе, што, калі? Літоты і сінекдахі не патрэбны ні ў газэце, ні у войску, ні на футбольным полі. Хаця сам я ніколі і не любіў моўныя аздобы. Праўда, заўжды шукаў адметных словаў у рэдкіх слоўніках, але болей не шукаю. Газэтная мова, газэтныя апавяданьні. Сьвядомасьць і думкі. Уелася ў мяне, як друкарская фарба ў далоні мэтранпажа.

### 3

Аднойчы паэт уявіў сабе Радзіму шыпшынай. І кветкі з пладамі, і шыпы таксама. Яму дасталіся шыпы, ім усім, большасьці. Нам — таксама. Шыпы пераважаюць у самой нават назве, зь іх усё пачынаецца. Мы сабе вярталі сваю эўрапейскасьць, але з нас былі кепскія садоўнікі. Дворнікі ў ботах і фартухах зь мётламі ўсё зьнішчылі, засталіся калючкі, чартапалох. Кветнік зьменшыўся да прыватных памераў. Большае месца ў мяне займаюць калючыя кактусы, якія мне падабаюцца болей за звычайныя кветкі. Мы разам трываем, чакаючы лепшай будучыні. У пустэльні моўчкі марым пра аазіс. Крычэць няма сэнсу. Не пачуюць.

Якое прыемнае трывала надвор'е! Негарачы чэрвень, вельмі цёплая, з залевамі, першая палова ліпеня. На пачатку лета нават зьлёгку адчувалася зьмена настрою. Гэта не былі прыкметы аптымізму, а толькі пэўнай навізны: зноўку, нарэшце, выбары. Які ўжо аптымізм! Газэты перапоўнены зьвесткамі пра «эскадроны», у якіх няма коней і якіх ніхто ўвогуле ня бачыў. Прыручанае, выкарыстанае славэтнае дзікае паляваньне караля? Злавеснае ўвасабленьне літаратурнай задумы ў жыцьці? Па вас аднойчы прыяжджае «хуткая дапамога», але зусім не з

дактарамі. Іх утрымліваюць звычайныя падаткаплатнікі, нічога аб гэтым не падазраючы. Яны не пакідаюць сьлядоў. Хвацкі быў фільм калісьці — «Матэль "Мёдавы месяц"». Нямецкі фільм пра амэрыканскія жахі, пра машыну хуткай, што прыяжджае сама і якая не займаецца дапамогай... Аднак большасьць нічога ня ведае, ня хоча ведаць пра якія-колечы «эскадроны». Большасьць не чытае свабодных газэт, зусім не бярэ газэты і ўвогуле нічога не чытае. Кветкі ёй падабаюцца штучныя. Ва ўсякім разе, ёй хапае штучных. Вершаў яна таксама не чытае і пра шыпшыну нічога ня ведае. Ёй лягчэй.

Лета дзевяноста нейкага. Мы ўпершыню выбіралі... Першы й апошні раз насамрэч. Такое ж нібыта лета. Яно з адлегласьці ўяўляецца суцэльна сьпякотным. Але так толькі здаецца. На пачатку яго надарыліся вельмі мокрыя і халодныя дзянькі. Мы тады былі маладзейшымі і больш наіўнымі, прынамсі мелі тады яшчэ надзею. Тым летам я прачытаў «Невыносную лёгкасьць быцьця», якая мяне ўзварушыла, вельмі закранула. Сабіна была якраз у Хэльсінках. Спачатку езьдзіла па літоўскую візу, потым у Вільню, каб прыдбаць фінскую. Да свайго зьдзіўленьня я ўбачыў, што мы зь фінамі на адным мэрыдыяне. Раней здавалася, што яны дзесь ссунуты на ўсход са сваёю Лапляндыяй, дзе жыве Сьвяты Мікалай, якога самі фіны пачалі называць на модны лад — па-ангельску. Так, Сабіна была ў Хэльсінках, а я чытаў Кундэру і міжволі ўяўляў пэрсанажаў раману, якія апынуліся па розныя бакі калючага дроту, але мяжа мне уяўлялася зусім не чэхаславацкая, зусім не. Хацелася ня верыць, але я прадчуваў. Праўда, заканчэньне таго летняга раману было іншым, ня кніжным. Сабіна вярнулася ў той дзень ці на наступны. Калі ўсё стала вядома і памерлі ілюзіі. Цудоўным і хуткім «Сыбэліюсам» даехала да вакзала з браневічком, зь цяжкасьцямі і непрыемнасьцямі дабралася да ледзьве не палявога аэрадрому, дзе ўжо ў летаку, пад гуд прапэлераў, пачула ад інтэлігентнай, крыху чапурыстай суседкі пагардлівае «выбралі абы-што». Ці штосьць падобнае.

Тады «Невыносная лёгкасьць быцьця», сёньня «Востраў Крым», які толькі што прачытаў. Усё ж такі нейкая лёгіка, сымболіка ў нашых дзеяньнях часьцяком існуюць. Прачытаць менавіта цяпер. Калі жаданьне аддацца Вялікаму брату, справакаванае, гіпэрбалічна разьдзьмутае, агучанае, размільёненае афіцыйнымі рупарамі, заглушае, прыдушвае, забівае пачуцьці ўласнае годнасьці, гонару, здольнасьць разважаць, зьнішчае адчуваньне самаахововы, даводзіць да трагікамічнасьці, да гістарычнага фарсу. Крыўда маленькага чалавечка за волата, якому не схацелі падначальвацца іншыя чалавекі. Неўсьвядомлена-эгаістычнае спадзяваньне на нейкі дармовы сыр. Патаемнае замілаваньне да сябе асабіста: ніхто зь ім ня хоча, толькі я. Ах, «перадайце там, у Санкт-Пецярбурзе, што, што жыве, маўляў, дзесь у правінцыі такі Акакі Акакіевіч, і больш нічога не кажыце...» Можна і безь літаратурных рэмінісцэнцый. Надуманая маральная адказнасьць краінкі за суседнюю імпэрыю. Любоў прыніжаных і зьняважаных бывае эгаістычнай, пачварнай, самаразбуральнай. З банальным заканчэньнем. У адказ на слабасьць, а самапрыніжэньне — гэта слабасьць, у адказ — неба — бясхмарнае, над усёй Гішпаніяй, неба — засьмечана крыжамі летакоў і парашутнымі дзьмухаўцамі. Захоплены аэрапорты, памежныя пераходы, вайсковыя базы, а праспэкты запоўнены, быццам статкамі няўклюдных мастадонтаў, калёнамі бранятэхнікі. «Цяжкая хвароба каханьня да цябе» — назва музычнага альбому аднаго рок-сьпевака, пра гэта мне дарэчы паведамляе радыёды-джэй.

Мае скаргі самому сабе, маё расчараваньне ў газэтах тлумачацца проста. Няма поступу. Цягаеш славэтны валун на гару, і нічога не зьмяняецца. Наадварот, усё заўважна горшае. Час пазбаўляе сілаў і жаданьня, а галоўнае — сэнсу. З кожным годам усё горш. Столькі гадоў жыцьця — на змаганьне зь ветракамі! Але нічога іншага я ня ўмею. Ходзіш па вуліцы з заўсёдным, кепска прыхаваным неспакоем: а раптам дзе што здарыцца, і я ня буду ведаць. Альбо даведаюся са спазьненьнем. Стан штодзённага лёгкага стрэсу, быццам крыху нападпітку. То адрэналін чужаніцы

ў напаўварожым горадзе, то азарт паляўнічага. Ходзіш, спрабуючы вызначаць эмпірычна гарадзкую тэмпэратуру, ледзьве не на вока — напрамкі і моц ветру, імкнешся даведацца — у якой установе гатуюць якую страву: бочку дзёгцю з лыжкай мёду ці наадварот? Сёньняшняе мэню ведаць неабходна! Але толькі сёньня. Заўтра будзе іншае, хоць і пад звычайным соўсам. Абрыдла.

## 4

Мішэнь, намаляваная на грудзёх. Канцэнтрычныя чорныя кругі. Надпіс: «Я — журналіст. Учора — Загорскі, заўтра — я». Пікет. Усяго некалькі чалавек. Псыхалягічны бар'ер. Адно, калі ты частка натоўпу. Аўтаномная, але частка. Адно — рухацца сярод усіх, імкнуцца быць някідкім, не прыцягваць увагі. Заставацца ў людзкой гушчы незалежнай адзінкай. Іншае — зрабіць крок убок, адасобіцца навідавоку, зьвяртаць на сябе ўвагу. Узяць у рукі плякат, раздаваць улёткі, ператварыцца ў мішэнь. Улёткі-улёткі! «Дзе Загорскі?» «Дзе-дзе...», — кпяць два мажныя з голенымі галовамі. Звонку самы распаўсюджаны бадай вулічны тыпаж. Быццам у турме на пляцы Зруйнаванага храму вакацыі. Такія сядзяць за столікамі вулічных бараў, з півам, з «Marllboro». Вечна самазадаволена жуюць і слухаюць бі-эй. Яны кіруюць лімузынамі і джыпамі. Цэлыя статкі, спыненыя сьветлафорам. У незалежнай газэце замовілі майкі з надпісам, бядуюць, што замест чырвоных літараў атрымаліся цёмна-цагляныя: «Мы — за свабоду прэсы, а ты?» Пытаньне да натоўпу. А што я? А я нічога...

Журналісты ходзяць у садзе, абрываюць вішні. Вакол бегае гаспадарскі сабака. Вельмі вялікі і чорны. На даляглядзе ў гарадзкім квартале высокі белы касьцёл зь зялёным дахам. Апазыцыйны палітык запрасіў адусюль журналісцкую публіку, каб пазнаёміць зь сям'ёю і домам. Ён удзельнічае ў пачатку прэзыдэнцкага марафону. Улады і апазыцыя магчыма адчуваюць, што ў яго найлеп-

шыя шанцы, яны імкнуцца замаўчаць яго. Для палітыка горш не бывае. Ён дэманструе адкрытасьць і дэмакратычнасьць. Ён — іншы. Таму выклікае рэўнасьць, але падабаецца журналістам. І, бадай, ня толькі ім. У гасьцёўні хатняя прэс-канфэрэнцыя. Плюс да адказаў на пытаньні — відэазапіс і аўдыё з пракурорскім выступам гаспадара краіны... У канчатку швэдзкі стол у пэнтхаўсе вядомага мастака, а пасьля грымотаў — на даху самага высокага ў горадзе будынку. Зьверху бачныя ўсе кварталы, храмы, толькі схаваная ад вока ў цясьніне рака.

Як мы залежым ад адной даты, ад гэтай падзеі! Быццам закончыцца жыцьцё! Гадзіньнік спыніўся апоўначы. Хаця яно хутчэй стане болей прыватным, адасобленым. Калі не атрымаецца нічога. Аднак, ці магчыма гэта было раней, пры камуністах? Унутраная эміграцыя — так, была мажлівай і тады, і нават менавіта тады ўзьнікла само паняцьце. Але раней яна зьяўлялася пераважна, наколькі магчыма, няўдзелам. Яна была пасіўнай. Сёньня, наадварот, можна жыць разнастайным і насычаным жыцьцём унутранага — нават і палітычнага — эміграната. Можна нават крычэць крамольнае — «Амэрыка для амэрыканцаў! Беларусь — для беларусаў!», што калісьці — у першым выданьні, заканчэньне фразы, было пазначана шматкроп'ем, і потым таксама, напярэдадні апошняй незалежнасьці. Я пра «Тутэйшых», зразумела. Яны баяліся фразы, баяліся слоў. А сёньня можна гаварыць. Галоўнае, па сутнасьці, дасягненьне апошняй дзесяцігодкі. Руйнаваньне ВялікаНямецкага муру, апошняй імпэрыі, скручваньне калючага дроту на межах. А тут — максымум што ўнутраныя эмігранты не заўжды трапляюць за краты. Калі сядзяць ціха, зразумела. Інакш, арыштоўваюць, лупцуюць, судзяць і запраторваюць.

Ня рухацца, не зьяжджаць. Сядзець поседам. Ня страчваць пільнасьць. Боязь уласнай адсутнасьці. Які можа быць адпачынак, якія курорты: мора, пальмы, пляж?! Сёлета гэта не для нас. Спачатку трэба зрабіць усё магчымае хаця б. Паўторны сэанс уласнай наіўнасьці. Усё гэта ўжо было аднойчы. Што залежыць ад пісакі? Рэпарцё-

ры — як франтавыя сувязісты. Але які вынік, калі нават сьціснуць зубамі, злучыўшы часткі перацятага дроту, калі навіны будуць адмоўныя і безнадзейныя? Ты ўстрымаўся ад праменьня і хваляў? У краіну, апанаваную перадвыбарным трымценьнем, перасоўваецца паўднёвы сквар. Як незразумелы цяжар на грудзі ў глыбокім сьне. Абмежаваньне любой дзейнасьці, мінімум рухаў, адзіная думка — «калі скончыцца?», адно жаданьне — перачакаць. Зьнясільваешся, нават нічога ня робячы.

## 5

Лухта! Усё гэта лухта! Я не хачу болей! Колькі можна чакаць?! «Залацістага яснага дня». Колькі цярпець? А калі жыць? Колькі можна?! Гэта немагчыма! Чаму іншыя могуць жыць як людзі? Ужо сёньня! Чым мы горшыя? Які тады сэнс? Канечне, нельга адразу зь няволі ў свабоду трапіць, ня марачы нават аб ёй, не адчуваючы патрэбы. Сапраўды гэта немагчыма. Не-ма-гчы-ма! Палякі, яны змагаліся. Змагаліся! За польскі касьцёл, за польскія школы, за польскае войска, а не за якоесьці — зь сярпом і молатам на чырвоных зорках. Каб я пісаў для адной рубрыкі — пра Беларусь праз сто год. Я б напісаў, бадай, пра індзейскую рэзэрвацыю, пра гета. Пра квартал, Траецкае прадмесьце. Дзе ўсё па-беларуску — і ў цырульні, і ў краме... І пра вёску — прыгарадны скансэн. Усе размаўляюць па-беларуску, нават у драўлянай цэркаўцы. А навокал паркан і ахова, як у чарнобыльскіх вёсках. Вось туды турыстаў будуць вазіць, дэлегацыі ўсякія. Мо' тамака й жыць ніхто ня будзе, а будуць прыяжджаць, як на працу. Каб размаўляць па-беларуску для міжнародных прадстаўнікоў, ці для «інтурыстаў». Накшталт як сёньня акторы ў тэатры карыстаюцца службовай моваю. Або дыктары на тэлебачаньні, для якіх «шаноўныя гледачы» — суцэльная тарабаршчына.

Ах, якая салодкая думка: акапацца у сваім пэнтхаўсе. Востраў Крым паветраны. Лесьвіца ўгору, кабінэтная

эміграцыя. Замураваецца і пісаць эпапею, раман-цагліну, пра няўдалы рух да свабоды, пра недарэчны ланцуг падзеяў.

Хаця, а ці застанецца здольнасьць пісаць, імпэт, жаданьне, унутранае гарэньне? Ці не засыпле ўсё попелам, ці ня зьнішчыць вулканічным вывяржэньнем? Ці ня стану я чымсьці накшталт Пампэі? Мне невядома, калі дакладна і як стваралі сваю літаратуру лацінаамэрыканцы. Напэўна, яны здолелі, мелі магчымасьць ажыцьцявіць свае кніжныя задумы пасьля панаваньня хунтаў, менавіта. Толькі пасьля заканчэньня ўлады чорных палкоўнікаў, пасьля піначэтаў. Улады злавеснага блазна ў генэральскай фуражцы з крабам, зь неверагоднымі эпалетамі. Альбо пісалі ў шуфляду. Шуфляда-шуфляда! Ня выкарыстаная членамі цэху ў часы першай працяглай унутранай эміграцыі. Запозна. Зараз досыць друкавацца ў інтэрнэце. Дысідэнцтва, супраціў рэжыму ў сусьветным сеціве. (Але ж!) Без паперы і друкарскага варштату, без падпольнага выдавецтва, безь пісьмовай машынкі, хаванай у лесе ў дупле дрэва.

І ў гэтым шчасьце. Нэндзнае наскае шчасьце. Яны некалі нас... Цэлыя саюзы пісьменьнікаў зьнішчалі, цэлыя акадэміі навук і ўнівэрсытэты. Канечне, гісторыя паўтараецца. Асабліва нашая. Але пакуль не пачнуць зьнішчаць масава, ссылаць у сьнягі ці ў нежылую зону, браткі нікуды не паедуць. Хоць потым, можа быць, хутчэй за ўсё запозна, як заўжды. Наскі фаталізм. Зашмат «але». На эўрапейскім скрыжаваньні інакш ня можа быць. Краіна ў крыжы цэльніка... Пад літаўры бітвы за ўраджай, пад новаарыйскі базар, пад воплескі, якія ператвараюцца у авацыі. Ура, ура таму, што тройчы ў адным абліччы!

## 6

Пляц разбуранага храму апанаваны галасам. Вясельныя кавалькады гудуць — хто мацней! Яны аб’яжджаюць асфальтны прастакутнік па колу і спыняюцца ўсярэдзіне.

Вонкі выбіраюцца маладыя, сьведкі, дружкі, сваты. З шырокімі стужкамі цераз плячо, быццам перадавікі жніва і пераможцы спаборніцтва. З багажнікаў вымаюцца гронкі бутляў з савецкім шампанскім. Хлапкі, пырскі, пена. Публіка радасна жлукціць, абліваючы машыны і асфальт. Парожнія пляшкі не хаваюць назад. Не! Стаўляюць на дол, стараючыся пакінуць чым паболей. Навідавоку! У каго болей шыкоўна атрымаецца. Астатнія вясельлі чакаюць чаргі. Ах, каб хутчэй адкаркаваць, каб шампанскага савецкага, каб папазіраваць на фоне навакольнай забудовы: сталінскі палац з калёнамі, старасьвецкія камяніцы, вялікі касьцёл, які дзівам захаваўся, шэрыя хрушчоўкі. Пырскі шампанскага! Абавязкова каб «савецкага». Як цукеркі «шакалядныя» — гучыць значна смачней. У проста шампанскім як быццам няма бурбалак, настальгічнага прысмаку, адчуваньня салюту.

З шырока расчыненых касьцельных дзьвярэй выходзіць вясельная пара са сьвяточнай публікай. Міжволі думаецца, што яны ня будуць шампанстваваць побач з касьцёлам на пляцы. Кірую далей, у бібліятэку імя першадрукара Бібліі. Побач з брамай былога магнацкага палацу, дзе музэй крыжоў і абразоў, цугам вясельныя лімузіны і дзядзькі са стужкамі на плячах. Яшчэ адзін картэж з бліскучых аўто спыніўся на пад’езьдзе да замкаў, і апошні — паміж замкнёнай брамай Каралеўскага і арачным мостам, які вядзе ў Стары, яшчэ княскі. На дзядзінцы налівалі шампанскае ў плястыкавыя шклянкі, публіка імкнулася пад шырокія афрыканскія кроны нізкіх дэкаратыўных дрэў. Калісьці пад імі бавіліся каралеўскія прыдворныя, а нядаўна піў піва за столікам, хаваючыся ад гарачыні, сівавусы замежны консул.

Крыж ваконны, густа-чырвоны, перасунуўся з партрэта якойсьці дабрачыньніцы ці сьвятой — на апостала. Сьвятая напэўна ня проста мнішкай была, а настаяцелькай, мяркуючы па яе шатах і капюшоне, па крыжы на грудзёх. Жоўтыя кветкі перад расьпяцьцем ад сьпёкі пачалі вянуць. Ззаду, за лавамі, недзе пры ўваходзе дурэлі дзеці. Ксёндз нагадваў словы Эвангельля, заклікаў любіць адно аднаго

і раздаваў аплаткі. У касьцёле было амаль гэтак жа горача, як на вуліцы. Усе дзьверы трымалі адчыненымі. Ксёндз прамаўляў, без асаблівага, зрэшты, энтузіязму, яму таксама было горача. Ён гаварыў на вядомую, але ня самую частую ў казанях тэму. «Стукайце і адчыняць, прасіце і атрымаеце». Затым сьледавала павучаньне, што мы ня ўмеем маліцца і ўвогуле лянуемся.

Набажэнства: лагодная арганная мэлёдыя, што бывае рэдка ў браткаў. Усе ўзьняліся з лаў. «У імя Айца, Сына і Духа Сьвятога. Амэн. А зараз — асновы нашай веры». І прысутныя сталі завучана паўтараць за ксяндзом... Вады ў купелі было наліта даволі. Ногі расьпятага нагадвалі ляльку з пап’е-машэ, фарба сьцерлася плямамі. Яны здаваліся зьлёгку ўспацелымі ад сьпякоты і вільготнасьці. Я нават адчуў гэта, калі дакрануўся вуснамі перад выхадам. Сьледам за ўсімі па высокіх сходах спусьціўся ксёндз да шэрагу легкавікоў, якія сталі перад касьцёлам. Зь ім ішоў служка з мэталічным вядзерцам са сьвятой вадою, якое трымаў аберуч. Сямейнікі, якія прыяжджалі на імшу, сталі кожны асобна ля дзьверцаў машыны. Усе былі ўрачыста-паважнымі. Ксёндз лёгкім крокам рухаўся ўздоўж аўтамабіляў і нейк вясёла густа апырскваў іх і вернікаў, кожнага разу мачаючы ў сьвятую ваду свой касьцельны квач. На добрую дарожку. Памагай Божа!

*2001*

# Манхэтэн

Апавяданьне пра верасень

Спачатку яно называлася «Blue secret». Нічога агульнага з forever blue. Хутчэй з «Blue bird» The Wings або Морыса Мэтэрлінка. Ці з «блакітнай марай», з блакітнымі вачыма, зь небам у рэшце рэшт, пад якім высьпявае кава, спачатку падобная нечакана на брусьніцы. Якую зьбіраюць лацінасы ў самбрэра, пражаць і ссыпаюць у радняныя мяхі. Чорнае кляймо зьверху. Tchibo. Як у тэлерэкляме. Адзінай, якая падабаецца.

У вялікі шкляны празрысты кубак насыпаеш тры поўныя зялёныя лыжкі змолатай кавы. Швайцарскі кубак на літар напою. Вялікімі літарамі па-ангельску патлумачана: hot fluids must be handled with care. Ніжэй прадубляване па-француску. Застаецца заліць гарачай вады і, счакаўшы, націснуць на стрыжань зь фільтрам здолу, пад якім уся гушча апынецца на дне судзіны. Пару кубкаў кавы пасьля сну — абавязкова. Асаблівая асалода. З навюткіх кубкаў «Blue secret».

Панядзелак. Першы дзень пасьля выбараў. Дождж. Напаўпадпольная прэс-канфэрэнцыя. Лічбы і факты. Парушэньні. Перасьлед. Затрыманьні на вуліцы, у натоўпе. Начныя вобыскі. Арышт у друкарні газэтных тыражоў. Канфіскацыі. Адлучэньне тэлефоннай сувязі. Ордэры, пратаколы. Зброя, бронегарсэты, чорныя шлемы. Дэманстраваньне цягліц. На мяжы адчуваньня, што зараз прыйдуць і па цябе. Карацей, у паветры, здаецца, запахла смажаным.

Атрымалася, што чаканьне вынікаў на працягу месяцадвух больш драматычнае за дзень пасьля. Нават дзіўна. Спакойнасьць амаль абыякавая. Адкуль гэта, не зразумець.

Дзень ніякаватасьці. Трэба сагрэцца, трэба зрабіць сабе маленькую прыемнасьць. Падышоў да вітрыны. Ён павярнуў галаву, ён ужо стаяў разглядаў каньякі. Сусед, Раман. Ён набыў сабе пляшачку, чвэртку, армянскага каньячку. Яму будзе досыць, патлумачыў ён. У каву дадаваць. Каб сагрэць душу, халодна стала ў краіне. А ты купіў доўгую бутэльку малдаўскага брэндзі з фартэцыяй на этыкетцы.

Гандлёвы дом — сучасны палац культуры і адпачынку працоўных, людзкі вір, як на мітынгу перад статуяй. Сьветла, цёпла, пахне кавай, гамана, музыка. Броўнаўскі рух. Можна пастаяць паразмаўляць. Ён успамінае пра ўчорашні інцыдэнт на выбарчым участку. Сьвежыя ўражаньні. Яго зьдзівіла, што лісты выдачы бюлетэняў амаль пустыя. Зусім мала подпісаў. Мужчына вэтэранскага выгляду ў куце дакладаў камусьці: палова прагаласавала да выбараў, за галоўнага павінна быць працэнтаў семдзесят.

Раман памылкова рэзка закрэсьліў два лішнія прозьвішчы. Як на ранейшых выбарах. У тую ж хвілю ўсьвядоміў, што сапсаваў. Ступіў па інэрцыі да вялікай чырвонай скрынкі. Раптоўна разарваў надвая, са словамі «ўсё адно няма сэнсу галасаваць». Выкінуць бюлетэнь у сьметніцу не пасьпеў. Да яго кінуліся з усіх бакоў. З калідору выбег міліцыянт зь пісталетам. Сталі хапаць за рукі, быццам ратуючы ад самагубства, лямантаваць, складаць пратакол. Падасьпела падмацаваньне, дзьве машыны з амонам і цывільнымі.

Скажоныя карыкатурныя твары, размахваньне рукамі, гучная размова, пагрозы. Асабліва ўразіла, што ўсе тыкалі яму, апроч чалавека ў цывільным, які захоўваў спакой і якому ўсе бідавочна падначальваліся. Раман ведаў, што большасьць членаў камісіі настаўніцы, і бачыў, што маладзейшыя за яго. Яны, альбо іхнія каляжанкі, хадзілі ў нашым доме па кватэрах, зьбіралі подпісы. Каб усё па закону. І нават вы расьпісаліся з Сабінай. Ты амаль адразу зразумеў тады, што нешта ня так, што яны хадзілі раней часу, так-так, каб апярэдзіць апазыцыянэраў.

Здарэньне закончылася нечакана амаль што хэпіэндам. Раман сказаў: прабачце, я выпадкова сапсаваў

свой бюлетэнь, дайце мне, калі ласка, новы. І шторм раптам ператварыўся ў штыль. Землятрус сьціх, пакінуўшы застыглыя грымасы. Расьцяліся кулакі, зьмежыліся раты, філіпікі заглухлі ў глонаўках, разнапружыліся кайданкі і пісталеты ў кабурах. Лішніх бюлетэняў — колькі хочаш! Раман напісаў пад дыктоўку заяву. Стары пратакол разарвалі і напісалі новы, лагодны. На вачах ва ўсіх ён паставіў птушку ў кратцы і паведаміў прысутным, што галасуе за апазыцыянэра.

Вы зайшлі ў пад'езд і размаўлялі яшчэ побач з паштовымі скрынкамі. Ванда, ягоная жонка, ужо ў Амэрыцы. Канзас-сіці. Добра, што існуе электронная пошта. Яму вядомыя ўсе падрабязнасьці. У аэрапорце яе сустрэла начальніца, у іх гэта прынята. Зрабіла палёгку: у вас быў доўгі пералёт, можаце заўтра а восьмай не прыходзіць, адпачніце, але ў дзевяць чакаем. Вось так здараецца. Нядаўна яны ўсынавілі дзіця малое. І раптам выйгралі грант. Амэрыка. Раман ужо зьезьдзіў у амбасаду, каб атрымаць гасьцявую візу.

Ты напаткаў іх колькі дзён таму. Увечары а дзявятай. Яны толькі выйшлі з кватэры. Ён яе праводзіў. У яе быў кампактны чамадан-кэйс. Ты пажадаў Вандзе шчасьлівай дарогі. Хуценька. Ты сьпяшаўся, яны таксама. У рэдакцыі «Паходні» амон з аўтаматамі, вобыск! Бегчы, ня скончыўшы вячэры. Скажонасьць, абвостранасьць успрыманьня, драматычнасьць, павялічаныя кантрастам — вулічнай цемрай і электралямпачкамі ў памяшканьнях. У завулках напагатове стаялі поўныя міліцэйскія машыны.

Кампутар закаркаваны немым лямантам з апазыцыйнага штабу. Быццам кляп. Быццам тромб у артэрыі. Твой сьціплы notebook не разьлічаны на падобныя дэпешы. Два з паловай мэгабайты! Езус Марыя! З сэрвера марудна, сутаргавым пункцірам перацякаюць да мяне няпоўныя тры мэсіджы, і ўсё спыняецца. Доўгія хвіліны — ані зруху. А сувязь дзейнічае, лічыльнік працуе. Прыкра. Усе гэтыя SOS-ы ў цябе нават не раскрываюцца. Увогуле пустышкі, ніякай абракадабры, чыстыя файлы. Націснуў «Disconnect» і пайшоў паслухаць пераможныя рэляцыі.

Чыноўнікі сядзелі напагатове. Для «пісакаў» месца амаль не пакінулі. Іхняя ўрачыстасьць, іхняе сьвята! Вы — сьведкі, госьці, якім зроблена ласка. Доўгі стол з крэсламі абапал трыюмфальна пуставаў. Перад кожным крэслам друкаваныя аркушы. Для яшчэ адсутных членаў камісіі, для герояў дня, якія вытрымлівалі паўзу. Каб пераможна ўвайсьці з пунктуальнасьцю. Члены выканкаму выглядалі стомленымі перамогай. Ты пасьміхаўся, што рабіць! У цябе выклікала сьмех справаздача, кампутарная хуткасьць, зь якою камісіі падлічылі галасы.

Зрэшты, калі загадаюць... Або калі стымул ёсьць. Людзі заглынаюць за хвіліну мэтры сасісак, горы біг-макаў, пасьпяваюць выжлукціць літры піва. Каб трапіць у кнігу рэкордаў. Рэкардсмэны. У Англіі мільён школьнікаў адначасова скакалі на месцы, каб выклікаць міні-землятрус. Усё дзеля таго ж. А тут хуткасна ўручную лічылі галасы. Амэрыканцы, тыя два месяцы пасьля выбараў не маглі разабрацца. Насьмяшылі ўвесь сьвет. У вас інакш. Што значыць дысцыпліна і парадак. Строгая падпарадкаванасьць, амаль вайсковая арганізацыя. Выбарчыя камісіі, гэта амаль ордэн мечаносцаў, створаны часова. Для карнай выправы супраць непакорнага племені або княства. Штосьці балюча знаёмае. Партыйная структура з «дэмакратычным цэнтралізмам». Або моцная сетка надзейнай падпольнай арганізацыі. Двойкі — пяцёркі — дзясяткі. Кругавая парука. Якаясьці сіцылійшчына. Хто хутчэй падлічыць — час пайшоў! Як яны там лічылі — ніхто не даведаецца.

Вы так дамовіліся: рабіць сабе прыемнасьці, сысьці часова ў прыватнасьць, адключыць рупар, высмыкнуць з разеткі. Хай сабе сьвяткуюць. А вы пойдзеце набудзіць сабе пісьменьніцкія кубкі з рукапіснымі фразамі. Запарыце кавы і ўключыце тэлевізар. І ў першыя хвілі не дасьцё веры сваім вачам. Руйнуюцца хмарачосы, Нью-Ёрк гарыць, хмары дыму над Манхэтэнам. Статуя Свабоды разгублена трымае халодную паходню. Быццам у якасьці алібі: што не яна падпаліла.

І вы хутка прызвычаіцеся да тэлекашмару. І будзеце глядзець яго да ночы. Пяць гадзінаў запар. Безь пера-

пынку. Пад каву і брэндзі. І міжволі будзеце успамінаць галівудзкія кінакатастрофы, у якіх усё бачанае сёньня рэчаісна, было паказана ў падрабязнасьцях раней. Дзеля забавы, дзеля касавага посьпеху, дзеля таго, каб выклікасць цікавасьць у перасычанай публікі, якой усё даўно абрыдла. Дзеля «Оскараў». І штосьці за кадрам будзе камэнтаваць сам Том Клэнсі — аўтар заўжды аб'ёмных раманаў-катастроф, якія вокамгненна экранізуюцца.

Адны і тыя ж зьвесткі, аднолькавыя кадры будуць паўтарацца да бясконцасьці. Зрэдку толькі штосьці новае. Напрыклад, што хакеры трапілі ў кампутарную сетку аэрапорту і напсавалі. Але хіба гэта насамрэч навіна? Усё гэта вы ўжо бачылі з удзелам Стывэна Сігала. Недасьледаваная тэма. Літаратура і жыцьцё. Тэрарысты шукаюць рэцэптаў у пісьменьнікаў і кінасцэнарыстаў. А тыя ўжо гэтак вылузваюцца! Грошы! Посьпех! Найменш драматычнае за ўвесь вечар паведамленьне. Зьнікомым радком у доле экрану: сёньня зачынены Dysneyworld у Фларыдзе і Dysneyland у Каліфорніі.

Званок ад Мажэны. Прыходзілі міліцыянты складаць пратакол. Напалохалі дзяцей. Ваш сьцяг бел-чырвона-белы на балконе псуе выгляд будынку, гавораць. У іх на ўсе выпадкі ёсьць артыкул. Калі ня здымеце адразу, будзе штраф. Сьцяг правісеў нямала, але выбары закончыліся — усё. У тэлевізары ўсё гарыць, выбухае, руйнуецца, а гэтым сьцяг перашкаджае. Яна ім сказала: пабойцеся Бога, мы ж беларусы, гэта наш нацыянальны сьцяг. Маладзенькі лейтэнант ёй адказаў: я — атэіст і ў гэтую чапуху ня веру, я большэ рускі, чэм беларус, патаму што мы ўсе славяне.

Узгадалася газэціна-прасьціна, якую на выбары ўкінулі бясплатна ў кожную паштовую скрынку. Уся да подпісу пра «нумар адзін» — і швец, і жнец, і на трубе ігрэц! На апошняй старонцы праслаўлялі больш вальяжна, у форме дыялёгу: па-мойму, ён такі магутны, як які-небудзь «боінг». Сапраўдны волат. У адказ: альбо як «лятаючая крэпасьць». Або нават як дзьве «лятаючыя крэпасьці», калі паставіць іх адну на другую і зьверху яшчэ пару хмарачосаў. Маўляў, астатнія кандыдаты побач пігмэі, карлікі, гномы. Цікава,

думаецца цяпер табе, ці ня ўчорашнія «боінгі-крэпасьці» яны мелі на ўвазе і ці не манхэтэнскія хмарачосы? Але судзяць, як вядома, не пераможцаў.

Нарэшце выхадны, у тэлевізары Мікалай Фрабэніюс. Яго ангельская мова афарбавана мэлёдыкай ф’ёрдаў і паўночных бароў. Ён гаворыць, што калісьці спыніў сябе на думцы, што пераключае тэлеканалы ў пошуку найбольш эфэктоўных кадраў вайны ў Пэрсыдзкай затоцы. Яго гэта ўразіла. І ён напісаў раман. Пра чалавека, самотнага ў сьвеце, аднаго ў пакоі, сам-насам з усім сьветам, які засяроджаны ў тэлевізары, сьветам, які прапануецца ў адрэдагаваным спрытнымі людзьмі з тэлебачаньня выглядзе.

Як гэта блізка! Як знаёма. Чалавек перад тэлевізарам — гэта ты сам. Які ня церпіць тэлебачаньня, нахабнай прапаганды, галівудзкіх вырабаў. Але які безь яго пакуль не абыходзіцца. Усё — аднолькава. І ты сядзеў некалі ў чаканьні навінаў і наступных — яшчэ болей відовішчных сцэнаў. Ірацкія «скады» ляцяць у бок Тэль-Авіву і Эр-Рыяда, але падаюць, не даляцеўшы, або выбухаюць. Ноч. Аднак усё відаць дзякуючы начным візуальным прыборам. Удзень зь відовішчнасьцю было б горай. Чалавек не зьмяняецца. Хлеба і перцу з імберцам! «Боінгі», сфільмаваныя з розных бакоў, улятаюць ня ў белыя падушкі аблокаў, а ў высачэзныя дамы-вежы. Магутныя выбухі, агонь, дым! Кудаса папер у паветры. Хмарачосы разбураюцца. Шкло, бэтон, арматура. Кампутары. Скульптуры Радэна, шэдэўры жывапісу, залатыя штабы, сэйфы з грашыма. І людзі. Тысячы людзей, магчыма, што дзясяткі тысяч. Вокамгненна ператвараюцца ў нішто.

Цяпер Бабілёнскія вежы, неверагодна, былі дзьве. Толькі што яны яшчэ стаялі. Толькі што. Але гэтым разам людзей пакараў ня Бог. А хто? Ці людзі? Іншыя людзі, так. Камікадзэ. Рукі ў чыіхсьці руках. Смуглявыя рукі, якія ня церпяць белыя. Прылада. Зброя. Пякельная машына... Адбудаваць хмарачосы — ці не шалёная ідэя? Замест таго каб паставіць крыж, капліцу, помнік. Помнік ахвярам дзьвюх вежаў. Сапраўдную, а ня вымысьленую Бабілёнскую вежу,

зрэшты, разбурыў Аляксандар Македонскі. Хіба ня так? Нашчадкі помсьцяць за белага разбуральніка? Фантасмагорыя нейкая! Зікурат — каб злучыць неба зь зямлёй. Манхэтэнскія «блізьняты» — каб рабіць грошы?

Амаль адразу становіцца вядомай мільярдам пагалівудзку чульлівая асабістая гісторыя дзьвюх асобаў. Трагічная гісторыя. Маладая жонка тэлефануе з апошняга паверху хмарачосу мужу на іншы, заходні бераг краіны. Яго няма. Яна пасьпявае толькі паведаміць праз аўтаадказчык, што бачыла, як здарылася катастрофа і што яна яго кахае. Яна гэта паўтарыла двойчы. — Выбух! Табе ўяўляецца, як у галівудзкіх нетрах адразу пішуцца новыя сцэнарыі. «Вайна на Манхэтэне». І, верагодна, падлічваюцца будучыя прыбыткі. Бізнэс ёсьць бізнэс.

Успамінаецца эміграцкая газэтка. Як наіўна-ідылічна выглядаюць заакіянскія справаздачкі са сьвяткаваньня розных угодкаў. Тут вулічныя пабоішчы, арышты, суды, турмы. Там — сход зь півам дзесь на Манхэтэне ці ў Брукліне, сьвяточны рэфэрат і пікнік з каўбаскамі... Атрымліваецца, бясьпечных мясьцінаў сёньня не існуе. «Бярэце, хлопцы, бутэлькі з пятролем, карбіду з вадою, сэрную кісьліну і кавалак трубы і ідзеце ў ноч пасьля выбараў да «Чырвонага дому» (?). А калі не атрымаецца, хавайцеся ў сяброўскіх амбасадах блёку НАТА». Подпіс: «Вызвольнае войска».

У старшыні выбарчай камісіі такіх ксэракопій — шуфляда. Бярыце — не шкада, усім раздаваў. Горшай дурноты і фальшыўкі ты ня бачыў. Канечне, можна, калі вельмі пастарацца, калі сябе прымусіць, уявіць, што дзесь у Агаё стары нямоглы вэтэран прыдумаў штосьці падобнае і даслаў, каб увесьці ў зман і нават крыху напалохаць пільныя органы і некага асабіста. Паказытаць першыя жалезныя нэрвы і другія — уражлівыя. Можна, але навошта? Калі шыла зь меха вытыркаецца.

Так, часам шкада, што не было насамрэч ані Беларускага падпольнага саюзу, ані іншых. Іх прыдумалі органы. Шкада, бо людзей лепшых усё адно закатавалі, расстралялі, зьнішчылі. А каб былі, дык гэтыя хоць бы часам баяліся,

хоць бы зважалі. А так толькі цынічны спэктакль: ідыёцкія ўлёткі, зьдзеклівыя пытаньні на допытах. Допытах людзей, затрыманых за міфічныя бутэлькі з пэтролем. Уяўляеш нараду сьледчых: хто прыдумае самую дасьціпную прапанову? А ці не ўпісаць нам туды пэтроль? А ці ня ўставіць карбіду? Упісаць! Уставіць! Га-га-га! Гэткія запарожцы, якія супольна складаюць ліст да турэцкага султана...

Клёнавы ліст у лужыне пасьля дажджу. Верасьнёўская адметная пара. Час чырвонага перцу, баклажанаў і перасычаных салодкім сокам, перасьпелых пладоў. Садавіны, якая, спачатку аздабляючы гарадскія вуліцы, маркоціць цябе, выклікае жаль. Пладовыя дрэвы, якія заблукалі сярод камяніц і помнікаў, выглядаюць някідка. Апроч дзьвюх сьвяточных часін. Травеньскай квецені і жнівеньска-верасьнёўскага ўраджаю. Аднолькава белыя ці крыху ружаватыя ўвёсну, пазьней робяцца рознакаляровымі, сьвяточнымі. Двойчы становяцца ўпрыгожаньнем двароў, сьценаў, бруку.

У двары цераз дарогу. Паміж дамамі аздоба — алычовае дрэва. Большасьць ягад абсыпалася — пекная палянка жоўтых кветак на асфальце. Нікому не патрэбных. Да крыўды нікому. За алычой сыпле ў пажоўклую траву свае плады сьліва. Стары двор з дамамі запольскага часу. Яшчэ некалькі дрэваў. Цёмна-жоўтая перасьпелая алыча, фіялетавыя сьлівы. Іх пачынаюць зграбаць ў грудкі, як сьмецьце. Як водарасьці на пляжы, выкінутыя штормам, якія пачынаюць гнісьці па-за вадой.

Яшчэ нядаўна ставіліся лескі, плады дваровага саду раней цікавілі жыхароў. І падшпаркам, і пэнсіянэрам цяпер усё роўна. Тваё маленства, вайсковыя гарадкі. Яблыкі часьцей не пасьпявалі дасьпець. Гарадзкі гонар. Або фанабэрыя. Гарадзкім належыць купляць на рынку. Марны плён. Нязжатае збожжа, нераскупленая кніга, неспажыты хлеб. Горад засыпаны бескарысным ураджаем. Сузіраньне выклікае сум і маркоту. На Паўлоўскага камяніцы царскіх часоў. Стары мур, па якім паўзе чырвоны плюшч. Застылыя вадаспады вінаграднага лісьця спадаюць з чатырох паверхаў. У гушчыні цёмна-сінія крамяныя гронкі. Цагля-

нага колеру ягады шыпшыны і глогу. Чырвоныя кітайскія ліхтарыкі — ці плады, ці кветкі якогасьці кустоўя ў дворыку. На клюмбе аранжавыя настуркі, сумныя вяргіні, дробная бялюткая мядуніца, якая п'яніць сваім моцным водарам да самых маразоў.

На рынку грудкі разынак, курагі, фінікаў і гарэхаў, інжыр, чарнасьліў, кавуны, дыні і гранаты ў азіятаў. І памідораў, цытрусавых, перцу, гронкі бананаў і вінаграду, яблыкі ды грушы ў сваіх і украінцаў. Кава розных гатункаў. Бразыльская, пуэрта-рыканская і калюмбійская. Проста змолатая, у вакуумных пакунках і бабы. У бляшанках і кардонных скрыначках. У стылі каляніяльных тавараў. З пальмамі, кававвымі плянтацыямі, ветразёвымі караблямі і піратамі. Растваральная — ад таннай падробкі да сапраўднай і дарагой. У вулічнага мастака — партрэт Ясіра Арафата. Які не зьнікае з тэленавінаў аднолькава зь Бін Ладэнам і Шах Масудам. Разам з хмарачосамі і гіганцкім вашынгтонскім пяцікутнікам. Спаткалі Рамана. У Ванды праблемы. Патрабуюць, каб наняць кватэру, процьму даведак і рэкамэндацый. Зь месца працы, зь месца жыхарства, з эміграцыйнай службы. Горш за нашыя жэсы ды авіры. Пільнасьць пасьля здарэньняў.

На пачатку вечара званок. Мажэна зь Юркам. Мы прыйдзем сёньня, калі хочаце, калі вы ня супраць... Вы запрашалі іх, але бяз даты. У любы зручны для іх час. Усчынаецца хуткае вясёлае гатаваньне. Рыс зь мясам і шампіньёнамі, якія мы называем пячуркамі. Зь перцам. Табе даспадобы, калі варыцца, тушыцца, пражыцца перац. З часныком і цыбуляй. Крыху саладжава-гаркавы. Пахі восені. Пад шкляной накрыўкай ружавеюць на патэльні кавалкі гарбушы ў маянэзе. Верасьнёўская сьвежыня зыходзіць з рэзаных памідораў, пасыпаных пятрушкай. Апошняя зеляніна з градкі, знаёмая зь першымі начнымі халадамі. Узьбіваюцца яйкі з мукой, са сьметанковым маслам і цукрам. Рэжуцца яблыкі, малінаўка. Напаленае нутро пліты. Шарлотка.

Кава і гарбата з новых кубкаў. Самі кубкі колеру слановых біўняў. Замест малюнку кожны аперазаны

чатырохмоўнай няскончанай фразай. У кожным разе — адрознай, наколькі мы можам меркаваць. Мы можам толькі прачытаць адну зь іх: «Ты знаходзіш мяне прывабным, таму што ад цяперашняй хвіліны я...» Што? Мы міжволі пагля-даем адно на аднаго з запытаньнем. Што я напаю цябе за-раз кавай! Альбо гарбатай. Такі сакрэт кубкаў з блакітнымі сподкамі. Перад тым мы елі зь вялікіх талерак: блакітны пас, на якім рукапісныя радкі — як на кубках.

Размова, само сабой, пра Манхэтэн і эміграцыю. Пра сяброў, знаёмых і знаёмых знаёмых. Ніхто яшчэ не вярнуўся... Мэлянхалічная хваля. Ну, але мы нікуды ня едзем. Мы тут, нас не скранеш.

У нядзелю раніцай кампутараманы ўстаюць пазьней. Нарэшце прапускная здольнасьць лініі павялічаная. Зь перапынкамі, штуршкамі, але паступова, за паўгадзіны здушаныя крыкі штабу агульна-апазыцыйнага канды-дата перацякаюць у твой notebook. Стараешся ня ды-хаць. Вялізныя пустыя файлы. Як бурбалкі з паветрам. (Ты ведаеш, апошняя кніжка Мэтэрлінка называлася «Блакітныя бурбалкі», з удакладненьнем — «шчасьлівыя ўспаміны». Кніга мэмуараў.) Папяровыя тыгры. Застаец-ца адно зьнішчыць іх. Але сярод поўнасьцю бескарысных messages трапляюцца і лісты ад сяброў. Ангельскі вары-янт эзопавай байкі наконт жабаў, балота і чаплі. Замест рэфлексій адносна вынікаў вашых выбараў.

Ад галяндкі Інэ з брытанскага мястэчка прыйшла малітва за нью-ёрскія ахвяры. У самой яе знайшлі зла-якасную пухліну. Яе лечаць хіміятэрапіяй. Вось тэкст малітвы, названай «Light a candle» — «запалі сьвечку». Яе распаўсюджвала адна англіканская царква.

«Dear friends. We have all been moved by the tragic events on the US East Coast this week. The many stories that have emerged from them are tragic. As a church we want to stand with those who grieve and join with families and churches across the world in praying for families of victims in the US, UK and elsewhere.

Regardless of your politics, these events are big and affect us all. We would like to invite you to join us on Suturday

15 September at 8 pm GMT in lighting candles outside your front door. We'll join together in praing for, thinking of, rememberins those killed and their families. We're lighting these candles as a sign of hope, symbols of unity and as a chance to pray together for all those mourning now. Join us as we pray».

Вы атрымалі ліст запозьнена. Вы не запалілі сьвечку і не паставілі яе перад дзьвярыма. Вы не пасьпелі таксама адначасова зь іншымі людзьмі ў сьвеце памаліцца за сем'і ахвяраў, каб навязаць нябачную лучнасьць з тымі, хто ў жалобе. У канцы было прыпісана: «Please forward to your friends». Табе застаецца толькі выканаць гэтае пажаданьне і пераслаць тэкст вам усім.

*2001*

# Цыфэрблят

Апавяданьне з гадзіньнікамі

Не люблю, калі пасьля Калядаў раптам мароз зусім раствараецца ў паветры, падае ціск. Ходзіш як прыгаломшаны. Сонца зьнікла разам з холадам. Шэры каламутны дзень. Сьнег спакваля траціць свае якасьці. Нябачная падэсьць зьнішчае яго моц і здароўе. Ягоныя бадзёрасьць і аптымізм. Як кавалак рафінаду ў шклянцы з гарбатай зьнікае навідавоку. А наперадзе прывід мокрага Новага году. На сьцяне сапсаваны гадзіньнік і ў шуфлядзе таксама. Нядобрая прыкмета? Вядома: лепей, каб усе стрэлкі рухаліся, каб адлюстроўвалі зьмены часу. Каб дзялілі жыцьцё на хвіліны-гадзіны. Але, спыненыя або жвавыя, гадзіньнікі адбіваюць рэчаісны стан нашага жыцьця.

Не зіхатліва, ня срэбна, не іскрыста? Ня надта сьвяточна. Не параўнаць зь леташнім. Ніякіх падстаў для аптымізму тады быць не магло. А вось жа нейкі імпэт, навізна — беспадстаўныя, нематываваныя. Крыху абсурдна. Магчыма. Але чаканьне нейкай прыемнасьці лунала ў зімовым паветры. Адчувалася ў жвавасьці мінакоў, усьмешках, радасных выгуках. Хаця чакаць бадай не выпадала. Але так зроблены чалавек. Спрыялі настрою навацыі. У дадатак да своеасаблівага ўнутранага стану, неакрэсьленых надзеяў. Упершыню некалькі асьветленых уначы камяніц. Халодныя нэонавыя фаервэркі. Зіхатлівыя агеньчыкі у вокнах. Ялінка з каляднай музычкай на банкаўскім балконе. Ці яна сапсавалася? Хаця, здаецца, банк ляснуў. Давялося доўга швэндацца па рынку, выбіраючы гірлянды з лямпачак. Пакуль не пераканаўся, што абыякавы да іх. Яшчэ летась мы адныя ў доме вывешвалі на вакне ў сьвяточны час сьціплую гронку старых лямпачак. Спадзяваліся: наступным разам набудзем новыя — шмат і міготкія.

Елкі, ілюмінацыя у вокнах — замест асьвятляць, мігатліва афарбоўваць сьнежную бель, адбіваюцца блікамі ў лужынах. Залюбіў зіму? Неверагодна! У цябе пытаюцца: што з табой, Вітольд? Няўжо табе стала даспадобы славэтная сібірская зіма, якой працягваюць мроіць жанчыны ў вялізных футрах і шапках?! Якіясьці футравыя сьнежныя бабы на вуліцах, зьнявечаных і зьнядужаных адлігай. Потныя і дыхавічныя. Ты што, з глузду зьехаў? Ды не, чаму. Я ня ведаю, папросту я заўжды ненавідзеў зіму з марозам і ўсячасным ветрам. Ненавідзеў замерзлую пасьля адлігі слату. А тут клясычная зіма. Бяз прыкрасьцяў. І яшчэ ўлічыце натуральную рэакцыю на лета, якое зрабілася трапічным.

Перад Калядамі званок з радыёстанцы, папрасілі штонебудзь «прыгожае і мілае». Пайшоў да касьцёлу. Спачатку на ганку пачакаў з дыктафонам у руцэ, пакуль не пачне адбіваць час гадзіньнік на званіцы. Мароз пстрыкаўся. Бом-бом-бом! Сьпяшаўся мой гадзіньнік ці адставаў вежавы. Перад шопкай стаялі на каленках. Дзяўчаты. Малады мужчына ўзьняўся з каленяў неўзабаве, як укленчыў ты. Спачатку перажагнацца, затым агледзецца. Каб запомніць і пераказаць, што тутака — у стайні, дзе нарадзіўся хлопчык, — ёсьць. Здаецца, фігуры людзей і жывёлаў іншыя, чымсьці летась. І яны перастаўленыя, сцэна зроблена крыху інакш. Але запомніць парадак, падрабязнасьці заўжды цяжка.

Задачка з маленства: на стале раскладзены рэчы, якаясьці зьнікла, ты напружваеш візуальную памяць.

Рука цягнецца па дыктафон. Адчуваю на сабе погляд гладкага маладога ксяндза, які назірае седзячы ззаду і, здаецца, выдае за ахвяраваныя грошы аплаткі (галоўнае — не сказаць: прадае). І ўвогуле абапал людзі. Яны моўчкі моляцца. Гаварыць у дыктафон, нават ціхенька, не выпадае. Пераржагнацца і ўстаць. Краем вока заўважыць недаверлівы ксяндзоў позірк. Памачаць пальцы ў каменнай купелі зь сьвятой вадою, пераржагнацца, прыкласьціся вуснамі да ўкрыжаваньня. Выйсьці і паведаміць у дыктафон што бачыў. Мужчыны, паставіўшы лескі, абкручвалі статую сьвятога у фасаднай нішы шнуром зь лямпачкамі.

Я вярнуўся дахаты і напісаў: «СЁНЬНЯ ЗРАНІЦЫ КАТЭДРАЛЬНЫ КАСЬЦЁЛ АЗДАБЛЯЛІ ІЛЮМІНАЦЫЯЙ. УПЕРШЫНЮ НА БОЖАЕ НАРАДЖЭНЬНЕ ЁН БУДЗЕ АСЬВЕТЛЕНЫ». І далей: «Падсьвечвацца таксама будуць статуі апосталаў на фасадзе. 24 сьнежня ўвечары заўжды адбываецца «пастэрка». Так называюць набажэнства, прысьвечанае нараджэньню Езуса Хрыста. З пачатку дня ў Катэдры можна было набыць аплаткі, якімі каталікі дзеляцца падчас вігілійнай вячэры.

Штогод у касьцёле да гэтай даты стаўляюць «шопку». Гэта імітацыя вядомай біблейскай сцэны — маленькі Езус у яслях і навокал фігуры — людзкія і жывёлаў. А таксама — ялінкі. Дзеці павесілі на іх выразаныя з паперы рознакаляровыя сэрцы. Кожны напісаў імя і — пра свае добрыя ўчынкі, зробленыя да дня народзінаў Хрыста. Напрыклад — «я прапыласосіла і прыбралася ў сваім пакоі». Або — «я ня слухала музыку, ня танчыла, а дапамагала маці і добра вывучыла урокі». «Я сябравала з коцікам, лашчыла яго і налівала яму малачко».

Сядзеў і марудзіў з адпраўкай. Заманулася дадаць, што спаўняецца трыста гадоў з часу асьвячэньня катэдры. Трэба ўдакладніць. Безвыніковыя пошукі. Не адказвала касьцельная канцылярыя. Заўпарціўся, стаў траціць час. Асьвячалі катэдру двойчы. Другім разам — дзеля палітычных разьлікаў. У горад прыбыў, вельмі баявы і ваяўнічы, цар-імпэратар. Шмат кавалерыі, рушніц, гарматаў. Штандары і барабаны. Яго запусьцілі разам з каралём у катэдру. Ліса з маскай авечкі.

Ужо тады на катэдральнай званіцы паказваў эўрапейскі час стары ратушны дзыгар. Ратушу разбамбавалі. Гадзіньнік дзівам ацалеў. Тады гэта быў вельмі дарагі мэханізм. Як сёньня, прыкладам, гэлікоптэр. Але, адрозна ад яго, яшчэ вельмі рэдкі, паасобны мэханізм. На ратушы гораду не асабліва шанцавала. Другую, навейшую, ацалелую пасьля самай бязьлітаснай вайны, зруйнавалі самі пераможцы. А вось ратушны гадзіньнік нейк захаваўся, па сутнасьці выпадкова. Але ў самім факце, у ягонай

нетрываласьці, адчуваецца пэўны сымбаль. Гэта горад, дзе ўсё можа здарыцца. Могуць рэквізаваць храм, перарабіць яго на швальню, паставіць канвэер, а могуць і адразу зруйнаваць, каб зьверху — танк або статую. Могуць узнагародзіць, а могуць — і бізуноў. Могуць даць акампаніятара, а могуць кляп.

Вось такі ў нас горад. Але я пасьпяшаю ў каралеўскі палац, там гадзіньнікі. Каб потым напісаць першыя радкі — вялікімі літарамі — «САМЫ СТАРАЖЫТНЫ ГАДЗІНЬНІК КРАІНЫ ЗНАХОДЗІЦЦА МЕНАВІТА Ў НАШЫМ ГОРАДЗЕ. СЁНЬНЯ Ў АВАЛЬНАЙ ЗАЛЕ ПАЛАЦУ ЭКСПАНУЕЦЦА ЦЭЛАЯ КАЛЕКЦЫЯ РАЗНАСТАЙНЫХ ГАДЗІНЬНІКАЎ». У перадсьвяточныя дні на такія паведамленьні попыт. Хочацца прыгожага, прыемнага, што стварае настрой, не дае зусім замаркоціцца. А зараз сядай ды пішы: «Гараджанам паказвае час ратушны гадзіньнік, якому каля паўтысячагодзьдзя. Ён на высокай званіцы Катэдральнага касьцёлу. Тамака, адкуль бачна ўсё. А гучыць вельмі самавіта. (Гук.) Ягоны стары цыфэрблят выстаўляецца сёньня у авальнай зале Каралеўскага палацу. Ён вельмі вялікі і ляжыць на падлозе. А навокал мноства гадзіньнікаў. Пераносныя, камінныя, карэтныя, марскія хранометры. Гаворыць захавальніца гадзіньнікаў сп-ня Віслава: «Усяго тут каля дзевяноста гадзіньнікаў. Толькі палова заводзіцца, і яны працуюць. Цяжка іх заводзіць, таму што яны такія чулыя. Трэба, каб роўная паверхня была. Гадзіньнікі — яны як жывыя істоты. Мы гаворым пра іх, што яны ходзяць, б'юць. І хацелася б, каб усе гэтыя гадзіньнікі зараз хадзілі».

А паказваюць час толькі чатыры. Вось як гучыць падлогавы гадзіньнік. (Гук.) Ён зроблены ў Нямеччыне ў 30-х гадох мінулага стагодзьдзя. (Хацеў быў напісаць, нават напісаў сьпярша: у часы фюрэра... Але падумаў, што можа атрымацца недакладнасьць. Дый не па-сьвяточнаму зусім.) Побач — ангельскі падлогавы гадзіньнік XIX стагодзьдзя. Але ён не заведзены. У палацавых памяшканьнях адчуваецца подых гісторыі. Ён стаў апошняй рэзыдэнцыяй апошняга караля шляхецкай Рэспублікі Liberum Veto. Тут

адбыўся славэтны «сойм з вадой у роце». Фэдэратыўную дзяржаву падзялілі паміж сабой Острайх, Прусланд ды Імпэрыя. Пра тыя часы нагадвае адзін экспанат.

Гаворыць музэйны супрацоўнік: «Ёсьць у нас сонечны гадзіньнік XVIII стагодзьдзя. Зроблены ў 1781 годзе на тэрыторыі Вялікага Княства Шляхецкага. Па замове прадстаўніка роду Бучынскіх. Гэты гадзіньнік зрабіў майстар Ігнаці Манувэр». Яна ганарыцца, што ў яе горадзе дагэтуль адмервае час знакаміты гадзіньнік на званіцы Катэдральнага касьцёлу: «Наш гадзіньнік — адзін з найстаражытнейшых у Эўропе. Яму амаль пяцьсот год. Гэта ўнікальны помнік сярэднявечнай мэханікі».

Пры Памяранскай буржуазнай рэспубліцы ў горадзе існавала сваё ювэлірна-гадзіньнікавае прадпрыемства. Зроблены на ім буднік можна сёньня ўбачыць у Каралеўскім палацы сярод іншых гадзіньнікаў. Буржуям трэ' было мець свой час, замаўляць яго, уплываць, кантраляваць. І каб усё прыгожа. Ня проста стрэлкі з цыфэрблятам, але ў залатым футарале, у аздобе каштоўных каменьчыкаў. А потым гэтую справу цэнтралізавалі. Вырабляць гадзіньнікавыя мэханізмы, як і друк грошай, дазваляліся толькі ў далёкім бабілёнскім горадзе. За высокім чырвоным мурам.

Вось жа, для гадзіньнікаў патрэбны асаблівыя, але адначасам папросту —нармальныя ўмовы. Нар-маль-ныя. Як чалавеку — чыстае паветра, крынічная вада, сонца. Крама з кітайскімі гадзіньнікамі — насупраць гмаху нашай улады. Драўляныя, нават лякаваныя асады, але цыфэрбляты бутафорскія. Выгнуты кардон з намаляванымі лічбамі, бляшанымі стрэлкамі. Тандэт. Кітайскі шлях уладам вельмі даспадобы. Крама з кітайскімі. Майстэрня з старымі савецкімі, якія хранічна псуюцца.

Свой пясочны кабінэтны гадзіньнік былы кароль забраў у халодную чужую сталіцу, сам адпраўлены туды пад хатні арышт. У доўгія белыя ночы пясок абыякава перасыпаўся ў колбах, выклікаючы сум у экс-каралеўскай душы. Галоўны палацавы гадзіньнік, які аздабляў порцік, разам з каралём вывезьлі ў якасьці трафэю. Замест яго павесілі гербавага дзьвюхгаловага драпежніка. У імпэрыі

не павінна быць у нікога свайго часу, час — адзіны — бабілёнскі. Войны, зьмены сталіц, межаў. Імпэрыя вярнулася. І заманулася зьнішчыць касьцёл з гадзіньнікам. Каб не паказваў час, каб не маліліся, і не было над горадам крыжоў і анёлаў з музычнымі трубамі. Як проста! Бабах! — і пустое месца. Бог абараніў сьвятыя муры, але гадзіньнік улады спынілі. І — плёмбы сьвінцовыя.

Каляды. У Рыме дождж. У ватыканскай бібліятэцы рамонт. Упершыню Сьвяты Айцец чытае сваё каляднае пасланьне не з вышыні бібліятэчнага вакна, а седзячы на вуліцы пад павецьцю. Ён абвяшчае адпушчэньне грахоў усім, хто яго зараз чуе і бачыць, у тым ліку тэлегледачам. (Але ўсё адно трэба наведаць абавязкова касьцёл, нагадвае ён.) Віншаваньне на пяцідзесяці пяці мовах. Чаканьне са стоеным сэрцам. «Дарагія беларусы! Вясёлых калядных сьвятаў!» А ў адказ цішыня. Нечаканыя сьлёзы ў Агнеты ў вачах. Аркестр карабінэраў у чорных жандарскіх — часоў Гарыбальдзі — капелюшах з плюмажам. Батальён італьянскага войска — розных родаў роты. Бутафорская папская гвардыя з алебардамі і дзідамі.

А віна мы так і не пасьвяцілі. На дзень патрона вінаробаў толькі польская імша. «Шакаляд» — назва начнога фільму. Каменная вёска з мураванымі тысячагадовымі дамамі. Вельмі стары касьцёлік і нечакана досыць сучасная, крыху карыкатурная статуя перад уваходам. Паказная бажлівасьць, да крывадушнасьці. Пурытанскія норавы. Увечары ўся вёска абавязкова ў касьцёле. Зьяўленьне кавярні-«шакалядніцы» выклікае байкот. Густы гарачы шакаляд, салодныя пірожныя, экзатычныя гарэхі, якія выклікаюць жаданьне кахацца. Не заходзіць, не купляць, ня есьці! Урэшце завадатар ціхай вайны апынаецца крадком у вітрыне, прагна пачынае пажыраць вежы шакаляднага замку. Яго знаходзяць раніцай на месцы злачынства. З разьняволеным, перапэцканым тварам. Яму сьніцца штосьці прыемнае.

Адчуваньне сябе на лініі фронту. «Што яны нам навязваюць гэтага замежнага Санта-Клаўса!.. У нас ёсьць свой славянскі Дзед Мароз», — шчыруюць на вуліцы дзьве кабеткі. А Сьвяты Мікола — ён ужо не славянскі? Ба-

рацьба гэтая адлюстроўвае трагікамічнасьць, фарс сёньняшняга жыцьця тут і цяпер. Тэлебачаньне настойліва паўтарае сюжэт пра Цьмутаракань, дзе жыве Дзед Мароз. Лапляндыя лічыцца ледзьве не варожай тэрыторыяй. У тэлевізары размаляваная як прастытутка Сьнягурка у велізарным какошніку, якіх не бывае. На дзяржаўных елках з начальствам, якое частуе цукрам-мядовічам. І толькі часам добры дзядуля Сьвяты Мікола, які апавядае дзятве пра сваё маленства, як ён упрыгожваў свайго ўлюбёнага ката. Ах! Электронная пошта дастаўляе каляровыя віншавальныя паштоўкі. Санта-Клаўса, які танчыць з аленямі макарэну. Або Дзеда, які са Сьнягуркай вырабляе якуюсьці цыганачку. На сталічнай фабрычцы расфарбоўваюць для елак зоркі зь сярпамі-молатамі, шары і дзядоў-маразоў старарэжымнага выгляду.

З Новага году не запомнілася нічога. Можна сказаць, што нічога. Папросту начная вячэра. Адно што электрычнасьць зьнікла а другой гадзіне. Расьфіранілі вокны, запалілі рэшткі сьвечак. У розных баках выбухала, лётала па небе з галасьлівым посьвістам. Але безь весялосьці, безь пераможнасьці. Гэта штосьці няўлоўнае, суб’ектыўнае, але лунае ў паветры. Адчуваецца ў мінаках. Цяпер гэтага я не заўважыў. Так, яшчэ не атрымалася ружовага шампанскага купіць. Ня страшна, але трансыльванскае «Batory» усё ж лепей ад звыклага «Савецкага». Куды ж яно зьнікла?

Раскруціў драцяны жгуцік, зьняў фальговы каптур, абхапіў корак. Але ўперад скасаваў загрыміраваны тэлетвар. У руцэ келіх. Няветлівыя вочы з штучнай саладжавасьцю. Кіславаты брут, выдаваны за салодкае шампанскае. Бом-бом-бом! Хутчэй! Дзвынк-дзвынк-дзвынк — ура! «Мы, панславяне, царкоўныя атэісты... Станем сьцяною на нашай мяжы. НАТА адпрэчым, мір адваюем. І з панславізмам пайдзём па зямлі... Вып’ем за волю, вып’ем за долю. Чырвоная крэпасьць — сьвятыня — твая і мая!» Хор у модных вушанках і дарагіх кажухах сьпяваў на тле каталіцкага храму, перарobленага ў бацюшкаву бажніцу. Сьвяточнае тэлемэню — бы комплексныя таньнейшыя абеды.

Хіба што «Тры каралі», улюбёны дзень, пакінуў у душы штось падобнае да сьвяточнасьці. Я быў няголены. Закончыў, праўда, своечасова, адлучыў камп'ютэр, пайшоў пад'есьці. Агнета сказала: а як жа «Тры каралі»? Але я няголены, я ўжо не зьбіраўся. Як жа, гэта ж нашае ўлюбёнае сьвята?! Як ты можаш? Мы ж дамаўляліся! Мароз здаўся самым моцным з пачатку зімы. Вольнае месца знайшлося толькі на бакавой лаве, адкуль не відаць ксяндза. Насупраць каралеўскага гарэльефу. Аднекуль зьявіўся зусім зялёны жаўнер, апрануты нібы апалчэнец. (Глыток іншага паветра пасьля казармы, дзе ўсіх пагалоўна стрыжэ на свой капыл барадаты бацюшка.) Ня ўсё яшчэ страчана! Ксяндза мы ўсё ж убачылі, калі ён прайшоў узад-уперад ад алтара да дзьвярэй, апырскваючы сьвятой вадою налева-направа. Некаторыя з бакавых лаваў памкнуліся, каб на іх таксама трапіла. А потым асьвячэньне крэйды і кадзідла (а як жа міра і золата?!). Сьцёршы леташні надпіс на дзьвярах, я вывеў крэйдай наноў: К+М+В 2003. Каспар, Мэльхіёр, Бальтазар.

Гадзіньнік у пакоі. Загадкавы рух стрэлак. Гук зьнікае, яго не чутно, толькі відаць, што стрэлкі не спыняюцца. Цік-цік-цік-цік, — бязгучна. Невытлумачальна. Сэкунд праз дзесяць яны зноўку выразна гучаць. Як сэрца абрываецца зьнянацку. Вітольд зрынаецца ў калодзеж, у бяздоньне. Колькі разоў у дзеях гораду абрывалася сэрца часу, замірала, сьцятае. Спынялася хада вялікага гадзіньніка. Псаваўся або яго спынялі. Дэкрэтам, указам, рэскрыптам ці звычайным загадам. Банальным галасаваньнем на партбюро, на сходзе помсьлівых няўдакаў.

Ратушны гадзіньнік дзесяцігодзьдзі стаяў. Спачатку забаранілі накручваць. І майстры неўзабаве перавяліся. Памерлі, не пакінуўшы сакрэтаў прафэсіі. Па-над горадам панавалі спыненыя стрэлкі. Раптоўны інфаркт. Людзі жылі, не ўзьнімаючы вачэй. Канечне, звонку гэта ня Бог вед які гадзіньнік. Звычайны цыфэрблят, адно мэханізм старасьвецкі, але яго нябачна. А большасьць мінакоў нават не падазраюць аб ягоным веку. Такія рэчы іх не цікавяць. Так, гэта ня праскі і ня мюнхенскі — з

каляровымі рухомымі фігуркамі, з мэханічнай батлейкай, так бы мовіць. Рух па колу пад сярэднявечную музыку нябачнай катрынкі. Карагод, прадстаўленьне, якое паўтараецца штогадзіны. Гэтага ў нас няма. Нашыя кляйноты схаваны ад пабочнага вока.

Уражаньне ад старога цыфэрблята, які ляжыць на музэйнай падлозе. У памяшканьні, дзе кароль падпісаў акт адрачэньня, дзе скончыліся старыя добрыя часы, дзе пахавалі Liberum Veto. Вялікі цыфэрблят на паркеце. Пакінуты панцыр чарапахі — усё, што ад яе засталося. Зьмяіная скура. А таксама — чамусьці — вялізныя сеткаватыя крылы кузуркі. Гіганцкага коніка, саранчы. Грэгара, які ператварыўся ў насякомае, у прусака. Крылы, зробленыя Леанарда. Або якія належалі Дэдалу, Ікару. Цыфэрблят нагадвае мне таксама стары герб на фасадзе. Аграмадную сьцёртую манэту, знойдзеную археолягамі. Гінэю з Гулівэравай кішэні. Нават рыцарскі шчыт, прыпетаваны да замкавай брамы.

Спаткаліся выпадкова на сьлізкай гразкай вуліцы з чыноўнікам зь Вялікага гмаху. Раней змагаліся зь ім у газэце — за колькасьць радкоў, за перабудову і публічнасьць. Ты ведаеш, гаворыць, яшчэ, здаецца, нядаўна прыяжджалі знаёмыя палякі, начавалі ў мяне на канапе, на падлозе. Езьдзілі па райцэнтрах, шукалі плітку чорную, даільныя апараты, усё запар. У іх былі пустыя паліцы. А цяпер некаторыя толькі шкадуюць нас, іншыя кпяць. А большасьць намі не цікавіцца. Мы страцілі дзесяць гадоў. У іх цяпер усё іншае — час, жыцьцё... І газэты таксама, дадаў я. Так, і газэты, згадзіўся ён. І, павагаўшыся, закончыў: а шмат хто яшчэ не зразумеў, што ў нас гэта надоўга, вельмі надоўга. Liberum Veto...

Аскомны Старановагод. Рэшткі салютаў. Шумавіньне сьвяточнасьці. Але ты ўжо даўно спаў. Нічога ня чуў і ня ведаў. І не хацеў. Нараніцу сьнег пачаў імпэтна раставаць, дажджыла. Каб наступнага дня сьнегу не засталося і — з пэўнай вінаватасьцю — каб запанавала студзеньская адліга, амаль вясна. Сьнег растаў, ілюмінацыя пагашана. Яліну рэжуць сярод лужын на дровы перад

бронзавай статуяй дзядзькі у фуфайках. Адно расквечвае пачарнелае вільготнае неба асьветлены касьцёл. Сьвяточны сілуэт відаць здалёк. Апроч цыфэрблята. Ён цёмны. Таямнічасьць часу. Схаваны рух стрэлак. Немагчымасьць ведаць час, спраўдзіць са сваім гадзіньнікам пры наяўнасьці вельмі вялікага вулічнага, вельмі старажытнага і дакладнага. Ён пануе над горадам. На касьцельных шпіцах яго ахоўваюць арханёлы. Войска Господняе. А калі іхнія трубы — ерыхонскія?

*2003*

# Сага пра выбарчую скрынку

Апавяданьне–даклад

— Вось яны нам гавораць, што нават у гэтых азіятаў плястыкавыя скрыні для бюлетэняў, і ўсё відно, што там ляжыць і як. Ну што нам, яшчэ ў чарніла мачаць пальцы, як яны, ды адбіткі пакідаць?

Нашая скрынка, яна спраўджана часам. Накшталт пасылачнай. Экалягічна бясьпечная — выкінуў яе, і яна растворыцца ў прыродзе. У нас усё з дрэва было — дамы, церамы, нават замкі панскія спачатку. Не кажу ўжо пра цэрквы, безь цьвіка зробленыя.

Дрэва — гэта наш матэрыял: лыжка драўляная, матрошка, дошка хлеб рэзаць, рыбу патрашыць. Нават яйкі драўляныя. А яны нам: кот у мяшку... Скрынка пасылачная, колькі ў іх сала пераслана адрасатам. Зь вёскі ў горад. З калгасу ў інтэрнаты, кватэры, у армію. Салдацкая пасылка — гэта асобная тэма, цэлы раман, можна сказаць. Што такое пасылка з дому для салдаціка? Гэта скарб, гэта цёплае прывітаньне, гэта навязаная лучнасьць з бацькамі. А яны нам гавораць адмовіцца. Што яны ў гэтым разумеюць?

Што нам іхнія плястыкавыя скрыні — хімія, штучны матэрыял. Для здароўя шкодна. Нашыя выпрабаваныя — натурпрадукт, дрэва, кардон, фанэра. Воку прыемна, душа сьпявае! У такую хочацца бюлетэнь свой апусьціць конча, у прыўзьнятым стане. У шчыліну ўкінуць. З пачуцьцём выкананага абавязку. Яе можна ўзяць аберуч. Патрэсьці каля вуха: ці дробнае бразгаценьне манэт у скарбонцы, ці пошум мора ў ракавіне. Рамантыка! І адчуваньне таямніцы ў тваіх руках: калектыўны голас народу, шмат галаскоў, як зь дзеркачом, які зламаць можна, толькі высмыкаючы паасобныя галінкі, як поле збожжа, мільён каласоў, якія ствараюць суцэльную сьцяну, палетак — як плош-

ча зь мітынгам — падтрымку — партрэты, транспаранты, сьцягі — «мы за айца!»

Прапануюць галасаваньне праз пошту, Інтэрнэт. Можа, эсэмэскі яшчэ пасылаць? Або па тэлефоне галасаваць, як за песьню — па тэлебачаньні? Гэтыя навамодныя штучкі хай сабе пакінуць. Мы — за традыцыі. Канечне, часам гэта можа быць выкарыстана. Касманаўты таксама галасуюць, яны нават могуць і па радыёстанцыі, ім можна давяраць, іх няшмат. Наш траўлер, калі ў моры апынаецца на выбарах. Разьведчыку шыфроўку ўвогуле паслаць можна, не ў пасольства ж яму ісьці на ўчастак. Але такіх людзей у нас, такіх выпадкаў ня так багата. Каб з-за іх дровы ламаць, сыр-бор учыняць.

Мы — за традыцыі: чырвоны кумач на стале, графін, шклянка, чырвоная трыбуна з гербом — каласы пад сярпом тваім, партрэт на сьцяне, да болю знаёмы. Або, калі на ўчастку, вялікая, памятаеце? — чырвоная скрыня для бюлетэняў. У такой паўкабана перасьлаць можна было пры жаданьні. І такія самыя скрыні, толькі меншыя, у палярнікаў на льдзіне, у памежнікаў на заставе, ля самага калючага дроту: «Возьле самай граніцы аўраг, можа ў чашчы скрываецца ўраг...» Там з-за гэтых усякіх афраазіятаў няма калі прагаласаваць спакойна.

Партызаны нашыя галасавалі — скрынку на «кукурузьніку» зь Вялікай зямлі прывозілі. Падпольшчыкі — пад пагрозай — бюлетэні хавалі сабе ў падшэўку, каб пранесьці скрозь патрулі. Як шыфроўкі таксама насілі — дзе колькі ў акупантаў складоў, танкаў, эшалёнаў. Як самае дарагое — пісьмы, данясеньні, скрынку зь бюлетэнямі «кукурузьнік» вёз назад. А зьнізу, падыспадам — бах-бабах! Вось што такое для нас гэтая скрынка.

У нас усе галасуюць, апроч сымулянтаў. У спэцпрыёмнік арыштантам вазілі скрынку? Вазілі. Паставілі на калідоры, хто хацеў, выходзіў з камэры і галасаваў. А запэцкай яму пальцы чарнілам, дзе ён адмываць будзе? У выцьвярэзьнік калі хто трапляў на выбары, рабілі яму халодны душ і везьлі на ўчастак. Ва ўсіх бальніцах — закрытыя ўчасткі абавязкова. Каб усё канфідэнцыйна, сакрэтна, каб ніхто

не даведаўся і не перашкаджаў. На ракетнай базе ў лесе, ім не адысьці нават на хвіліну, раптам які-небудзь Руст праляціць, ня дай Бог. Сапсуе чыстае неба над усёй рэспублікай.

Вось яны абураюцца: лічылі людзей, хто загадзя прыходзіў на ўчастак, а бюлетэняў у скрыні аказалася больш чым трэба, і ўсе да аднаго за начальніка. Ды хто ім паверыць? Брахня ўсё. Дзе сьведкі? Ды ніхто ня мог бачыць як лічаць. Ніхто пабочны. Дык тады хто пацьвердзіць? Хто пячатку паставіць? Што яны тут пішуць? Яны самі не маглі бачыць, іх блізка ніхто не падпускаў да скрынак, ведаючы іхні прыкры характар.

Скаргу сёньня разглядаем з гэтага — зь «ёп-эрэсэтэ» міжнароднага, час свой марнуем. Што яны тут пішуць? У вас парушаюцца дэмакратычныя падставы. А хто вам гэта сказаў? У вас непразрыстыя выбары. У вас і скрынкі непразрыстыя... Выбары — гэта не казла забіваць, панове замежныя віжуны. Знаеце, што «любапытнай Варвары на базары нос адарвалі»? Выбары — гэта інтымная справа, вы ў спачывальні фіранкі ж не разьвешваеце? Не даеце каля ложка ў нагах назіральнікам стаяць?

Яна падпісана, праштэмпелявана і пастаўлена дата — што яшчэ трэба? Раней, канечне, было інакш: бралі сургуч, награвалі агнём, дзьве вяровачкі — пячатка, якая застывала. Потым пячатку трэба было зламаць, бюлетэні вымалі і падлічвалі, і ўсё. Тады ўсе галасавалі за аднаго дэпутата. Сёньня ёсьць варыянты — чаго яшчэ трэба? І зь пячаткамі прасьцей — плясь, росьпіс. Або на паперцы адбіў, потым наклеіў, і ўсё ў ажуры.

Народ прызвычаіўся да нашай скрынкі са шчылінай — яна, як скарбонка для грошай, выклікае давер, прываблівае. Знаходзяцца нібыта ахвочыя, каб яна была як акварыюм. Магчыма, сапраўды ёсьць такія, але для большасьці лепей, каб яна захоўвала таямніцу: колькі там купюр і якой вартасьці — навошта адкрыта рэклямаваць? А як жа з таямніцай банкаўскіх ашчаджэньняў? Наш народ увогуле любіць яшчэ ў панчоху хаваць, каб ніхто ня ведаў. Галасаваньне ў нас адбываецца патаемна!

Скарбонку потым — лясь! Парсюка ці яшчэ кагось. А скрынку — расчынілі — высыпалі. Адсартавалі. Як пісьмы на пошце. Спачатку праехалі па паштовых скрынках сініх, якіх мы таксама не мянялі. Усё сартуюць па адрасах, па прозьвішчах, па краінах у рэшце рэшт. Нікому ня прыйдзе да галавы ня ў тую краіну даслаць, не на той адрас. Ніякага мухляваньня, як думаюць нашыя замежныя крытыканы, якім хочацца быць назіральнікамі. А мы самі справімся бязь іх, самі з вусамі. Самі пісьменныя, лацінскі шрыфт таксама ведаем, ня дурні, як камусьці здаецца.

Ёсьць прэтэнзіі і да нашага хатняга галасаваньня. Пішуць, што быў выклік да трох пэнсіянэраў, а прывезьлі назад бюлетэняў штук сто. А калі іншыя захацелі прагаласаваць, суседзі там. Што, адмаўляць людзям? У нас дэмакратыя. Людзі адпачываюць, выхадны дзень, чаго ім цягнуцца галасаваць? З дастаўкай на дом працуем, паляпшаем абслугоўваньне насельніцтва. Хай пасядзяць за сталом у нядзелю, адпачнуць, «Багатыя таксама плачуць» паглядзяць. А што да скрынак выязных: яны невялікія, зручныя, як паштарская сумка. Якія могуць быць прэтэнзіі?

Вось яны гавораць, што павінны быць перамяшаныя бюлетэні ўнутры, што не павінны стосамі ляжаць. А яны адкуль ведаюць? Яны ж самі абвінавачваюць, што іх не дапускаюць на пушачны выстрал да працэдуры галасаваньня, тым больш да адкрыцьця і падліку. Гэта ўсё іхнія фантазіі. Нездаровыя фантазіі. Прыніжаных і абражаных, так сказаць.

Так і хочацца часам мацюкнуцца: займайцеся сваімі справункамі, ня суньце нос у чужы агарод. Мы арыфмэтыку ня горш ведаем, вучыліся. Лепей разьбярыцеся са сваімі падлікамі, па паўгоду лічыце і ня можаце разабрацца. Лепш бервяно спачатку са свайго вока вымце. Усе гэтыя выбарчыя шоў — з шарыкамі, трубамі, трашчоткамі, са сьцягамі, партрэтамі, сырэнамі, раздачай гарачых сасісак, з шэсьцямі аркестраў, з паветранымі шарамі, зь півам, папкорнам... У нас выбары — гэта сур’ёзна, у іх — маскарад нейкі.

Дзякуй за ўвагу.

*2005*

# Нямецкі Папа

Апавяданьне з катамі

«Бам-бом, бам-бом, бам-бом!» — гулі званы над брукам і па-над дахамі жылых камяніц, палацаў, храмаў і турэмнымі будынінамі. Гук ляцеў скрозь вуліцы, як у лябірынтах. Рэха адбівалася ад сьценаў, вокнаў, аканіц, мансардаў, дахаў і комінаў ды скакала, як мячык, сярод камяніц, рухаючыся ўлукаткі, самымі нечаканамі траекторыямі, рыкашэтам.

Імя новага Папы Акінчыц пачуў з простага эфіру польскай радыёстанцыі і адразу пабег у касьцёл. Горад апусьцеў. У каменных будынках побач з касьцёлам забрахалі сабакі, гуртом абазваўшыся на біцьцё званоў. У былым кляштары, цяпер за сьценкай касьцёлу, дакладней за высозным мурам, турма строгага рэжыму: хто забіваў, рабаваў, гвалціў.

Апошняя вечаровая імша не зацягнулася, усе хуценька разышліся па дамах, і толькі тады на ўвесь сьвет абвясьцілі імя новага Папы. Hamebus Papam! «Папу абралі, Папу абралі!.. — суцэльна, у якойсьці тэнарнай афарбоўцы гучала ў небе бронза. — Новы Папа ёсьць ужо! Імя вядома!» Але ўсе засьпяшаліся дахаты, не дачакаўшыся. Панцыры парасонаў, настаўленыя каўняры.

На дыктафоне — шоргат падэшваў самога Акінчыца, віскат гумовых апонаў на турэмным рагу. І — праз усё — званы, званы, званы. Толькі сабак у запісе няма, яны выконвалі хорам свой вартаўнічы зьвяглівы сьпеў за таўшчэзным, неадольным пабеленым мурам. Калі ён падбегам сьпяшаўся трапіць у касьцёл, зайграла музычка, Акінчыц атрымаў SMS: he certainly looks like a Pope. Акінчыцу трэба зрабіць рэпартаж для радыё, запісаць галасы ксяндза і вернікаў.

У Ватыкане падаў дождж і сьвяціла сонца. Тут надвор'е было падобнае. Зь неба ляцелі рэдкія дажджавыя кроплі, ёдкія, бо стала халадаць. З-за рогу, як поўху, кідаў у твар вецер наводліў жмені халодных кропляў і нават калючага жвіру. Касьцёл ён убачыў здалёк — у канцы вуліцы — як у канцы калідору. Званы загучалі, калі ён ужо быў за якіх дзьвесьце крокаў.

Калісьці Акінчыц прачытаў у «Нашай Ніве» аповед пра касьцельна-турэмны квартал, ён яго пазнаў. Імя аўтара было чамусьці нямецкім. У былых кельлях вязьні марылі пра бутэрброд з галяндзкім сырам і каву са згушчонкай, а на вышках змагаліся са сном вартавыячуркі. У апавяданьні былі яшчэ навагодні салют ды сьвяточная музыка касьцельных званоў, толькі сабак хіба не было. Відавочна: аповед быў надрукаваны пад нямецкім псэўданімам, тады сам Акінчыц захапляўся ўсім нямецкім — кавай, півам, віном, машынамі, нават шакаладам. А ў «Люфтганзу» быў папросту закаханы.

Бабулькі сьпяшаліся да свайго вязаньня, да коцікаў, якім трэба даць крывянкі ці ліверкі або нават падсыпаць кіці-кэту. Дахаты, да сваіх пэнсіянэрскіх клопатаў і страхаў, ад якіх ратуе толькі музыка і сьпеў храму. Вязаньне, коцікі, круцыфікс на сэрванце, К+М+В на дзьвярах, манная каша на пліце. На сьцяне фатаграфія ці некалькі. Жаніх, брат ці бацька ў форме польскага ўлана. А таксама чакаюць пакаёвыя кветкі, якія трэба не забывацца паліваць. Катоў запрашаюць да касьцёлу толькі раз на год — разам з сабачкамі ды іншымі хатнімі зьвяркамі, у дзень заступніка братоў нашых меншых, каб папырскаць сьвятой вадою.

Архаанёлы на шпіцах касьцельных званіц загулі ў трубы свае: «Новага Папу атрымалі, Новага Папу! Радуйцеся, парафіяне!»; яны дзьмулі ў нашараваныя бліскучыя трубы і пакручваліся ўлева-управа. Арганы зарыпелі сваім раматусам, спрабуючы, паступова аднаўляючы ў памяці, узгадаць ухвальныя гімны, якія выконваюцца з гэткай выключнай урачыстай падзеі. Яны паўтаралі моўчкі на памяць уступы традыцыйных імшалаў, сьпеваў, якія выконвалі ў нядзелі і штодня.

Дробна затрымцелі кандэлябры, і асабліва той вялізны, груваcткі, але пекны, падвешаны да галоўнага — высокага і вялікага — купалу. Ён зьвісаў на такім доўгім дроце, што вернікі на набажэнстве калі глядзяць угару, то могуць бачыць, як кандэлябр круціцца туды-сюды, па некалькі абаротаў, дэманструючы людзям нейкае падабенства дзеяньня гіганцкага маятніка Фуко. Нібы паветраны валатоўскі ваўчок.

«Гораду і ваколіцам». Сьпярша абвяшчалі жыхарам суседніх вуліц — караля Баляслава Рэмшы, Замкавай, Бажаслава — сярэднявечнага кашталяна замку, Сьвятога Губэрта, Дамініканскай, а таксама розных савецкіх з імёнамі рэвалюцыйных катаў ды ахвяраў. Ад навакольных кварталаў да Фарштата ды ўсяго іншага гораду за шырокай ракой. Сын Марыі ды Язэпа абраны нашым новым Папам!.. У турме больш за ўсіх слухалі званы, асабліва апошнімі днямі, калі хавалі старога Папу і абіралі новага. Званы гучэлі ў камэрах, заглушаючы сабачы брэх знадворку. Вязьні і ксяндзы слухалі званы пароўну.

Навіна атрымалася запозьненай. Кардыналы гатовыя былі абвесьціць яе пляцу Сьвятога Пятра, усяму першаму Рыму і астатняму сьвету значна раней, значна. Столькі эмоцыяў, мільёны слоў радыё- і тэлекамэнтатараў, тысячы гадзінаў сукупна эфірнага часу, які каштуе вельмі-вельмі дорага, бо рэкляма чакала, столькі здагадак, калі ўсё было ўжо вядома, прынамсі некаторым, столькі чаканьня...

Усё праз гэтую сыкстынскую печку. Печку-галяндку, якой даўно не карысталіся. Праўда, яе агледзелі, каб не было бомбы. На дах залезьлі, нават зьнялі мэталёвы комін, нашаравалі яго, дымаход таксама агледзелі пільна і падрыхтавалі, само сабой. Але працавалі зусім не камінары, а супрацоўнікі бясьпекі ў камбінэзонах камунальнай службы. Усё стала больш празаічна, няма былой тэатральнасьці.

Разам з кардыналамі ў капліцы замкнулі абслугу, лекараў, але толькі не апальшчыка. Ну, здавалася б, што складанага: ёсьць крамныя навошчаныя пруткі, папяро-

вые пакеты з вугалем, ёсьць адмысловыя вялікія запалкі. Але ўсе страцілі ўмельства, будзённыя навыкі былых часоў. Ламалі навошчаны распал, запалкі выпадалі з рук, варушылі качаргой, дзьмухалі: агню, сапраўднага роўнага, упэўненага агню не атрымлівалася, толькі кволае падабенства — адвядзі вочы на хвілю, і ўсё згасьне. Няма дыму без агня, а агонь не распальваўся, нібыта каб працягнуць задавальненьне ад трымценьня тых, хто чакаў, калі нарэшце абвесьцяць імя, якога прагнулі пачуць тысячы на пляцы Сьвятога Пятра і мільёны — у сьвеце.

Кардыналы зьніякавелі, яны нэрваваліся, што спазьняюцца. Што падумае Пан Бог пра іхнюю марудлівасьць і няздатнасьць у некаторых справах? Ім зрабілася няёмка нават адзін перад адным. Ня будзеш жа тлумачыць іншым, што дома ня маеш печкі ці каміна, а калі маеш, дык распальваеш ня сам. Усё гэта недарэчна атрымліваецца, але рытуал, традыцыі... У пэўным сэнсе сёньня гэта выглядае як правілы гульні, якіх нельга парушаць, як сцэнар для спэктаклю, у якім не прадугледжваецца імправізацыі.

Дымы над горадам, утульныя шлейфы ў неба, якія сьведчаць пра цяпло ў дамах, пра згатаваную ежу, пра кіпень у чайніку для гарбаты, пра сьпечаны гарачы хлеб. Цяпер дымы засталіся толькі ў падручніках з выявамі старых гравюраў. Рамесьнікі на Падоле — кушняры, шаўцы, пекары; дым над дахамі. Каралеўскі падворак на месцы, дзе пазьней паставілі палац, — дым з высокіх комінаў.

Коміны на старасьвецкай камяніцы біскупскай курыі ўвечары і ўначы асьвятляюцца — нібы вежачкі на даху. Камінар сёньня хіба жыве ці папросту працуе ў турме. Толькі там яшчэ дзейнічаюць коміны, і зь іх часам узьнімаецца белы дым... Гэтая прафэсія амаль вымерла, як занятак майстра, які рамантуе мэханічныя друкаркі.

Штосьці даўно ён ня бачыў камінара ў горадзе, толькі падумалася Акінчыцу, але ён сябе адразу перапыніў: а ці бачыў яго ўвогуле? Ці шмат людзей у нас сёньня напраўду бачылі жывога камінара? Мабыць, у нашым горадзе ніхто ўвогуле яго не сустракаў, можа, толькі ўяўленьне мае са «скрынкі».

Сам Акінчыц калісьці бачыў камінара насамрэч, прынамсі той першы выпадак у жыцьці ён запомніў назаўсёды. Гэта было, дарэчы, у Нямеччыне, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Акінчыц быў школьнікам, а нямецкі камінар — даўгалыгім маладзёнам з роварам у руках. У яго быў выгляд і прылады сапраўднага чысьцільшчыка комінаў: чорны цыліндар на галаве, чорнае трыко і вадалазка, чорныя чаравікі і чорны ровар з прытарнаванымі шчоткамі, упэцканымі ў сажы. Акінчыц стаяў і глядзеў на яго моўчкі, пакуль той ня сеў на ровар і, зірнуўшы з усьмешкай на школьніка Акінчыца, не паехаў сваёй дарогай.

У Акінчыца на сьцяне таксама расьпяцьце і К+М+В на дзьвярах.

Памятны сюжэт на «Euronews» пад рубрыкай «No comment»: у вакне прамоваў цяперашні нябожчык Папа і дзеці — дзяўчынка і хлопчык, якія трымаюць па беламу голубу. Выпусьцілі — галубы заляцелі ў пакой. Нямоглы нават звонку Папа ўзяў аднаго, які сеў на прываконьне, падкінуў як здолеў, голуб заляцеў у пакой. Потым абодва апынуліся на прываконьні, Папа іх асьвяціў знакам крыжа, і яны паляцелі... Папа быў добрым чалавекам, яго ўсьмешка якаясьці хітравата-сарамлівая, але прывабная.

А яшчэ ён перакладаў голас Папы для радыёэфіру. Цяжкасьці перакладу. Ён гаварыў на італьянскай мове, якой Акінчыц не разумеў, запіс атрымаўся кепскі, але ў Акінчыца быў тэкст, праўда на іншай мове, які трэба было зноўку перакласьці, — падвойны пераклад. Дыкцыя ўжо была парушана. Цяжкасьць была і ў тым, што Акінчыц бачыў недакладнасьці, што датычаць сьвятарскай мовы, але ня мог іх выпраўляць адвольна, толькі зважаючы на памяць аб касьцельных казанях, якіх даўнавата ня слухаў, ня чуў. Так-так, ён перакладаў голас Папы, гаварыў, можна сказаць, ягоным голасам. Несамавітае здарэньне, незвычайны выпадак. Прыгода, падобная да выкананьня тэатральнай ролі, калі ты ня маеш дачыненьня да тэатру і акторства.

Акінчыц патрымаў у руках бутлю vino de mesa, але выпіў лямпку каньяку. «За Ратцынгера», — вымавіў ён

сам сабе, пакруціўшы кілішак, у якім алейны сьлед напою расьцякаўся па сьценках... На каленках Акінчыца сядзеў ягоны кот. «За Ратцынгера», — паўтарыў ён, і ў гэтым прозьвішчы прагучала штосьці сярэднявечна-жалезнае, штось тэўтонскае. І павеяла тымі яшчэ першымі місіянэрамі, якія хрысьцілі, каб стаў каралём, Міндоўга ў Наваградку. Ратцынгер. Дальбог, гучыць як Вялікі Магістр рыцарскага ордэну.

Тамака быў таксама і старэнькі кардынал з тутэйшых краёў, але ў Сыкстынскую капліцу яму ўваход быў забаронены. Кардынал, якому не дазволена галасаваць, бо занадта стары. Можна і патрэбна адно маліцца за ўдалае заканчэньне. Цікава, за каго б ён аддаў свой голас, калі б апынуўся сярод канклаву? Што, кот, ты мяне слухаеш так уважліва? Табе цікава? Так, цікава, а ці кожны ксёндз марыць у глыбках душы стаць Папам, як пісьменьнікі мараць пра Нобэля? Ты ня ведаеш? Так, ты ня ведаеш, я таксама.

Ты хацеў бы ў тым Ватыкане пажыць? Ня знаеш? Я таксама ня ведаю. Хіба што папскім гвардзейцам пабыць. Гэта і не замежны легіён, і не тэатральная масоўка зусім. Калісьці я марыў апынуцца ў рыцарскіх латах ці адзецца сярэднявечным жаўнерам. Можа, і цікава было б у кірасе з алебардай, у вольны час хадзіць у звальненьне ў Рым, езьдзіць на мора, у Вэнэцыю, спыняцца там на некалькі дзён і пісаць, паглядзець, як там пачнуць мэтро падводнае будаваць. Цябе я таксама вазьму з сабой, калі надумаю, ня бойся. Але, мабыць, я не адпавядаю іхнім вымогам. Тады хіба папрасіцца на ватыканскае радыё? Як ты думаеш? Ніяк?

Коцік у Папы таксама мусіць быць, ты ня думаеш? Увогуле каты ватыканскія мусяць існаваць. Павінен жа нехта мышэй лавіць у Базыліцы Сьвятога Пятра?.. Калісьці Акінчыц глядзеў фільм пра рымскіх катоў, якія жывуць у старажытных развалінах Калізэю. У Папы таксама абавязкова павінны быць каты, цэлая гвардыя катоў. Кашэчая ахова харчовых прыпасаў ад мышэй.

Дакладная прыкмета, што ў кватэрцы стала халадней. Кот, як малое дзіця, ня злазіў з каленак, калі Акінчыц

пісаў, залазіў да яго на рукі, калі ён уставаў, і яны так разам хадзілі, каб запарыць кавы, узяць кніжку, уключыць сьвятло. Асабліва падабаўся кату швэдар Акінчыца, нібы кальчуга, за якую можна было трывала ўчапіцца кіпцюрамі.

Кот забраўся да яго пад коўдру і ўладкаваўся як яму было ўтульней. Рука Акінчыца звыкла пачала перабіраць поўсьць, крыху казычучы футровага прыяцеля. Бог стварыў катоў, каб людзям было весялей жыць, паўтараў сабе ён, пакрысе засынаючы.

Сьніў Акінчыц, як у нейкім нямецкім мястэчку, накшталт таго, дзе яны калісьці жылі з бацькамі ў ГДР, ён каштуе каву па-кардынальску і папскае печыва, а гаспадар гаштэту бясплатна частуе яго кактэйлем «Ратцынгер» з каньяком — ну як, ці смакуе? Калі яны трапілі ў ГДР, яго менавіта перш уразіў смак печыва, адрознага ад шахматнага і цаліннага, як торт ад батона. Згадка пра гэта нейк мімаходзь узьнікла ў сьпячай сьвядомасьці Акінчыца. Потым адбылося мікшыраваньне кадраў, ці Акінчыц папросту часова праваліўся ў прорву сну безь відэашэрагу. У чорную бездань, дзе на глыбіне няма сьвятла, як у апраметнай пячоры, да якой з паверхні кіруе доўгі лябірынт. Нейкі старэнькі ў сьвятарскай шаце зазіраў яму ў вочы і пытаўся: ці даўно ты быў на споведзі? І Акінчыц пачырванеў ува сьне.

Назаўтра ён даведаўся, што новы Папа з вулічнымі катамі па-сяброўску. Яны за ім зграямі ходзяць. Асабліва тыя, што жывуць за нямецкім касьцёлам. Добра, што не Сярэднія вякі, падумалася Акінчыцу, калі за такое сяброўства абвінавачвалі ў чараўніцтве.

*2005*

# Хочаш жні, а хочаш куй...

Першамайскае апавяданьне

Груваcткая чорная статуя як заўжды стаяла над трыбунай з начальствам, якое дэманстравала сабраным на мітынг працоўным масам, што ў Багдадзе па-ранейшаму ўсё ў парадку, усё спакойна...

— Таварышы! Мы будзем і надалей змагацца за сапраўдную, а не абстрактную свабоду і дэмакратыю ва ўсім сьвеце, за правы працоўных усіх краін і народаў, за міжнародную салідарнасьць людзей працы — чорных, жоўтых, чырвоных — любых, за мір на ўсёй плянэце. І любыя сусьветныя агрэсары, розныя тэрарысты і гандляры жанчынамі нам не перашкодзяць. Нашая справа справядлівая, і перамога будзе за намі!

Паглядзіце, тут героі працоўнага фронту з макетамі нашых экстра-вырабаў. Мы можам і павінны ганарыцца такімі каўбасамі, такімі шынкамі і карданнымі валамі. Мастакі пастараліся, каб нават муляжы выклікалі апетыт і жаданьне закусіць. Такой каўбасінай можна было б накарміць цэлую плошчу. А з такой сасісчыны — зрабіць хот-дог для цэлага заводу ці фабрыкі. Нашыя каўбасы самыя мясныя, самыя пахкія, самыя смачныя ў сьвеце. Нашыя карданы самыя карданныя, нашая салетра самая аміячная. Каленвалы і агрэгаты таксама ня самыя горшыя, бываюць горш. Нам ёсьць чым ганарыцца. Ура, таварышы!

«Што гэта у вас за х-на?» — пацікавіўся мітынгоўшчык у суседа, які трымаў разам з дружбакамі жалезіну. «Гэта карданны вал, чуў, што начальства гаворыць? Такі кардан на дарозе не валяецца. Такі, калі сьцягнуць, можна прадаць нармальна, за баксы, паняў?»

Рабочыя прынесьлі на мітынг на плячах, як бярвёны на суботніку альбо на лесапавале, наглядную агітацыю:

сасіскі, сардэлькі, каўбасы — валатоўскіх памераў, як фаласы антычных герояў ці пачвараў накшталт Кінг-Конга.

А таксама беламорыны з тытунёвай фабрыкі, якімі можна было б атруціць цэлыя табуны. Свае прылады мужчыны паставілі тырчма, каб адпачылі плечы, і прытрымлівалі з бакоў, а некаторыя прытуліліся, нават стаялі, абхапіўшы ў абдымкі. Былі яшчэ вялізныя кардонныя хлябы зь ёдаванай сольлю, бочкі са штучнымі ўгнаеньнямі, яшчэ штосьці.

Другі айцец гораду быў ляканічны, відавочна памятаючы пра распаўсюджанае крылатае выслоўе:

— Усе нам зайздросьцяць за наш эканамічны цуд. Мы дагналі 1984 год і ўжо пераўзышлі. Склады запоўнены, яблыку дзе ўпасьці няма. Яны нас баяцца, мы можам закідаць іх таварам — ботамі, шапкамі, нават шынкамі. Яны ўсе збанкрутуюць. А нашыя яйкі маладзецкія, якія падвышаюць мужчынскую сілу?! Ніякай іхняй хіміі ня трэба, ніякай віягры. У нас усё толькі натуральнае. Няхай жыве Першамай!

Далей стаў старанна выступаць па паперцы прадстаўнік працоўнай дынастыі, сваякі якога дзякуючы народнай уладзе трапілі на мясакамбінат і замацаваліся там.

— Мы цераз плот мяхоў зь мясам ды каўбасамі ніколі не перакідалі і дзірак у плоце не рабілі. І праз прахадную не спрабавалі, абвязаўшыся сасіскамі, прасьлізнуць. Гэта ня наш мэтад, лепей на месцы ад пуза пад’есьці, каб потым цэлы дзень не хацець. Тут нашыя карані: і дзед мой з бабкай працавалі, і бацька з маці, мы з жонкай пазнаёміліся ў заводзкай сталоўцы, думаю, што і дачка мая сюды прыйдзе, і сын таксама. Пры харчах — заўсёды надзейна, пры любой уладзе. Як кемлівы салдат: бліжэй да кухні, далей ад начальства.

— Прафсаюзы, кхе-кхе, — школа камунізму, як калісьці любілі гаварыць, крыху няпэўна распачаў наступны айцец гораду. — Іх цяпер зноўку ўзяла пад сваё крыло дзяржава, і яны пачалі працаваць як трэба. А то адбіліся ад рук зусім, у свабоднае плаваньне пайшлі, а баржа іхняя дала цечу...

Абаронца працоўных падзякаваў уладзе за слова і працягваў з трагічнасьцю ў голасе:

— У гэтае сьветлае і радаснае сьвята дазвольце ўшанаваць хвілінай маўчаньня памяць пра герояў вытворчасьці — членаў прафсаюзу, якія загінулі ў барацьбе за ўраджай, за лепшыя паказчыкі, за валавую прадукцыю, за тое, каб у нас было болей чаравікаў, ботаў, карданных валоў, аміячнай салетры і гэтак далей. Спынюся на некаторых прыкладах. Сьцяпан Пробка ўратаваў трактар цаной свайго жыцьця, а Івана Трэску засыпала збожжам у сіласнай вежы. Слава героям!

Таварышы! Я толькі не хацеў бы, каб у вас узьніклі змрочныя настроі, што нашая справа небясьпечная і ледзьве не безнадзейная. Гэта далёка ня так. Справа ў тым, што і раней зьдзяйсьнялі свае працоўныя подзьвігі, і раней гінулі дзеля нас на канвэеры і на палявым стане, на мэхдварах і ў зернесушылках нашыя дарагія землякі, тыя, на каго трэба раўняцца, зважаць, хто стаў прыкладам для маладога пакаленьня. Але сьмерцяў пабольшала не з-за нейкага насланьня, а таму стала больш, бо людзей залучылі назад у пярвічкі, дзе перад тым быў разброд і шатаньні, калі ўзносы плацілі як хацелі, на сходы не хадзілі, калі прафсаюзы сталі развальвацца па швах. Усе назад сталі членамі, пагоршыўшы, на жаль, нашыя паказчыкі. Карацей, слава героям!

І крыху статыстыкі. За справаздачны час мы страцілі дзевяць рук часткова або цалкам, тры нагі, два вухі, сем вачэй і адную галаву. Як у той песьні: столькі вольных з плеч зрубілі, не прышылі ні адной... Захаваць жыцьцё і зрабіцца інвалідамі ўдалося ў чвэрці выпадкаў, гэта не такая дрэнная лічба.

Доктарка-нарколяг узьнёсла стала прамаўляць пра здароўе нацыі і насельніцтва гораду, пачынаючы з Эскулапа і Авіцэны. «Замест некаторых маральна састарэлых гатункаў пладова-ягаднага, шырока вядомага ў народзе як чарніла, пачалі выпускаць новыя сарты гарэлкі, — важка зазначыла яна, — а гарэлка, як добра вядома, значна здаравейшая за чарвіўку». Яна працягвала:

— Алькагалізацыя насельніцтва, таварышы, не павінна перавышаць паказчыкі, заплянаваныя лічбы, крытычную рысу. Тут павінен быць балянс паміж станам калектыўнага здароўя і акцызнымі падаткамі, напаўняльнасьцю дзяржаўнай кішэні, зь якой даюць на лекі. Дактары Хадоркіны могуць адпачываць, таварышы. Мы за здаровы лад жыцьця, за «будзь гатоў к труду і абароне»!

— Жыць стала лепей і дзякуючы нашым слаўным мытнікам, якія не даюць падмануць дзяржаву нячэсным кантрабандыстам і сьпіртавозам, — крыху па-пракурорску агучыў прэамбулу наступны з айцоў гораду. У параднай форме мытнік нечакана сьціпла паведаміў пляцу пра дасягненьні ў рабоце — пра кантрабанду і канфіскат, які ў шырокім асартымэнце ў магазынах гораду. Канкрэтна — піва чэскае, кветкі на 8 Сакавіка дарагім жанчынкам, калготкі пірацкія, памада, пампэрсы.

Крыху наасобку стаялі актывісты здачы крыві з транспарантамі і плякатамі: «Не шкадуй крыві роднай уладзе», «Здай кроў — атрымай адгул», «Нашая кроў — не вадзіца», «Нямігі крывавыя берагі», «Імпэрыялістычных п’явак і крывасмокаў — на галодны паёк!», «Донары ўсіх краінаў, яднайцеся!»

Побач сёстры заваблівалі у мабільны пункт забору крыві.

Збоку ўсчалася валтузьня, ад напругі і стараннасьці саплі моўчкі два сяржанты ці прапары, нешта мычаў схоплены пралятар. Міліцыянты сканфіскавалі ў яго плякат з сакрамэнтальным тэкстам — «Хочаш жні, а хочаш куй...». Ад абурэньня яны не маглі адразу сфармуляваць свае абвінавачаньні: «Ты, ты, ты, ё’тваю маць». «А што я такога напісаў?» «Не, ты дагаворвай, дагаворвай. Мы знаем, што гэта такое», — прарвала менш мажнага. «Так, знаем, ня дурні, як некаторыя лічаць», — перамог хвілёвую немату больш дзябёлы. На пляцы выбухнула медзь, зайграў гімн, яны машынальна кінулі схопленага на дол, рукі па швах, далонь — да брыля.

Праз хвіліну міліцыянты зноўку вярнуліся да пэдагагічнай працы: «Калі ўжо пішаш, дык дапісвай да

канца, не дуры галавы. Мы знаем, навучаны, зноў галаву падымаеце, не даяце народу нармальна жыць і адпачываць... Аднаго такога злавілі, напісаў на сьцяне: галасуй не галасуй, усё адно... Пятнаццаць сутак далі. Пісакі, лезуць у бутэльку вечна. А нам зь імі змагайся, ня сьпі, замест таго каб бандытаў лавіць. Разьвялося ўсякіх зуброўказлоў, усякай зьверыны».

Зайграў аркестр. Міліцыянты рэзка выпусьцілі з рук небараку-мітынгоўшчыка, ён паваліўся ад раптоўнасьці і, нязграбна паварушыўшыся, застаўся ляжаць. Напэўна палічыўшы, што лепей нічога не рабіць. Гімн скончыўся, міліцыянты схапілі яго за каршэнь і пацягнулі поцягам задворкамі пляцу ў «варанок».

Зьнянацку загучала бравурная музыка, міліцыянты тузануліся нейк спуджана, арыштаваны ўпаў, яны слупамі скамянелі — з рукой да чоранага лякаванага брыля. Аслупянелыя, яны ажылі з апошнімі акордамі, зноўку ўчапіліся за сваю ахвяру, закруцілі рукі за сьпіну: «Мы табе пакажам «хочаш жні, а хочаш куй!», мы табе дамо, ты ў нас атрымаеш!»

*2005*

# Яечнае пытаньне

Геральдычнае апавяданьне

— У нашым гербе нам трэба спалучыць яйкі і зямны шар, так мінулым разам вырашылі і будзем думаць. Тут у нас сёньня экспэрты — з паляўнічай гаспадаркі, аматары птушак усякія. Прашу не адседжвацца, хто першы?

— Проста два яйкі, як нехта казаў, будзе неэстэтычна. Могуць быць яйкі ў гнязьдзе, піраміда зь яек. І голуб міру каб.

— Якія яйкі, чые? У крапінку, белыя, карычняватыя, калі міністэрства нетраў паведамляе пра экзэмпляры з чырвонай кнігі...

— Апроч зямнога шару — пальмавыя альбо міртавыя галіны — каб накшталт вянка.

— Яловыя могуць быць таксама.

— Пахавальныя?

— Навагоднія! Вы ж на сьвята ўзімку не бярозу аздабляеце, елку.

— А можа, чарапашыя ўзяць? На чым зямля трымаецца, ці трымалася? Ва ўяўленьні нашых продкаў, канечне.

— На чарапахах, на сланах...

— Ну, на сланах! Ведаеце, якія ў іх?! Зь іх афрыканцы далікатэсную страву гатуюць на цэлую сям'ю.

— Ну так: на сланах і на кітах.

— Ды што кіты!

— А я чуў, што іхнюю ікру некаторыя яйкамі кітовымі называюць. І сапраўды, яна буйная. Як яйкі некаторыя дробныя.

— А наконт іх колькасьці. Можа, згодна зь лічбай абласьцей, ці — губэрніяў, як па-моднаму?

— Яйка, яно павінна быць адное, каб як голка з кашчавым жыцьцём — сэнс, моц ці жыццяздольнасьць краіны, ці нас — улады. Каб так высока яйка — у небе, каб ніхто не дастаў. Давайце разам успамінаць: яйка ў качцы, здаецца, качка ў куфры, куфар на ланцугах на дубе магутным...

— Ці пад дубам закапаны — розныя вэрсіі існуюць.

— Існавалі.

— А як жа на самалёце альбо на паветраным шары?

— Шары мы зьбіваем без размоў.

— Птушкі ёсьць вадаплаўныя, малалятаючыя, зусім не лятаючыя — куры, напрыклад; далей — якія адлятаюць у вырай і якія — не. Усіх аднолькава можна назваць умоўна патрыёткамі, бо гэтыя сядзяць поседам, што б тут ні здарылася, а тыя, першыя — адлятаюць штораз, але абавязкова вяртаюцца, ня могуць ужо без тутэйшага мікраклімату. Здаецца, і таго не хапае, і з гэтым дрэнь справы, а яны — усё роўна назад лятуць, цэлыя тысячы кілямэтраў.

— Сымбаль краіны — бусел, а ня качка ці кура, ці там гусь, якія Рым ўратавалі нібыта. Нам пляваць на гэта. Нам сваё трэба. Буслы дзяцей прыносяць у капусту, уласна кажучы, дэмаграфічную сытуацыю паляпшаюць.

— Гэта на вёсцы. Птушкі гарадзкія — вароны, вераб'і, галубы і некаторыя іншыя — шпакі, сініцы. Гілі, гэтыя больш рэдкія.

— Вясковыя — тыя ж самыя вароны. Вось лясныя...

— Вароны-вароны, а бусьлянкі хто на вёсцы мае? У горадзе ты бусьлянку бачыў?

— Яйкі пажадана трывалыя — крэпкія, у сэнсе абалонкі, шкарлупіньня, значыцца — моцная дзяржава. Гэта сымбалічна павінна быць. Бо калі проста дробнае галубінае, усе ведаюць — яны слабенькія.

— Але голуб — сымбаль міру і сацыялізму, як раней казалі.

— Сымбаль-то сымбаль, але абгадзіць яны ўсё майстры.

— Мастацтва вымагае ахвяраў.

— Замаскаваныя ў гнязьдзе яйкі (на балоце, напрыклад, якое таксама наш сымбаль) ад ворагаў, ад драпежнікаў, проста ад паляўнічых. А колькі нас цяпер хочуць упаляваць! Ворагі з усіх бакоў пішчом лезуць!

— Але некаторыя гнёзды на зямлі пакідаюць, у траве робяць. Нават замаскаваныя, зь мімікрыяй, так сказаць. Гэта недапушчальна. Такія нам у гербе ня трэба. На такое можна ботам наступіць і не заўважыць, і пад абцасам — мокрае месца.

— Можа, пералётныя — гэта ўсё ж не зусім? Каб тудойсюдой швэндаліся, па заграніцах. Нас тут ужо амаль нікога не пушчаюць, не даюць візаў, а яны ўсё лётаюць. Лепей, каб дома сядзелі — гэта патрыятызм. І каб не набіраліся заграні́чных ідэй. А буслы якраз — самыя вандроўныя. Яны дзе хочуць бываюць, а мы й радыя, што ў нас гнёзды, на гарэлку іх адразу, радасьці поўныя штаны. Тут яшчэ трэба разабрацца.

— Ну і што буслы, сапраўды? Сьвет на іх клінам сышоўся? Абыдземся і бязь іх. Лепей узяць мясцовую птушку, патрыётку, як я, я нікуды ня еджджу, адпачываю ў мясцовым санаторыі, мне іхніх гамбургераў ня трэба.

— А эмблема нашай «беленькай», гарэліцы? Бусел! Два буслы.

— А каньячок малдаўскі? Таксама!

— А яны на нас у суд не пададуць?

— Дык мы ж толькі яйкі возьмем. Хто праверыць?

— А можа, усё ж з гняздом — каб бусел стаяў, ці ўдваіх — як гэта бывае, калі едзеш, праяжджаеш. Або — малыя дзюбы цягнуць угору — дай жабку!

— А вось у газэце сёньняшняй пішуць... Баба на вёсцы паспрабавала скончыць самагубствам, залезла на вежу воданапорную, бусла сагнала, а там месца толькі на гняздо. Села і сядзіць. Усёй вёскай умаўлялі не скакаць, а зьлезьці баіцца. Да вечара праседзела, пакуль пажарныя не зьнялі. Прыкольна...

— А можа, яйкі велікодныя пакласьці — пісанкі з арнамэнтам, наш нацыянальны каларыт? Сьвяточныя яйкі ле-

пей, чымсьці проста нейкія балотныя. У сэнсе аптымізму нават.

— Гняздо зь сена яйкамі ўверсе — гэта накшталт як у саломе ў ясьлях, калі дзіця нарадзілася, асьвяціўшы шлях для чалавецтва.

— Вось у нас тут міністар культуры і рэлігіі фантазіруе зусім па-царкоўнаму. А штосьці ў гэтым ёсьць, і яйкі царкоўныя расьпісваюць, пра якія ўспаміналі тут. Штосьці ёсьць. У яйцы таксама жыцьцё, выкалупліваецца кураня альбо там варона, груган. Ёсьць рацыянальнае зерне. Цяпер царква нават у амонаўскіх войсках нашых, салдаты свае яйкі са сталоўкі асьвячаюць ці, як у нас казалі некаторыя, — сьвенцяць. Гэта — прыкмета часу. Хай.

— Можа, яйкі замест гнязда — у далонях салдацкіх? Каб паказаць крохкасьць жыцьця, якое абараняе армія? Як чысьціню нашага неба, як спакой нашых гарадоў і вёсак, як стваральную працу нашых працаўнікоў, прабачце за калямбур.

— Як мы зразумеем, што гэта салдацкія рукі? Порахам жа ня пахнуць, напрыклад.

— Можа, гузікі на манжэтах жалезныя зь сярпочкамі-малаточкамі? Ды аўтамат Калашнікава ў руцэ. Хай бачаць.

— Правільна, гэта воін-інтэрнацыяналіст будзе. Ёсьць некаторыя гербы з Калашнікавым, афрыканскія. У некаторых арол у гнязьдзе яшчэ. Або арол зьмяю дзяўбе, схапіў, у дзюбе трымае. Бо яна яйкі жарэ, заглынае жыцьцё ў зародку. Як якаясьці гідра контррэвалюцыі. Ці там, наадварот, рэвалюцыі аранжавай якой-небудзь.

— Штосьці ў гэтым ёсьць: воін-інтэрнацыяналіст трымае ў кулаку яйцо гадзюкі рэвалюцыйнай, па-старому гідры.

— Яшчэ такое існуе — яйцагаловыя, брытагаловыя, скінхэды там усякія. Як гэта на нашым гэрбе можа адбіцца?

— Ды ніяк. Зямны шар сам яйкападобны. Зямля сплясканая ад таго, што круціцца. Як разрэзка, разгортка глёбуса бывае — нібы дыня ці мяч для рэгбі.

— А я бачу Зямлю, глёбус у выглядзе яйка, размаляванага кантынентамі. Зь вянком, залатой зоркай зьверху. Вянок, які ў гнязьдзе, а лепей — гняздо — колам нак-

шталт вянка; вянок патрэбны абавязкова, безь яго нельга. Вянок, глёбус, у сэнсе яйка, і зорка. Зорачка накшталт віетнамскай з бальзаму, у носе мазаць ад прастуды ці калі заказыча раптам.

— Вянок — прыкмета пераможцы. Вянкі шырока ўжываліся ў старажытнай Грэцыі і ў Рыме. Лаўровыя, дубовыя...

— Ці ўсё ж на глёбус гняздо зь яйкамі? — З гняздом на галаве — глёбус зь яйкамі, з гняздом замест капелюша.

— А давайце паглядзім: ці будзе трымацца на галаве міса зь яйкамі?

— Зь якімі лепш?

— Будзем запрашаць цыркача ці самі паспрабуем? Галоў хапае.

— Калі ёсьць ахвотныя.

— Я ня супраць паспрабаваць, я таму й прапанаваў.

— А дзе місу возьмем? І каго па яйкі пашлём?

— А калі зусім — мадэль у натуральную велічыню? З інтэрнацыяналістам, з Калашнікавым?

— Хто ў нас інтэрнацыяналіст? Дзе ён? Хай бярэ калаха.

— А потым зробім піф-паф па талерачках ды па яблычках. Ай эм Робін Гуд! А той, які спудлаваў, у галаву пацэліў. — Ай эм соры! Га-га-га!

— Ладна, разьбяромся да канца з яйкамі, а пастраляем наступным разам, у Вільгельмаў Тэляў пагуляем.

— Вось я й кажу: галубіныя ды іншыя — дробныя, як бульбачка — кабанам, больш нікуды не прыдатная. Чым большае яйка, тым значнейшая птушка зь яго вылузаецца: страўс, напрыклад. Альбо пінгвін, ён амаль як птушка.

— Самыя моцныя дыназаўравыя яйкі, бо — скамянелі.

— Куча яец — хіба гэта прыгожа? Але куча ядраў гарматных, ці там шароў більярдных...

— Шароў... Шары не стаяць, не ляжаць кучай, рассыпаюцца.

— А яшчэ такі сюжэт, такое бывае: яйкі ў шапцы, у капелюшы саламяным, як у гнязьдзе. Прыгожа...

— Нашыя яйкі гербавыя, значыцца моцныя, асаблівыя, нават своеасаблівыя, эталён можна зрабіць са сланавай

косткі. А лепш залатыя, пазалочаныя прыкладам, з сусальным золатам, як у царкве купалы.

— Усё, абед. Дамовіліся, будзем выносіць на рэфэрэндум, хай народ падтрымае, хай прагаласуе «за».

*2005*

# Як беларусы Міцкевіча вярталі

Юбілейнае апавяданьне

Ангельцаў некалькі стагодзьдзяў турбуе шэксьпіраўскае пытаньне, грэкам хранічна ня сьпіцца праз гамэраўскае. А беларусы доўга пакутавалі над міцкевічаўскім. Як гэта ўраджэнец тутэйшай зямлі, сын тутэйшага шляхціца раптам мог стаць нацыянальным паэтам у літоўцаў, якія яго лічаць самым літоўскім, хаця ён быў славянінам па бацьку, габрэем па маці і ня меў жмудзкай крыві?

Праўда, і некаторыя замежнікі дагэтуль у непаразуменьні. Бо прамовіў у роспачы і зьдзіўленьні польскі дасьледчык: як так магло здарыцца, што вялікі польскі паэт беларускагабрэйскага паходжаньня напісаў па-польску «Літво, ойчызно моя!», маючы на ўвазе цяперашнюю Беларусь... Саміх беларусаў яшчэ заўсёды ўражвала і абурала, што Адам Міцкевіч, пахваліўшы ў сваіх сарбонскіх лекцыях іх саміх і мову іхнюю, не пакінуў на ёй аніводнага радка, ня кажучы ўжо пра вершы. Зрэшты, па-літоўску ён тым больш ніколі не пісаў, але ад гэтага беларусам не лягчэй.

І вось аднойчы надарыўся шанец заявіць пра свае правы на паэта, якога паміж сабой бессаромна падзялілі суседзі. Але тут раптам на вялікія ўгодкі Адама галоўны галава абвесьціў чамусьці год Пушкіна, які быў маладзейшым за Міцкевіча. Памылачка атрымалася. Што зробіш, калі часам з арыфмэтыкай здараюцца праблемы. Але потым улада вырашыла памылку затушаваць, сьпехам пачалі рамантаваць родны паэтаў Наваградак. І стварылі нават спэцкамітэт, каб адзначыць угодкі на ўзроўні. А мяне запрасілі ад пісьменьніцкай арганізацыі ўдзельнічаць, паколькі я Міцкевіча люблю і нават маю ягоны бюст. Стаіць галава паэта на стале, за якім я займаюся літаратурнымі справамі.

Такім чынам, нас сабралі ў райвыканкаме на нараду. Прыехаў са сталіцы ўрадавы куратар літаратуры і мастацтва. Верагодна, каб даказаць, што Міцкевіч ніякі не Адомас Міцкус, як яго калісьці абазвалі здуру суседзі. Але гэта, мабыць, толькі я так меркаваў з уласнай наіўнасьці. Размова набыла з самага пачатку нечаканы кірунак. Загаварылі пра мясцовага Леніна, які развальваўся навідавоку, замест рук меў куксы — з мэталёвай арматурай замест пальцаў. Слова далі прадстаўніку мясцовай улады, які стаў апавядаць пра яе тытанічныя высілкі, якія хутчэй нагадвалі Сізіфаву працу.

— Мы ўжо спрабавалі сваімі сіламі яму рукі прыляпіць, у сэнсе — пальцы і далоні цэлыя. Адсыхаюць, як на злосьць. Трэскаюцца і адвальваюцца. І колер не супадае, людзі гавораць: Ленін у пальчатках. Нос таксама рассыпаўся ад часу, з праваленым носам стаіць, народ сьмяецца. Але мы разумеем, што бяз помніка як бяз рук. І перад замежнікамі нельга каб чырванець.

— Ён павінен застацца дамінантай у горадзе, — загаварыла разумнымі словамі Дар’я Макараўна Бурдзюкова — ідэалягічная начальніца. — Сьвяты розныя — да каго кветкі? Да яго. Рапарты герояў жніва, выступы сьвяточныя. У піянэры прымаць. Як у старыя добрыя часы. А калі кветкі панясуць да гэтага самага паэта, а не да правадыра — што будзе?! Што ён тут самы галоўны?! Што скажаце, спадар пісьменьнік? — нечакана запыталася Дар’я Макараўна.

— Я, а што я магу сказаць? Калі параўнаць мастацкія ці моўныя асаблівасьці, то Ўладзімір Ільліч быў яўна не паэтам. Але мы калісьці вывучалі спэцкурс «Ленін — майстар нэкралёгу» і ягоныя мэтафары — «палітычныя прастытуткі», «сяўружына з хрэнам» — гэта пра творы апанэнтаў, далей — «лібэральныя ваніты».

— Ну, гэта ўжо, ведаеце... — паспрабавала мяне перапыніць ідэалягічная начальніца. Але мне неабходна было дакончыць думку: «Замест Леніна лепей паставіць Міндоўга, альбо хопіць проста Міцкевіча».

— Горад без галавы ня можа быць, — адсекла Бурдзюкова. — Леніна мы ні на каго не прамяняем. Ён у нас у сэр-

цы засеў. А паэтамі быць усім не абавязкова. Нэкралёгі таксама некаму трэба пісаць.

— «Паэтам можаш ты ня быць, грамадзянінам быць абавязан», — падтрымаў даму крыху гульліва ўрадавы прадстаўнік Загібалін і працягнуў зь іншай — дырэктыўнай — інтанацыяй. — Галава дзяржавы паставіў задачу: даказаць гэтым, якія хацелі паміж сабой нашага паэта падзяліць надвая, нам нічога не пакінуўшы...

— І каторыя ў НАТА... — ня вытрымала Дар'я Макараўна.

— Так, і якія цяпер пішчом лезуць у агрэсіўны блёк, дык мы ім павінны даказаць, што ня горш за іх разьбіраемся ў паэзіі. Такую задачу паставіў сам галава дзяржавы. І гэта яшчэ ня ўсё. — Дзяржава згодна даць грошы на рамонт вашага райцэнтру і помніка. Каб ня пляснуцца тварам у гразь перад замежнымі дэлегацыямі, — важка зазначыў чыноўнік. — Хаця ў нас клопатаў хапае бяз вашага Леніна: сяўба-касьба вось-вось, потым бітва за ўраджай і галоўнае дзяржаўнае сьвята «Дажынкі».

— І на прыбіральню грамадзкую, калі ласка, дайце грошай, — раптам, не чакаючы слова, загаварыў раённы начальнік з жабрачымі ноткамі ў голасе. — Перад музэем стаіць старая: хмары мух, пах непрыемны. Турысты скардзяцца. Разбурыць ніхто не дазваляе — на балянсе ў мінкульце стаіць — сам Міцкевіч туды хадзіў, гаварылі. Дый на новую ніколі няма грошай, увесь час трэба змагацца за прывагі, за надоі. Туалет — наша балючае месца, таварыш прадстаўнік ураду, наша ахілесава пята.

— Ладна-ладна, будзе вам клязэт, — з усьмешкай лагодна паабяцаў Загібалін.

— І пажадана, каб ачкоў па пяць-шэсьць з кожнага боку — і для хлопчыкаў, і для дзяўчынак, — нейк цнатліва дадаў мясцовы бюракрат, — каб усім хапіла. Нам жа турызм трэба разьвіваць, асабліва замежны, патрабуюць...

— Ну, я ж сказаў: будзе вам туалет — зь літарамі «мэ» і «жо», — шырока пасьміхнуўся ўрадавы чыноўнік, — але я хачу канкрэтна пачуць, што ў нас атрымліваецца з помнікам Ільлічу?

Абласны архітэктар пачаў па-вайсковаму сьцісла і дакладна тлумачыць свой плян. Старога Леніна — дэмантаваць. Новага паставіць не пасярэдзіне, а збоку пляцу. Сталічныя скульптары-ляўрэаты запатрабавалі цану... Маўляў, сёньня спэцыялістаў па Ільлічу амаль не засталося, усе на вагу золата. Але мы зробім інакш. Мы возьмем у падвале вялікую белую галаву правадыра, якая стаяла раней у абкаме. Атрымаецца «і дзёшава, і сярдзіта».

— Брава! — не ўстрымаўся Загібалін, які не хаваў лагоднага гумору. — А зараз, таварышы, пяройдзем да абмеркаваньня самога паэта, яго, так сказаць, вартасьцяў і паэтычных здольнасьцяў.

Тут слова далі чамусьці гісторыку, які перш пахваліўся, што застаўся на марксісцкіх пазыцыях, чым вельмі ганарыцца. Ён загаварыў у такім рэчышчы:

— У Парыжы Міцкевіч уступіў у сэкцыю нудыстаў, шпацыраваў па Елісейскіх палях «у чым мама радзіла». У Стамбул да турак пацягнуўся. Ці бачыце, хацеў падтрымаць француска-ангельскую агрэсію. Стаць героем Крымскай вайны. Чаго яму там не хапала? Зноў гарэм у Бахчысараі зрабіць? Бясслаўна памёр у турэцкім духане ад антысанітарыі. Увогуле, як ён пра нашых рускіх афіцэраў у сваім «Тадэвушы» напісаў? Ганьба!

— Папрашу без эмоцый, — загадаў Загібалін.

— Прабачце. Я толькі хацеў сказаць, што ён стаў рэакцыйным паэтам пасьля таго, як перастаў сябраваць з Пушкіным і ўцёк на Захад. Гэта, кажучы па-сучаснаму, здрада радзіме, артыкул 58-ы — 25 гадоў альбо вышка нават.

Начальства, як мне здалося, зьлёгку нават зьніякавела. Сытуацыю ўратаваў, як ні дзіўна, абласны архітэктар, які сказаў, што цяпер Ленін будзе кантраляваць становішча — глядзець менавіта ў бок Міцкевіча, да якога раней стаяў сьпінай і нічога ня бачыў, што робіцца ў Доме-музэі.

— Ну, добра, — перарваў яго Загібалін, — хопіць. З помнікам вырашылі, з туалетам разабраліся, якія яшчэ праблемы?

— Пікетчыкі стаяць на вуліцы, — з трымценьнем азваўся прадстаўнік мясцовай улады.

— Пікетчыкі? Якія пікетчыкі? Што ім трэба?

— Школу польскую патрабуюць. У горадзе Міцкевіча трэба, каб польская школа была.

— Мы ж ім далі адказ! — знэрвавана выгукнула Дар’я Макараўна.

— Так, далі. Ім адказалі, што палякаў у нас можна па пальцах пералічыць, і школу адкрываць немэтазгодна. У нас ужо і беларускай школы няма, хоць беларусаў — колькі хочаш. І нічога, ніхто не абураецца.

— Правільна! — згадзіўся прадстаўнік ураду. — У нас усе выдатна разумеюць рускую мову. І дзякуй богу, як кажуць. Ну што, таварышы, закончым на сёньня. А што ў Леніна такая вялікая галава будзе стаяць, гэта справядліва — ён пяцьдзясят пяць тамоў напісаў, а колькі гэты ваш Міцкевіч?..

На сьвяткаваньне ў Дом-музэй наш галава дзяржаўны запрасіў суседніх галоваў — «прошэ пана!», «лаба дзена!». У райцэнтры так рыхталіся, асфальт як падлогу мылі. Галоўны гаспадар разам з замежнымі панамі павінен быў, паводле сцэнару, пасадзіць дубкі — цэлую алею, каб замяніць лядашчыя, пад якімі любіў бавіць час Адам Міцкевіч з каханкамі. Затым гаспадар сьвята меўся зрабіць выступ пра паэзію.

Народу сабралася паглядзець на высокае начальства — процьма. Наперад выйшаў мужчына пад гальштукам у сьветлым гарнітуры, з рыдлёўкай у руках. Натоўп вакол мяне ажно скалануўся. Ніхто не пазнаў самага галоўнага, бо твар штодня прапагандавала тэлебачаньне. «Няўжо-няўжо цяпер кіруе іншы? А гэты куды дзеўся?» Але раптам нехта пазнаў прэм’ера Лангова, які звычайна пакорліва ў тэлевізары выслухоўваў гняўлівыя закіды галоўнага, спруцянеўшы стоячы, таму ніхто яго як сьлед не запомніў. Маўчуноў народ не запамінае і ня любіць.

Але натоўпу ніхто нічога не тлумачыць, што здарылася. Адно ўсюдыісныя журналісты хутка разьнюхалі, што самы галоўны ўзлаваў і не прыехаў, бо адмовіліся ад візыту «лабас» з «пшэкам». Напісалі: дзякуй за запрашэньне, але ў вас тут парушаюцца на кожным кроку пра-

вы чалавека... Ну, а начальства наша так і не зразумела: якія адносіны мае вялікая паэзія да славэтных правоў чалавека? Карацей, грандыёзнае сьвята было падпсавана. Затое сёньня ў землякоў вялікага паэта ёсьць новы Ленін, праўда, бяз рук, але гэта нават і лепей. І ватэрклязэт, пра які яны марылі, таксама ёсьць. Так што і турысты нарэшце ўздыхнулі з палёгкай.

*2005*

# Рукі прэч ад Лукіча!

Гастранамічнае апавяданьне

— Я, спадары міністры, сплю і бачу, як яны лезуць з усіх бакоў, — памятаеце да болю знаёмую карту са школьнага падручніка? Адусюль пешчом лезуць, пхнуцца, ашчэрыліся штыхамі, памятаеце? Знаеце, на мяне яна зрабіла незабыўнае ўражаньне. Вочы заплюшчу і бачу як цяпер: адзін зь японскім прыжмурам, касавокі, другі пілсудчык, пшэк у сваёй канфэдэратцы, яшчэ белафін, румынская пыса. Ня твары, лычы, здаецца, як заплюшчыш вочы, з рогамі, з капытамі, з хвастамі, адным словам — нечысьць, пошасьць, інтэрвэнты. Як у той песьні, памятаеце: пагон ангійскі, мундзір французскі, табак японскі, правіцель скоцкі!

— Спадары міністры, я тут колькі слоў скажу за нашага палкоўніка, увяду у курс справы. Карацей кажучы: Камхарчбес прапануе антыінтэрвэнцкія захады, каб не чакаць, пакуль яны палезуць самі, і ўсчаць змаганьне не адкладаючы ў спод. А пачаць харчбес прапануе на ўнутраным фронце — разабрацца з памагатымі, з панікёрамі, распаўсюджвальнікамі чутак, дэзынфармацыі, супраць сабатажнікаў, супраць агентаў уплыву і апорных пунктаў будучай інтэрвэнцыі — кішэнных газэтак і гурткоў па інтарэсах.

— Так-так, як казаў адзін вялікі шахматыст: найлепшая абарона, гэта — напад.

— Гэта будуць захады супраць ня ворагаў народу нават, а непрыхільнікаў, дробных паскуднікаў — калі мовіць агульна. Слушна я кажу, палкоўнік?

— Так точна! Хто пнецца на амбары, на закрамы нашай радзімы, як полчышчы мышэй і пацукоў ды розных іншых грызуноў. Хто зубы вострыць! Мы знайшлі ў апа-

лай лістоце гранатамёт, стары, іржавы, але ж гэта зброя! Імі гітлер-югенд паліў нашыя танкі ў Трэптаў-парку. Гэта ня жартачкі! Мы адшукалі склад кухонных нажоў. Памятаеце — «ноч доўгіх нажоў», памятаеце?

Іхняя мара — каб хлеба не хапіла аднойчы, каб голад пачаўся, галодныя бунты. Іхнія галадоўкі — суцэльная правакацыя. Паглядзіце на іх: як кабаны некаторыя, ім лячэбнае галаданьне не пашкодзіла б насамрэч. Да масавых галадовак падбухторваюць, дэстабілізуюць, ліюць ваду на млын спэцслужбаў. Карацей, ня мне вам казаць — чым гэта чравата.

— На наш пірог, на наш каравай і хлеб-соль квапяцца! Рот разяваюць, пашчу сваю. Мы хлеб-соль ад чыстай душы, ад шчырага, як гаворыць нашая крывадушная апазыцыя, сэрца — кожнаму замежніку, а некаторыя камень за пазухай маюць. Усіх абшукваць ня будзеш: галас узьнімецца!

— Напляваць у нашую студню прагнуць, нахаркаць!

— Дулі ў кішэнях трымаюць!

— Хлеб наш надзённы даваўся нам потам і крывёй. Цялегі з хлебам, што кулакі хавалі, эшалёны з хлебам, наш хлеб пах порахам.

— Народ гаварыў: даруй, бацюхна, калі акраец падаў са стала раптам.

— Зь мякінай наш мужык еў калісьці, як напісала паэтэса: «Цяжка жыць-трудзіцца, калі няма долі, жыта не радзіцца на мужыцкім полі...»

— «...І мусіш есьці за работу чорны хлеб зь мякіны!» Хлеб усяму галава! Няма хлеба — як без галавы будзеш, з пустым чэрапам. Хлеб мазгаўню нагадвае, у галаве павінна быць цеста, на якім як на дражджах усё павінна расьці — розныя задумы, ідэі, плянаў грамадзьдзе.

— Так, спадары міністры, з гэтым не паспрачаешся, дзякуй за разуменьне. Але хлеб, які ў народзе даўно й любоўна называюць «цаглінкай», — гэта падмурак дзяржавы, яе харчовай бясьпекі. З цаглінаў будуюць сьцяну — хоць нямецкую, хоць кітайскую, але ня толькі. З цэглы можна пабудаваць дом, крэпасьць, калгасны клюб, казар-

му, збожжасклад, фэрму жывёлагадоўчую, плот высозны вакол турмы, каб не ўцяклі. Так што харчовая бясьпека — гэта ня марны гук.

— Ды ніхто ня хоча, каб сала адбіралі, бохан, як фрыцы калісьці: матка, курка, яйка, млека — хутка!

— А потым карты зьявіліся — памятаеце? — з базамі натаўскімі навокал нашай свабодалюбнай краіны з ракетамі — «Паларысамі», «Тамагаўкамі», «Пасэйдонамі»...

— Мы ведаем цану хлебу, цану жыцьцю. Калі была вайна, яны там другім фронтам абжыраліся, тушонкай, бананамі... А ў нас мерцьвякоў елі. Праўда, гэта была ваенная тайна, пра гэта было забаронена гаварыць, за гэта расстрэльвалі, за размовы... Самае цяжкае было з музэем правадыроў, цэлы полк НКВД сьцярог, яны ж там у вітрынах ляжаць безабаронныя.

— Гэта, між іншым, адно са сьведчаньняў перавагі нашай навукі над іхняй. У іх там толькі муміі эгіпецкія — высахлыя, перабінтаваныя, есьці няма чаго. Нашыя правадыры — як жывыя, кроў з малаком, выглядаюць цалкам ядома, апетытна, можна сказаць. Ляжаць і не псуюцца, нібы сьвятыя, сьвежыя шчокі ружовыя — як тыя галяндзкія яблыкі, якія чарвяку не даспадобы. А яны, дарэчы, фараоны ў сэнсе, і катоў сваіх гэтак жа хавалі — цэлыя могілкі кашэчых мумій сьпятрэлых, на зуб ня возьмеш. Вось так. Цяпер, між іншым, рассакрэцілі, што ня толькі трупы елі, а таксама ўсіх катоў і сабак за месяц зжэрлі нашыя абложнікі.

— Гэта трыюмф нашых дактароў, нашых навуковых сілаў — правадыроў захоўваць ня горш за жывых нават пасьля заўчаснага канчатку, можна сказаць, вылечыць ад сьмерці. І вось яны хочуць замахнуцца на нашыя сьвятыні, на наш хлеб духоўны! Я скаланаюся пры думцы, што яны ўжо вострацъ нажы на дарагога Лукіча: хто сьцягно, хто лытку, хто, прабачце, шчыкавіну. Па целіку паказвалі: «дзермакраты», бізнэсмэны і алігархі — вялізны торт для кнігі рэкордаў — у выглядзе «Лукіч у труне». Ляжыць нібы на далоні. Гэта, праўда, ня ў нас, мы б іх усіх — у клетку

без размоў, на хлеб і ваду, на хлеб і ваду! Яны Лукіча — па кавалках на талерцы, ды з шампанскім, ды з гарэліцай — швэдзкі стол, фуршэт!

— Мы таксама бачылі, таксама целік глядзім. Як шакалы вакол стала —штурхаюцца, каб кавалак большы схапіць, кожны сьпяшаецца, жарэ і назад — локцямі працаваць, спрабуе самую смачную частку — ня проста чорнашакалядны кавал нагі, калашыны ці чаравік са шнуркамі, а далонь Лукіча або нават чырвоны бант рэвалюцыйны ці ўвогуле — з галавы чагось адхапіць, адцяць, атрымаць у талерку — нос, вока, рот альбо сьвісток, як цяпер гавораць, — вусны, зубы. Іншаму карціць кус геніяльнага лба нашага дарагога Лукіча! А сэрца, сэрца правадыра! Чорная шакалядная чырва!

—А я, калі целік глядзеў, чамусьці ўсё думаў пра ныркі спачатку, расольнічак з ныркамі. Кавалак мазгоў таксама ўяўляў — жах! А яшчэ — страшна падумаць, кашчуннае блюзьнерства — адцяць кавалак, які ў нагавіцах! Гэта нечувана, спадары міністры! Садызм, злачынства супраць усяго прагрэсіўнага чалавецтва!

— А што яны ў сваіх газэтках пішуць пра Лукіча? Ганьба! Што Лукіч іхняга дучэ хваліў! Галоўная справа — за што? Ідыёты! Ды мне брыдка уявіць — каб адрэзаць сабе кавалак Лукіча і зьесьці, салодкага торта апрыклага.

— Трупнае мяса саладжавае, гавораць, нібы бульба падмарожаная — мэдыцынскі факт!

— Ну што вы, Іван Казіміравіч, мы ж не абложнікі з вамі!

— А вы ведаеце: пісалі заўсёды, што напалеонаўская гвардыя пажырала сваіх коней, маўляў — ледзь не здыхляціну. А як на мяне, каніна — вельмі смачнае мяса. Мы нашых скакуноў прадаём нашчадкам дучэ на каўбасу і радуемся!

— Ну, прычым тут каніна! Яны, інтэрвэнты, на нашыя прыпасы іклы вострацьаць, на нашыя сьвятыя мошчы!

— Кавалак мазгоў — гэта агідна!

— Чаму ж, у нас у кулінарыі пастаянна — мазгі смажаныя, жонка бярэ мая, смачна.

— Дык гэта ж сьвінячыя мазгі, сьві-ня-чы-я!

— Сьвінячыя, ясна. Раней каровіны прадавалі, гавораць цяпер — шкодныя.

— Правільна! А мы ж пра Лукіча гамонку вядзём! Пра Лукіча! Пра нашыя сьвятыні, пра ідэалы, пра скарб!

— А дарэчы, яны, ну — алігархі ці там іхнія кухары з рэстарану «Пекін», яны ня проста цеста сьпяклі, а — каньячком напіталі дзе сэрца, без крадзяжу, у іншых месцах — лікворы, брэндзі «Напалеон», а ў галаве — гарэхі: мускат, фундук, арахіс, кэш'ю.

— Гарэхі?

— Ну, вы ж разумееце: дактары пісалі, калі яму трэпанацыю зрабілі, мазгі былі ці палова — з валоскі гарэх. А ён сам, гарэх, нагадвае мазгі.

— Не, штосьці мне больш ня хочацца смажаных...

— А я чытаў: торцік атрымаўся далікатэсны — у калашынах труфэлі, у пінжаку марцыпаны... Жанчынкі ажно вішчэлі! Аматаркі цукровай пудры і салодкай ваты.

— Аматаркі клубнічкі!

— Смажаных фактаў, салёных сэнсацый!

— А я чытаў, крэм быў выкарыстаны не такі заўсёдны з маргарыну, а — суфле, птушынае малако, такі не прыядаецца.

— Выбіраць з тулава разынкі — немаральна!

— Вы падумайце, вы ўявіце: каб нам паставілі пасярэдзіне Лукіча ў выглядзе торта. Мы тут сядзім абмяркоўваем, працуем, а потым — перапынак, кофэ-брэйк з торцікам.

— Так, ляжыць сабе склаўшы рукі, гузікі з цукерак... А рукі зрабілі чырвоныя: маўляў, па локці ў крыві. Ганебна!

— Ужо лепей бы зьесьці не Сярпова-Молатава, а...

— Урупіна? Наркама харчоў?

— Ды прычым тут наркам? Зьесьці якога-небудзь Чэмбэрлена, ці Керзана, ці ўвогуле графа Дракулу.

— Дракулу? Ды ў ім крывішчы будзе — насмактаўся як камар!

— Апазыцыя хоча прадаць наш музэй правадыроў міжнароднаму трыбуналу з усімі вантробамі! Гэта абышто! Дзе іхняя мазгаўня?! Нейкі халадзец, студзень!

— Геніяльны мысьліцель, сьветлая галава, калектыўныя мазгі пралетарыяту! А яны зь яго торт. Каб хоць бы што больш людзкае ў сэнсе закускі — сальцісону ці пячоначны рулет, я ўжо не кажу пра каўбасіну, пальцам пханую. Зусім без мазгоў — зрабіць з чалавека крэм-бруле якоесьці!

— А ведаеце — чым зэльц ад сальцісону адрозьніваецца? Мне прадаўшчыца ў краме сказала: зэльц горшы, там усякія амаль рогі-капыты, толькі чарніла закусваць альбо самагон ня лепшай якасьці.

— Мы незалежныя, пакуль у нас свая бульба, сваё сала і хлеб. Гаспадыня, якая вечна пазычае соль і запалкі, — яна паступова робіцца залежнай. Яна залежыць ад ласкі розных дабрадзеяў. Яна мусіць прасіць, прыніжацца. А бясплатны сыр толькі ў мышалоўцы — запомніце!

— Лепей ня спаць, каб ня бачыць: вузкавокая плойма, як саранча, на нашыя зялёныя палеткі, і сківаціцамі працуе як жорнамі...

— А мы іх з «максіма», на тачанцы: тра-та-та!

— «На граніцы тучы ходзяць хмура, край суровы цішынёй аб'ят, ля высокіх берагоў Амура вартавыя родзіны стаяць!»

— «У гэту ноч рашылі самураі перайсьці граніцу ля ракі».

— «Тры танкіста, тры вясёлых друга, экіпаж машыны баявой!»

— «Тры танкіста выпілі па трыста, а вадзіцель выпіў дзьвесьце грам!»

— Не! «А кіроўца выпіў цэлы літар!» Гэх!

— Налівай хлопцы! Усе ў буфэт!

*2006*

# Царская гарэлка

Панядзелкавае апавяданьне

— Ну што, кабінэт міністраў? Прызнавайцеся: што, дзе, колькі і з кім! «Ах, дзе быў я ўчара, не знайсьці днём з агнём, толькі помню, што сьцены з абоямі...» Чыстасярдзечнае прызнаньне палегчыць вашую віну, давайце.

— Ды што там успамінаць, таварыш прэм'ер, у роце брыдка.

— Давайце расказвайце, не ламайцеся. Бачу, усе адзначылі сьвята як мае быць, пераўзышлі норму. Ты, Іван Іваныч, нагадваеш мне парсюка — вачэй не відно. Толькі не крыўдуй, я сам шклянку расолу выпіў, але ў роце памыйка, антыпаліцай не памагае. А ў цябе, таварыш міністар унутраных органаў, твар колеру перамарожанай ялавічыны, прабач.

— Гэта ён у мяне такі не назаўжды, гэта часовая зьява. За што сьвяты не люблю, гэта што жонка не дае палячыцца потым. Яна ў мяне як старшына. Так і жыве згодна антыпітной кампаніі.

— А я проста не магу спыніцца, чарку за чаркай. Гэта страх застаўся пасьля антыгарэлачнага ўказу, што ня хопіць. Сындром такі, мне доктар гаварыў.

— Тады заўжды не хапала, змрочныя часы. П'еш і страх бярэ. З закускай таксама быў асартымэнт: капуста марская ды груца салдацкая ў слоіках, хлеб, праўда, прадаваўся, цаглінка. Але які толк ад закускі, калі няма чаго выпіць? Прафанацыя.

— Так, цяжкія часы, ліхалецьце. «Учора газавая камора, сёньня...» Пераэкылі нейк, ператрывалі. Памятаю: крамы дзьверы не адчыняюцца пасьля перапынку, такі натоўп сабраўся, усім трэба бутэльку. Адгулы бралі, выхадныя,

каб дастаяцца. А калі ты на службе — проста бяда, «кленска жывёлова», як некаторыя кажуць. Сам туды ня сунешся, дый затопчуць, калі што. Прасіць —не папросіш, бутэльку — на нос, у адныя рукі. А з чорнага ходу таксама ня выйсьце, вельмі праверкі лютавалі, народны кантроль у дзеяньні. Майго знаёмага застукалі — праз заднія дзьверы ўзяў пляшку — карупцыя! Гадкоў пяць адбарабаніў. А ў яго нехта памёр ці нарадзіўся, бутэлька патрэбна была — пытаньне жыцьця і сьмерці!

— Слухайце, а як успомню жаніцьбу без гарэлкі, таварыства барацьбы супраць выпіўкі, жах бярэ! Што мы — хворыя?!

— Страшна ўспомніць, як у жудасным сьне ўсё. А такі быў выпадак: адзін запісаўся туды, прабіўся наверх, а потым засьпелі на гарачым: самадзейнасьцю займаўся — на аналіз гарэлку браў, і так у кожнай краме. Карацей, таксама карупцыя, трасца яе.

— Вось я прызвычаіўся ўсё рабіць як ударнік на барабанах: працаваць дык працаваць, баляваць дык баляваць, не сачкаваць ніколі. Не люблю халяўшчыкаў, мужык ты ці не? Не сядай за стол, калі ня можаш па-людзку храпнуць. Правільна я гавару?

— У нас у арміі казалі: ня хочаш — навучым, ня можаш — прымусім. Ці наадварот. Карацей, школа жыцьця, паскораны курс, два ўрокі.

— А тосты на вясельлі без гарэлкі — ганьба, пародыя! Вакханалія, як казаў наш маёр Клішч.

— Гэта праўда. Жадаю маладым доўгіх год жыцьця і за моцнае здароўе выпіваю шклянку чаю. Адкуль яно будзе моцным? Вар’яцкі дом, Навінкі дый годзе!

— Альбо бярозавага сачку, бярозкі плакалі па такой жаніцьбе!

— А я аднойчы трапіў — квас кулялі, але кіслы, што мазгі працінала.

— Па-ўсякаму здаралася: у нашай пярвічцы адным дазволілі зь півам адзначыць, замест, так сказаць, шампанскага налівалі, праўда, таксама кісьляціна. Як раней: не пасьпелі піва давезьці, яно ўжо ніякае. Асабліва ў сьпёку. Пабоўтаеш —

каламутны асадак узьнімаецца. Ды яшчэ дрэнь якая-небудзь плавае. Аднойчы муху бачыў, такую ліловую.

— Колькі муха выжлукціць? Не шкадуй!

— Ды што мухі, часам гамолкі якіясьці ў гэным піве знойдзеш. Адно слова: «жыгулёўскае».

— А цяпер для некаторых выпускаюць з такой назвай. Настальгія!

— Ды я ж чуў, што на яго ліцэнзія патрэбна, забаранілі жыгулёўцы, лапу наклалі.

— Што там каламуць вашая, я аднойчы вачам сваім ня веру: шматок газэты плавае, са здымкам. Прыгледзеўся: Леанід Ільліч у піве боўтаецца і глядзіць на мяне па-генсекаўску. А я: што глядзіш, цалавацца ня буду, я табе не Карвалан!

— Вой, хлопцы, пры Сталіне за такое што было б! Сякір-башка!

— А я памятаю, дужа любіў, як той сьпяваў: «Зін, а твой грузін зусім хлябаў бэнзін!»

— Бэнзіну яшчэ не хапала... Галава як булава, проста бухэнвальдзкі набат.

— У мяне таксама як чыгунная балванка, якой па танках. Ці гэтая куля, каторай сьцены...

— А ў мяне гуд у галаве, як рэйкі, калі цягнік на падыходзе.

— Гэта што, у мяне нібы гэнай балванкай па вежы, а мы... а я ўнутры. Як цар-звон у галаве гудзе.

— А я ў авіяцыі служыў. Як запусьцяць рухавік — галава як у гарматы ядро — вось-вось выбухне, лопне, разьляціцца.

— Ня трэба мяшаць, за сталом трэба быць адналюбам, не рабіць молатаўскі кактэйль. Ты сабе ўяві: каб пасьля п’янкі зьліць з усіх кілішкаў ды бутэлек рэшткі і выпіць? Вось ты тое ж самае дабраахвотна робіш, а потым зьдзіўляешся вячэрняму звону на ранішнім пасяджэньні, калі пытаньні трэба вырашаць дзяржаўнай важнасьці. А ў цябе ў горле як ва ўнітазе.

— Тэрмаядзерны напойчык! Як у тым кіне Віцын: перцу з імберцам туды, усякай трасцы, абрус прапаліў, а сусед кульнуў і анігадкі — далей закусваць!

— А я люблю, каб ня толькі хлеб-соль, а каб чарка на падносе, па-царску.

— А ў нас ваксу на хлеб намазвалі, на салдацкую цаглінку, ён напітаецца, потым ваксу на боты і лусту жуюць.

— Не брашы.

— Дальбог. Хочацца ж кайф атрымаць.

— Я таксама пра такое чуў, але за царом Гарохам.

— Казік, ды ты сам уяві — што за дрэнь гэта, рыгаць будзеш ад аднаго віду, ад панюху.

— Не, праўда, вось у нас сяржант Уласенка ва ўмывальніку на маіх вачах глынуў шыпру, і пена з роту як у вярблюда, быццам шампуню насёрбаўся.

— Вакса, адэкалён, ужо лепш накурыцца да адурэньня. Дым зь цябе выйшаў і ўсё, а гэта пераправіць трэба. Паскудства!

— Знаеш, як прыпрэ, не такое зьясі ці вып'еш, людзі муміё жуюць, какашкі птушыныя, экскрэмэнты. Горных арлоў ці кагосьці.

— Казлоў горных, я там служыў, ведаю, сам прывозіў бацькам лячыцца і на продаж.

— Колькі гэнага гаўна ўсёй краінай зжавалі, а здароўе так і не палепшала...

— Ведаеце, гэта праўда, што вып'еш халеру, калі прымусяць. Нават не канкрэтна хтосьці, абставіны.

— А я пра какашкі анекдот успомінў.

— Мы пра выпіўку, пра закуску, што ж імі — заядаць бакштанку будзеш, ха-ха?

— Успаміналі пра гэнае муміё, а я пра мядзьведжыя.

— Што пра мядзьведжыя — еў ты іх ці што?

— Здурнеў? Я анекдот толькі.

— Ладна, хай расказвае, а то мы толькі пра перапой. Ды пра што ў цябе там — пра кругляшкі ад бурага мішкі? З акадэміі смаргонскай? Што ён там вывучаў? Заатэхніку? Як з кароў малако здабываць?

— Ды анекдот, можна сказаць, дзіцячы. Савецкі яшчэ, з барадой, нават няёмка.

— Савецкае мы любім, давай пачынай!

— Карацей, знайшоў заяц у лесе дубальтоўку і давай усіх сустрэчных прымушаць есьці з кучы, там лось пакінуў.

— А гаварыў — мядзьведзь.

— Ну, пераблытаў крыху. Карацей, ідзе мядзьведзь, заяц: еш, мішка, мядзьведзь — ня буду. Заяц — лічу да трох: раз, два, тры, асечка! Зноў — асечка! Трэці раз — асечка! Заяц дубальтоўку ўбок: ну, калі ты, мішанька, ня хочаш, тады я сам зьем.

— Сьмешна, але невясёла.

— Ну, я ж казаў, што савецкі, папярэджваў.

— Ды нармальны анекдот, дасьціпны.

— Пасьля першай не закусваюць! Памятаеце кіно? Пасьля другой таксама і пасьля трэцяй... Каб цаглінку ў барак прынесьці галодным таварышам. Прыйшоў і вырубіўся. Герой. А той фрыц: рус зольдат отшэнь крэпкі! Патрыятычнае кіно.

— А памятаеце «Апэрацыю «Ы»? Разьбіць бутэльку? А ты ведаеш, колькі ў яе ўкладзена працы? Пасеяць трэба, зжаць, змалоць і гэтак далей...

— А як пшэкі нас хацелі на гарэлцы распрануць, разьдзець, разбуць і тварам у гразь?! Хітрыя, халера! Пшэк-пшэк: патэнт іхні больш старажытны! З часоў Леха і Чэха. А мы — лапухі! Прыйшлося ў ААН зьвяртацца, каб даказаць, што гэта нашае спрадвеку слова, а па-іхняму будзе «гожалка»! Яны нашае слова скралі, мы так Бутрасу Галі і патлумачылі.

— Пся крэў! Войска польска Бэрлін брала, а радзецка памагала... Вот сукі!

— Ня сукі, курвы. Бл... па-іхняму.

— Курвы! Але кінцо пра сабаку і танкістаў усе любілі.

— Танк наш!

— А кіно іхняе. Ты што, не любіў Марысю, не падабалася яна табе? Не хацеў ляснуць?

— Скажаш, я яшчэ піянэрам быў, у штоніках.

— А яны выпіць таксама малойцы, гулякі! Вудка-вудка!

— На халяву і ад рыцыны не адмовішся...

— Ды што там Марыся... Калі марыць, дык піць французскае шампанскае, выціскаць сок з каралевы!

— З брытанскай, з гэтай карготы?

— Бываюць і маднейшыя. Каралевы прыгажосьці. Я быў у журы аднойчы — самы цымус дзяўчонкі!

— А я, браткі, у ГДР-ы служыў. Трымалі за плотам: ні гарэлкі, ні баб, як на зоне.

— Скажаш, а за Палярным пасам кішка танка? Па вяроўцы ў срачнік хадзілі, каб не згубіцца, а там ломам экскрымэнты... Каб месца сабе расчысьціць. Такія Казбэкі! Вечная мерзлата. Да першай крамы кілямэтраў дзьвесьце, а можа, цэлую тышчу. Да Амэрыкі бліжэй. А гэныя тунгусы самі ня п'юць і на продаж ня гоняць. Проста жудасна! Затое «Голас Амэрыкі» чысьцюткі быў.

— А ў нас на К-150 пад вадой перш кожны павінен быў поўны слоік марской вады выпіць і каб не званітавала, а то на бераг сьпішуць. На сорак пяць сутак пагрузішся — сапраўды, ні баб, ні звальненьняў. Праўда, вінцо давалі, ня толькі афіцэрам.

— Ну, а я шнапс, допэль-корн, вялікую бутэльку дахаты вёз, гэх! Не даехала, выпілі ў цягніку з якімсьці, ня памятаю нават з кім, нехта выпадковы трапіўся пад руку. А я ёю ганарыўся, пляшкай, думаў усіх зьдзівіць. Захаваў для самагонкі. Такая — у форме тэлевышкі на Александэрпляц, прыгожая, як Эйфэлева вежа.

— Знаеце, я на падводнай лодцы, здаецца, русалку ляснуў бы, каб злавіў. Мы, дарэчы, стараліся на гаршок не хадзіць. Няголасная забарона існавала. Уяўляеце, калі там і так паветра не хапае, а трэба яшчэ баявую задачу выконваць.

— Так і трымалі ў сабе?

— А што зробіш.

— Але ж служба! Лепей ужо ў срачнік па вяроўцы...

*2006*

# Хрыстос уваскрос, дарагія таварышы!

Самае сьветлае хрысьціянскае сьвята. Так гавораць. А мне больш даспадобы Каляды, Божае Нараджэньне, Раство Хрыстова. Сьнег зіхаціць, радаснае прадчуваньне, сьвяточны настрой. Вось так. І нічога з сабой не магу зрабіць. Дый навошта? Каляды — гэта калі шопка зь ялінкай у касьцёле. Прэсны смак аплаткі. Адмысловая вячэра. Вялікдзень, ясна, — перш за ўсё фарбаваныя яйкі, асьвячэньне ежы. Кавалак шынкі, вэнджанай каўбасы, кекса ці пірага. Да сьвята хлебакамбінат пячэ велікодныя пірагі, якія прадаюцца ў цэляфане. Рэклямуе сьвяточныя вырабы па мясцовым радыё — пад малінавыя царкоўныя званы.

Каталіцкі біскуп віншуе вернікаў з газэтных старонак на беларускай мове. Сьледам і япіскап — таксама па-беларуску віншаваньне друкуе. Праўда, набажэнства ў катэдры ня толькі на польскай мове, а на беларускай таксама. А вось у саборы — толькі па-расейску. Што ні кажы, бліжэйшы сэрцу касьцёл. Бо ў саборы — нібы на афіцыйнай нарадзе: вялікі чыноўнік выступае перад публікай, чытае свой даклад, тлумачыць, што такое Вялікдзень. Сьвятар згаджаецца. Што яму яшчэ рабіць? Слухаюць жанчынкі, бо мужчынак амаль няма ў царкве пакуль яшчэ. Хіба што сьвятары.

Калісьці ўразіла мяне надзвычай сцэна асьвячэньня ежы. Я нічога не выдумляю: сапраўды, дзячкі выглядалі быццам пасьля баляваньня. Няспрытны рух — і груд булак рассыпаўся, пападалі на падлогу. Сьвятар падняў і паклаў назад. Як само сабой. Прычым не пірагі гэта былі сьвяточныя, а звычайныя шэрыя савецкія батоны за трынаццаць капеек. Канечне, сёньня і ў царкве пірагі. Але,

як і ў тэатры, прыкладам, наведнікі пераважна жаночага стану. Гэта штосьці адваротнае мячэці, куды жанчын не пускаюць.

Бачыў зусім нядаўна дзіўнае і ў чымсьці чароўнае відовішча. З царквы разыходзіліся жанчынкі з агнём ад Дамавіны Гасподняй, як скеміў я. Разыходзіліся ва ўсе бакі. У руках запаленыя сьвечкі ў абрэзаных плястыкавых бутэльках. Падышоў перапоўнены аўтобус. Яны — ланцужком агнёў перацяклі ў яго. Аўтобус зрушыўся, у ім — жанчыны стаяць з трапяткімі агнямі. Міжвольная думка пра пажарную бясьпеку. Але шафёр — анігадкі. Наступны прыпынак: унутры пад паветкай шэраг жанчынак, якія сядзяць, трымаючы аберуч перад сабою або на каленях такія ж запаленыя сьвечкі. Аніводнага мужчыны, нават подручкі. Нават побач — не было.

Сёлета пярэдадзень праваслаўнага Вялікадня супаў з чарнобыльскімі ўгодкамі. У тэлевізары — адно Чарнобыль і службы ў саборах. З пачатку траўня першаэкзарх даў у Гародню на некалькі дзён «міратачывы абраз». Прыехала яго гаспадыня з расейскай глыбінкі, распавядала, як здарыўся цуд. Выява: замест твару якіясьці чырвоныя пісягі. Абраз выстаўлялі для пілігрымаў ў сёньняшнім праваслаўным, раней базыльянскім жаночым манастыры.

Файна, калі каталікі пасьля сьвята частуюць на працы праваслаўных калегаў сьвянцонымі яйкамі і пірагамі. А пазьней тое ж самае робяць праваслаўныя. Сёлета ў літаратарскім коле мы стукалі яйка аб яйка, частаваліся. А старэйшыя ўзгадвалі часы маленства, велікодны час на вёсцы. Файна! А ў царкве начальства віншавала: Хрыстос уваскрос, дарагія таварышы!

*2003*

# Друкарка

«Фантамас» на мяне адназначна зрабіў уплыў. Днямі глядзеў крыху прызабытую стужку. Мне ўжо ў маленстве вельмі падабаўся журналіст. І ягоная бляндынка. Спрытны, моцны, файны журналіст. Які нічога не баіцца. Загарэлы і элеганцкі. Праўда, пінжакі і гальштукі, як ён, я апошнімі часамі амаль не нашу. Аддаю перавагу адзеньню і вопратцы крыху ў стылі military, крыху safari. Колеру хакі, розных адценьняў зелянковага, карацей green-mix. Хаця цьвідавыя рэчы ў ягоным стылі мне паранейшаму падабаюцца.

Прыгожы несавецкі Парыж, Рым, Шатляндыя, замак сапраўдны! Люблю замкі. Гэта таксама, між іншым, зрабіла ўражаньне. Неўзабаве я на свае вочы ўбачыў файныя гарады і мястэчкі. Пастаяў насупраць Брандэнбурскай брамы, жыў у доме пад дахоўкай, сьцены якога зарасьлі плюшчам. І сёньня жыву ў нягоршым горадзе, найменей савецкім. Я стаў журналістам і ажаніўся з бляндынкай. Такія мае вынікі. Хаця нельга сказаць, што я ставіў сабе мэты ды імкнуўся іх дасягнуць. У жыцьці гэта выглядае трошкі інакш. Мэта, хутчэй нават мара, а дакладней — жаданьне, памкненьне, сьпеліцца ў табе, брыняе, як зерне ў прадчуваньні прадвесьня, сяўбы.

Першую сваю газэту я выпусьціў у трэцяй ці чацьвертай клясе. Тыя два гады наша кляса месьцілася на першым паверсе, ад уваходу — налева, вокнамі ў падворак. Гэта была старая нямецкая школа, якую калісьці наведвалі дзеткі будучых асаў люфтвафэ. Ад яе недалёка было да вайсковага аэрадрому. Пры адсутнасьці ў мяне цягі да публічнасьці, я міжволі зрабіў першы крок менавіта ў гэтым накірунку. Першая мая газэта была нась-

ценнай. Задума і ажыцьцяўленьне належалі асабіста мне. Ніхто не даручаў. Кляснай настаўніцы хапіла разуменьня і талерантнасьці, каб дазволіць мне прышпіліць да сьцяны нікім не плянаваны рукапісны орган.

Седзячы на ўроках, я, павярнуўшы галаву, мог разглядаць свой твор. Не выключаю, што настаўніца магла параіцца з маёй мамай, — яна таксама працавала ў школе, і яе кабінэт быў у правым крыле. Мама навучала нас старажытнай гісторыі: Бабілён, Эгіпет, вісячыя сады Сэміраміды, Хамурапі, піраміды Хеопса, сфінксы. Гліняныя дошчачкі зь пісьмёнамі, папірусы. Нас перавялі на другі паверх у правае крыло. Глядзець на вуліцу, ды яшчэ зьверху, цікавей, чымсьці на задворкі. Я працягваў рабіць сваю газэтку, настаўнік маляваньня ставіў мне пяцёркі.

Затым мы пераехалі. Новы дом, новая школа, кляса. Мая новая газэта была пра паштовыя маркі. Яна таксама вісела на сьцяне ў клясе, якая была выцягнута, як кішка, парты стаялі толькі ў два шэрагі. У мястэчку не было самалётаў, у ім мясьцілася калісьці сухаземная стаўка вэрмахту. На ўроках мы перасылалі адзін аднаму лісты з васковымі пячаткамі. Адбывалася гульня ў часы, калі яшчэ не існавала газэт. Але ў мястэчку выходзіла газэтка «Воздушный часовой», рэдакцыя — побач са школай. Сын рэдактара быў маім аднаклясьнікам. Запомніўся маленькім, прышчавым, шпэтным малдаванінам. Даволі гаў...ы, вельмі ганарыўся сваім бацькам, любіў выхваляцца. Даўся мне ў знакі. Я аднойчы яму са злосьцю сказаў: «Што мне твой бацька, я, можа, сам стану рэдактарам, калі захачу». Хаця я ім ужо быў.

Савецкі кіна-«Журналіст» на мяне асаблівага ўражаньня не зрабіў. Глядзеў яго, седзячы на ровары, каб не стаяць. Лавак на ўсіх не хапала. Цёмны-цёмны і вельмі цёплы жнівеньскі вечар, у чорным небе малочны прастакутнік экрану, жоўты конус дрыготкага сьвятла з кузуркамі, пылам і тытунёвым дымам. Рэзкія мэталёвыя галасы, якія далёка чутно ўначы. Не абмежаваныя сьценамі залы эмоцыі гледачоў. Асабліва калі журналісту

пашанцавала трапіць некуды ў Стакгольм і ў закусачнай, жуючы стэйк, ён укідаў манэткі ў шчыліну аўтамата са стрыптызёркай.

Мы зноўку зьмянілі месца жыхарства. Горад зь іншай мовай, з гатычным касьцёлам з высознай званіцай. Вельмі падобны да Фары Вітаўта. Адрозна ад яе, ён захаваўся. Людзі захавалі. Назва мясцовай газэты гучала па-замежнаму, але ў перакладзе была звычайнай савецкай. Сваю газэтку я назваў інакш. Мы рабілі яе зь сябрам, які меў мянушку Белы. Дакладней, сталай назвы не было. Мне падабалася зьмяняць шыльды. «Стальное вымя» і ў гэткім жа духу. Мы сядалі ззаду і рабілі газэтку на ўроках, а затым пускалі яе па партах. Пазьней я даведаўся, што нашыя дзяўчаты адразу вырашылі, што мне быць журналістам.

Хаця сам я тады ня ведаў, што мне болей падабаецца. Я слухаў музычныя праграмы «Радыё Люксэмбург» і некаторыя іншыя. Я хацеў быць дыск-жакеем, як Майк. Зачытваць лісты з усяе Эўропы і ставіць Far far away і Bohemian rhapsody. Гэта было немагчыма. Я пісаў свае, абавязкова сьмешныя, тэксты і запісваў на магнітафонную стужку ўласныя радыёпраграмы, як і належыць — з музычнымі ўрыўкамі. І я заўсёды марыў аб пішучай машынцы. Нічога іншага я не хацеў так, як толькі мець яе. Прачытаў з зайздрасьцю ў Агаты Крысьці пра ейную друкарку.

У войску быў выбар наконт «сувязі — нэрваў арміі». Выбраў тэлеграф, каб навучыцца друкаваць. Цяжкія няўклюдныя гаргары з клявіятурай і шпуляй з папяровай стужкай пры баку. У падземным бункеры адбівалі радкі лічбаў, наклейваючы на тэлеграфныя блянкі. Паведамлялі пра рух паветраных цэляў. Разам з прыяцелем пачалі выпускаць ротную насьценгазэту. Стаў друкавацца ў армейскай. Паступіў на журналістыку ва ўнівэрсытэт. Маленькі выкладчык з захапленьнем тлумачыў, што лінатып — нагэтулькі разумная машына, што, каб трапіла да афрыканскіх тубыльцаў, яны б конча маліліся ёй, як боству.

Купляў розныя газэты — ад югаслаўскіх «Борбы» і «Палітыкі», польскіх «Жыцця Варшавы», «Трыбуны люду»

да «Дэйлі вокер» і «Юманітэ-дыманш». «Прафэсія: рэпарцёр» Антаніёні, якую мы праходзіді, уразіла. Часова меў антыкварны «Рэмінгтон». Пры канцы набыў югаслаўскую пісьмовую машынку. Якая, на жаль, цяпер на пэнсіі. Напісаў дыплёмную пра няўлоўную газэту «Свабода». Марыць пра якую не выпадала. Адно ў далёкай вёсцы адшукаў дом, дзе яе маглі... нават не надрукаваць — адбіць на шапірографе. На вайсковых зборах выпускаў на беларускай мове ўзводны баявы лісток, пачак якіх таямніча зьнік з казармы.

Трапіў у горад, дзе калісьці, яшчэ ў каралеўскія часы, выходзіла першая газэта. «Газэта Гродзеньска» на тадышняй дзяржаўнай мове. Я прыглядаўся, прыслухоўваўся да старых муроў. З друкарняй таямніцаў не было, яна мясьцілася за высокім, сёньня турэмным, мурам. Саму газэту ўявіць было цяжэй. Знаёмства з навінамі, чытаньне сьвежага нумару — з гэтым, наадварот, прасьцей. Я ўяўляў магната з газэтным паасобнікам за ранішняй кавай, газэту у аўстэрыі, абмеркаваньне сьвецкіх і палітычных навінаў у салёне за картамі. Сам кароль даваў парады рэдактару — пра што лепей не пісаць.

У мяне ў суседнім пакоі сядзеў сапраўдны цэнзар. Яны зьмяняліся, але мелі аднолькавае аблічча бульдогаў. Жыцьцё і праца складаліся з абмежаваньняў. Часьцей няяўных. Хаця самі цэнзары мелі зашмальцаваныя гросбухі зь пералікам забаронаў — пра што не пісаць. Бяз цэнзарскай пячаткі ніякі рэдактар ня здолеў бы падпісаць да друку нумар. Ніякі друкар ня ўзяўся б яго матрыцыраваць і друкаваць. Што там каралеўскія часы! Газэта ганарліва выводзіла свой радавод ад «Освобождённого Белостока». У друкарні па-ранейшаму надзейна працавала машына з даваеннай эпохі, зь лічбамі выпуску, здаецца, «1935».

Каралеўская газэта, ды «Мужыцкая праўда», ды «Свабода» — думкі аб іх выклікалі рамантычны настрой. Нечаспадзявана надышоў час Пагоні і бел-чырвона-белага сьцяга. І рашэньня зьмяніць газэтную шыльду. І мастак намаляваў яе, прыбраўшы савецкі ордэн. Атрымалася ў

стылі брытанскіх штодзёньнікаў. А-я-яй! Залямантаваў вялікі начальнік. «Праўда» — вышэй за ўсё, безь яе нельга! А менавіта гэтае здэвальваванае слова з шыльды хацелі выкінуць, вярнуўшы назву каралеўскіх часоў. Не атрымалася. А начальнік потым загінуў. Абараніўшы «праўду».

Час «Свабоды», «Пагоні» з конным рыцарам ды іншых маіх газэт. Усе яны ў архіве, усе забаронены. Мой газэтны канвэер спынены. Свабода слова зноўку стала падазроным словазлучэньнем. Засталася адно нібы-«праўда». Ты марыў стаць журналістам, каб увесь «Парыж» зачытваўся тваімі паведамленьнямі, ты марыў аб газэтным канвэеры абавязкова з каляровымі выданьнямі, бяз чорна-белых і шэрых. Вазьмі паглядзі яшчэ раз «Фантамаса».

Эсэ напісана з нагоды новага сьвята — гарадзенскага «Дня друку». Упершыню адзначана гарадзкой суполкай БАЖ 23 траўня сёлета. Падзея прымеркавана да ўгодкаў «Gazety Grodzienskiej», якая выходзіла з траўня 1776 да 1783 году.

*2003*

# Я марыў стаць парашутыстам

Адным часам я марыў пра парашуты. Скакаць з самалётнага люка ў цемру. Дагэтуль ня ведаю, ці здолеў бы зрабіць крок наперад у прадоньне, ці адчуваў бы ў сваёй талерцы сябе ў паветры. Мая аднаклясьніца, якая была ў мяне закаханая, пайшла ў аэраклюб — можа, каб давесьці нам абодвум сваю здатнасьць. Яна сама прызналася, калі прыяжджала да мяне ў войска. Бо я казаў ёй, што лунаць з парашутам — для мяне спакусьлівая мара. Сёньня яна навучае хлопцаў не баяцца скакаць — хлопцаў, якія прыходзяць служыць у літоўскую армію. Яна капітан ці, можа, ужо маёр. Прынамсі, мела капітанскія адзнакі, калі я бачыў яе апошнім разам.

Так, я не сказаў яшчэ, што мае школьныя гады скончыліся ў цяпер незалежнай краіне, у Літве. Але атрымалася, што сёньня я з паўднёвага боку мяжы. Я мог, мог — я гэта выразна усьведамляю — мог бы цяпер жыць з эўрапейскага боку ад калючага дроту, за якім яшчэ ня здохла янычарская навала. Розныя полаўцы, хазары ці сарацыны. Але лёс выпаў іншы, зусім іншы. Сапраўды, ці мала кім нам хочацца стаць у дзяцінстве, падлеткамі, маладзёнамі, а атрымліваецца зусім інакш, жыцьцё выводзіць на свой, часам нечаканы, шлях. Дарога можа быць убітым роўным гасьцінцам, аўтабанам, а можа выпасьці балоцістая пуцявіна з куп'ём або, наадварот, горная сьцяжына, камяністая, уздоўж цясьнінаў. Перапады тэмпэратуры, вышыняў, кліматычных умоў, недахоп кіслароду ў разрэджаным паветры.

Усё жыцьцё я адчуваў сябе на абмежаванай тэрыторыі, адасоблена. У пэўным сэнсе ў фартэцыі. Але не заўсёды. Часам — у лягеры. (Сёньня — хутчэй у вежы.) Мален-

ства ў вайсковых гарадках за плотам. І так было заўжды — штодня абгароджаны плотам, які ўзмацнялі шэрагі калючага дроту. Мы, сьцішыўшыся, назіралі за небам, за тым, як з заўсёднага «кукурузьніка» выпадалі чорныя кропкі, узьнікалі белыя плямкі, ператвараліся ў дзьмухаўцы парашутаў. Думаю, што кожны ў гэтую хвілю марыў пра парашут, толькі не прызнаваўся. Мы падлічвалі хвілі свабоднага падзеньня, абавязкова колькасьць парашутаў, сачылі, куды іх адносіць ветрам. Было прыгожа. Парашутыстаў заўжды скідалі ў добрае, лётнае надвор'е: сонца, блакітнае неба, белыя падушкі аблокаў. Зьнікала стракаценьне нябачнага прапэлера разам з самалётным абрысам. У поўным бязмоўі парашутысты набліжаліся да зямлі.

Вайсковыя гарадкі за калючым дротам на чужой тэрыторыі, вартавая вышка побач з домам, жаўнеры з аўтаматамі. Раптоўны зыход узброенай калёны дзеля акупацыі яшчэ адной суседняй краіны. Страх неабароненага жыхарства, чуткі аб прызабытым «дні ікс», калі мясцовае насельніцтва нападала на гарадкі, на вартавых, на вайсковыя машыны. Жыцьцё, якое мела на ўвазе заўжды магчымы напад. Боязь небясьпекі. Лёгкі адрэналін.

Я захапляўся фільмамі пра парашутыстаў. Нават не падазраючы, што мне наканавана быць на другім баку. У тыя дні цэлыя парашутныя дывізіі з боезапасам дэсантаваліся на Божаволю, Падранцэ, Сьлівовіцы ды іншыя гарады і аэрадромы. Супрацоўнікі падпольных радыёстанцыяў з рызыкай для жыцьця паведамлялі пра рух акупацыйнай армады, пра супраціў ёй, пра ахвяры, заклікалі заблытваць ворага, уводзіць у зман, зьнішчаць дарожныя знакі, указальнікі, мяняць іх месцамі. Яны паведамлялі ўказаньні ўраду, які мусіў перайсьці на нелегальнае становішча, паведамлялі пра хвалю абурэньня ў сьвеце.

Але мне яшчэ было невядома, што самому давядзецца паведамляць пра танкавыя калёны, пра вяртаньне чужынскіх парадкаў. Гэта было потым. А ў школьныя гады я захапляўся парашутыстамі. Дзіва што: змалку я гадаваўся пад «Марш авіятараў». Яго круцілі на розныя

сьвяты, у выхадныя ў клюбе і асабліва часта на спартовых спаборніцтвах, якія для арміі — абавязковая справа. Сваёй бравурнасьцю марш здаваўся не зусім савецкім. Нядаўна я даведаўся, што ён быў насамрэч маршам люфтвафэ.

Ня мне аднаму падабаўся Ота Скарцэні. Не, немцаў мы не любілі, у сэнсе фашыстаў, пра якіх амаль штодня распавядалі настаўніцы, пра якіх была палова кніг у школьнай бібліятэцы і мноства фільмаў у клюбе. Ота Скарцэні падабаўся тым, што быў парашутыстам. Мужны твар, нібы ў якога-небудзь Шварцэнэгера, жалезны твар, някідкая зухаватасьць, бездакорны вайсковы выгляд. Арлы, крыжы, нашыўка — адзнака за раненьне. Чаму тут зьдзіўляцца? Я рабіў урокі пад «Марш авіятараў», а штодня... чацьвер, калі толькі не было дажджу, над галавой лунапі парашутысты. І гэта яшчэ ня ўсё. Адным часам мы жылі ў нямецкім доме, які займаў раней начальнік школы пілётаў люфтвафэ. Мне вельмі хацелася мець нагрудны знак у выглядзе парашута, да якога чаплялася бляшка зь лічбай — колькасьцю зробленых скачкоў зь неба.

Мяне праводзіла у войска аднаклясьніца. Нашых усіх забралі раней, а нехта паступіў і зьехаў на вучобу. Было няўтульнае золкае надвор’е, сумны непрыемны дзень, хутка сьцямнела. Карацей, было пагана на душы. На камісіі мяне спыталі, куды б я хацеў трапіць. Я сказаў, што ў парашутныя часткі. Афіцэр-літовец паказаў мне запіс мэдыкаў. У цябе адваротны прыкус: парашутныя войскі і бранятанкавыя супрацьпаказаны. Так і сказаў «супрацьпаказаны». У нас пакуль недабор у супрацьпаветраную абарону, згаджайся... Яна мяне спрабавала супакоіць: вернешся, скончыш унівэрсытэт. Яна першай прадказала мне, што я ў жыцьці буду займацца тым, чым займаюся ўжо дваццаць гадоў. Аказваецца, яна ведала мяне лепей за мяне самога. І таму мела рацыю. Відушчай яе, напэўна, зрабіла закаханасьць.

Як жа я зайздросьціў ня толькі афіцэрам, а нават жаўнерам парашутнага батальёну, які стаяў у нашым горадзе! Пасьля вядомай катавасіі я на ўсе вочы, нібы

хлопчык, узіраўся ў іхнія шаўроны, цэшкі, гузікі з рыцарам на кані. Ён трымаў у левай руцэ шчыт з крыжам, а ў правай — узьняты над галавою меч. «Біце ў сэрца іх, біце мячамі, — шапталі мае вусны хрэстаматыйныя радкі, — не давайце чужынцамі быць». Але я бачыў, што самім ім напляваць, што хоць серп з молатам на лоб прычапі назад — замест старажытнага герба, хоць ятаганы крывыя — яны не адрэагуюць.

Прызнаюся: мяне тады апаноўвала жаданьне набыць мундзір з рыцарскай атрыбутыкай і выйсьці ў горад. Урэшце рэшт, я афіцэр у рэзэрве. Ну, а потым, потым пасьля ўмоўнага сыгналу ў радыёэфіры заварушылася пятая калёна. «Над усёй Гішпаніяй бясхмарнае неба». Асобныя сьмелыя хадзілі з рыцарскай цэшкай, калі ўсё рыцарскае трапіла пад забарону. Яны рызыкавалі. А я, спаткаўшы на вуліцы такога, унутрана ўмацоўваўся. Я ганарыўся за іх. У нас яшчэ ёсьць парашутысты, яшчэ ня ўсё безнадзейна страчана...

А потым усё зрабілася — горш не прысьніш. Глынуць сьвежага паветра ўдавалася штораз радзей. Аднойчы я трапіў на грунвальдзкую ўрачыстасьць. І замежныя прэзыдэнты на трыбуне абменьваліся салодкай пахвальбой нібы певень зь зязюлей. Яны ні словам не ўзгадалі пра войска, якому замест цэшак з грунвальдзкім рыцарам выдалі янычарскія ятаганы. Быццам гэтае войска ніколі не існавала. Было ганебна, сорамна, прыкра. І міжволі зайздросьціў я жаўнерам брыгады імя Вялікага князя Гедыміна, якія хорам прымалі прысягу на гістарычным месцы, і літоўскаму палкоўніку Ёнасу Жукасу. Я думаў пра сваю аднаклясьніцу, уяўляў яе ў форме з адзнакамі са старажытным ваярскім гербом. Я ганарыўся ёю.

Вярнуўся нібы атрымаўшы паразу на грунвальдзкім полі. А так і здарылася. Хацелася кінуць усё і ўцячы кудынебудзь у замежны легіён, пакуль ня позна, думалася мне. Але, як высьветлілася, было запозна. Мая аднаклясьніца вучылася ў аэраклюбе зь цяперашнім літоўскім прэзыдэнтам. Яны нават знаёмыя, разам скакалі з парашутамі. Яго напаткала цяпер такая мітрэнга... Можа, яны і ма-

юць у чымсьці рацыю. Ледзьве што — імпічмэнт. Але, але. Некаторыя абіраюць прэзыдэнтамі тых, хто не баіцца праляцець на самалёце пад рачным мостам навідавоку ўсёй сталічнай публікі. Папулізм? Магчыма. Але іншыя абіраюць на гэтую пасаду тых, хто правярае на рынку, ці вострыя ў мясьнікоў сякеры і ці пасыпаны калоды сольлю, а таксама — па колькі яек даюць у адныя рукі. Кожны любові натоўпу дамагаецца па-свойму. І змагаецца з пагрозай уласнага імпічмэнту.

Мне ня выпала скакаць з парашутам, бачыць зямлю ў выглядзе вялізнай, надзвычай прыгожай і каляровай тапаграфічнай мапы. Замест гэтага я апынуўся ў падземным бункеры, дзе нам не давалі адпачываць уначы, пакідалі наглядчыка, пакуль астатнія «дзяды савецкай арміі» ішлі спаць. Мы, зьняможаныя, сядзелі на баявых пастах, не адчуваючы сябе больш людзьмі, вочы заплюшчваліся самі, галовы не трымаліся. І нас са зласьнай радасьцю каралі. На падлогу вылівалі нашымі ж рукамі сьцюдзёную ваду, якую трэ' было зьбіраць назад у плястыкавую сьметніцу безь дзяржаньня, зьбіраць анучкай. Ваду забаранялася браць на месцы, у бункеры. Па ваду нас пасылалі на вольнае начное паветра, у загаджаную прыбіральню, якая знаходзілася на паверхні на адлегласьці ад уваходу ў падзем'е.

Мы марылі, каб за зьдзек адпомсьцілі паветраныя армады, якіх баяліся і ад якіх ахоўвалі паветраныя межы дзяжурныя каманды ў бункеры. Найлепшага моманту немагчыма было прыдумаць. Парушаючы статут, «дзяды» спалі, змардаваныя «маладыя» безвынікова змагаліся са сном, а «дзяжурны» зьдзекаваўся з тых, хто не вытрымліваў. Так, а неба з сутарэньняў бачылася у выглядзе сэктараў, па іх рухаліся паветраныя аб'екты, дадзеныя пра якія былі зашыфраваны ў лічбы, што неабходна было перадаваць суседзям па ланцужку. Заўсёды была магчымай каманда — «зьбіць». І ледзь ня зьбілі пасажырскі, які ляцеў з Эўропы, калі адныя зьдзекаваліся, астатнія храплі, а маладзён Марыскін ня вытрываў бяссоньніцы.

Парашутыст — гэта лятаючы стралок, баёвая адзінка. Адважны, спрытны, нібы Робін Гуд. Людзі з падзем'я іншыя. Яны ў лёхах любяць зьняважыць чыйсьці гонар і годнасьць, прыгнятаць, зьдзекавацца, выклікаць маральныя і фізычныя пакуты. Людзі зь неба часта маюць задачу перамагчы падземнікаў, захапіць бункер. Вось за гэта ў той час мне і падабаліся парашутысты яшчэ болей. Будзь я парашутыстам, думалася мне... Пакуль мы сядзелі пад зямлёю як у друхле, недзе зьбівалі карэйскія пасажырскія «Боінгі», каля крамлёўскага маўзалею сядалі на аднаматорных летаках нямецкія паветраныя хуліганы. А мы марылі пра сонца і сьвежае паветра, пра глыток свабоды і кубак кавы.

Пасьля ўсёй вядомай катавасіі настаў мір, сонца асьвятліла Эўропу, паветра ачысьцілася. Стала лягчэй дыхаць. Зрабілася адзіным, супольным яно — сонца, якое было раней падзелена на дзьве часткі, як Бэрлін. Але падземныя чалавекі, як сьляпыя краты, баяцца сонечнага сьвятла. Ненавідзяць усё сьветлае, зыркае. Нездарма паэт-клясык напісаў калісьці: «Ты цёмны, сьляпы, быццам крот». Народ падземнікаў, цэлы народ кратоў — фантасмагорыя дый годзе! Яны сядзяць пад зямлёю ў чорных піначэцкіх акулярах і праводзяць бясконцыя вучэньні «Над усёй Гішпаніяй зачышчанае неба». На іхніх падземных маніторах уяўныя касякі скандынаўскіх, балтыйскіх летакоў лятуць і лятуць — хмарамі, як стрэлы, а падземныя чалавекі іх зьбіваюць-зьбіваюць, цалуюцца і прышпіляюць сабе янычарскія ордэны з крывымі ятаганамі. Насамрэч яны зьбілі пакуль адзін толькі паветраны шар і страшэнна ганарацца.

У іх усё крывое. Крывыя люстэркі, у якіх яны разглядаюць свае каўтуны, сапсаваныя крывыя біноклі, праз якія яны бачаць Эўропу. Яны дагэтуль трызьняць пра халодную вайну, якая для іх што тая родная матка, дагэтуль трымаюць бамбасховішчы і сьняць ядзерную вайну. Яны па-ранейшаму ўяўляюць сьвет чорна-белым. Я ня стаў парашутыстам. Я стаў адным

з тых, хто гаворыць праўду аб іх, якія ненавідзяць пах Эўропы. Яны працягваюць гуляць у Чапая, рыхтуючы свае тачанкі з «максімамі», бронецягнікі, маўзэры, наганы і шаблі.

*2003*

# Ліст у Ганконг

Дарагі сябра Лі!

Гэтак даўно табе не пісаў, гэтак даўно. Цэлае жыцьцё, здаецца, прамінула. Зь няёмкасьцю ўзгадваю прыблізную дату апошняга майго ліста да цябе. Прыкра было потым пісаць. Адна карысьць, калі ўспамінаю мінулы час: перад вачыма паўстае храналягічны ланцужок — даты з малюначкамі са школьнага атласу. Хацелася б, каб усё тыя ж Мэсапатамія, Бабілён, старажытныя дзяржавы. Пункцір паходаў і бітваў Пампея, Аляксандра Македонскага. Вялізная мапа Кітаю. Даты: няўдачы, паразы, страты. Паўстаньне чырвоных паскаў. Але рэчаісна я бачу іншыя падзеі, зусім нядаўнія: турмы, сьмерці, гвалт.

Апошні мой ліст да цябе — сьведчаньне іншай эпохі. Тады я рэдагаваў газэту, якая мела аднолькавую назву з нашым слаўным старадаўнім гербом. Як напісаў калісьці летапісец: «Рыцар збройны на кані зь мячом, ежэ ныне нарычут Пагоня». У пэўным сэнсе слаўныя часы. Ат, двойчы ўжыў слова, якога не ўжываю. Раблюся, браце, сэнтымэнтальным. Было цяжка пачынаць рабіць на пустым месцы зусім новую газэту, толькі з думкай пра тое, што з такой назвай калісьці існавала, але зьнікла. Цяжка, але прыемна.

Усё было далёка ад ідэалу. Мне ледзьве хапала на каву ў полудзень, мы марылі пра кампутары, маючы адную толькі гаргару-друкарку. Але пайшла-пайшла пакрысе ў шырокі сьвет газэта з рыцарам у шыльдзе. Няма. Хуткі суд — забіта газэта. Другі — пакараны тыя, хто яе рабіў. А ўперад, цяжка ўзгадваць, наш слаўны (ат!) герб, наш збройны рыцар паляцеў кумільгом з урадавага гмаху... А сьцяг падзерлі на шматкі ворагі беларушчыны, пра якіх

калісьці трапна напісаў наш пясьняр. Вось такія сумныя гісторыі. Песьні жальбы, як у нас кажуць сёньня тыя, хто яшчэ здольны да самаіроніі.

Знаеш, яны потым накінуліся на бронзавую конную статую. Ну, ня з голымі рукамі, канечне. Хтосьці сказаў, што ня можа сапраўдная эўрапейская краіна ня мець коннага помніка. Зразумела, што свайму слаўнаму (халера!) рыцару, а не тмутараканскаму герою. Яны ламалі яму рукі, адпілавалі голаў, меч, нявечылі каня, трушчылі яму чыгуннай куляй ногі. Трафэі дзесь у іхніх кабінэтах — як сьцягі пераможаных войскаў. Мне чамусьці тады ўзгадалася хрэстамацыйная статуя Лаакоана. Ты ня памятаеш, яго тады канча задушыла тая гідра? Ці ён ачуняў? Рытарычнае, зрэшты, пытаньне.

А дарэчы: той апошні мой ліст да цябе, выбачай, я надрукаваў у сваёй кніжцы. Назва да цябе ня мае дачыненьня — «Лісты да хома саветыкуса». Я ведаў, што ў нас дюбяць пісаць «гома». Але ў гэтым разе «хома» гучала, так бы казаць, цяплей і болей у лацінскім духу, ці што. Бо з «гома» у нас пачынаецца іншае, вельмі распаўсюджанае сёньня слоўка, якое захоўвае ў мове зусім не нэйтральнае адценьне. Дык вось: большасьць нашых людзей — гэтыя «хомы». Але трэба пазьбягаць пагарды, бо, як сказаў адзін хітры палітык, народ не выбіраюць. Праўда, для адных такі народ — шчасьце, для іншых — згрызоты сумленьня.

Дык вось той ліст. На жаль, і тады было прынамсі кепскавата, пра гэта я табе і пісаў. Увесь час чорныя набрынялыя хмары, увесь час нібы на вулкане. Увесь час у прадчуваньні землятрусу, закалату палкоўнікаў. Сыходзячы, чужое войска закапала ў нас сваю бочку з порахам. Кожнага дня адчуваньне сябе ва ўнутранай эміграцыі. Памятаю, наракаючы гэтак, я цікавіўся ў цябе тады: калі ты будзеш пачувацца больш эмігрантам — напярэдадні далучэньня да Кітаю ці тады, калі гэтая няўмольнасьць зьдзейсьніцца?

Тое лета, калі вас далучылі да Кітаю, я правёў у Златай Празе, быў там па сваіх рэпарцёрскіх справах. Самае шчасьлівае лета ў маім жыцьці. І самае плённае: я

напісаў аповесьць, але гэта іншая тэма. Я сачыў па паведамленьнях інфармацыйных агенцтваў за набліжэньнем да кляйнотаў Ганконгу ўчэпістых рук камуністычных кітайцаў. Я хваляваўся за цябе. І спачуваў нават. Хаця мы былі ў такім жа злавесным становішчы. Прага стала для мяне глытком свабоды.

Свабода пачалася ў Празе. Потым прыйшлі танкі. Задушылі свабоду (Лаакоан?!). Але яна дзівам апрытомнела, вымкнулася з жалезных абдоймаў. Хваля дакацілася да нас. Але мы былі нават не каменюкаватым пляжам, а — шэрым няўтульным скалістым берагам. А яны там у сябе ў Празе абралі прэзыдэнтам пісьменьніка, які паміж радкоў гаварыў пра свабоду. Дакладна месяц таму ў нас у ПЭНе галасавалі, каб вылучыць яго на Нобэлеўскую прэмію. А я галасаваць не паехаў, я сядзеў у судзе, дзе людзей судзілі за вершы. І пасадзілі за краты.

Дружа Лі! Мяне заўжды ўражвала, што яны там у Празе маюць прозьвішча Свобада. Толькі яны. Іншая рэч, што менавіта генэрал Свобада ўпусьціў тады танкі ў Злату Прагу. Але яго можна зразумець у адным: ад танкавых абцугоў немагчыма было ўратавацца. Кроў адно магла замацаваць прагу да свабоды. Альбо, наадварот, спарадзіць паняверку. Зрэшты, бараніць свабоду ніколі не было зусім безнадзейнай, пагатоў шкоднай справай.

«Свабода». Так называлася падпольная газэта, якой ніхто ня бачыў, але якую пачаў шукаць я, калі яшчэ быў студэнтам. Шукаць, каб абудзіць у сэрцы і сэрцах думкі аб свабодзе. І мы дачакаліся яе. Сама яна была пекнай. Акалічнасьці ўзгадваць неабавязкова. Але яна трапіла ў рукі, якія прызвычаіліся душыць кожныя яе праявы. Вынік — сумнавядомы. Газэта «Свабода», празь якую мы імкнуліся дастукацца да сэрцаў, стала ахвярай. І нават мой сябра, які аддаў ёй сваё сэрца, таксама не жыве, памёр. Мне яго вельмі не хапае.

А сёньня... сёньня нас рыхтуюць да пажыцьцёвага праўленьня, слова «свабода» лічыцца замахам на дзяржаўны лад. Нас натхняюць прыкладам камуністычна-кітайскага панаваньня. Наш даслаў днямі вашаму

віншаваньні з нагоды пяйсят-і-пяцігодзьдзя чырвонага Кітаю. Нас заахвочваюць прыкладам Вялікага Стырнавога. Нагадай, будзь ласка, да якіх год ён дажыў і асобна кіраваў вашым мільярдам — да дзевяноста, да ста? Нашаму пакуль што — палова гэтага. Значыцца, у нас яшчэ ўсё наперадзе.

*2005*

# Не чакаюць ні варагаў, ні грэкаў...

Дня 11-га ліпеня сёлета ў першым ад мяжы эўразьвязаўскай нёманскім порце ў слаўным месьце Горадні прышвартавалася вараская ладзьдзя са старажытным імем «Сварог». І хаця ці ня сто гадоў не прыходзілі ў горад караблі, пагатоў з замежжа, на жыхароў гэта не зрабіла ніякага ўражаньня. Не зьдзівілі, мабыць, памеры дый выгляд архаічны. Але ж і ўлады не ступілі на прыстань, каб прывітаць мараплаўцаў, якія трапілі ў Нёман з Балтыкі, і нават хлеб-соль зь дзяўчынамі у фальклёрных строях не прыслалі.

Учынак мясцовага начальства інакш як дзіўным не назавеш. Бо толькі-толькі самая вярхоўная ўлада абвесьціла на ўвесь сьвет, што заманулася ёй аднавіць шлях з варагаў у грэкі, не чакаючы іх саміх і не пытаючы згоды на будучае падарожжа. Не інакш, мелася на ўвазе, што гэным варагам надакучылі «Скандынаўскія авіялініі» і яны пажадаюць на міжземнаморскія курорты езьдзіць шляхам сваіх незабыўных продкаў. І вярхоўная ўлада, не марудзячы, кінулася паглыбляць Аўгустоўскі канал, абвесьціўшы яго ледзьве ня «сталінскай будоўляй камунізму».

І ў гэты самы час у Горадню прыплывае сапраўдная вараская ладзьдзя, папросту дракар! Нельга ня зьняць капелюша адно перад нашымі слаўнымі памежнікамі, якія цярпліва чакалі на рачным-памежным беразе экзатычны вялікі човен. Зрабілі яны выгляд, што працы ў іх хапае, ладзьдзі, дракары караванамі ідуць з поўначы ў слаўны гандлёвы гарадзенскі град, ды спрактыкавана праштэмпелявалі пашпарты камандзе. Але сама каманда ведала, што ніякіх дракараў больш няма, і магла ўглыбках душы спадзявацца нават на банкет у гарадзкой улады,

якая ўсё радзей бачыць замежныя твары. Ну, ці хаця б на кветкі і савецкае шампанскае на прычале.

Дарма спадзяваліся сучасныя варагі на рэклямаваную беларускую гасьціннасьць, трапіўшы ў час усеагульнай пільнасьці ўладаў. Няпрошаным гасьцям далі зразумець, што іхні прыезд нагадвае несанкцыянаваную акцыю. Бо каб яны ўсьвядомілі дзе маюць апынуцца, дык павінны былі б за пятнаццаць дзён (і ні днём меней!) асабіста падаць уладзе заяву, што хочуць прыбыць у горад і масава высадзіцца на прыстані. А гэтага зроблена не было! Тады хай радуюцца, што не сустрэў іх заўжды гатовы беларускі «амон».

Канечне, можна яшчэ болей нацягнуць на сябе шкуру цяперашняй улады, каб уявіць яе думкі і матывы. Ну сапраўды, замест клясычных вікінгаў у рагатых шлемах і кальчугах, паводле паведамленьня памежнікаў, у ладзьдзі плылі ўладальнікі пашпартоў с старадаўнім гербом — трыгубіцай, з Пагоняй, з арлом у кароне ды пару сваіх беларусаў. Наперадзе мясцовы сьцяг з арнамэнтам (каб ня дай бог — не стралялі), ззаду — блакітна-жоўты. Але ж гэткага суседзтва менавіта беларуская ўлада зь ейных ног да галавы баіцца сёньня горш ад агню. Бо ў яе палахлівай галаве, нібы ў альхімічнай рэторце, зьмяшаньне блакітнай фарбы з жоўтай ператвараецца нечакана ў аранжавую! А аранжавага ўлада папросту лякаецца, нават недзе рыхтуецца рэскрыпт, каб забараніць пастаўкі цытрусавых у цытадэль антыаранжавых рэвалюцый.

У замежным нёманскім горадзе Коўне ладзьдзя з камандай стала гваздом сьвята ўгодкаў каранацыі караля Міндоўга. У месьце гарадзенскім, аднак, каралёў таксама як агню баяцца ня меней ад колеру апэльсінаў ды мандарынаў — уладзе ўсё цароў падавай, Іванаў Лютых, Іванаў Жахлівых. Вось, бывала, прыходзіла маскоўская навала, паліла горад, жыхароў у палон у любую для цяперашняга начальства Маскву забірала. Вось гэта ўгодкі, вось гэта сьвята! А як царыца захапіла Горадню ды цар потым губэрню зрабіў? Гэта папросту цымус для ўлады

гістарычны, яна яго гатовая смакаваць ды смакаваць, нарабіўшы каўбасы «губэрнскай» і гарэлкі.

Сьніць мясцовая ўлада начамі гурты замежных турыстаў, бо гэтак загадана са сталіцы — любым гвалтам іх сюды цягнуць і валюту зь іх вытрасаць. Але ўжо мала замежнікаў засталося, якія не баяцца наведацца ў краіну сталінскіх умацаваньняў, а хто не баяўся, ужо пачаў баяцца. Мала таго, што нядаўна несьвядомыя амэрыканцы візы беларускія пакуплялі, — яшчэ мусілі рэгістравацца, а не зарэгістраваліся — міліцыя і пакараньне. А наступным разам — у кайданкі! Але наступнага ня будзе, бо амэрыканцы распавядуць усяму Тэхасу і Каліфорніі пра рэклямаваную беларускую гасьціннасьць.

А тут гарадзенскай уладзе загадана вазіць замежных турыстаў па Аўгустоўскім канале, пачынаючы з наступнага году. Баюся, нагадваць гэта будзе славутую сталінскую будоўлю — Беламорскі канал. Уздоўж працягнуць калючы дрот, бо — памежная зона, а з гэтым у Савецкай Беларусі кепскія жарты! Хочацца і гарадзенцам на свой канал паглядзець, сядаюць яны ў машыны, едуць, а там іх сустракаюць доблесныя памежнікі і складаюць пратаколы, а потым цікаўных штрафуюць бязьлітасна, бо — памежная зона! Як у зоне разьвіваць замежны турызм — яшчэ болей незразумела — хіба што пад вартай, «пад канвоем», бо хто іх ведае — замежнікаў! Кожны другі можа быць шпіёнам!

І вычытала яшчэ мясцовая ўлада ў кніжцы пра Аўгустоўскі канал, што тамака перад апошняй вайною будавалася «лінія Молатава», і пачала ўлада летуценіць: чым молатаўскі «укрэпраён» горшы ад сталінскага, чаму б не аднавіць? Замежны турыст касякамі паедзе, адных матрошак ды ікры ўжо замала, каб прыцягнуць сэраў і містэраў. А спачатку пабудуем, зробім шоў з танкамі ды гарматамі і запросім дарагога галоўнакамандуючага, тым больш ён у апошнія выбары фарсіраваў Нёман на амфібіі якраз у раёне каналу ды лініі молатаўскай. І перамог!

Седзячы ў шкуры ўлады, пачынаеш міжволі падзяляць замежнікаў на сваіх і чужых. На поўначы — не свае,

натаўскія, на поўдні — таксама ў тым кірунку пхнуцца, ды яшчэ аранжавай заразай спрабуюць заразіць. Нам такіх ня трэба. Тыя, што на захадзе, зараз да нас самі не паедуць, бо дзеля чаго мы гэтак упарта і зацята душым Зьвяз нашых палякаў? Ну зразумела — каб тыя палякі сюды носу не казалі, не нанесьлі сваёй заразы натаўскай.

Складаная, вельмі нэрвовая служба ў мясцовай улады. Бо дзе ў такіх умовах браць замежнага турыста, плян па якім сталіца спускае зьверху? І раптам я раблюся відушчным па-ўладнаму: эўрыка! А фэст гарадзенскі нацкультур навошта, дзеля чаго? Дзеля гэтага! Дзеля свайго, бясьпечнага замежнага турыста! Узгадаў я вельмі дарэчы, як апошнім разам на адкрыцьці фэсту адзін цікавы армянін выклікаў замілаваньне і воплескі з боку ўлады, расказаўшы ў мікрафон, як, сустракаючыся з армянскім прэзыдэнтам, наш пахваліўся: у мяне ёсьць свае армяне, харошыя, маўляў, рабяты. Цяпер улада хоча зрабіць сваіх палякаў, украінцы некаторыя бадай ужо ёсьць, грэкі таксама, немцы, казахі і гэтак далей, нават карэйцы.

З заплюшчанымі вачыма, у шкуры ўладнай я пачаў марыць у патрэбным рэчышчы: урачыстае адкрыцьцё штучнай воднай артэрыі (у стылі кніжак пра Шуру Балаганава), на параходах вязуць уласных замежнікаў, ніхто не палохаецца варты, калючага дроту ды іншых абавязковых атрыбутаў зоны памежнай пад назвай «Аўгустоўскі канал», бо ўсе мы выйшлі з краіны сярпа і молата, усе мы з-за калючага дроту, з-за Жалезнай заслоны, а хто здолеў вымкнуцца з абдоймаў Вялікага брата, уцячы ад нашай дружбы народаў, той — ня наш... А ладзьдзю вікінгаў у гарадзенскім порце пагрузілі у фуру і павезьлі ў Берасьце. Начальства ўздыхнула з палёгкай: аранжавай рэвалюцыі пакуль удалося пазьбегчы.

*2005*

# Як беларусы
# пра кактэйль Молатава даведаліся

Суседзкі дзядзька Іван, які прайшоў з баямі да самага Бэрліна і скончыў сваю асабістую вайну проста ля Брандэнбурскай брамы, называў «сумесьсю Молатава» зьлітыя ў адную пляшку ці ў кантовую малянкоўскую шклянку рэштка напояў. Звычайна гэта здаралася пасьля вясельля, памінак ці любой іншай пагулянкі — карацей, калі нараніцу карцела пахмяліцца, а не было чым. Я цяпер падазраю, што і зь недапітых кілішкаў туды трапляла, у той «кактэйль». Ну, але дзядзька такога слова ня ведаў і адно часам называў сваю грымучую вадкасьць «наркамаўскім напоем», маючы на ўвазе бадай усё таго ж таварыша Молатава.

Рэцэпт гэтага «напою» бязь цяжкасьцяў можна знайсьці ў інтэрнэце, нават сайт адмысловы існуе (тс-с, ён у нас дагэтуль накшталт дзяржаўнай таямніцы, і называць складнікі — небясьпечна). Адзінае бяз рызыкі можна сказаць, што робяць яго пры дапамозе бутэлькі, кноту і корка. Гарыць надзвычай зыркім і гарачым полымем. Тысячаградусным. Пагасіць вадою немагчыма. Сумесь для бранятанкавай тэхнікі. Сёньня адкрыта гавораць, што гэта быў савецкі напалм. Адзіны знаёмы анархіст на памяць ведае рэцэпты розных гатункаў кактэйлю Молатава, ён яшчэ альхіміяй цікавіцца і прыгатаваньнем віна ў хатніх умовах.

А мне з маленства запомнілася з экскурсіі ў сталічны музэй вайны і на «курган славы», што ўпершыню бутэлькі з запальнай сумесьсю выкарысталі ў 1941-м годзе байцы Сотай (запомнілася, што менавіта з круглай лічбай) дывізіі генэрала Русіянава (прозьвішча таксама запамінальнае), калі спрабавалі абараняць Менск ад немцаў. Гаварылі,

што бутэлькі гэтыя моцна прыдаліся б абаронцам Берасьцейскай «крэпасьці-героя», але іх не пасьпелі давезьці з «гораду-героя» Масквы. Аказалася, што Сотая дывізія ўдзельнічала і ў «вызваленчым паходзе», гнала польскіх памежнікаў ад беларускай савецкай мяжы да літоўскай, яшчэ буржуазнай.

Значна пазьней даведаўся я, што ў тыя дні нібыта байцы «любоўна» назвалі «гаручку» якраз гэтым самым «кактэйлем Молатава». Хаця мне цяжка ўявіць, каб нехта наважыўся гэтак фамільярна абысьціся з прозьвішчам аднной са «сьвяшчэнных кароў» тадышняга Палітбюро. Назва гучала, можна нават сказаць, абразьліва. Дый хто зь іх мог ведаць, што такое «кактэйль»? Іншая рэч — самагон.

Дый сэнс, бадай, даруйце за калямбур, двухсэнсоўны. Атрымліваецца, што гэта «кактэйль», які Молатаў прыгатаваў для Рыбэнтропа, які аказаўся гэткім каварным ды няшчырым і не забясьпечыў выкананьня такога выдатнага пакту, дамовы аб мяжы і сяброўстве. Занадта складана, як на чырвонаармейца ў акопе, за пятнаццаць-дваццаць мэтраў ад злавеснага, жудаснага нямецкага танка. Нейкі чамадан з падвойным сподам. А камісары? Агітатары і прапагандысты? Палітуправа РККА? А сакрэтныя аддзелы розных НКВД? Яны што — мышэй не лавілі? Штосьці ня верыцца.

А можа НКВД было не да таго: у першыя дні вайны расстрэльвалі вязьняў сьпешліва, палілі дакумэнты, вывозілі скарб. Нямецкія танкі ды авіяцыя не давалі спаць у шапку. Дзесь праз тыдзень пасьля захопу Менску «дзяржкамітэт абароны» выдаў пастанову: змагацца з бранятанкавымі сіламі бутэлькамі з запальнай сумесьсю і дзеля гэтага павялічыць значна іх вытворчасьць. Гэтак адбыліся афіцыйныя народзіны кактэйлю Молатава.

Усё ж думаецца мне, для чырвонаармейцаў слова «кактэйль» безумоўна магло гучаць абракадабрай у лепшым разе і адмоўным буржуазным слоўкам з прысмакам заганнасьці — у горшым. Значна больш праўдзівым выглядае фінскае тлумачэньне — адкуль ўзяўся славуты «кактэйль». Молатаў абвесьціў савецкаму народу аб пачатку

вайны зь Фінляндыяй. А фіны пачалі паліць бутэлькамі з запальнай сумесьсю лёгкія савецкія танкі, якія выдатна гарэлі. Сьмешную назву для шкляных гранат прыдумалі заходнія журналісты, якія пісалі рэпартажы пра вайсковыя дзеяньні, седзячы у хэльсінкскіх барах.

Для беларусаў прозьвішча наркама Молатава асабліва зрабілася вядомым у 1939-м, які стаў для іх ураджайным на падзеі. Спачатку ў Беларусі Ўсходняй гвалтам сталі зьнішчаць узмоцнена хутары, перасяляць гаспадароў у вёскі, каб хутчэй выцкоўваць зь іх гаспадарскасьць. Хаты развальвалі энкавэдысты, камсамольцы ды іншыя актывісты, а складаць сьцены на новым месцы ніхто не сьпяшаўся. І каля нашай вёскі, дзе мае дзяды жылі, таксама некалькі чалавек пацярпелі. А тут яшчэ неўзабаве мабілізацыя пачалася. Патлумачу: я пра тое, як у Саветах забаяліся, што немцы раптам рушаць на Польшчу і да самых Стоўбцаў дойдуць. Потым, праўда, зь імі дамовіліся, пакт Молатава-Рыбэнтропа падпісалі, як вядома, ды ўздыхнулі з палёгкай.

Але народ тады зьлякаўся: з хатаў павыганялі, а зараз яшчэ вайна пачнецца, бо навошта інакш мабілізацыя? Прапаганда адносна немцаў і Гітлера была напярэдадні рэзка адмоўнай. Праўда, потым раптам за дзень усё зьмянілася, паведамленьні пра Германію напоўніліся саладжавасьцю і амаль замілаваньнем. Маўляў, Адольф Гітлер вельмі шмат зрабіў для нямецкага народу і навёў паўсюль парадак, а парадак павінен быць перш за ўсё. Дысцыпліна і парадак, як у дырэктыве нумар адзін. Простыя людзі вельмі ўдзячны свайму правадыру.

Дзядзька Міхей набаляваўся, праспаў доўга, захацелася пахмяліцца. А ў піўной пачаў лаяць, па завядзёнцы, фашыстаў, што не даюць спакойна выпіць, трымаюць у напрузе. Да яго кінуліся некалькі сэксотаў адразу: ты што плявузгаеш? Адольф Гітлер — найлепшы наш сябра. Ён — правадыр Вялікай Германіі! Газэт не чытаеш?! Боўдзіла! Вось так і заляцеў наш дзядзька Міхей, жартаў не пазнаўшы. Так, здаецца, зь Сібіры і не вярнуўся. Хаця хтосьці казаў, нібыта трапіў ён у штрафбат і кроўю змываў

сваю няўдалую памылку ў баях з войскамі СС. Дайшоў да радзімы фюрэра, да Аўстрыі, заўзята лаяў яго, а наконт самой Аўстрыі лічыў найлепш памаўчаць, надта ж яму там спадабалася.

Другі дзядзька — Аркадзь настаўнічаў пасьля Аршанскага пэдтэхнікуму. Настаўнікаў падчас мабілізацыі пачалі вельмі забіраць да войска, на камандзірскія пасады. Камандзіраў моцна не хапала, шмат перастралялі ў 1937-м. Ну, і яго ўзялі ды адразу — у вызваленчы паход. Тамака, у Заходняй Беларусі, яны і пазнаёміліся з будучай жонкай. Так што не было б 17 верасьня, не стварылася б яшчэ адной беларускай сям'і. У гэтым факце шмат глыбокага сэнсу, сымбалічнасьці. Хай мне даруюць нашыя нігілісты. І такіх сем'яў я ведаю нямала. Яны, можна сказаць, змацавалі беларускі народ у адзіны, не задумваючыся над тым, што выканалі гістарычную справу. Перамаглі, уласна кажучы, комплекс шасьціпаветнай Беларусі.

А потым дзядзька ўдзельнічаў у тым знакамітым парадзе ў Менску, які ня вельмі даўно зноўку стаў Мінскам. А пасьля параду ўлады наладзілі стотысячную дэманстрацыю працоўных. Столькі ж тады жыло ў самой сталіцы — дакладна сто тысяч жыхароў. А затым як «вопытнага» камандзіра дзядзьку Аркадзя перакінулі на Ленінградзкі фронт. Іх усіх паслалі на фінскую вайну. Маўляў, «абстраляныя» часткі, пораху нюхнулі, стрэльбы ў руках патрымалі. Так ён і застаўся у войску. Вярнуўся назад (пашанцавала, не загінуў і нават не абмарозіўся), ажаніўся. Яшчэ потым дзяцей нараджаў і ўнукаў дачакаўся.

Паўтаруся: гэны іхні шлюб для мяне асабіста вельмі сымбалічны. Зьядналі дзьве часткі, якія наўрад ці пры іншых абставінах сталі б адзінай краінай. Нібы сшылі суворай хірургічнай ніткай глыбокую рану. Праўда, мяжу трымалі да самае вайны. Дзоты, калючы дрот, памежныя заставы, вышкі, жаўнеры са стрэльбамі, прапускны рэжым, падазронасьць. Змацавалі шлюбнымі, сямейніцкімі повязямі. Зрэшты, масава адбылося гэта не адразу. Недавер, нават падазронасьць, дый як праз калючы дрот цалавацца, браць шлюб?

Чым не пазьнейшы Бэрлін, падзелены бэтонным плотам? Трапіць у другую частку можна было толькі са спэцдазволам, з запрашэньнем зь пячаткай. Як мы потым доўга і вельмі рэдка наведвалі закалючадротныя, хоць і братэрска-сацыялістычныя, краіны.

Аднойчы дзядзька Аркадзь бацьку майму ў лесе ў грыбах ня вытрываў, расказаў, як фіны спрытна палілі чырвонаармейскія танкі бутэлькамі з запальнай сумесьсю, як яны гарэлі разам з танкістамі. Ды як камісары мацавалі на соснах партрэты Іосіфа Вісарыёнавіча, каб байцы не маглі ўцячы і па-здрадніцку кінуць правадыра белафінскай ваеншчыне.

Пра такое пры Саветах толькі ў лесе і можна было пагаварыць. Ясна, што пра «кактэйль» ён тады нічога ня чуў, бо ня бачыў ніколі заходніх газэт на свае вочы. І добра, што ня бачыў, бо адразу заляцеў бы «за шпіянаж на карысьць буржуазных дзяржаў». Падазрона ставіліся да тых, хто ведаў замежныя мовы, а нават калі сваёй роднай беларускай карыстаўся, — ведаць дзеля добранадзейнасьці варта было адну. Як часам жартавалі тады, «мацерную».

Адзін мой знаёмы гісторык вельмі цікавіцца тымі гадамі і любіць расказваць, як на мяжу зь Фінляндыяй паслалі будучага маршала Куліка — ён кіраваў артылерыяй, якая павінна была абстраляць чырвонаармейцаў нібы зь фінскай тэрыторыі. Асабліва любіць гісторык нагадаць, як адна разумная кніга, названая «беларускай энцыкляпэдыяй», нядаўна напісала, што маршал Кулік «вызначыўся ў савецка-фінскую вайну». Маршала атрымаў Кулік за абстрэл сваіх памежнікаў, так бы мовіць, ад імя фінскай ваеншчыны і за гібель пяцёх чырвонаармейцаў. Але ўедлівыя фіны занатавалі ў журнале памежнай варты дакладны час, хуткасьць распаўсюджваньня стрэлаў, вугал стральбы вылічылі, вызначылі адлегласьць, напрамак і нават прыблізнае месца, адкуль стралялі гарматы маршала Куліка. Фіны нават афіцыйна паспачувалі чырвоным артылерыстам. Гэта разьятрыла наркама Молатава.

Саветы зусім не чакалі, што у фінаў надзейныя жалезабэтонныя ўмацаваньні, непрыступная «Лінія Манэргейма», аб якую абламалі зубы чырвоныя дывізіі.

Лінію абарончых умацаваньняў накшталт фінскай Саветам заманулася пабудаваць на захадзе новай беларускай тэрыторыі — прыблізна паводле прызабытай лініі Керзана. Але ні пораху не хапіла, ні часу — нямецкія танкі 22 чэрвеня прайшлі наскрозь гэтак званую «Лінію Молатава», абараняць якую даручылі Куліку. Але маршалу наканавана было застацца аўтарам адзінай удалай апэрацыі — «фінскай», ён апынуўся ў танкавым акружэньні пад Беластокам і з зайздрасьцю ўспамінаў фінскія «шкляныя гранаты».

Шчыра кажучы, я і сам канчаткова не разабраўся, ці сутыкнуліся з назвай кактэйлю Молатава нашыя людзі дзякуючы кіно, ці ведалі яе заўсёды, умелі ім карыстацца і даволі спрытна гэта рабілі. Каб адчуць хоць прыблізна кактэйльны смак ды паставіць кропку ў гэтым эсэ, я пайшоў у краму, памятаючы назальлівую газэтную рэкляму пра алькагольны напой з назвай «Кактэйль Молатава». «Няма больш», — адказвалі прадаўцы. Фіны за аўтарскія правы нібыта засудзілі вінзавод, і болей вашага «кактэйлю» ня будзе, здолелі патлумачыць у адной гарэлачнай крамцы.

*2006*

# Рымскае варэньне з Крэйдавых гор

Райскі куток на Нёмане з майго ранейшага жыцьця, ад яго засталіся адно ўспаміны... Рымскае варэньне. Яго смак пачаў забывацца. Так-так, зноўку мы не зрабілі рымскага варэньня, а ўзгадвалі. Каторы ўжо раз! Жыцьцёвыя абставіны складаюцца інакш, ты ня можаш хаця б проста набыць ягады, прынесьці з крамы цукру, стаць да пліты. Ня кажучы ўжо аб тым, каб паехаць у вашыя прызабытыя Крэйдавыя горы і нарваць дасьпелай жоўтай або чырванаватай алычы, як калісьці. Чакай да наступнага году, да будучага ўраджаю.

Ты мог хадзіць на Нёман хоць кожны дзень. Адзін час гэтыя праходкі адбываліся з Базылём, капучынавым катом, які ўпэўнена бег наперадзе, нібы які Рэкс. З таго часу засталіся радкі з маёй «Пагоні», перадрукаваныя ў кніжцы «Лісты да хома саветыкуса»: «Палеткі на ўзгорках, блакіт, лес, рака. Усе з сабакамі. Выгульваеце ката, прычым на павадку, адныя вы. Выгляд у яго надзвычай годны, а вочы — разумныя, як ня ў кожнага чалавека. Вы яго называеце «кот-сапіэнс».

Надвор'е вельмі няпэўнае: аблокі, сонца, парывісты вецер, «цяжарныя» вільгацьцю хмары, імжака, дождж. Калі ўзыходзіш на пагорак, бачыш адно ўзараную цёмную зямлю ды бруднае неба, узгадваецца карціна Фэрдынанда Рушчыца, якой ніхто з вас ня бачыў у арыгінале.

Часам вашага ката, нібы таго сабаку, як панясе па жоўтай колкай пожні! Ажно пяты мільгацяць. Ледзьве пасьпяваеш сьледам шырокім крокам бегма...» Мне падабалася пісаць спачатку ў адноўленай «Нашай Ніве», затым у «Пагоні», якую тады сам рэдагаваў, уласныя зацемкі — кароткія назіраньні за жыцьцём, якое імкліва зьмяняла-

ся, хацелася зафіксаваць, нібы фотакамэрай схопленыя з навакольных дзеяў ці з уласных — кадры.

Калі гуляеш са сваім катом у лесе, дзе расьце мноства нікому не патрэбнай алычы, чаму б не нарваць? У горадзе на вуліцах і ў дварах ураджай марнуецца, ніхто ня будзе дбаць аб ім. Уся рознакаляровая прыгажосьць апынаецца пад нагамі, нават чорны вінаград зусім не ў паўднёвым месцы гіне пад абцасамі. Адчуваеш эстэтычны жаль.

А як было файна вярнуцца з наднёманскага лесу са сваім хвастатым сябрам і з кошыкам той алычы, ды ўзяць кніжку Жукроўскага і пачытаць надзвычай утульныя старонкі пра дом у садзе, пра варку рымскага варэньня. Так-так, мы вычыталі пра яго ў кнізе, і нам гэта спадабалася, але мы не прытрымліваліся кніжнага рэцэпту: клалі што трапіцца — яблыкі, разынкі, дулькі. Фантастычна смачна з гарбатай ці кавай... Смак мінулых гадоў з прынёманскага ўрочышча Крэйдавыя горы.

*2007*

# Мэлянхалічныя лісты

## 1

На пачатку верасьня над адной установай зьявіўся раптам бел-чырвона-белы сьцяг. Побач на райвыканкаме матляўся афіцыйны сьцяжок. Беларускага не чапалі з тыдзень. І зьняты ён быў тымі ж рукамі, якімі вывешаны. Завадатар не стрываў сьлёзных умольваньняў свайго начальніка...

Адначасова беларускі сьцяг парушыў соннае жыцьцё Шчучына. Быў зьняты загадам начальніка мясцовае міліцыі як «незарэгістраваны».

А ў Лунне — на пажарнай вышцы сьцяг убачылі сёлета яшчэ на ўгодкі БНР. Правісеў з гадзіну. Дзядзькі лезьці адмовіліся, а штрэйкбрэхера, які гэта выканаў, потым пагардліва лаялі. Зараз на Лунненскім сельсавеце бел-чырвона-белы.

Апавядаў адзін знаёмец пра калгаснае сьвята песьні. 1974 год. Валожынскі раён. Сярод гледачоў стаіць дзядзька ды ўзіраецца зь непаразуменьнем на сьцяг, што над сельсаветам. Пытаецца ў суседа: « А чый гэта сьцяг?» «Як чый? Беларускі». «Не-э, — зь недаверам, — наш бел-чырвона-белы...»

Шкада, што мала было ў нас гэткіх дзядзькоў, але дзіва таксама, што яны наогул былі.

## 2

У палове верасьня БНФ сабраў мітынг. Люду, як на Горадню, скупілася прылікова: пяцьсот-шэсьцьсот чалавек,

можа крыху болей або меней. Пераважна, зразумела, мужчыны. Карцела выгаварыцца. Прамаўлялі трошкі лепш за ранейшае, але часам зноў шматслоўна, нудна і блытана.

Нават БНФ мусіць мітынгаваць каля ленінскай статуі. Да масіўнага пастамэнту прытуліліся сьцяжнікі зь белчырвона-белымі. Ззаду на будынку ўчорашняга гаркаму дрэвамі затуліўся прыгожы шрыфтавы вітраж з луду: «КПСС». Адзін час даўней надпіс у цемры нэонава сьвяціўся.

Была адна прамова па-польску.

Пры канцы вылезла кабета з клункамі. Паскардзілася на жаночы лёс, на чэргі. Потым раптам кажа: прачытала ў газэце пра балтыйска-чарнаморскі саюз, ды давай лямантаваць, што ня хоча жыць у адной дзяржаве з гэтымі літоўцамі і латышамі!

Да яе кінуўся натоўп разьятраных мужчынаў.

**3**

За плячыма Леніна, апроч гаркаму, спалучаны зь ім будынак колішняга Ленінскага райкаму. Райкамы ў горадзе не існуюць больш за год. Але на буфэтным мэню, якое мяняецца штодня, нязьменна надрукавана: «Буфэт райкаму партыі». Ядальня гэтая знаходзіцца ў паўпадвале. Тым самым камуністычная ідэя працягвае жыць у падпольлі.

**4**

Каля паўночы брыгада са старой пажарні на Замкавай вуліцы выехала гасіць пажар. Калі вярнуліся, убачылі на сьцяне сьвежы надпіс, зроблены з балёніка: «Польско, вруць!»

Наступная зьмена змываць напісанае адмовілася. Маўляў, хто праварані́ў, той хай сам гэта робіць. Надпіс праіснаваў з тыдзень. За справу давялося брацца намесьніку начальніка пажарнае часткі. Зь ягоных слоў,

мясцовыя грамацеі ня здолелі б гэтак слушна праставіць дыякрытычныя знакі і захаваць у першым слове форму звароту. Выснова: напісалі не свае...

У Беластоку бачыў таксама балёнікавы надпіс на муры: «Жыве Беларусь!» А побач па-польску: «По цо таке жыце?» Талеранцыя.

У каталіцкую вёску на Мастоўшчыне прыехаў сваяк з РП. Моцна падпіўшы, пачаў уголас марыць пра Польшчу «од можа до можа». Гаспадар, ляснуўшы па стальніцы кулаком, мовіў да таго: «Я табе, тваю маць, пакажу Польску!» І такое здараецца.

## 5

У панядзелак даведаўся, што па-над гарвыканкамам узьвіўся Дзяржаўны бел-чырвона-белы сьцяг. Нешта перашкодзіла схадзіць паглядзець. Назаўтра ішоў дождж. Толькі трэцяга дня я стаяў на Савецкай вуліцы пад дрэвам і, начапіўшы акуляры, узіраўся ў наш сьцяг. Потым спыніўся каля Ленінскага райвыканкаму, ізноў узіраўся. Уразіла, што болей ніхто з процьмы мінакоў ня ўзьняў галавы. Абыякавасьць? Нармальнасьць? Або папросту людзі нашы — ні да рады, ні да звады.

## 6

Быў на сходзе ў школе, дзе ўзбунтаваліся бацькі. Не жадаюць беларускага навучаньня для сваіх першаклясьнікаў. Прадстаўнік гарвыканкаму рабіў экскурсы ў гісторыю, спасылаўся на прыклад нарвэжцаў, якіх прымусам адвучылі ад швэдзкай — акупацыйнай — мовы і якія жывуць ня горш за беларусаў... Слухаць яго ня дужа хацелі. Тады яму давялося скончыць: школа будзе беларускай паводле закону, не падабаецца — зьвяртайцеся ў суд...

Як я заўважыў, часьцей гавораць тыя, каму сказаць няма чаго. Найбольш лямантаваў нейкі рабацяга. «Ды

вы самі мовы ня ведаеце. Паспрабуйце, як Пазьняк, чыста гаварыць!.. А хто з вас (з начальства) ведае, як будзе па-беларуску “Раўняйсь! Сьмірна!”?» Ён штораз пры гэтым нагадваў: «Я паляк, але я не хачу польскай школы, я патрабую рускай!»

Непадалёк для дзяцей вайскоўцаў зрабілі ажно дзьве расейскія школы. Наш паляк, вычарпаўшы ўсе аргумэнты, выгуквае апошні: «Там палкоўнікі, маёры. Цывілізацыя! А як ты рабацяга, дык вядзі дзіця ў беларускую!..»

Напісаў я пра гэта справаздачу ў газэту, назваўшы «Чым мы горшыя за палкоўнікаў?». Здарыўся казус. Калі надышоў час падпісваць газэту да друку, заўпарціўся... цэнзар.

Цэнзура, як вядома, у нас больш за год як «скасавана». Таму цэнзар вычытвае газэтныя нумары, адно не прыціскае сваёй пячаткай, як раней. Такім чынам, цэнзар загадаў замяніць загаловак. Інакш, маўляў, у якім-небудзь цэрэу даведаюцца, што ў нас ёсьць палкоўнікі. Згадзіліся на кампраміс. У тэксьце перад словам «палкоўнікі» удрукавалі «адстаўныя». Страна чудзес.

Мне, аўтару, нічога не было вядома.

**7**.

Адная кабета езьдзіла ў Смаленск да апанэнта свае дысэртацыі. Смаленчукі нецярпліва чакаюць, калі іх далучаць да Беларусі. Хоць пад’есьці можна будзе, кажуць... Ня толькі, аказваецца, на Курылах сэпаратысцкія настроі.

**8**.

Знаёмы мастак, абураны тым, што гаёк побач зь яго лецішчам ператварылі ў сьметнік, панастаўляў тамака шыльдачак: «Памятай! Лес — ня сьметнік!» І падпісаў: «БНФ». Кажа, што цяпер нібы сьмецьця ня кідаюць.

## 9

Ехаў цягніком. Побач адбывалася размова на тэму «Ці падслухоўваюць? Падслухоўвалі і падслухоўваюць!». Часам усё было падобна да показкі. «Таварыш маёр (у радыёдынамік або кратку вэнтыляцыі)! Прынясіце, калі ласка, нам па кубачку кавы (гарбаты, па сто грамаў і г. д.)». Аднак адзін аповед запомніўся.

Некалі ў віленскім рэстаране «Нерынга», дзе паўнютка бывала замежнікаў, служыў адзін чалавек. У ягоных абавязках было сядзець у зале, піць каву, моцныя напоі, закусваць, ну і, зразумела, мець вушы тырчма. Штодня яму з казны выдзяляўся на гэтыя мэты чырвонец. Немалыя грошы, як на той час, а калі яшчэ і сваіх дадаць... Жыцьцё — што таму сыру ў масьле.

Той чалавек неўзабаве сьпіўся.

## 10

У палове 1970-х служыў у сталіцы ў войску адзін мой сябрук. Днямі ўспамінаў, як іх прыгналі ў сувораўскую навучальню, каб зрабілі ў муры браму. Далі ў рукі мэталёвы кій. Ён дзёўб падмурак і ўбачыў цагліну з кляймом «Менск». Паказаў камандзіру. Той у непаразуменьні зьвярнуўся да нампаліта. Нампаліт кіем, цаляючы ў літару «е», сам асабіста раструшчыў цагліну з надпісам як ідэалягічна небясьпечную.

## 11

Езьдзілі ў Вільню на пахаваньне Зоські Верас.

Шафёр вясковага аўтобусіка, які нас вёз, прызнаўся, што ўпершыню за мяжой. Але на віленскіх вулках кіраваў зухава.

Хтосьці побач сказаў, што яна ляжыць у труне на баку, нібы заснула.

Пасьля пахаваньня мы скіраваліся на гарэлішча ў лесе, дзе была хатка пісьменьніцы. Смутнае відовішча. Нібы ніхто пасьля пажару тут і ня быў. Друз кафлянае грубкі. Збуцьвелыя нямецкія кніжкі. Мы выбралі кафляў, адшукалі дзьве патэльні, серп. Для Гудзевіцкага музэю.

Знайшлі студню з дажджавой вадой.

Выпілі гарэлкі. Захмялеўшы, нехта прапанаваў: давайце закапаем парожнія бутэлькі, а праз год прыедзем і адкапаем... Ёсьць яшчэ дзівакі. Але вярнуцца пагадзіліся. Каб прымацаваць памяткавую шыльду.

На дарогах у Летуве расейскія надпісы замаляваны. На беларуска-літоўскай мяжы мэталёвыя літары «Литовская ССР» даўно сьпілавалі самі летувісы, а новага надпісу дагэтуль няма. Беларусам, зразумела, усё адно. Дзякуй, вядома, за своечасовую праўку тэксту — са свайго боку летувісы зрэзалі на шыльдзе «Белорусская ССР» дзьве вялікія «С». А можа, пакуль адныя адных чакаць будуць, дык і надпісы не спатрэбяцца?..

## 12

Днямі завітаў сябрук-літаратар. Больш за год як зьехаў ён да сталіцы, жадаючы аднаго — пісаць. А зрабіў тамака дагэтуль адно-адзінае апавяданьне. Відавочна, што ў сталіцы натхненьня не заўжды досыць.

А калісьці мы зь ім езьдзілі да яго дадому, на рачны млын, пілі собскае, з чорнага мясцовага вінаграду, віно, закусвалі духмянай вясковай вяндлінай... Нічога гэтага ў Менску, напэўна, няма.

*1991*

# Ёгурт Штэфі Граф

## 1

Дык што, калі яна амаль як Штэфі Граф? Жаўцюткае пісклянямячык падбівае й рубам, і тронкам, і гэтак, і так, і наадварот. А я вось да тэнісу ня здатны. Дык і што?! Сячэ ёдкі зімовы дождж. Бязгода. Кіргізы хаваюць у чэравах аўтабуданоў паўднёвую садавіну, дыні, кавуны. Два палякі едуць па мокрым асфальце на «Палянэзах», запаліўшы фары. Каля рэдакцыі пахаваліся пад дах рабочыя. Пабудавалі аднапавярховы дом. Будзе нібы хатні музэй генэрала. Сьмеху варта. Ён нарадзіўся побач. Усе пра гэта ведаюць. На тым месцы паставілі рэдакцыю.

На трэцім паверсе трапіш на каву, рэдкую сёньня, і знойдзецца раптам забытая ўсімі шклянка, для цябе. Яны захапляюцца нямецкімі цыгарэтамі. Пачак на стальніцы, на грымзолях якогась празь меру пісучага чытача. Для цябе далікатна прачыняюць палову акна. Размова — размова за кавай... Дзвынкае тэлефон.

## 2

Доўга важдаешся з замком-зьмейкай.

У аўтобусе для цябе пустуе месца. Пашыраеш адваротам далоні кругагляд у запацелай шыбе, чаго амаль ніколі ня робіш. Быццам абсяжнымі рухамі нават ня пэндзля, а квача акрэсьліваеш, змыўшы смугу, аляпісты малюнак царквы. Спалучэньне колераў: жоўты, зялёны, сіні, брудна-брунатны.

Ня вельмі прыгожая Штэфі рэклямуе ў тэлевізары ёгурт.

Кандыдаты ў польскі Сойм ганяць канкурэнтаў ды нахвальваюць сябе. Самыя кемлівыя выстаўляюць пекных дзяўчат, каб казалі, за каго будуць галасаваць. Нейкі іхні Кашпіроўскі дзеля Партыі зялёных уплывае на гледачоў ківамігамі, рачыць вочы. Міжволі зважаеш на белы ягоны гальштук на чорнай кашулі.

**3**

У рэдакцыі засталося два рулоны паперы. Якраз на адзін нумар. Нейкая экспартная. Бэрлінскі стандарт, а для нас — завузкая (як з рэйкамі чыгуначнымі). Будзем звужаць у друкарні старонкі, калі патрапім. Эўропа, здаецца, гэтак блізка...

**4**

Прыходзілі тэлемайстры. Напачатку разглядаліся: Пагоня, партрэт Міндоўга, друкарка, безьліч кніжак. Але зьбянтэжанасьць не перашкодзіла ім таптаць сваімі бруднымі ботамі мой кілім.

Маю знэрвованасьць паступова перамагло задавальненьне, зь якім пасьля прагледзеў каляровае падарожжа па краінах сьвету. Цёплае Міжземнае мора, туніскі пляж, пальмы, ашаламляльныя дзяўчаты.

Потым паказвалі Дучэ. Ён сказаў, захапіўшы Альбанію, што гэта даўнейшая рымская тэрыторыя. Фюрэр раўнаваў да яго, бо быў усяго пасьлядоўнікам. Макароньнікі аказаліся кепскімі жаўнерамі. Расстралянага Дучэ павешалі за ногі партызаны.

## 5

Прыехаў пасьля працы дахаты. Не стрымаўся, улез у ложак. Зьмежыў вочы, у галаве шумеў горад: вулічны натоўп, сьмярдзючыя аўтобусы, вялізазныя чэргі. Пад акном шасьцелі прыглушана машыны, у лазьніцы празь сьцяну гудзеў чыйсьці няспраўны кран. Нехта развучваў гамы на піяніна. Я заснуў.

## 6

Раніцай на прыпынку. Вераб'і скочуць у дробныя хмызы, блытаюцца, куляюцца ў гольлі. Ці ім там цяплей? Ківаючыся сярэдзінай, нібы вусень, пад'ехаў расхістаны падвойны аўтобус.

На прыпынках уваходзяць мала не адныя кабеты. Ці толькі ім дазволена спазьняцца?..

Стаімо. У запацелай шыбе цьмее чырвонае вока. За плотам у загарадцы паныла стаяць шпэтныя змарнелыя зубры. На кожнага па дашчанаму будану й па колькі квадратных мэтраў гразкае гарадзкое зямлі. Нібы нашыя хрушчоўскія клеткі. Заапарк. Нямытыя нячэсаныя бароды. Пушчанскія ўладары.

Побач з гатэлем легкавікі з расейскімі нумарамі. Дахі асмужаны бялюткай шэранью. Подых зімы. Праехала наперад машына. На тыльнай шыбе хтось вывеў пальцам шасьцікутную зорку.

## 7

Каляжанка прынесла табе «Ляліту», якую табе не захацелася чытаць. Зацяплілі ў рэдакцыйных памяшканьнях. Кіргізы на пляцы пакінулі па сабе грудкі гнілізны.

## 8

Гістарычная канфэрэнцыя. Украінскі калега на апошняе пасяджэньне прыйшоў зь вялікім заплечнікам. Пэўна, з таварам? Праваслаўны сьвятар усё паўтарае: уладыка сказаў, уладыка гаворыць...

## 9

Амаль усе дрэвы дазваньня згалелі. Нават вярба каля дзьвярэй у дом, заўжды самая апошняя, — жаласна-жоўтая. А лістота вішні дагэтуль зялёная. На сьцяне пад самым маім акном вырасла галіна гарошніку-акацыі, таксама захавалася яшчэ лісьцейка, грэецца ад мура.

Дзе я заўжды чакаю ранішняга аўтобуса — голая ашчацінелая груша-дзічка. Не падступіцца. Ад каго яна бароніць свае жорсткія каляныя дулькі? Яны самі абсыпаюцца, нікому не патрэбныя.

Дубкі нібыта ўсё жыцьцё шасьцяць лістотай зь мядзянае бляхі. Яны адныя, апроч гольчатых, зімуюць у шатах, аблятаюць недзе напрадвесьні. Гэтай хвілі ніколі ня можаш зьмеціць.

## 10

На самотны ліхтар насупраць акна прыляцеў вялізны груган. Ледзьве не адзіная птушка, якая не пакідае ўзімку поўнага недаедкамі гораду.

Субота. Назіраў, як пад акном трое пілі проста з рыльца, заядалі лёдамі. Чытаў.

Уначы глядзеў польскі фільм жахаў. XIX стагодзьдзе, панская сядзіба, занядбаны сад, у глыбіні — нежылы палацык, вялікі партрэт пекнай маладой жанчыны з дэманічным поглядам і агнёва-рудымі валасамі. Паляваньні на дасьвецьці з выжламі, сельская эротыка, розныя жахі, ксёндз.

У нядзелю хадзіў праз пагоркі й лес да Нёмна. Заўважыў для сябе навіну: пачынаеш любіць усякую прыроду, у любую пару. Бачыў запозьненую кветку, доўга разглядаў вялікі чырвоны глыжань у збуцьвелай траве. Бянтэжыла нязвыклая цішыня. Зь лясных сялібаў не чуваць было ані сабачага брэху, ані бадзёрых пеўняў. У горадзе няма яек.

Нёман крыху паваднеў, зноў увабраў у сябе статкі камянёў, якія пасьпелі пагрэць свой раматус у часе посушнага плыткаводзьдзя. Я спусьціўся са стромага берагу. Скальцаваная прыбярэжная крынічка, здавалася, не паказвала знакаў жыцьця — папросту стаялая вада. Але ледзь заўважна яна жыла.

## 11

Раніцай узяўся за галяк, якім карыстаюся вельмі рэдка. Безьліч разоў параніўся. Белы шум чамусьці высыхаў на сківіцах і аблятаў клапцямі. Як той казаў, панядзелак.

Пасьля рэдакцыйнае плянёркі, каб неяк палепшыць гнюсны настрой, апрануўся, замкнуў пакой і ступіў у золь, каб пашукаць дзе кавы. Марна.

Нават у соннай пасьля выхадных кнігарні было сумна і нецікава.

Выйшаў на ганак. Насупраць, на траўніку, спароўвалася гайня сабак, вялікіх і малых, беспародных. Спыніўшыся, рагаталі падшпаркі. Міма сьпяшаўся люд. Пачало прыкра імжэць.

## 12

Хадзіў паглядзець. Зялёная тэнісная пляцоўка засыпана жоўклым лісьцем. На кратчатай брамцы замок. Да цяпла. Я стаяў і глядзеў на шархоткі заўжды зялёны славуты аўстралійскі «супэр-грас». Было сумна, але сыходзіць не хацелася.

Побач у крамцы ўжо месяцы са два вісіць на цьвіку ракетка «Голдэн стар». Задорага.

Увечары чакаў у тэлерэкляме Штэфі Граф. Белая сетка. Плаўны ўзмах рукой, адбіты жоўты мячык адлятае. Дзеці смакуюць лыжачкамі ёгурт. Зьбянтэжаная несамавітая ўсьмешка Штэфі. Яна на мігах запрашае мяне пакаштаваць смачнага ёгурту.

## 13

Дах легкавіка абсыпала лісьцем. Разьбіты вулічны ліхтар. Глухі мур камяніцы. Старэчае, абляцелае ўжо гольле плюшчу. Нібы зьвіўкі жылаў або парэпанае карэньне, выстаргнутае зь зямлі.

Сьцюдзёна. Пляц спусьцеў. Апошнія кіргізы зьехалі. Няма болей сьпелых жоўтых дыняў. Журботна.

Стаяў у склепіку па шклянку кавы, скончылася перада мной. Кажуць, Саветы не закупілі кававых бабоў. Капцы. Хоць бы якой віетнамскай зноў назапасілі... Кепска будзе. Мужчыны па вёсках пачалі сеяць тытунь. Хіба сушыць улетку цыкорыю ды малоць зь якімі жалудамі.

Па радыё амэрыканскі прэзыдэнт сказаў, што калі зараз дапамагчы расейцам, наступныя пакаленьні людзей змогуць жыць без вайны. Чуў, што сёлета расейцы амаль палову бульбы ня выбралі з ральлі. Гэткіх ніякая Амэрыка не накорміць.

## 14

Недзе зялёны дыван тэніснае пляцоўкі палівае напалову зімовы дождж.

Штэфі Граф паказваюць усё радзей.

Коба Абэ апавядае пра сваё захапленьне фотаздымкай. Сапраўды, найлепшая пасоба для дакладнага ў драбніцах апісаньня краявідаў — іхняя фотавыява.

## 15

Галалёд. Дбайна падае дождж. Каля высокіх сходаў Малой базылікі купка шчырых беларусаў ніяк не павялічваецца, хоць час ужо распачынаць другі Сойм БКГ. У сэнсе масавасьці ўся надзея на менчукоў. Нарэшце. Рукаемся з хлопцамі. Адзін адказвае на маё прывітаньне словамі «Слава Ісусу Хрысту». Аказваецца, ксёндз.

Касьцёл. Высокія скляпеньні. Шэрагі апосталаў і эвангелістаў. Хрыстос. Алтар сьв. Казіміра з выявамі дзеячаў Вялікага княства. Россыпам вугольля цьмеюць электрасьвечкі жырандоляў. У акне на цяжкім шэрым тле неба — чырвоны крыж.

Абзываюцца арганы, ззаду — на хорах — спрабуе галасы дзявочы хор. Раптам штось пачынае бразгаць, валіцца. Гэтак заўжды ў «польскім» касьцёле, калі чуецца беларускі голас. У нагох дзьмуць скавышы. Нехта разносіць беларускія касьцельныя сьпеўнікі.

## 16

Адкрыцьцё выставы беластоцкага мастака. Малюнкі вугалем — драпежныя лычы, пысы: дзікі, шакалы, ваўкі. Безьліч моладзі, пекных дзяўчат. Прамоўца незразумела ўсхваляваны, блытаецца, ужывае расейскія ды польскія словы. Паляк у адказ гаворыць роўна, гучна й спрактыкавана. Пасьля словаў — навіна: келіхі і кілішкі. Кулюары. Шампанскае выпіта, а гарэлка засталася.

## 17

Беларусы на выбарах у Польшчы прайгралі. Аднак паказалі, што яны маюць рабіць падобныя справы самі, як і немцы. Украінцы, славакі ды летувісы выступалі на выбарах супольна.

## 18

За акном праплывае завэдзганая скрыня 20-га аўтобуса. Каламутна-шпітальнае сьвятло, нібы напаўжывыя пасажыры бачаць мяне, як я пад лямпай схіліўся над друкаркай. Устаю, каб зьнішчыць у акне ўсё, што яно хвора мне прапануе.

У кэрамічным кубку гусьне, высыхаючы, кававая гушча. Спачатку кубак курэў парай — найлепшая хвіля! — потым я крыху адпіў, палячы вусны, паставіў яго назад у спадак, паглядзеў: вышэй — кропелькі вады, быццам пацерынкі поту, ніжэй няроўным паскам — каўны шум — прыкметы якасьці, у сподзе — брунатна-чорнае люстэрка. У ім гарача вагалася жоўтая пляма сьвятла, у якой зырка цьмела крывуліна вітунічкі. Гэтак у яйку прасьвечвае зародак.

Кава выпіта, рабаты спод пакрыты сетніцай рыпінак.

## 19

Расейцы капрызьліва-нахабна патрабуюць ад Амэрыкі і Эўропы каўбасы. Уключыў аднойчы іхні тэлеканал. Рэкляма біржаў. Агрэсіўная, крыклівая, прымітыўная. Мой тэлевізар, нібы адчуваючы настрой гаспадара, паказвае іх найгорш. Расея або якая Манголія. Тугрыкі, Вялікі Хурал, Чайбалсан, мангол шуудан. Экзотыка. Але можна абысьціся і безь яе.

## 20

Напэўна, ёгурт скончыўся. Увесь прадалі. Штэфі Граф болей не паказваюць. Я йду на кухню і наліваю сабе шклянку заўчорашняга кефіру. Кажуць, гэта штосьці падобнае да ёгурту... Узімку тэнісісты спартуюцца не на корце, а ў прасьмерджаных кіслым потам залах. Штучную траву «супэр-грас» засыпае сьнегам.

## 21

Даўгая кішка гарадзкога аўтобуса. Сто рук (у фашыстоўскім! ці рот-франтаўскім? прывітаньні) трымаюцца за парэнчы, упіраюцца ў столь і шыбы. Кайданкі наручных гадзіньнікаў, матава сьвеціцца рукаво дэрмацінавага паліто. Нехта пазяхае, не прачыняючы рота: пукацяцца шчокі, сутаргава ўздымаюцца скрыльцы носа. Ківаецца голаў п'янога, якога ўсадзілі на саступленае месца. На прыпынках праз расшчымленыя дзьверы — або па-сьмешнаму саскокваюць, або няўклюдна сыходзяць, як калекі. Ледзьве цьмеюць лічаныя лямпачкі. Тварамі пасажыры моцна нагадваюць капачоў, якія, змардаваныя працай, бязмоўна ўздымаюцца на паверхню з чорнае студні вуглёвае капальні. На вуліцах гэтак жа змрочна (ліхтароў знарок не запальваюць), таму часам здаецца, што аўтобус пхнецца тунэльным лябірынтам. Блікі асьвятляюць часткі твараў, кожным разам асобныя. Смуроднае паветра трапляе аднекуль звонку. Накшталт перасоўнай душагубкі.

## 22

Памёр Фрэдзі Мэркуры. Я слухаў «Багемскую рапсодыю», піў азэрбайджанскае віно. Ноччу глядзеў памятны канцэрт. Прадстаўляў нябожчыка Э. Джон, што можна было ўявіць сабе.

Пабачыўшы і пачуўшы раскладзены на галасы «Саюз нерушымы», адчуў нарэшце, што яму сапраўды капцы. Калі нейкая дзеўка выводзіць «па-а-артыя-а Ле-е-еніна» і г. д. — саветыкусам гэта як сярпом...

## 23

Людзі купляюць сідар, хутка Новы год.

## 24

У горадзе сёлета ўпершыню разам з груганамі зазімавалі і бел-чырвона-белыя. Пабольшала і беларускіх шыльдаў. Нават — «Гарнізонны ўнівэрмаг».

Уначы, таксама ўпершыню, на тэлеэкране неспадзявана прагарцавала Пагоня. Гэтак распачаўся новы год. Назаўтра казалі: і плюмаж недарэчны, і кампутарная выява, і «вершнік без галавы»... Не, хутчэй ён нагадваў караля Стаха.

*1992*

# Скептычныя абразкі

**У апошні раз…**

7 лістапада каля ленінскай статуі не было прымусовага тлуму. Купка абласное намэнклятуры — паводле старой звычкі — паклала да груваcткіх чаравікаў свайго стода традыцыйныя гвазьдзікі. Цікаўна, што гарадзкое начальства ў гэтай надзіва сьціплай цырымоніі ўдзелу ня брала, затое былі два ці тры генэралы. З гэтае нагоды па-над апячатаным гаркамам віселі сьцягі колеру пралітай крыві.

**Звышканспірацыя**

Як таямніча паведаміла польскамоўная абвестка у Фарным касьцёле, 10 лістапада мела адбыцца ўрачыстасьць з самадзейным канцэртам з нагоды «угодкаў незалежнасьці», але якой — не паведамлялася. У прызначаны час сабралася з тузін гледачоў, аднак ніякае ўрачыстасьці яны не дачакаліся. Канцэрт адбыўся 12-га. Такім «падпольным» чынам у нас было адзначана 73-годзьдзе адраджэньня польскай дзяржавы.

**Зблыталі адрас**

У другой палове месяца места меўся наведаць швайцарскі танцоўны тэатар «Ракаса». Афішы чырвона паведамлялі: «Упершыню ў Расеі!» Далей пералічваліся адрасы гастроляў: Санкт-Пецярбург, Горадня (?!), Менск!!! Вядома, у маленькай Швайцарыі, мажліва, нічога ня чулі пра нашую Беларусь. Можна дараваць абразу замежным невукам. Рэч, аднак, у арганізатарах гастроляў — нейкай «міжнароднай» асацыяцыі, пра адрас якой няцяжка здаўмецца.

**Валэнса ў заапарку**

Самайронію, досьціп і добрае вучнёўства выявілі нашыя суседзі палякі, стварыўшы сваё «Мапэт-шоў» — лялечную тэлечародаўку «Польскі заапарк». Адрозна ад брытанскай, праграма выразна палітычная паводле складу лялек. Валэнса — разважны нетаропкі леў (жонка Дануся — мышка), Мазавецкі —чарапаха, Бальцаровіч — зь нязграбнай храпай конь у акулярах, Бялецкі — рысь, новы прэм'ер Альшэўскі — каала, ген. Ярузэльскі — даўгадзюбая птушка ў чорных акулярах, Курань — чамусьці зялёны бэгемот, кіраўнік лявіцы (і разам абаронца беларусаў) Цімашэвіч — шакал. Новыя чародаўкі выходзяць у эфір штотыдзень. Праграму вазілі ў Амэрыку. У Беластоку квіток на яе каштаваў 40 тысяч злотых.

**Жніво імя Багдановіча**

Апошняй перадпутчавай і, напэўна, наогул апошняй пастановай Лідзкага райкаму быў надзвычай патрыятычны дакумэнт. 17 жніўня былі падведзены вынікі працоўнае вахты-жніва у гонар 100-годзьдзя з дня нараджэньня М. Багдановіча. У пастанове былі названы лепшыя камбайнэры, трактарысты, шафёры, якія вызначыліся на жніве. Цікава, як без райкаму адбудзецца сёлетняе жніво і ў гонар якога літаратурнага клясыка будзе жаць збожжа пазбаўлены стырнавога народ?

**«Абгрызены» крыж**

Скандал адбыўся на старых праваслаўных могілках у Горадні падчас асьвячэньня помніка на магіле маці М. Багдановіча. Праваслаўны сьвятар, які мусіў адслужыць набажэнства, абурыўся: выяву крыжа Эўфрасіньні Полацкай на гранітнай брыле ён назваў блюзьнерскім парушэньнем праваслаўнага канону, а сам крыж — «абгрызеным» (адзін бок яго ня быў выразна акрэсьлены). Непрыхільнымі паводзінамі сьвятара абураны нават праваслаўныя. Калі быў парушаны канон, лічаць яны, пра гэта трэба было сказаць далікатна і ня ў час службы.

**Дзе нобэлеўскія ляўрэаты?**

Знаёмы мытнік заўважыў яшчэ ўлетку першыя запісы ў дэклярацыях у графе «краіна сьледаваньня»: Беларуская Рэспубліка. Асабліва ахвотна ўпісвалі гэтыя словы беластоцкія беларусы, а таксама некаторыя палякі. Адзін знаёмец гасьцяваў напярэдадні Новага году ў Беластоку. Вяртаючыся, па звычцы ўпісаў у дэкляарацыю: сьледую ў СССР і з сорамам заўважыў, як паляк побач упісаў «у Рэспубліку Беларусь». Ён апавядаў, як на прыватках адзін з палякаў (зь беларускім, праўда, прозьвішчам) прыхільна выказваўся пра Беларусь і беларусаў. Іншы зьдзекліва пытаўся, называючы польскіх ляўрэатаў Нобэля, што гэта за край такі і колькі беларусы маюць нобэлеўскіх уладальнікаў? Адказваць не было чаго. Нават аб пасьледках вылучэньня на літаратурную прэмію Нобэля В. Быкава (дарэчы, быў ён вылучаны ў Беластоку і Рыме) нічога невядома. Няма дзяржавы, няма і ляўрэатаў.

**На Трафальгар-пляцы**

Падзарабіўшы музыкай на вясельлях, гарадзенскія хлопцы нейкім чынам трапілі ў Лёндан. Гралі на вуліцах, у падземных пераходах. Дагадзілі нейкай фінцы фінскай полькай, прыняў за сваіх расеец. А потым найдасьведчаны зь іх прапанаваў пашукаць беларусаў: павінны быць таксама. У адной царкве ім паведамілі адрас. Патрапілі яны да сваіх вельмі дарэчы — на сьвята. Размаўлялі гаспадары ўсе чыста па-беларуску, і іхнюю расейскую гаворку разумеў ня кожны, а можа, ня вельмі хацеў. Мінула крыху часу, і музыкаў, якія вярнуліся, пацягнула зноўку да сваіх, у Лёндан.

**Наш сындром**

У адным з райцэнтраў гасьцявала сям’я зь Вялікабрытаніі. Не былі на Бацькаўшчыне ад пасьляваенных часоў. Дома размаўляюць, натуральна, па-ангельску. Дачка вывучала францускую філялёгію ў Парыжы, а зараз у Кіеве вывучае расейскую мову. Ад беларушчыны ў іхніх сэрцах не засталося анічога. Яны і сваё прозьвішча лічаць польскім, а ў нас яно беларускае.

**Беларуска-эспэранцкая шыльда**

Побач з турмой на вул. Маркса, 5 у Горадні прыпетавалі чорную шыльду ў дзьвюх мовах — беларускай і эспэранта. У ёй паведамляецца, што ў гэтым будынку ў 1893—97 гадах жыў вынаходца штучнай мовы эспэранта Замэнгоф. Звыклым да імя Людвіг у навіну яго сапраўднае — Лазар ды яшчэ Маркавіч. Падобная шыльда вісіць у Беластоку на вул. Варшаўскай, дарэчы, насупраць сядзібы БГКТ. А нарадзіўся Замэнгоф у Варшаве.

**У «Кляштары» няма кавы**

На каталіцкія Каляды ў Музэі гісторыі рэлігіі (Базыльянскі кляштар) распачалася выстава двух мясцовых мастакоў. Прысутнічаў гарадзкі галава. Аднак прымеркаванага да падзеі адкрыцьця там жа кавярні «Кляштар» не адбылося. Няма кавы. Не атрымалася пакуль і з дастаўкай кавы беластоцкімі беларусамі. Цяжкая навука — камэрцыя.

**Вецер ірве сьцягі**

Напярэдадні Новага году з васьміпавярховага гмаху аблвыканкаму зьнік Дзяржаўны сьцяг. Як патлумачылі ў выканкаме, на вялікай вышыні ўвесь час моцны вецер. Саматужна пашытыя бел-чырвона-белыя сьцягі шкуматае вецер, і іх хапае ненадоўга. У выканкаме вырашылі чакаць фабрычна зробленых сьцягоў з дыхтоўнай тканіны. А пакуль над уваходам павесілі сьцяжок. У расейцаў чамусьці такой праблемы не было ад самага пачатку.

**Пляменьнік Радаслава Астроўскага**

У Горадні памёр акадэмік Ю. Астроўскі. Ён першым у горадзе пачаў біць у чарнобыльскія званы, чым вельмі не дагадзіў начальству. Усе наступныя гады акадэміка моцна цкавалі, зьбіралі на яго кампрамат. Летась ён выступіў у друку з артыкулам аб этнагенэзе беларусаў, дзе даводзіў, што паводле генэтычных асаблівасьцяў жыхары Беласточчыны і Гарадзеншчыны аднолькавыя, але адрозьніваюцца ад жыхароў Вялікапольшчы, чым выклікаў незадавальненьне ў

пэўных колах. На пахаваньне прыехалі са сталіцы акадэмік Канапля і старшыня Грамады прафэсар Ткачоў. Нябожчык быў прыязны з Л. Геніюш. У горадзе заўжды гаварылі аб тым, што ён — пляменьнік прэзыдэнта БЦР Р. Астроўскага. Адпявалі нябожчыка ў праваслаўным саборы.

*1992*

# Астранамічная восень

## 1

Апошні дзень лета. Прэс-канфэрэнцыя ў Новым замку. Праз гадзіну я ўцёк. Было пахмурна, і балела галава. Ехаць тралейбусам не хацелася. Цераз мост зайшоў пад браму на старазамкавы мур. Вядомы здымак, на якім Васіль Быкаў адсюль глядзіць на Нёман, удалечыню. Спусьціўся па Старазамкавай вуліцы да ракі. Багата рыбакоў. Вада балотнага колеру. Нёман увесь у выцягнутых каменюкаватых выспачках, моцна зьмялеў. Пад плотам тэлефонная кабінка без тэлефона. Сухапутны знак з катвігаю, паржавелы.

Я ўзьняўся каля Новага мосту й дачакаўся тралейбуса. Заехаў у кнігарню і нейк рашуча выкупіў шасьцітомнік Хэма. Падабенства: ён займаўся палітычнай журналістыкай, чаго не хацеў рабіць... У жонкі на Ліёнскім вакзале ў Парыжы скралі чамадан зь ягонымі рукапісамі. Але ён кінуў аднойчы газэты дзеля літаратуры. Першы зборнічак абразкоў выйшаў у яго накладам трыста штук, другі — зусім сто семдзесят. Але абодва ў Парыжы.

Чацьвертага, нядзеля. Прыемнае абуджэньне: дождж, грымоты.

З Рыму рукой дастаць, але Папа не паехаў у Сараева, каб сэрбы не пастралялі пілігрымаў. Букет падзей. Выведзена расейскае войска з Латвіі, Эстоніі і Нямеччыны. Скончылася канчаткова апошняя сусьветная вайна. У Бэрліне яны неахвотна сьпявалі перад Ельцыным і Колем «Прощай, Германия, прощай!» А Ельцын даволі сьмешна «дырыжыраваў» нямецкім аркестрам, вельмі падобны

да няўклюднага мядзьведзя. Расейцы гэтага, здаецца, не паказалі. Смаргонская акадэмія дый годзе!

Кубінцы ўцякаюць з роднага «вострава свабоды». З Кубы на Кубу у Гуантанама (некаторыя гінуць на мінах), болей на Фларыду, а таксама — куды атрымаецца. Дваццаць сем асобаў дасталіся да Кайманавых выспаў, у акіяне нарадзілася дзяўчынка. Васямнаццаць тысячаў за жнівень, у верасьні лічба ўцекачоў павялічылася да дваццаці пяці тысяч. У Штатах абураны бязьдзейнасьцю кубінскіх уладаў. Фідэль забараніў браць дзяцей. Усё, што ён цяпер мог зрабіць. А на пачатку ўцёкаў быў бунт.

Ірляндзкая рэспубліканская армія раптам складае зброю. Пасьля дваццаціпяцігадовага змаганьня. 3160 ахвяраў. Пацешыцца зь міру не далі праціўнікі ІРА з арганізацыі «Барацьбіты за свабоду Ольстэру» (у складзе, аднак, Злучанага Каралеўства). У нас такіх хоць пазычай камусьці, толькі што зброю пакуль не ўжываюць. Сочыш за навінамі, яны не пасьпяваюць «чарсьцьвець».

Прызвычайваньне да «новых грошай», без нуля. Сур'ёзны жарт: я ўжо перайшоў на новыя грошы. Перастаў, значыцца, называць усе кошты ў дзясятках-сотках тысяч і мільёнах. Гэта — праз дваццаць пяць дзён пасьля дэнамінацыі. А нашыя бацькі часам яшчэ праз дваццаць пяць гадоў любілі дадаваць лішні нуль, нібы настальгуючы па сваёй маладосьці, калі адбылася хрушчоўская грашовая рэформа.

Халодны дзень. Каву я знайшоў толькі ў вузкім задымленым падвальчыку з расейскай шыльдай. Зьнянацку пачынаю разумець, што ў чарзе я адзіны мужчына. Зазіраю ў невялікі пакой, за столікамі — тое самае. Але ж!

## 2

Пэрыядычныя крызісы з кавай. За лета выпіта шмат вострай і нясмачнай, для «экспрэсу». Мне ўстыла змолатая вакуумная кава. Купляю ў сталіцы вялікую бляшанку з малюнкамі нямецкага хутару ў розныя поры году. Яна

таксама пасрэдная. На вуліцы самая танная ежа — бананы, як некалі ў Беластоку, а мы не маглі гэтага ўцяміць тады. Зрэшты, у нас усё адно не было на іх грошай.

Сон? Аповед? Жанчына за рулём (нібы кепская прыкмета, як і на караблі). Ехала зусім няхутка. Быў туман. Затармазіла раптам. Сьледам некалькі машын — адна ў адну. Як кансэрвавыя бляшанкі. Але ўсе жывыя й нават не параненыя. Атрымалася неяк зусім па-жаноцку. Ішла, зьнянацку схілілася, каб падцягнуць калготкі.

Шалёная язда назад. Машын амаль няма. Цёмна. Блякла-шэры месяц прасьвечвае нібы папяровы. Штосьці японскае — рассоўная сьценка пакою, тэатар ценяў. Потым тоне ў аблоках. Цемра, вецер. Рухавік старэнькага «Ікаруса» гэтак раве, ажно вібруе. Перад Дзітвой пачынаецца моцны дождж. За мостам мы ледзь не зьбіваем нейкую бабульку. Шафёр не пасьпявае нават спалохацца або хоць бы крыкнуць лаянку. Дождж атакуе пярэднюю шыбу. Гітара супольнікаў Джэгера ня можа спаборнічаць у маіх вушах з рухавіком. Аўтастанцыя ўжо зачынена, начная лямпачка. Вельмі моцны дождж. У Менску панавала бабіна лета.

Галава ад двух міжгародніх рэйсаў «ня варыць». У бары бяру аранжаду і пяцьдзесят грамаў брэндзі. Упершыню ў першай палове працоўнага дня... Карціны на плоце. Падбягае раптам адзін з прадаўцоў. Цісьне руку, запрашае на кілішак. Як заўжды, пахваляецца: яму нібы замовілі пяцьдзесят ажно карцінак для амэрыканскіх бізнэсмэнаў. Прыедуць да нас, каб зафундаваць храм для ўсіх хрысьціянаў. Як гэта ўсіх? Усіх абсалютна разам! Спрабую ўдакладніць, і тады ён шчыра сазнаецца, што ні бэ ні мэ ў гэтай справе, бо трыццаць гадоў быў у партыі і ў рэлігіі не разьбіраецца.

Патрыцыя Каас на пустынным пляжы ў topless прыкрывае локцямі грудзі. Мора або сьветла-блакітнае, або зялёнае. Калі няма мора (якая скруха!) і гор, іх замяняюць Крэйдавыя і рака ў цясьніне паміж імі. Абавязковая патрэба — раз на тыдзень спусьціцца да вады, выбіраць камяні і каменьчыкі й глядзець на плыню. «Зьбіральніца

камянёў». А. адшукаў таксама гэтую кніжку, зашмальцаваную, недзе ў скупцы. У апошні раз мы зь ім гаварылі пра яе. Чаму я не магу яе прачытаць і тройчы дабіраўся толькі да сярэдзіны, прычым заўсёды чытаў у ваньне? Дзіўна, бо яна мне падабаецца. Позьняя восень, пусты пляж, сьцюдзёны марскі вецер, халодныя хвалі нястомна сьпяшаюцца памерці на жвіры. Яна адпачывала сёлета на Корсіцы, дзе набыла сабе дом.

Цэлы тыдзень у «кнайпе» сапсавана пліта. «Горячего нет и не будет». Шалею з голаду ў полудзень. Нідзе і нічога, ніхто ня хоча мяне накарміць. Аднойчы зьеў нават порцыю лёдаў. Вільня адрэзана. Гэта табе не Беласток, купіў ваўчар — і едзь сабе. З інстытуту біяхіміі ніхто не паехаў на віленскую канфэрэнцыю, і толькі ў дзень адкрыцьця газэты паведамілі, што пакуль яшчэ можна будзе абыходзіцца бязь візы. Два тыдні ў «кнайпе» нічога гарачага, стаўлю на ёй крыж.

На газэтным здымку Ленін гуляе ў стрытбол, але чамусьці галавой і ў кепцы. На пляцы ва ўзножжы правадыра тузін вулічных баскетбольных кашоў. Адзначылі гадавіну ўтварэньня вобласьці. Заклікаў перанесьці абласны цэнтар назад у Беласток, праўда, не было. Беластоцкі ваявода аднак афіцыйна адмовіўся ад запрашэньня: маўляў, шмат спраў. А сувальскі прыехаў, прыгожа гаварыў пра супольны Аўгустоўскі канал. Грыб уручыў Домашу вялікую крышталёвую вазу з граматай і тройчы пацалаваў.

У Амэрыцы ў заапарку нарадзіўся белы бізон. Выпадак — адзін на мільён. Сабраліся шчасьлівыя прадстаўнікі дзесяці індзейскіх плямёнаў. Першы дзень паводле зімовага часу. У лесе праўдападобна пахне касьцёлам. У хмызах хаваецца чарапахавая котка. Вельмі вялікая рэдкасьць. Побач хутар. Я гавару ёй камплімэнт. Яна спакойна слухае, пазіраючы на мяне. Першы подых восені. На валуне смаўжы адгарадзіліся ад сьвету, «схаваліся». Заклеіліся празрыстай плеўкай. 18-га верасьня халаднавата, але напярэдадні трымалася цёплае надвор’е, таму, мабыць, смаўжы прачнуліся і распаўзьліся абы-куды. Непрыемна і шкада наступіць зьнячэўку на аднаго.

## 3

У нас яшчэ не перакладаюць Фаўлза. А расейскія перакладчыкі паўсталі супраць аднастайнасьці. Гартаю ў кнігарнях адзін і той жа раман. «Сяброўка францускага лейтэнанта», «Жанчына», «Нявеста», «Палюбоўніца».

Спакойная шэрая раніца, цёпла. А выхадныя, асабліва субота, — залатыя дні: сонца праменіць цеплыню. Пачатак астранамічнай восені. Гэтак надзіва добра, што пачынае паціху варушыцца рабачок калі ня страху, дык сумневу: а раптам уладу захопіць які-небудзь ГКЧП і ўсё скончыцца...

Па тратуары паміж прысадаў павольна праходзіць конны міліцэйскі патруль. Два першыя кані брунатнай масьці, апошні — шэры зь ледзь прыкметнымі яблыкамі. Коні вельмі буйныя, сядло — на ўзроўні галоваў мінакоў. Усё выглядае даволі экзатычна, нібы вывелі на шпацыр сланоў з вандроўнага цырку. Першы конь ступае на пешаходную зебру. Рэзка спыняецца машына. Потым нягеглы «запарожац», нібы са страху страціўшы ногі. Вершнікі нетаропка пераходзяць шырокую вуліцу.

Земляныя гарэхі на патэльні пачынаюць трэскацца і шчоўкаць, нібы сасновыя шышкі у вогнішчы. Безадмоўная лямпачка ад старасьці мігціць і гасьне зусім. Не дапамагае нават зачыстка акісьленых месцаў. Цокаль вакол разьбы пражавеў, але не рудым, а чорным, быццам прагарэў, і відна сажа, якая заляпіла няроўную трэшчыну. Спрабуеш закруціць лямпачку яшчэ на лішні мілімэтар-два і зьнянацку скручваеш ёй галаву, і яна павісае на драцяным валаску. Неасьцярожна націснуты выключальнік, гучыць трэск, звон, і шкляная бэра калываецца на стальніцы, быццам у непаразуменьні, чаму гэта яна не разьбілася. Выкручваеш абцугамі з пляфона недарэчны цокаль, усярэдзіне якога пазначана лічба «13».

У краме. Мужчына купляе палову хлебнай цагліны. Трымае ў руцэ. Зьверху, на зрэзе — крыху зьмятыя рублёўкі. Кабета ў каўбасным аддзеле. На кофту вельмі кідка выкладзены сярэдніх памераў крыж.

## 4

Першы дзень кастрычніка. Стаю пад брамай на Дамініканскай. Каля галавы лапушыцца зьлёгку вільготнае лісьце плюшчу. На іншых вуліцах высьпявае нават вінаград. Званіў бацькам па міжгорадзе. Яны дагэтуль свайго не сарвалі, усё чакаюць мяне. Баюся, будзе запозна. Летась бацькоўскі вінаград прымарозіла. А тут высьпявае хутчэй. Крыху больш цяпла. Гарадзенскае ўзвышша.

Здрадлівасьць першых халадоў. Узімку лягчэй трываеш у халаднейшае надвор'е. Пачынаеш часта забірацца у ванну. Але ўгрэцца ўдаецца не заўсёды. Распараны твар добра галіць. «Два плятынавыя лёзы. Першае голіць выдатна, другое — яшчэ лепш!» Рукі крыху мерзнуць, трымаючы над вадой пераклад з францускай. Ужо ноч, ты так і ня ўгрэўся, галіцца ня хочацца, хутчэй у ложак.

Стаяў у чарзе, купляў сасіскі і паштэтаўку для ката. Раптам у краму ўбег нейкі дварняжка. Бегаў, запытальна паглядаў, спуджана прыгінаўся ад кожнага выпадковага руху пакупнікоў. Я дастаяўся і купіў яму крыху лівэркі, але ўжо нідзе яго не знайшоў. Зьявілася таньнейшая за іншыя «ветчина казанская». Раней чулі толькі пра «казанскую сірату». Усе куплялі, я таксама. Потым мне сказалі ледзьве не з папярэджаньнем «ты толькі не званітуй». Яна — з каніны! Таму такая танная. А я заўсёды зь цікавасьцю чытаў, як тым напалеонаўскім жаўнерам даводзілася ў адступленьні есьці каніну. Шкада было толькі коней.

## 5

На прэс-канфэрэнцыі. Першы задае пытаньні Сяргей Сяргеіч. Чыноўнік, нічога не падазраючы, пачынае сумленна адказваць. За першым пытаньнем — яшчэ і яшчэ. Твае калегі пачынаюць патрабаваць: «Хай прадстаўляецца!» Чыноўнік, скеміўшы, што тут штосьць «ня грае», як кажуць палякі, просіць: «Вы представьтесь, пожалуйста». І чуе ад-

каз: «Член КПСС с августа 1972 года подполковник Л.»... На закуску абвяшчаюць пра двух новых сабкораў — «новой народной газеты» і «мы и время».

Скончылася беларуска-польская сустрэча па Арміі Краёвай. Удзельнікі запрошаны ад імя гарадзкога галавы на сяброўскую вячэру ў «Беласток». У прыбіральні. Зашпільваючы каля пісуара прарэх, нейкі сталічны знаўца АК зьвяртаецца да старога варшаўскага прафэсара й да цябе. Са шкадаваньнем да самога сябе ён гаворыць вам па-беларуску: «Усё нас у палітыку заносіць, хлопцы. Не хапае культуры». Ты няпэўным мычаньнем мусіш пагадзіцца. У вэстыбюлі прадаецца выдадзеная ў сталіцы кніжка пра АК. Аўтарам яўна не давалі спакою лаўры Сянкевіча, бо яны сьціпла назвалі яе «Огнем и мечом». Акаўцы хіба не былі ўзброены мячамі... Вядучы, гэткі мужчына-харашун, вельмі нагадваў містэра Сі-Сі з мыльнага сэрыялу «Санта-Барбара». Адно толькі менш сівы.

**6**

У хаце новая мэбля, перастаноўкі. У шафах перакладаюцца рэчы. Скамянелыя зморшчаныя каштаны больш непатрэбны. Сродак ад молі. Цяпер у тваіх кішэнях — падабраныя на вуліцы мокрыя, яшчэ жывыя сьвежыя каштанікі. Толькі вылузаліся з лопнутых калючых шкарлупін. На дрэве ім было так утульна. Усё скончылася падзеньнем аб асфальт. Халодная імжака. Каля абменных пунктаў таўкатня. Цягнік неспадзявана папярэджвае мычаньнем марской каровы, адганяе ад рэек. У шпэтным вагоне няўтульна ад холаду. Платы, мокрыя палосамі, нагадваюць карціны Тарасэвіча Лёніка.

У Чарлёне скрозь дрымоту — нечым знаёмы голас, прапануе некаму «Свабоду». Нейкай кабеце. Яна адмовілася. Гэта — Рымас — літоўскі літовец, які на нашай тэрыторыі прадае ў прыгарадных цягніках газэты. Рымасам называю яго ў думках толькі я. Здароўкаемся, купляю ў яго «...Рытас». На першай старонцы рэпартаж пра забойцаў

намесьніка рэдактара віленскай «Рэспублікі», якога застрэлілі год таму. «Пагоня» перадрукавала тады зацемку аб забойстве. Я яшчэ рэдагаваў газэту, апошні месяц. Чытаю цяпер, што ў маім Шаўляі над гарадзкой управай збудавалі вежу, на якой швайцарцы ўсталююць вельмі дакладны гадзіньнік.

На чарлёнскім прыпынку дажджыла. У Мастох таксама падае дождж. Баптысцкая малельня тэрасай уздоўж другога паверху раней, мне здавалася, нагадвала амэрыканскую правінцыю, saloon або штосьці падобнае. Карацей, вэстэрны. Цяпер я гляджу на дах, шпіц. Крыху адміралцейства. А найбольш — драўляная ратуша. XVIII, напэўна, стагодзьдзе — хіба Шклоў, а можа, Чачэрск. У Ражанцы падае. У Скрыбаўцах таксама. Абарончая царква сярод стрэх выглядае нетутэйшай. Арыя зь іншай опэры. Словамі незнаёмай мовы. Экзатычнай карцінай замежнага мастака.

Вельмі чаканая лідзкая станцыя. Доўга, нудна, цалкам зьмёрз. Назад толькі аўтобусам! У Лідзе шалёныя цэны на распушчальную каву, а на ўскраіне — недарагія, яшчэ зь лета, гішпанская «Сіеста» і пляшачка «Слынчавага брэгу». На вуліцы халодны дождж. У пабудаваным немцамі гарадку незвычайная, як на нашыя ўрбаністычныя краявіды, школа. Дома цёпла і пахне пірагамі. І вялікі кабачок «цукіні» зь лецішча. Як увасабленьне ўраджаю. Салата са сьвяжуткага зяленіва і радыскі, сарваных толькі ўчора — 9-га кастрычніка! Вінаград таксама не памёрз! Ўратаваў мур дома. Цэлае вядро драбнаватай, крыху даўкай, але салодкай «ізабэлі». Невыразна ўспамінаецца ўласнае апавяданьне пра «кіслае віно сваёй айчыны», гронкі, якія не пасьпявалі за кароткае лета назапасіць з сонечным цяплом цукру.

Цяпер вінаград у нас нібы яблыкі. Гарадзенскія і лідзкія цёткі прадаюць собскі. Пляц Міцкевіча Адама, мокры асфальт агучвае апоны аўтамабіляў. Імжыць. Побач у краме ў аддзеле «Харчы з Іраку» бляшанкі з баклажаннай ікрой і гарошкам проста ад Садама Хусэйна, але чарга бярэ марожаную рыбу, яўна не ірацкую.

Два гады таму вінаград бацькоў урадзіў упершыню. Каламутнае, з трывалым прысмакам брошчаў, собскае вінаграднае вінцо. Летась доўга чакалі, калі гронкі лепей афарбуюцца, пакуль не засьпелі прымаразкі. Сёлета наадварот, напаткала надзвычай гарачае лета, вінаграднік стараліся палівацць. А сёньня чорны восеньскі вечар, у цемры не спыняецца ёдкі дожджык, а на стале паўмісак зь цёмна-сіняй «ізабэляй».

Палову кнігарні займае дарагі гастраном. Канструктывісцкі будынак пошты. Тэлефонны пакой. Мокры парасон побач як ануча. Я пішу нататку пра мэмарыяльную шыльду, пра 1920-ы, пра Дзяржынскага. Перадказваю яе ў рэдакцыю. У слухаўцы гэткі трэск, быццам нічога не зьмянілася, і гэта Фэлікс Эдмундавіч спрабуе дазваніцца да крамлёўскага кабінэта Ільліча з Заходняга фронту. «Прышліце яшчэ кавалерыі, бронецягнік і болей кумачу!» У парку насупраць нечакана некуды зьнікла тандэтная ленінская статуя, ад чаравікаў да галавы памаляваная срэбнай фарбай. Праўда, ёсьць яшчэ запасны, то бок асноўны Ленін — на пляцы, ужо залаты. Паркавая скульптура сталася першай ахвярай нашага сувэрэнітэту. Самае дзіўнае, што ўсё ціха, і ваяўнічыя пэнсіянэры, якім да ўсяго «ёсьць дзела», сьпяць спакойна.

## 7

Сонечна, але халодна. 13-га кастрычніка. Каля кнігарні кот п’е з лужыны, у ёй жоўтыя выспачкі кляновага лісьця. Памытыя сёньня вокны мы пачалі ўцяпляць газэтамі (!), і раптам ажылі батарэі. Паказваюць кувэйцкую сталіцу. Сучасныя мінарэты — копіі ўсходнебэрлінскай тэлевежы... Некалькі гадоў запар мне трапляліся пад руку пераклады з якогась Кэндзабура Оэ. Я жартаваў: напэўна, японскі камуніст, калі ў Саветах яго гэтак тыражавалі. Сёньня паведамілі, што яму далі літаратурнага Нобэля. Стары сказаў, што прэмія дасталася яму, бо ўсе добрыя японскія пісьменьнікі паўміралі.

У тэлерэкляме ўсё больш катоў. Каля абменнага пункту патруль у берэтах. Пасьля начной халадэчы палова дрэваў абсыпалася. Аздоблены тратуары, газоны, капоты самаходаў. Напярэдадні быў разам першы лёгкі сьняжок і лістапад, і сьвяціла сонца. Апалую лістоту зграбаюць у цэлафанавыя мяхі, закідаюць у кодаб вялікай сьнежнай шуфляй. Лісьце нагадвае жоўтыя бананавыя шкуркі, дробныя зялёныя стручкі кансэрваванай фасолі, усмажаныя бульбяныя чыпсы. Замкавы мур засыпаны скурчанай лістотай. Абапёршыся на прыгрэты сонцам контрфорс, я праглядаю газэты. Дома мой кот, схіліўшыся над пісьмовай машынкай, спрабуе выкалупаць зь яе вантробаў літарынкі.

*1994*

# Сьцеражыся цягніка

## 1

Сталіца сустракае сакрамэнтальным надпісам на забітых цьвікамі дзьвярах аўтавакзальнай прыбіральні. ЗАСОР. Адна з самых адметных моўных вынаходак эпохі сацыялізму. Засор. Пераўчот. За безьбілетны праезд — штраф. П’янству — бой! Ня стой пад стралой. Слава КПСС. Савецкая клясыка! Самая людзкая з усіх — бадай толькі адзіная беларуская фраза з маленства, якая мела афіцыйны статус у выглядзе шыльды на чыгуначным пераезьдзе. СЬЦЕРАЖЫСЯ ЦЯГНІКА. Беларусаў папярэджвалі, што іхні цягнік прапяяў «бывайце здаровы!» і зьнік, а яны, разявіўшы раты, не пасьпелі ўскочыць. А можа, наадварот, ім казалі: ня лезьце, хлопцы, трэба перачакаць у лесе, бо гэты цягнік завязе вас не туды, куды варта, а ў камунізм у 1980-м годзе, дзе ўсе мовы і нацыі зьліюцца ў адну расейскую, дзе вам наканавана растварыцца.

Добрая бээсэсэраўская шыльда, якая па-бацькоўску папярэджвае. У ёй чуецца нават нейкая пяшчота. Нібы які дзед-барадзед дае табе добрую параду. Няма яе даўно, захавалася адно ў маленскіх успамінах. Застаўся толькі ЗАСОР. Нават безь ніякага клічніка, значыцца й без намёку на alarm. Папросту абыякавая канстатацыя. Бяз колішняй вяршыні сэрвісу — пераадрасоўкі кліентаў у іншыя гідкія прыбіральні сталіцы рынкавага сацыялізму. Усё проста. Аніякіх эмоцый. Засор у каналізацыі, засор, выбачайце, у галовах. Засор — норма жыцьця.

## 2

Зноў прыяжджаў партыйны старшыня. З жонкай. Абмаляваў становішча амаль як фатальнае, дый пад канец усіх крыху супакоіў, сказаўшы, што цяпер «нашыя магчымасьці вялікія і паляпшаюцца». Сумна пачаўшы, вясёла скончыў.

Калі сужэнства паявілася ў зале, ім прапанавалі спачатку прысесьці ў першым шэрагу, каб паклікаць за стол на сцэну. Вельмі па-вясельнаму: «А зараз просім у рабочы прэзідыюм шаноўнага старшыню і яго каханенькую-родненькую». !!! Той сьцішана загадаў жонцы, каб, пажадана, ня чулі астатнія, але яны пачулі: «Не хадзі туды, не хадзі!» — і сам падняўся па прыступках на сцэну. З рабочага прэзідыюму зноў паклікалі: «Калі ласка, сюды!» Спадарыня замахала рукамі: не пайду! Карацей, атмасфэра запанавала адпачатку блізу хатняя, не раўнуючы з колішнімі партканфэрэнцыямі з урачыстым вынасам сьцягоў, з гаваркімі барабанамі, з пафаснымі рапартамі. Сьцягі, праўда, былі. Сшытыя па два ці па тры — дзьве доўгія полкі зьвешваліся ад столі на ўсю вышыню сцэны з прэзідыюмам.

Сьцяг наш, дарэчы, Ён параўнаў з хрысьціянскім крыжам. Традыцыйна гаварыў пра эгіпецкую пустэльню, пра тое, што рабы, калі іх не перавыхаваць, зноў народзяць рабоў. А таксама пра не зусім сучаснасьць воклічу «Беларусь — для беларусаў!». Пра «конюха», пра выдавецкадыскрымінацыйную ўмову: хочаш надрукаваць беларускую кніжку — сам жа і плаці. Пра юдаў хлеб стукачоў, якія ўсе хорам за эсэсэсэр. Збоку выглядаў ён бадай пастарэлым. Гаварыў у мікрафон, стоячы на краі сцэны, адмовіўшыся ад настальгічнай трыбуны з «Пагоняй», крыху сагнуўшыся. Прарок, які замест лаўровага атрымаў ад натоўпу цярновы вянец, які выклікае галаўны боль?

Марна чакаць, каб яны пазайздросьцілі тым чэхам ды па цагліне кожны купілі на свой тэатар. Таму хай хоць бы ўсе франтаўцы, якіх у горадзе 234, падпішуцца на «Пагоню» і знаёмых падбухтораць. Каб тыраж павялічыць. Такая парада адрынутага прарока. Падпісчыкаў ён прыго-

жа параўнаў з тымі, хто насыпаў некалі па жменьцы курганы. А таксама з тымі, хто склаў піраміду Хеопса, г. зн. зноў-такі з рабамі.

**3**

Вы ўцякаеце ад дзевяці ўнутрыпартыйных пытаньняў, якія мае абмяркоўваць заля. У тэатральнай кавярні знаёмы бард рэпрэзэнтуе вам свой новы збор песьняў, запісаны толькі-толькі ў Беластоку. Гаспадар частуе кавай паірляндзку (зноў гэтая ірляндшчына!). Вы стаіцё за стойкай і смакуеце скрыпку, бас, тэксты й голас. Мікола, зрабі яшчэ кавы.

Нехта стукае ў дзьверы й паведамляе, што зараз прывядуць старшыню з жонкай і паплечнікамі. Гаспадар здымае чаравікі і лезе вешаць сьцяг. Потым на даху лядоўні пачынае шыхавацца батарэя розных чын-чынаў. Уваход партыйнай дэлегацыі сустракае нечакана шлягер «Добрай раніцы, жлобская нацыя!»

У кавярні здаецца гэтак утульна, што зусім ня хочацца ехаць на яшчэ адную партканфэрэнцыю ў засьнежаны і зьмерзлы горад на пагорках з разбураным замкам. Сужэнства застаецца і аглядае архітэктурныя помнікі, якія спадарыня бачыць упершыню. Потым ты апавядаеш пра гэта па радыё. У сталіцы, дзе ты апынуўся наступнага дня, некаторыя кпяць табе ў вочы: прагнуўся, пра «раісу максімаўну» расказваў. Лухта! Ты толькі дадаў крыху лірыкі. Слухаюць жа, аднак!

**4**

Ён усё паўтараў: ім не павярнуць кола гісторыі назад. Не дамо! Кола, кола. Яно выклікае ў цябе думкі аб цягніку з пасажырамі, аховай і паштовым вагонам, у якім мяхі з грашыма. З клясычнага вэстэрну. На яго на працягу кінастужкі нападаюць экспрапрыятары накшталт бальшавікоў. А да-

лей — анекдот пра цягнік да камунізму, які штораз спыняецца на нязьведанай дарозе. Сталін загадаў расстраляць машыніста, калі скончыліся рэйкі. Хрушчоў — разьбіраць іх ззаду і перакладаць наперадзе. Брэжнеў, здаецца, пажадаў, каб людзі зь елкамі ў руках беглі ўздоўж цягніка назад, ствараючы ілюзію руху наперад. Чарненка папрасіў, каб завешалі вокны і разгушквалі ягоны вагон. Мабыць, ён і ёсьць заснавальнікам моднага сёньня рынкавага сацыялізму. А вы кажаце, кола. Колы якраз у поўным бязруху.

## 5

Апынуўся ў тым баку, куды калісьці езьдзіў на службу. Зазірнуў да былога калегі: пакуты з творчасьцю. У суседнім пакоі каляжанка. Нечакана пекна выглядае, не па-будзённаму, што ты нават пра гэта сказаў ёй. На століку кветкі. Невялікі букет у залацістай абгортцы. Хіба сьвята нейкае? Сьвята, адказвае. Можа, твой дзень нараджэньня? Бачыш, як у яе пакруглелі вочы. Ах, сапраўды, дзень жа Савецкай арміі! Што значыць калектыў: дзяўчаты рыхтуюць у архіўным пакоі пачастунак, мужчыны часткова паехалі дахаты, каб выглядаць побач зь імі ня менш сьвяточна, паадэкалёніцца. Амаль вымерлыя доўгія калідоры часова ажыўляе мітусьня, завіханьне, урыўкі фраз. Вось і ты некалі прымаў пакецік з даруначкамі. Насоўка, крэм для галеньня, цытрусавы адэкалён. Паштоўка з друкаваным віншаваньнем ад рэдкалегіі, партбюро і прафкаму. Каляровы малюнак: дзябёлы салдат у касцы, матрос, авіятар... Калектыў. А ты як самотны паляўнічы — без кабінэта, без тэлефона, без рэдакцыйных сходак.

Ты сам сабе гаспадар. Заяжджаеш у краму, выбіраеш з гатычна афармленых пяці пляшак гішпанскага, балгарскага, македонскага і яшчэ нейкага віна нямецкае. Мозальскае. Сьвятая Урсула. Зьбірае вінаград. Вітраж зь яе выявай. Пачатак з тысяча шэсьцьсот нейкага году. Ці сама сьвятая паходзіць, ці гатунак віна? Ты давяраеш менавіта нямецкай якасьці. Мозальскае з драбнюткімі бурбалачкамі. Адварот з

мапкай мясцовасьці, дзе высьпявае гэты нямецкі вінаград. З назвай, якая выключае адзначэньне вайсковых сьвятаў. Цікава, ці той фон Гротбэрг адмыслова падпісаў свой загад менавіта 23 лютага, каб пакпіць у гэты дзень з чырвоных партызанаў? Каб у іх шклянкі з самагонам павыпадалі з рук? Загадка беларуска-нямецкай гісторыі.

Гэх, падабалася табе некалі песенька «Дружба-фройндшафт», асабліва прыпеў. Ты быў тады пяцішасьцікляснікам. А цяпер табе падабаецца мозальскае. І бадэнскае таксама. «Кёнігхаймэр». З выявай кірхі. У пляшцы, падобнай да мандаліны або лютні. Але за што ты п’еш у гэты дзень? За Краёвую абарону? За СА? За напаўсавецкую армію напаўсувэрэннай краіны? Як усё пераблыталі ў гэтай гісторыі. Тлумяць гэтаму дурному беларусу галаву. А куды серп з молатам ад яго схавалі?! Чым цяпер працаваць?! Вярніце прылады працы народу, таварышы ўрадоўцы...

## 6

Сьвядомыя беларусы людзі вельмі сур’ёзныя. Калі зьбіраюцца разам, дык абавязкова прамаўляюць на розныя надзённыя тэмы, чытаюць гістарычныя рэфэраты, робяць агляды прэсы і г. д. Або папросту скардзяцца адзін аднаму на «конюха». Усё гэта даўно надакучыла. А вось беларускі клюб у кавярні — справа цікавейшая за звычайную гаварыльню. Карацей, зьбіраюцца яны, сьвядомыя, вэтэраны адраджэнскага руху, заснавальнікі клюбу «Прамень», аднойчы разам у нейкія клюбныя угодкі. П’юць спачатку лідзкі «Стары замак», потым вінаграднае віно, а нават і шампанскае з нагоды. Асабіста ты ня бачыў сяго-таго па некалькі гадоў. Аказваецца, усе на месцы, ніхто не памёр і нават не эміграваў. А пазьней увогуле даходзіць да танцаў-паламанцаў. Як пісаў некалі клясык: беларус гуляе!

Файная справа! Зь цеснаватага памяшканьня каўні сталы вынесены ў суседнюю залю, прасторную як стадола. Калісьці ў ёй адбываліся танцоўныя балі. За часамі каралеўскага старасты Антонія Тызэнгаўза.

Чужых няшмат. Завіталі два зеленкаватыя ваякі з памежнай службы. Заманулася выжлукціць пляшку каньяку. Плюс да яе замовілі талерку з пакроеным лімонам. Эстэты! Нехта патрабуе такую ж закуску, але каб яна была прысыпана чамусьці змолатай кавай з цукрам. Крыху зьдзіўленай дзяўчыне лагодна дакляруюць: гэта можа быць фірмовай стравай вашай кавярні.

Ах, як жа смакуе лідзкае старазамкавае! Пачакайце, зараз адлюструем! Мужчына зь відэакамэрай пачынае павольна абыходзіць карэ сталоў, зазірае ўважліва ў кожны твар, шпягуе ў недапітых шклянкамі, счытвае зьвесткі з бутэлечных этыкетак. Вы ня лезеце п'янымі тварамі ў аб'ектыў, як пэрсанаж «Ілжэдзяцей». Вы грэбліва крывіцеся. Вам непрыемна, але цяпер пераважна ўсё непрыемна, калі скрынка замяняе Бога, свабоду, замяняе жыцьцё. «Установа» даручыла сфабрыкаваць другую частку? Ды халера зь ёй! Ты й пачатковай ня бачыў. Ні прэм'еры, ні «па заяўках працоўных». Чаму ты такі пераборлівы? «Палёў чудзес» ды іншых палітшоў не глядзіш. Газэт з партрэтам не бярэш.

Відэапірат нястомна працуе. Зазірае ў рот прафэсару Эн, вельмі апазыцыйна настроенаму да неўваходжаньня ў НАТА. Прыкмячае, як нехта недакладна ў шклянку нешта наліў. Кідаецца здымаць аднаго неінтэрнацыяналіста, які крыху хісткім крокам запрашае паненку патанчыць, распляскаўшы папярэдне недакурак абцасам, быццам у вясковым клюбе. Будучы ляўрэат наступнага «срэбнага віцязя ў тыгровай шкуры» мазоліць усім вочы.

«Да вы што, хлопцы! Я ж такое ў сябе на ТаБаКу ў эфір ня дам. Гэта толькі так — на памяць...» Шчыра зьдзівіўся падазронасьці некаторых бяседнікаў супрацоўнік мясцовай тэлестудыі і пастаўшчык сюжэтаў для прапагандысцкай праграмкі а-тэ-эн, скончыўшы напаўапэратыўную відэаздымку.

## 7

Аддаеш у часопіс, закончыўшы нарэшце, чыстапіс аднаго з двух перакладзеных табою апавяданьняў Гамбровіча

Вітольда. Першае пераклаў, калі здарыўся кабарэтны жнівеньскі путч, другое — дакладна цераз год. Выкасаваў зь іх крыху ластоўшчыны і здаў тэкст у набор. Якая ж, аднак, вялікая прыемнасьць працаваць з тэкстамі, якія табе падабаюцца, і ствараць свае, неаднадзённыя, як для газэты. Гамбровіч цябе вось чаму прывабіў. Уяўляеш, як замест яго напярэдадні верасьня 1939-га ў Аргентыну з Усходняй Польшчы зьяжджае беларускі літаратар. Але адрозна ад Гамбровіча ён сьвядома ратуецца ад рэпрэсій Саветаў.

Такім чынам, ён — адзіны літаратар, які не падзяліў лёс усіх астатніх заходнебеларускіх: або сталінскія лягеры, або славасьпеў Мудраму Бацьку. Ён застаўся самім сабой. Але самае важнае і цікавае для цябе асабіста, што ён не пакідае літаратурнага занятку, не зважаючы на гібеньне ў далёкай чужой краіне. І гэта яшчэ ня ўсё. Ён не тыражуе настальгічныя вершыкі пра родныя гоні, як рабілі ўсе астатнія эмігранты. Ён адаптуецца ва ўмовах гораду, дзе пісаў Борхес і пачынаў тады ўжо пісаць Картасар.

Незнаёмае жыцьцё празь беларускую душу трапляе на паперу, і менавіта ў прозе. Чамадан з рукапісамі пазьней апынаецца ў Скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане, напрыклад. Цяперашняя цэнзура дазваляе выдаць у «Мастацкай літаратуры» пяцітомнік, прыкладам, Вацлава Малевіча, даведаўшыся, што ён не служыў у аргентынскай паліцыі, хоць і ня быў у кампартыі. Грошы на выданьне, само сабой, павінны сабраць самі эмігранты.

Месца гэтае у беларускай літаратуры засталося вакантным.

**8**

На званіцы Фарнага касьцёлу нарэшце ўмацавалі новы цыфэрблят старадаўняга вежавага гадзіньніка. З залатымі лічбамі, але пакуль бяз стрэлак і нават без адтуліны для іх. Цыфэрблят гэты спараджае ў душы цьмянае пачуцьцё.

*1996*

# Біблейскі патоп

## 1

У шэрых жылых блёках запальваюцца першыя жарынкі лямпачак. Ты шыбуеш доўгай сьнежнай сьцяжынаю. З пагорку на пагорак, налева-направа, агінаючы адзін дом, наступны. За пяць крокаў наперадзе сьпяшаецца дзяўчына у футэрку. Шапка з забітай лісы, галоўка якой завернута назад, бязвока глядзіць на цябе.

Голуб грэецца, адшукаўшы сярод сумётаў панцыр люка, пад якім ацяпляльныя трубы. Жалезныя скрыні са сьмецьцем упершыню апанавалі не каты, а птушкі. Каля адной дробныя вераб'і, каля наступнай — вароны, каля трэцяй — ахайныя чысьцёхі галубы. Сталоўка. Толькі што ты некалькі разоў перачытаў няўцямны надпіс, які табе па-беларуску раіў: «Бяры хлеб па спажываньню» (?). Атавізмы сувэрэнітэту ў гандлі.

Сабакі са сьнежнымі пысамі разграбаюць сьнег, нібы лясныя вепрукі. Гульня, пошукі ежы? Крыху раней. Сабачка з захапленьнем, хочацца сказаць — са шчанюкоўскай радасьцю, ганяе па заледзянелым доле надзвычай лёгкую пустую пластыкавую бутэльку. Ці ўпершыню ты палюбіў варонаў, сарок, груганоў? Усё адно. Паважны выгляд пры сьмешных кароткіх і калматых нагавіцах, якія перашкаджаюць скакаць па сьнезе. А галоўнае, годнасьць і зусім не глупота у вачох. Немаведама што прымусіла клясыка пагардліва сказаць «дурны мужык, як варона». Штосьці ён пераблытаў.

## 2

Тры «Беларусы» дагодліва расчышчаюць ад сьнегу пляц перад адубелым Леніным, быццам 8-га сакавіка таксама адбываюцца мітынгі. На стомэтровай вулічцы ледзьве пасьпелі зьмяніць шыльдачкі. Замест Цэткін — Даменіканская. Тут рэдакцыя беларускай газэты «Пагоня», зернейка якой захавалася, нібы апісаная клясыкам пшаніца ў эгіпецкай пірамідзе.

Недзе далёка расейцы разбурылі спалены гмах прэзыдэнцкага палацу, недзе чачэнскія партызаны раптоўна апанавалі захопленую год таму рэгулярнымі войскамі сталіцу. У Лідзе канфэрэнцыя БНФ патрабуе ад Пазьняка, каб згадзіўся на збор подпісаў за бацькаву адстаўку.

Апэтытна чырвоны аўтафургон Coca-Cola спыніў рух на вуліцы Леніна Мікалая, ніяк з-за сумётаў ня можа збочыць да крамы. Даўгі хлапец у чырвона-фургонным камбінезоне і бэйсболцы на мігі просіць перачакаць дзьве чадныя кавалькады, якія сьпяшаюцца ленінскім шляхам у адваротныя бакі.

Замежны сэдан — аграмадны пачак з-пад стымаралу — дакладна паўтарае малюнак жуйкавай абгорткі. Два міліцыянты цікавяцца, чаму fresh-maker прыпаркаваў сваё стракатае дзіва каля насатага маршала, зробленага на капыл галавы стода зь Велікоднай выспы. Абцятая па плечы маршальская галава высока на пастамэнце, і не зважае на жыцьцёвыя дробязі.

## 3

Камунальныя брыгады разьяжджаюць па горадзе, абабіваюць з падстрэшкаў калёніі ледышоў.

Амаль палова сакавіка. Пануе клясычная зіма. Стары горад у сьнежным палоне. Абодва замкі патанаюць у сумётах. Асабліва Новы, дзе сьнегу больш месца. Даўней, калі сюды хадзілі на сваю партыйную працу сакратары ды інструктары абкаму, сьнег у горадзе перш вывозілі адсюль.

Цяпер жа яшчэ адзін сьнегапад і, здаецца, каралеўскі палац стане недаступным для чытачоў ды экскурсантаў. Каб непаважныя аматары рыглі-сьпірмінту не чапалі вялізных першадрукаў «Вялікай французскай энцыкляпэдыі», якая неспадзявана падрыхтавала рэвалюцыю, таксама Вялікую і Французскую. Ці вы чытаеце па-французску, ці разьбіраеце тагачасны гатычны шрыфт? Энцыкляпэдычныя фаліянты выпадкова захаваліся, і таму іх не давялося падрабляць у сваёй майстэрні майму знаёмцу, які ратаваў прагалы экспазыцыі муляжамі.

Хай сьпяць спакойна рыцарскія латы, партрэты Касьцюшкі і Панятоўскага, янычарскі ятаган, самурайскі меч ды вітыя інданэзійскія кінжалы, мясцовыя кавалерыйскія шаблі, прывабна-незразумела званыя карабэляй. Халера з вамі, акупацыйныя салдацка-сувораўскія шапкі, якія сьпятрэлі і сьцяліся да дзіцячага памеру, нібы муміязаваныя галовы правадыроў папуасаў і пралятараў.

Перад замкавай брамаю — стылёва неадпаведны драўляны трох- ці чатырохмэтровы Вітаўт-ас аўтарства нейкага літоўскага разьбяра. На плячох сьнежныя гурбачкі, як уяўныя пагоны. Выпадковы напамінак пра зрабаваную палякамі карону, якой ён не дачакаўся. Па адзіным у сёньняшняй Беларусі выгбавым мосьце пераходзіш у колішнюю Вітаўтаву рэзыдэнцыю. Каб абавязкова пастаяць на паўразбураным муры высока над Нёманам. Успамінаецца іншы дзень. За ракою золкая марозная смуга, да якой нехта прыляпіў бляклую плямку зімовага сонца. Белая паверхня замерзлай ракі сьпярэшчана мудрагелістымі ланцужкамі сьлядоў. Каля прычалу прымёрз да лёду невялікі цеплаход. Цяпер сьлядоў не відаць. Час-часам сыплецца сьнег. Штодня. Абапал рэчышча ўздоўж берагоў пазначыліся цёмныя пісягі — непазьбежны ўплыў цёплага расьпешчанага гарадзкога жыцьця. Першая прыкмета будучай адлігі. Неўзабаве нельга будзе перакрочыць гэты ваш Кранон. Раку часу? Ці — бясчасу? Міжчасу...

## 4

А ў Тайвані вучэньні грамадзянскае абароны. Кітайцы начыталіся вядомага раману Аксёнава. Асабліва ім спадабаўся фінал, страляюць у тайваньскі бок балістычнымі ракетамі. Але тайваньцы ня лыкам шытыя, яны таксама чыталі «Востраў Крым». Паназіраць за тэатрам вайсковых падзеяў прыплыў авіяносец Independent. Сімвалічная і разам двухсэнсоўная для гэтага выпадку назва.

## 5

Горы, невысокія, з касьцёламі, замкамі, хрушчоўкамі, бронзавай статуяй у пудовай кепцы і падземнай грамадзкай прыбіральняй па адрасе Савецкая плошча, 1а брыняюць блізкай і вельмі вялікай вадою. Гару пад Каложай, гавораць, абавязкова падмые. Дальбог. Начальства гавора. З панядзелка, нібыта, пачнуць умацоўваць. Як, цікава? Ды хоць бы як. Праваслаўная ж сьвятыня! Так, праваслаўная, затым уніяцкая Каложа, як толькі была зроблена расейска-праваслаўнай, — абрынулася ў Нёман. Амаль палова храму. У вялікую паводку 1853 году. Так і зь Беларусьсю, мабыць, будзе, калі вернуць яе назад у расейскую няволю. Толькі-толькі ў Калоскай царкве пачалі майстраваць новы алтар...

Вы ідзяце зь бюракратычнай установы са зьвесткамі пра будучую паводку. Яны гучаць апакаліптычна. Збочыўшы з вул. Ажэшкі на Савецкую, пешаходную — за царом Мураўёўскую і Дамініканскую, — бачыце, як насустрач едзе колеру лётасу аўто. За рулём сам калоскі бацюшка! Спыняецца і, расчыніўшы па-джэнтэльмэнску дзьверцы, выпускае ў бок вуліцы Сьветлае Будучыні прывабную даму.

Далёка ў сьнягох капаюць вакол калгаснае вёскі доўгі беламорскі канал сямімэтровае шырыні. Каб вёску ня змыла. У навакольных гарадах і мястэчках не пасыпаюць

больш вуліцы салёным пяском. Тысяча мяхоў зь ім прывезена ў вёску, каб умацаваць дамбу. У невялікім горадзе Б. з жахам чакаюць, калі шкодныя сьцёкі з ачышчальных ставоў вялікага заводу імя аднога прайдзісьвета зноў заліюць аднапавярховую Беларусь: хлеўчукі з парсюкамі, скляпы з бульбай і шматамі сала, дрывотні, хаты, якія пачалі расьці ў зямлю, разам з тэлевізарамі, у якіх бясконцыя маналёгі, — ніяк не нагаворыцца скрынка.

А вось вы ўжо стаіцё ў каўні за столікам з клюмбай штучных кветак. Калега ўспамінае бацькоўскую хату ў мясьцінах з сольнакалійнымі гарамі і шахтамі. Уся вёска атрымала загад на эвакуацыю. А ў хаце кніжкі. А пад зямлёю запампаваны калійны шлам. Ты міжволі ўяўляеш, як уздымаецца ўсё гэтае хімічнае пазадзьдзе з талай вадою, як з тысяч фэрмаў расьцякаюцца на ўсе бакі фэкі, як калгасныя ядахімікаты... Што задумаўся? Пі сваю каву, дзядзька.

Група падрыўнікоў назапасіла дынаміт. Ім давядзецца глушыць рыбу пад шасьцідзесяцісантымэтровым лёдам. Перш аглушаць, кантузяць і вызваляць Нёман, але спачатку Нямунас — з таго боку мяжы. Паводле дамовы прэм’ер-міністраў. З асабістай згоды прэзыдэнтаў, якія, разабраўшыся з агульным гербом, разьбяруцца і з агульнай ракою. Па-над ракою сям-там вісяць газаводы дружбы. Рачныя масты атрымалі ахову, якая напрасткі падначальваецца ажно галоўнакамандуючаму.

### 6

Каналы Агінскага. Гэта той, што палянэзы прыдумаў? Ці яго сваяк? Ці, можа, сваяк сваяка? Якая вам розьніца! Ну як жа якая? Яго разьвітаньне з радзімаю спадзяваліся зрабіць гімнам эрбэ, пакуль справа ня ляснула вядома праз каго. А каб не лайдачылі лішне і зрабілі? Танчылі б палянэз замест цыганачкі.

Агінскія каналы бруняюць, як жылы, ламаюць лёд, затапляюць горад, перапыняючы электрычнасьць і водапа-

дачу. Эвакуяваных жыхароў селяць у кашарах на Чырвонаармейскай, разьмяркоўваюць паміж імі службовыя нарады і кормяць з паходных кухняў.

## 7

Адстаўны генэрал Г. усхвалявана прамаўляе з трыбуны. Ягоны родны раён засыпаны сьнегам, землякі ў вёсках адрэзаны ад жыцьцёва неабходнай інфармацыі. Ён просіць прэм’ера ці нават самога прэзыдэнта (?!) забясьпечыць сялянаў у глухіх вёсках радыёдынамікамі з намаляваным на іх залатымі літарамі прэзыдэнцкім подпісам.

## 8

На дзьвярах пад’езду вузкі пасак аб'явы: забясьпечце свае прадукты і маёмасьць у падвалах перад паводкай. Ужо пяць дзён, як перад Леніным ніяк не разграбуць гурбаў, «Беларусы» замянілі большым «Кіраўцам».

## 9

Восемдзесят вёсак рыхтуюцца да эвакуацыі, некалькі тысяч вяскоўцаў. Амаль павыміралі вёскі. Дваццаць дзьве фэрмы і дванаццаць тысяч жывёлін таксама чакаюць адсяленьня. У заапарку вакзальныя настроі. Заапарк конча будзе затоплены. Зубр, натуральна, мог бы назад вярнуцца ў пушчу. І суматрынскі тыгр зь ягуарам і сьнежным барсам. А вось кітайскаму алігатару, чорнаму насарогу, афрыканскаму слану і бэгемоту наўрад ці спадабаецца перапоўненая вадою Гараднічанка, якая працярэбліваецца цераз горад у Нёман, у які трапляе каля самае Каложы. Іх усіх разьвязуць па навакольных калгасах, на жывёлагадоўчыя фэрмы — у прагрэс, кастрычнік і былы шлях да камунізму. Патрэбны пяцьсот клетак, а

іх няма. Можа, у менскім цырку пазычаць? — спадзяецца вэртыкальнае начальства, якому шкада пяцьсот мільёнаў на клеткі. Што зь імі потым рабіць? Хіба што саджаць у іх, але каго?

**10**

У Ашмянах угодкі сьмерці Сталіна адзначылі аблавай на бедных беспрытульных сабак.

**11**

Алесь С. апавядае сон: гляджу зь пятнаццатага паверху на Нёман, а па ім плыве цэркаўка драўляная, менавіта праваслаўная, бо з цыбулькай. Выглядае як палеская. І бярэ мяне жах: значыцца, неўзабаве і хаты паплывуць...

**P. S.** З усяго гэтага атрымаўся пшык. Аніякага патопу. Тут нічога не бывае напраўду — ні трыюмф, ні трагедыя, пагатоў — апакаліпсіс. Усё — фарс.

*1996*

# Празаічная статуя

Пра Леніна па-беларуску я нічога не чытаў, ні вершыкаў, ні чагосьці больш істотнага. Уся лененіяна ў нашай літаратуры для мяне абмяжоўваецца чатырма клясычнымі словамі: «Ленін думае пра Беларусь». А што ён думае, я не цікавіўся. Дзякуючы, мабыць, гэткай белай пляме ў мяне з часам паявілася патрэба самому ўзяцца за гэтую, цяпер крыху й паўзабытую, тэму, працягнуць традыцыю. У пэўнай ступені, натуральна. Ленінская статуя ў маіх апавяданьнях трапляецца вельмі часта, але фундамэнтальна ленінскай асобай я не займаюся. Нецікава. Дый да мяне ўсё было зроблена.

Ня ўсе, зрэшты, пісалі пра Леніна і партыю. Мы ведаем, хто не пісаў. Сапраўдны гарт, але ж меншасьць. Чаму іншыя не адмаўляліся? Магчыма, нехта пісаў, бо ня мог пазбыцца адчуваньня, што ўсё гэта будзе вечна: КПСС, СССР ды ўсё астатняе. Некаторыя, напэўна, выклікалі ў сабе пры гэтым шчырае пачуцьцё, каб напісаць якасна. Некаторыя рабілі звычайную халтуру, бо іншага ня ўмелі (або ўсё ж не хацелі), а на яе быў попыт.

Я разумею, што сама тэма гучыць як бы гістарычна: Ленін у беларускай савецкай літаратуры. Што гэта, маўляў, такое? У які кут гэта кінуць, на якую паліцу пакласьці? Але, здаецца, яшчэ зарана ставіць кропку.

Псыхалягічна — для мяне — усё, што за Воршай, далей за якую я ня езьдзіў, — чужая краіна зь яе ленінымі ды ўсім іншым. Але ўгодкі ленінскай рэвалюцыі — дзяржаўнае сьвята ў Рэспубліцы Беларусь. Аграмадны Ленін стаіць у маім горадзе на пляцы, і гэта амаль адзіны грунтоўны помнік. Пасьля першага сьнегу я іду да яго, бачу ўсяго ў сьнежках, і гэта, можна сказаць, уздымае мой творчы на-

строй. Ленін па-ранейшаму застаецца ў нашым жыцьці. Можна гэтага не заўважаць, а можна і рэагаваць, крыху інакш, вядома, чым калісьці.

Ён атрыбут нашага часу разам зь зялёнымі далярамі, камуфляжна-сінімі амонаўцамі і ўладай-вэртыкаляй.

У мяне ёсьць нізка, якая так і называецца: «Апавяданьні вулічнага бюста». Там ёсьць і Сталін, і Дзяржынскі, але найбольш Леніна. І нават поўны збор ягоных твораў, схаваны турэмным нампалітам у незгаральную шафу ад вязьняў, каб ня ўчыталіся ў сапраўдны зьмест. Ёсьць там і пра тое, як ноччу аднаго Леніна — тандэтнага — замянілі на больш сучаснага, адправіўшы старога ў далёкі райцэнтар. Усё гэта адбывалася на маіх вачах. А тое, што гарадзенскія пэнсіянэры зьбіралі подпісы, каб Леніна не выносілі з маўзалею?! Усё гэта для мяне выдатны літаратурны матэрыял.

Нядаўна я трапіў у Сьвіслач. Там пляц перарабляюць, і таму Леніна часова перанесьлі ў іншае месца, пастамэнт новы зрабілі. І атрымалася, што цяпер стаіць Каліноўскі, насупраць салдат савецкі, за ім Леніна паставілі, а ззаду — помнік апошняму дыктатару паўстаньня 1863-га году — Рамуальду Траўгуту. Цікава! Прычым сьвіслацкі Ленін настолькі халтурна зроблены, што яго нават у савецкай энцыкляпэдыі не зьмясьцілі. Дзікі, скажоны твар. Пастава, у нашым разуменьні, абсалютна ня ленінская, быццам на амбразуру кідаецца або кліча «Русь к тапару». Я з задавальненьнем яго сфатаграфаваў. Вельмі цікавы Ленін.

У нас на журфаку калісьці кіраваў пісьменьнік дзіцячы адзін. Аднойчы ў гарадзенскай кнігарні я ўбачыў чатыры ці пяць розных, прычым сьвежых, ягоных кніжак пра Леніна, і па-беларуску, і па-расейску. Гэта ўжо Беларусь зрабілася незалежнай. Прачытаў днямі нататкі іншага пісьменьніка, як ён з гонарам дарыў італьянскім рабочым значкі зь ленінскім партрэтам... Да слова, моладзь у Горадні апошняга 7-га лістапада спаліла перад статуяй, зробленай Азгурам, нідзе не зарэгістраваны сьцяг зь сярпом і молатам і паставіла да ленінскіх ног плякат: «Ле-

пей бы ты сам жыў, чым тваё вучэньне». Значыцца, і моладзь пра яго памятае.

Вось і даводзіцца пісаць, адлюстроўваць наш цікавы час. Натуральна, пішу я не пра жывога Леніна, як рабілі да мяне, а толькі пра статуі ягоныя. Але яны таксама нешта там сабе думаюць, рухаюцца нават, калі ёсьць патрэба, ствараюць антураж.

*1997*

# Бяз атамнай субмарыны нібыта бяз рук

Даволі вялікі абласны чыноўнік узначаліў дэлегацыю па сяброўстве зь вялікай атамнай субмарынай «Обнінск» Паўночнага флёту Расеі. Дэлегацыя прывезла падарункі, гутарыла з флёцкім начальствам.

Гэткім чынам гарадзенскае кіраўніцтва «выправілася». Напярэдадні гібелі субмарыны «Курск» на Паўночны флёт прыяжджалі беларускія шэфы з падарункамі. Гарадзенцам прызначана было падараваць падводнікам тэлевізар. Але ўручалі яго берасьцейцы. Бо гарадзенскае начальства зэканоміла на дарозе, не паехаўшы. Дый пабаялася ехаць, бо рыхтавалася да візыту ў рэгіён галоўнага.

А тым часам зь Берасьця прыехалі аж шэсьць чыноўнікаў. Хаця ў іх была важкая нагода — аднаму з караблёў далі назву «Брэст». Берасьцейцы мусілі чырванець за гарадзенскае начальства. Адзін з расейскіх адміралаў з сэрцам паскардзіўся: лепей бы яны самі прыехалі, нават без тэлевізара... Любяць, карацей, нас, беларусаў. І мы адказваем узаемнасьцю.

Дапамагаць у бядзе неабходна. І калі вядомая ангельская акторка зьбірае ў антракце сярод гледачоў спэктаклю за раз некалькі тысячаў фунтаў і прывозіць сваякам экіпажу «Курска» — гэта ўспрымаецца натуральна. Калі ж у нас ледзьве не прымусам пачынаюць гэта рабіць, каб стварыць масавасьць, каб было ў рэчышчы «дзяржаўнай палітыкі», гэта ўспрымаецца інакш. Напрыклад, ашмянская раёнка надрукавала заклік здаваць грошы, паведаміўшы, што «вырашана» сабраць па пяцьсот рублёў. Кім вырашана — ані намёку. Сярод гарадзенскіх міліцыянтаў спрабавалі зьбіраць па адной тысячы. Ясна: ім жа плацяць — дай бог іншым. Аднак агулам

выглядала ўсё даволі неадназначна: бедная вёска, бедныя бюджэтнікі, а — давайце раскашэльвайцеся. Хаця, калі галоўнаму патрэбна было прадэманстраваць надзвычайную салідарнасьць, хай бы са свайго фонду — паважна, на дзяржаўным узроўні — і дапамог.

Бо інакш калі задумацца, дык робіцца крыху дзіўна. Ядзерная супэрдзяржава, багатая на рэсурсы, велізарная па тэрыторыі, мае сотні атамных субмарын. А грошы на дапамогу зьбіраюць у невялікай, небагатай, з заробкамі і пэнсіямі «ніжэй калена» краіне. Гэта ўсё адно як мэксыканцы пачнуць скідвацца на дапамогу субмарыне ЗША. Як-ніяк суседзі. Але ў сьвеце ўсё робіцца інакш. Амэрыканцы дапамагаюць бедным мэксыканцам, калі тых спасьцігне якая навала, а не наадварот.

Амэрыканцы, у якіх таксама штогод адбываюцца жудасныя непрыемнасьці ад тых жа сьмерчаў, дапамагаюць самі сабе. Бо маёмасьць, жыцьці — застрахаваны на вялікія сумы. Апроч таго, яшчэ і ўлады даюць грошы.

Так магло і павінна было быць у Расеі. Калі яна прэтэндуе на «супэрдзяржаўнасьць», па-ранейшаму ўтрымлівае дарагія субмарыны, дык хай забясьпечыць людзкія ўмовы для падводных камандораў ды іхніх сем’яў. Аднак яна застаецца савецкай краінай, дзе жыцьцё, чалавечая годнасьць нічога ня вартыя. Паказалі ўсяму сьвету, у якіх блёчных дамах мусілі туліцца героі-падводнікі, у якіх жудасных занядбаных пад’ездах. Самім стала сорамна, пачалі хутчэй рамантаваць.

Саміх жа падводнікаў, як і любому чалавеку, мне шкада. Шкада расейцаў, шкада амэрыканцаў зь дзьвюх субмарынаў, што «праваліліся» некалі ў прадоньне, іх зацягнула на глыбіню, на якую яны не былі разьлічаны. Яны проста зьніклі.

*2000*

# Часовае зьнікненьне

29 лістапада ўначы ў Горадні паставілі крыж на месцы, дзе калісьці была Фара Вітаўта. Крыж прастаяў два дні. 30 лістапада ўвечары ён зьнік. Сьведкаў зьнікненьня крыжа не знайшлося, як і сьведкаў яго ўсталяваньня. Драўляны крыж даўжынёю чатыры мэтры прынесьлі і ўкапалі пасярод касьцельных падмуркаў, што захаваліся пад зямлёю. Гэта адбылося якраз у тую ноч, калі споўнілася 39 гадоў ад зруйнаваньня храму.

Раніцай гараджане сталі спыняцца побач, чыталі шыльдачку на крыжы. У ёй паведамлялася, што «варварства было зьдзейсьнена камуністычным рэжымам» у 1961 г. Некаторыя фатаграфавалі крыж, некаторыя хуценька беглі далей. Беларуская мова тэксту ўтрымлівала прысмак крамолы. Тым болей што на крыжы як быццам распнулі беларускі сьцяг — у выглядзе скрыжаваных пасаў адпаведных колераў. Адзін з чыноўнікаў гарвыканкаму адразу назваў падзею «палітычнай акцыяй», паколькі невядомыя дазволу ў гарадзкога начальства не пыталіся. Навіна хутка разышлася. Увечары вернікі сабраліся пад вольным небам на малітву, а крыж быў асьвячоны. Праз суткі ён зьнік.

Гэтае зьнікненьне нагадвае лёс самога касьцёлу. Ён быў самым старым у горадзе — позьнегатычным. Старэйшая за яго — толькі праваслаўная Каложа, якая захавался напалову. Царскія ўлады па-варварску перарабілі касьцёл, насадзіўшы на позьнегатычны «карак» вялізныя «цыбуліны». Толькі за польскім часам храм зноў набыў свой сапраўдны выгляд. Гэта, напэўна, разьюшвала савецкую ўладу, хоць яна не любіла і ўласную праваслаўную царкву. Касьцёл зьнішчылі, проста каб зьнішчыць. Ніякай

нават уяўнай патрэбы не было — каб, напрыклад, пабудаваць замест яго хрушчоўку.

Месца яго, у самым цэнтры гораду, на Савецкай плошчы, дагэтуль пустуе. Зрэшты, на пачатку 90-х гэтая акалічнасьць якраз натхняла. Загаварылі пра тое, што некалі магчыма будзе нават адбудаваць сьвятыню, хоць тады праз інфляцыю ды крызіс гэта здавалася нерэальным. Была тады і спроба паставіць крыж. Аднак улады адказалі, што на падмурках будуць праводзіцца раскопкі. Сапраўды, іх раскапалі і кінулі часова. Пра задуму з крыжам больш ніхто ня ўспомніў. Бязьдзейнічалі чамусьці нават касьцельныя ўлады, хоць ім гэта зрабіць было няцяжка.

А потым была прэзыдэнцкая кампанія. Пасьля яе стала зразумела, што новая ўлада бадай ніколі не дазволіць аднавіць гэткі значны касьцёл.

Сёлета вернікі-беларусы, для якіх набажэнства на беларускай мове адбываецца звычайна раз на тыдзень у Фарным касьцёле, вырашылі ініцыяваць аднаўленьне разбуранай сьвятыні. Было б сымбалічным адбудаваць храм і зрабіць беларускім, — вырашылі яны. Бо ў сваім родным горадзе беларусы ня маюць уласнага касьцёлу. Усе касьцёлы тут лічацца польскімі, і, за рэдкім выняткам, набажэнства ў іх вядзецца толькі на польскай мове.

Пра задуму стала вядома палякам, і яны пачалі пераймаць рэй. Высьветлілі, што за мяжой яшчэ жывуць былыя гарадзенцы, якіх хрысьцілі ў Фары Вітаўта. Што ёсьць магчымасьць пачаць кампанію збору ахвяраваньняў. Паколькі сёньня на Гарадзеншчыне будуюцца зусім немалыя касьцёлы, рэальны шанец знайсьці грошы на аднаўленьне зруйнаванага храму ўсё ж існуе, мяркуюць некаторыя. На думку аднаго зь сяброў Саюзу палякаў, касьцёл варта і трэба адбудаваць, бо ў цэнтры места былі тры касьцёлы-дамінанты: Вітаўта, Фарны (езуіцкі) і Бэрнардынскі. Першага якраз і бракуе.

Што да крыжоў, дык завадатарамі ў гэтай справе сталі лідчукі. Некалькі гадоў таму яны паставілі, а потым упарта ўзнаўлялі крыж на месцы пакараньня сьмерцю ксяндза

А. Фалькоўскага. Гэты сьвятар заплаціў жыцьцём за тое, што ў 1863 г. зачытаў вернікам маніфэст паўстанцкага ўраду. Лідзкія ўлады раз за разам нішчылі крыж, і пакуль што перамога засталася за імі. Часова.

*2000*

# Штучны сьнег

## 1

Газэты зьмясьцілі без камэнтароў: адзін з кандыдатаў сабраўся ўлетку бегчы на лыжах ад Круглай плошчы да статуі Леніна. Хай незалежная мэдэкспэртыза праўдзіць — хто самы здаровы з прэтэндэнтаў на выбарах! А памойму, нічога незвычайнага. Як вядома, па сталінскай яшчэ традыцыі, 3 ліпеня на парадзе які ўжо год рушаць спартоўцы. Тыя ж лыжнікі, біятланісты. Хто імітуе язду па сьнезе, хто, можа, на якіх ролікавых лыжах гойсае перад трыбунай. Вось для некаторых і няма розьніцы — што зіма, што лета, бо лыжнікі ўздоўж трыбуны ўсё адно рухаюцца.

Альбо, калі ёсьць штучны лёд — столькі палацаў набудавана, дык чаму немагчымы штучны сьнег? Можа, падсьвядома менавіта гэта і мелася на ўвазе. Уяўляеце: зьбіраецца строгае міжнароднае журы — з удзелам Самаранча, Віка, Барадзіна, Кофі Анана і гэтак далей, а Скарынаўскі праспэкт засыпаюць сьнегам, штучным, само сабой. І — гайда, хлопцы! Нумар першы спачатку. Сьледам, зь вялікім адрывам, астатнія... У рэшце рэшт варта ведаць сваю гісторыю. Радзівілы ж калісьці ўсчыналі язду ў санях улетку! Ніхто, можна сказаць, асабліва не зьдзіўляўся. Праўда, столькі солі высыпалася на дарогу! Але штучнага сьнегу тады не было. Затое сяляне маглі ўзяць бясплатнай солі. Менчукі таксама штучнага сьнегу змаглі б атрымаць, я думаю. Паколькі ўладай напярэдадні выбараў усё раздаецца шчодра — стыпэндыі, танныя кватэры, здароўе, шчасьце і розныя іншыя даброты, ад якіх адмовіцца цяжка.

## 2

Лінія фронту. Штаб фронту. Эшаляніраваная абарона. Яшчэ нядаўна савецкае кіно і кнігі былі пераважна толькі пра гэта. Людзі, якія экранізавалі «У жніўні 44-га», наўрад ці забыліся, што пра Чырвоную армію існуе тысяча, а можа, і дзесяць тысяч фільмаў. А пра ўласнабеларускую гісторыю, напрыклад, якіх-небудзь дзесяць-пятнаццаць. Аднак палітычная кухня не зьмяняецца. Яны выдатна арыентуюцца, якія баршчы-груцы варацца-парацца яе шэф-кухарамі. Тб, нашае непераўзыдзенае тб абвяшчае прэм'ерны паказ экранізацыі «44-га жніўня», парэклямнаму назальліва паўтараючы, што зьняты фільм «пад высокім патранатам». А значыцца, хлопцы, посьпех забясьпечаны.

Пшык! Пшык, а ня посьпех. Нейкія закулісныя, напэўна, пачаліся манэўры, каб «Жнівень-44» атрымаў галоўны прыз на кінафэсьце ў Сочы. Але магчыма, што інтрыг якраз і не было. Бо стваральнікі ды іхнія начальнікі маглі падумаць: калі стане вядома, што фільм зроблены пад гэткім надзвычайным патранатам, дык журы адразу прагаласуе «за». Нічога падобнага! Разрэкламаваная экранізацыя атрымала ўсяго толькі прыз другога аматара кіно — Уладзіміра Ўладзіміравіча, які нават не прысутнічаў, і ці глядзеў асабіста фільм — пытаньне. Прафэсіяналы праігнаравалі «Жнівень», стужка самая звычайная. Спазьніліся аўтары гадоў на дваццаць з экранізацыяй. Затое ў самы раз трапілі са сваёй прапановай на местачковую палітычную кухню. Як кажуць, кожнаму — сваё.

## 3

Гэтым разам нібы-лінія фронту супала зь дзяржаўнай мяжою. Дзесьці рабіліся ўяўныя мінныя палі, працягваўся калючы дрот, жаўнеры рылі акопы... На суседнюю — украінскую тэрыторыю заехаў «непрыяцель». Чый? Ба-

дай Алексія... А мы тут прычым? А прытым, што за нас ворагаў для нас вызначае нехта. Ён вучыць нас — дзе салодкае, а дзе — салёнае. Недарэчнасьць, бадай, адгалоскі халоднай вайны. Толькі замест азызлых савецкіх маршалаў уздоўж межаў езьдзіць нехта з царкоўнымі ярархамі. Са змрочнымі непрыхільнымі тварамі. Усё пад соўсам змаганьня за праваслаўна-славянскую мір-дружбу.

І з другога боку — мяккі, чалавечны твар Папы Рымскага. Людзкія яго словы, заклікі да паяданьня ўсіх хрысьціян, усіх людзей. У адказ на фанабэрлівыя развагі пра нейкую ўяўна-выключную місію славян, пра іхнюю «вядучую ролю ў маральным аднаўленьні сьвету». Божа ж мой, людзі ўчорашняга дня спрабуюць адрадзіць духоўнасьць! Выкарыстоўваючы лічбы са столі. Восемдзесят адсоткаў беларусаў — праваслаўныя?! Ды хутчэй столькі атэістаў! Палічыце, колькі верацьу Бога, колькі наведваюць тыя ж цэрквы! Але ў сваіх мэтах можна абвесьціць амаль усіх праваслаўнымі. І пры гэтым відавочнае неразуменьне сітуацыі. Алексі Другі і Папа Рымскі — розныя постаці. Першы — як бы кіраўнік міністэрства рэлігіі суседняй, хай і надзвычай дружалюбнай, краіны. Другі — галава хоць і невялікай, але вельмі ўплывовай у сьвеце дзяржавы Ватыкан. Нездарма нават Фідэль, якому зусім не патрэбны былі масавыя вулічныя набажэнствы, гэтак дамагаўся прыезду Яна-Паўла Другога на Кубу.

## 4

Ці памятаеце тэлесэансы доктара Кашпіроўскага? Штосьці ён такое прыемнае гаварыў, лагоднае, станоўчае. Ня буду тут успамінаць зусім супрацьлеглыя тэлевыступы сёньняшнія, што цягнуцца па некалькі гадзінаў. Толькі ўзгадаю супэрхіт тб, там паказваюць усякія жахі: вядзьмаркі вараць нейкую атруту, чэрці скочуць, варушыцца кубло гадаў і гэтак далей. Карацей, усякая д'ябэльшчына. І гэта паказваецца рэгулярна, адно і тое ж, наколькі можна меркаваць. А голас за кадрам распа-

вядае ўсякую лухту пра непрыхільнікаў айца. Цікава, як да гэтых перадачак ставіцца шаноўны ўладыка? Што ж: на нашай палітычнай кухні гатуюць менавіта гэткія стравы — пераперчаныя, гаркавыя і неядкія.

**5**

Чытаю віншаваньне «дарагім землякам» ад тутэйшых уладаў і вачам ня веру: «3 ліпеня — гістарычная дата вызваленьня рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Што яны там, усе з глузду зьехалі? Горадня была вызвалена 16 ліпеня, г. зн. амаль праз два тыдні. І дата гэтая раней адзначалася ў горадзе тымі ж самымі ўладамі. Ці Горадня — не беларускі горад? Ну, «памыліўся» нехта, абвесьціўшы дату вызваленьня гораду датай вызваленьня краіны. Але ж ня трэба як попкі паўтараць няпраўду. Несалідна! А можа, мясцовым уладам напраўду Горадня, як ейнаму сёньняшняму бургамістру, уяўляецца «маленькім Ватыканам» і «маленькай Швайцарыяй»? Маўляў, прычым тут Беларусь?

*2001*

# Шляхта спачувае

**Суцэльная камэдыя**

Fuck nazi. Чырвоныя надпісы на гарадзкіх сьценах. Іх не сьціраюць. Бюракраты, міліцыянты і камунальная служба ня ведаюць замежных моў. «Жыве Беларусь!», «Выбірай!» — усё гэта зафарбоўвалася адразу. Можа й пра Беларусь пісаць не па-беларуску, каб яны не зразумелі?

«Пякельны хмарачос» ідзе ў кінатэатрыку каля нашага дому. Як пазначана, — «камэдыйны баявік». «Выбух зь мінулага». Таксама камэдыя. «Мурашы ў нагавіцах» — «прыкольная маладзёвая камэдыя». Наступная камэдыя называецца «Маладая вядзьмарачка». Яшчэ адна маладзёвая камэдыя — «Дзе мая тачка, чувак?». І апошняя на сёньня — «Не кажы мамцы, што нянька памерла». Нейкі своеасаблівы камэдыйны час настаў.

**Сто тысяч — дробязь**

Былы савецкі яўрэй падрыхтаваў тэлеперадачу пра Новы Ёрк. У пачатку ён зазначае: яна рабілася да 11 верасьня, напярэдадні. І сапраўды, усё пачынаецца з панарамы Манхэтэна з хмарачосамі-блізьнятамі, якіх болей няма.

Аповед пра гарадзкі яўрэйскі музэй, пра шагалаўскую выставу. Аўтар настойліва паўтарае, што пры Шагале яго родны Віцебск быў маленькім шпэтным гарадком, у якім пражывала ўсяго некалькі дзясяткаў тысяч яўрэяў.

Адначасова паказваюцца старыя віцебскія фатаздымкі, на якіх мноства вялікіх мураваных будынкаў, багата прыгожых храмаў. Яны адлюстраваны і на карцінах мастака. Ня мог жа ён, у рэшце рэшт, рабіць з г... цукерку, выдумляць свой горад.

Дый увогуле, хіба ў горадзе жылі адныя яўрэі? Гэта ж не Тэль-Авіў. Насамрэч перад Сусьветнай вайной у Віцебску было сто дзевяць тысяч насельніцтва, існавала сорак пяць фабрык і заводаў. На пачатку 20-х гадоў — больш за дзевяноста тысяч гараджан, зь якіх адных толькі яўрэяў амаль сорак адсоткаў.

Хіба гэта невялікі «гарадзішка»? Канешне, ня Новы Ёрк. Я ўжо маўчу пра тое, што ўсе гэтыя мастацтвазнаўцы ніколі ня скажуць, што Віцебск — беларускі горад. Не сказаць як ёсьць ды яшчэ абылгаць былое. Усе гэтыя расейскія звычкі і ў Новых Ёрках застаюцца нязьменнымі.

**Шляхецкія звычаі**

У адным раённым мястэчку подпісы пад газэтнымі спачуваньнямі. Швабовічы, Муцянскія, Буйніцкія, Барташэвічы. Гаштольды, Ганевічы. Аляшкевічы, Асмольскія, Паўлоўскія, Жабінскія і г. д. Адная шляхта.

Душэўная раздвоенасьць не дазваляе нам адчуць сябе як мае быць народам. Калі задумацца, як можа быць Міцкевіч адначасова палякам і літоўцам? Славянінам і жмудзінам разам. Праўда, яны аднолькава — каталікі. Але і румыны, і балгары, і грэкі — праваслаўныя. Значыцца, ісьціна — пасярэдзіне? Тонкая матэрыя. Расеец, які застаўся на эміграцыі ў Эстоніі, адначасна зь І. Севяраніным. Пачаў пісаць па-эстонску, прыняў эстонскі псэўданім, стаў эстонскім клясыкам. А Зьмітрок Бядуля?

На пачатку беларускага руху каталікоў было нават болей за праваслаўных. Гэта ўмацоўвала яго. Сёньня каталікоў — адзінкі. Любы вясковы Савоська або Сяляўка, калі хадзіў у касьцёл, а не ў царкву, ужо паляк. Часам папросту сьмешна робіцца, як з такімі вяскова-сярмяжнымі прозьвішчамі ў замежнікі сьпяшаюцца.

Усе нашыя сьціплыя спробы нагадаць апошнім часам грэкам і самім сабе, што адзін з продкаў былога грэцкага прэм’ера Мінэйка — наш чалавек... Гадоў дзесяцьдванаццаць таму па варшаўскім тэлебачаньні выступаў нашчадак шляхціца, паўстанца Мінэйкі, паказваў схему

радаводнага дрэва свайго старога польскага роду. Жыве ў Варшаве. Тое ж самае з Іванам Хруцкім. У той тэлепраграме малады нашчадак расказваў пра свайго дзеда — польскага мастака. Дзіўна. Усё ж бацька мастака быў уніяцкім сьвятаром у Полацку і паходзіў нават, здаецца, з Усходняй Беларусі. Хіба былі палякі ўніятамі? А ў Маскве жыве расейскі пісьменьнік Эдуард Хруцкі, які калісьці баляваў у рэстаранах са здраднікам савецкай радзімы палкоўнікам Пяньkoўскім. Былі Хруцкія калісьці беларусамі, а сталі палякамі і расейцамі. Разьбегліся. На жаль.

**Жывы, «курылка»!**

Вядомы савецкі карыкатурыст. Адзначыў 101 год. Выглядае някепска, гаворыць нармальна. Паказваюць адзін зь першых ягоных плякатаў: «Наперад, на Адэсу!» 1919 год. Матка Боская! Будучы нобэлеўскі ляўрэат, які знаходзіўся тады ў горадзе, дзякуючы адмоўным уражаньням ад усіх гэтых плякатаў і бальшавіцкіх газэт напісаў пазьней адну зь лепшых сваіх кніжак. Дазволю сабе цытату: «У дверей “Политуправления” стоит огромный плакат. Краснорожая баба, с бешеным дикарским рылом, с яростно оскаленными зубами, с разбегу всадила вилы в зад убегающего генерала. Из зада хлещет кровь». І на працягу ўсяе кнігі — сюжэты падобных плякатаў і тагачасныя маразматычныя, непісьменныя і жудасныя газэтныя цытаты.

Якраз адначасова ў Стакгольме знайшлі невядомыя фота І. Буніна і кінакадры: пісьменьнік за сталом з жонкай, каханкай і швэдзкай прынцэсай. Ён атрымаў Нобэля, пражыў яшчэ дваццаць гадоў і ўжо даўным-даўно памёр, а карыкатурыст трымаецца малойцам. Усё мучыўся, як гэта ягоны продак «Бунковіч ці Буйноўскі» быў «ці то літоўцам, ці то палякам», паходзіў «ці то зь Літвы, ці то з Польшчы» (уцёк адтуль у Масковію), а вось ён — расейскі пісьменьнік. Зрэшты, падобна і з Дастаеўскім. Вось падумалася: экзістэнцыяльны герой, запачаткаваны ў раманах Дастаеўскага, перакрочыў да Гамсуна, які яго пераймаў, трапіўшы ўрэшце да Сартра. А колькі Камю займаўся

Дастаеўскім! Сёньня, 7 лістапада, угодкі народзінаў Камю. Алжырскі, афрыканскі француз і вар'яцкія героі халоднасьнежнага Пецярбургу XIX стагодзьдзя.

**Нічога сьвятога**

Генэрал Шырма служыў перад рэвалюцыяй начальнікам сталічнага Петраградзкага гарнізону. Пад Горадняй у яго быў маёнтак. Пабудаваў у ім вялікі псэўдарускі храм — копію гарнізоннага (!) піцерскага. Захаваўся дагэтуль. Саветы зрабілі ў ім склад, потым млын. Цяпер адноўлены Царская брама, алтар, абразы. Але няма ўжо амаль каму хадзіць у царкву. Прастаяла яна зачыненай мала не паўстагодзьдзя. Касьцёл жа прыцягвае вяскоўцаў значна мацней.

Пэўная мясцовая газэта піша: няма нічога сьвятога ў зладзеяў, забраліся ў касьцёл і пакралі тое-і-тое, прычым якраз на сьвята Пакрова... Слушна наконт сьвятасьці, адзінае, што ў касьцёле не адзначаюць такога сьвята. А ўвогуле пачасьціліся выпадкі рабункаў каталіцкіх храмаў і ксяндзоў. У Воранаўскім раёне ў матчынай хаце ксёндз трымаў вялікія грошы на пабудову касьцёлу — дваццаць дзьве тысячы марак і дзесяць тысяч даляраў. Злодзеі вынялі ключ са схованкі і забралі ўсю суму. Ксёндз тыдзень умаўляў землякоў, спадзяваўся, што грошы вернуцца. Толькі потым пайшоў у міліцыю. Праўда, аднойчы і вясковую цэркаўку таксама абрабавалі, скралі абразы і грошы.

Адзін раённы галава пабудаваў праваслаўную капліцу каля райбальніцы. Затым выдзеліў зь бюджэту грошы на пабудову ў горадзе царквы. І атрымаў ад Рускай праваслаўнай царквы ордэн Сергія Раданескага. А на раёне чатырнаццаць прадпрымальнікаў спынілі сваё існаваньне. Але галава неўзабаве пайшоў на падвышэньне... Асабістае ўражаньне: вясковы мужчына на асьвячэньні падмуркаў будучай царквы. Ён дапамагае, падсьцілае бацюшку ходнік, разгінаецца і смаркаецца ўдол, якраз на падмуркі. Машынальны рух, безь ніякае наўмыснасьці. Ня ходзяць мужчыны ў царкву, апроч некаторых. Царква ў нас кволая,

бабская, быццам каб апраўдаць свой жаночы род. Касьцёл — слова мужчынскага роду, і мужчынаў у касьцёлах не нашмат меней за жанчын. Праўда, царква моцная адданасьцю ўладзе.

**Мяжа**

Мяжа жыве сваім жыцьцём, як сказаў калісьці адзін клясык, дзяржмяжа — гэта заўжды вельмі сур'ёзна. Чыноўнік Б. патлумачыў тэлегледачам, што расейскі карабель «Брэст» абараняе на Поўначы мяжу Расеі. А ў Берасьці, маўляў, улады абараняюць «славянскую мяжу». Ад каго? Бадай, ад «ня нашых» палякаў. А можа, таварышу Б. уявілася, што за Бугам зноў немцы стаяць? Напэўна, усе заходнікі для яго на адзін твар, па геаграфіі ў яго была двойка, праўда, па палітычнай — выдатна. Днямі сыр у краме зьявіўся «Славянскі», каўбаса. Беларускім ўладам ужо заманулася стварыць спэцыяльны славянскі тэлеканал, ды каб абавязкова быў разьлічаны на пяцьсот мільёнаў гледачоў! Нейкая славянская параноя пачалася.

**Польскія тратуары**

На маёй памяці ў Горадні адбылося некалькі хваляў брукаваньня ходнікаў. Першы раз, яшчэ пры галаве абкаму Кляцкове, пра гэта нават паведаміла аднойчы сталічная маскоўская «Правда». Маўляў, ёсьць гаспадар у горадзе. Танкаў было ў горадзе багата, але не знайшлося элемэнтарнага разака, каб тратуарную плітку рэзаць на кавалкі. І сёньня па краёх гэтыя кляцкоўскія тратуары выглядаюць пачварна, з абламанымі абы-як кавалкамі пліткі — тамака, дзе на цэлую не хапала месца.

Сёньня выкладаюцца тратуары шэрай цаглінкай. Файна! Асабліва сьпяшаліся перад сходкай у нас селязьнёвых і барадзіных. Выдатна выбрукавалі. А потым пачалі узломліваць. Адвечная песьня! Альбо старасьвецкі дом непадалёк ад аблвыканкаму. Сьпяшаліся яго затынкаваць, зафарбаваць. Збольшага пасьпелі. Прастаяў ён некалькі месяцаў, увосень пачалі тынк абдзіраць. Бо — першы раз рамантавалі без уліку архітэктурна-гістарычных

асаблівасьцяў: дзе была якая ляпніна — усё замазалі. Але й цяперака зноўку засьпяшаліся, бо галоўны прыяжджаў. Пасьпелі, ясна, але потым зноў рыштаваньні паставілі. Вось такая рэстаўрацыя.

Насупраць аблвыканкаму хрушчоўка, паставілі яе ў гістарычнай забудове. Бюракратычны будынак зьявіўся пазьней. Ды так, што жыхар дому, пахмяляючыся раніцай, мог бачыць з акна ўсю аблвыканкамаўскую кухню. А тут яшчэ замежныя дэлегацыі сталі наведвацца, лімузіны спыняць побач з хрушчоўкай. Нарэшце гаспадар бюракратычнага гмаху загадаў перарабіць яе, зрабіць з г... цукерку. І атрымалася, між іншым.

Тратуары кляцкоўскія ўжо трэба замяняць. А гараджане дагэтуль шмат дзе ходзяць па плітцы, на якой захавалася кляймо магістрату польскіх часоў. Гэта колькі ўжо гадоў?! Больш за паўстагодзьдзя. Каля штабу вайсковага таксама польская плітка, пад шыльдай, прысьвечанай генэралу Карбышаву. Калі ён служыў у штабе, хадзіў па гэтай самай польскай плітцы.

**Britannica**

Цікава пачытаць у «Брытанскай энцыкляпэдыі» зьвесткі пра Беларусь, пра нашыя гарады. Палітычныя артыкулы напісаны як мае быць — пра наш дарагі рэжым і г. д. Адчуваецца, што інфармацыя атрымана зь беларускіх рук. Астатняе часам засмучае. Каранаваньне «Міндаўгаса» ў Наваградку, замак «Гедымінаса» ў Лідзе. Гэта ўсё адно як пра рускіх цароў паведамлялася б з пункту гледжаньня не саміх расейцаў, а, дапусьцім, латышоў або беларусаў. У мяне ўвогуле сумнеў: каб узьняць іх з магілаў і спытаць саміх? Ці адгукнуліся б яны на гэтыя «-ісы», ці ведалі б, што іхнія імёны павінны гучаць менавіта так? А ня гэтак, як, напрыклад, падаваліся ў старабеларускіх дакумэнтах? У нас Нёман, у літоўцаў — Нямунас. У артыкуле пра Літву, напэўна, так і напісана. Калі ласка. У артыкуле пра Беларусь «Нямунас» пісаць ня варта. Да пабачэньня.

*2001*

## Zombi

**Ня сьпі!**

А «зомбі» па-ангельску — усяго толькі той, хто сьпіць ідучы. Беларус! Ня сьпі ў шапку! Ачуйся! Навокал жыцьцё пульсуе, зьмены адбываюцца, усё рушыць наперад. А ты — як зомбі ў абодвух значэньнях. Успрымаеш рэчы першабытным чынам, любыя зьвесткі. Шаман у тэлевізары гаворыць: «Агонь!», і табе робіцца горача, у цябе ў вантробах пачынае пячы вугольле, тваё сэрца сьціскаецца ад страху. Ты такі лёгкаўнушальны, легкаверны. Гэта таму, што ты ходзіш на свае постсавецкія мітынгі з партрэтамі паганскіх багоў. Ты перастаў быць хрысьціянскім па-сапраўднаму. Царкоўныя služkі запэўніваюць цябе: уся ўлада — толькі ад Бога. Таму не абурайся, не супраціўся, падначальвайся і любі яе. Гэта ўлада зь Вялікае Літары, бо яна — ад Бога. Цікава толькі — ад якога? Але братка пытаньняў не задае.

Паганскія шаманы ў тэлевізары паўтараюць штодня, што пячэ сонца з Захаду, асьцерагайся яго! А ты забыўся, што гарачае сонца ўзыходзіць з Усходу. На Захадзе яно ўжо — цёплае, сумнае і ласкавае. Так, для нас болей надзённым ёсьць другое значэньне слова «зомбі». Хаця сьпіць народ, сьпіць. Ва ўсякім разе, адным вокам. Салодкім летаргічным сном, у якім СССР, напаўжывое Палітбюро. Што тады было лепш? Ядзерныя боегалоўкі, тысяча танкаў у горадзе? Чэргі ля кожных дзьвярэй, у кожнай краме і ўстанове? Мары купіць кілё сасісак, пачак драждэй і самыя сьмелыя — наконт бляшанкі растваральнай кавы або пляшкі рыскага бальзаму...

**Галава ня ўмее па-расейску**

Не-не, гэта не пра змагароў з «чэ» і «шчэ». А — пра жанчыну-прэзыдэнта постсавецкай Латвіі. Не, гэта ня можа

ня ўражваць: прэзыдэнт краіны не размаўляе па-расейску. Не таму, што ня хоча ці грэбуе. Папросту ня ведае расейскай мовы. Гэта асоба латвійскай, а не расейскай ідэалёгіі, латыскай, а не савецкай культуры. А таксама носьбітка заходняй дэмакратыі. Ніякай саветчыны, ніякай расейшчыны, ніякай камуністычнасьці. У Грышкі з Саўкам няма такога.

Нам ставяць зноўку старую кружэлку: развал Абрэвіятуры — вялікая бяда, «праступленьне»! Беспройгрышны разьлік на няразьвітую першабытнасьць мысьленьня жыхароў, якія каля тэлевізараў сядзяць. Варта тады нагадаць, што каб уратавалі яе, то немагчыма было б стаць «яго правасхадзіцельствам», сядзець у залачоных крэслах, езьдзіць у бранявых лімузінах. Так што маліцца трэба на зьнікненьне Абрэвіятуры. Дзякаваць ёй усяляк, што яна ня вытрымала, разваліласяя. І адзначаць угодкі скону шампанскім.

**Вочы на паталіцы**

Зноўку сюжэт на тэбэ: пра «гарадзенскі Арбат» — вуліцу, пардон, Савецкую. Гадоў дзесяць таму давялося ўжо тлумачыць у мясцовай газэце, што гэта — памылка. Але мушу рабіць гэта паўторна. Рэч у тым, што, калі на Савецкай спынілі транспарт, Арбат яшчэ ня быў пешаходным. Гарадзенцы пазычылі тады яшчэ рэдкую ідэю зусім не ў Маскве, а ў літоўскім Шаўляі. Горадня і Шаўляй супрацоўнічалі. З Шаўляю было бліжэй да эўрапейскіх шляхоў. Мы якраз жылі ў Шаўляі, і бацька сёньня ўспамінае, як прыяжджалі гарадзенцы, як у рэстарацыі рабілі дні беларускай кухні.

Так што хутчэй Арбат трэба называць «маскоўскай Савецкай». А шаўляйская пешаходная вуліца называлася Вільняус. Росьпіс на сьценах, экзатычныя шыльды. І ўсё гэта на пачатку брэжнеўскіх 70-х. Таму лепей гаварыць «гарадзенская Вільняус». Частка нашых людзей бачыць, што адбываецца ззаду за сотні кілямэтраў — тамака, дзе Эўропа ператвараецца ў Азію. А перад сабой ня бачыць. Асаблівасьць беларускага савецкага зроку. Можа, шампанскага? Савецкага, само сабой.

*2001*

# Дзейныя асобы, статысты, марыянэткі etc.

## 1

Хацеў быў глыбакадумна прамовіць: першы год новага стагодзьдзя-тысячагодзьдзя мы сустрэлі апошнімі, і апошнімі ён нас пакідае... Ды ўзгадалася адначасова, што не канчаткова далучылі нас да «матухны», адно закон прыняць пасьпяшаліся ў сваёй «думе» аб далучэньні. Таму называць Камчатку сваёй і зь яе лічыць надыход новых гадоў пакуль не выпадае. А ў слаўнай нашай рэспубліцы вянка і глёбуса час адрозьніваўся толькі да 39-га году. У Негарэлым — адзін, савецкі, у Стоўбцах — іншы, буржуйскі. Сёньня ўсё аднолькава савецкае.

А пачатак году запомніўся бадай сьмерцю мясцовага кіраўніка. Бо галовы, якім цяперака карціць называцца губэрнатарамі, як у далёкіх Штатах, мяняюцца ня гэтак часта. Маўляў, Клінтаны губэрнатарамі былі, і нашым хочацца. Губэрнатар штату Каліфорнія. Гучыць! У нас гэта таксама пачало распаўсюджвацца хуткасна. Праўда, нідзе ў заканадаўстве ня згадваюцца ўсякія розныя экзатычныя пасады. Але жывуць. Асабліва актыўна ў прамовах саміх «галоваў», у газэтах і на экранах. Ах, губэрнатар Шклоўскага раёну. Віцэ-мэр Ленінскага раёну гораду над Нёманам. Гараднічы Фрунзэнскага раёну сталіцы. Мода такая на гістарычную настальгію. Ну, альбо, можа, я троху перабольшыў, наперадзе цягніка пабег. Але да гэтага ўсё ідзе. Так, глядзіш, да імпэратарскіх вялічстваў дойдзе зноўку.

Яго высочаства таварыш прэзыдэнт акадэміі грамадзкіх навук, напрыклад. Або — яго правасхадзіцельства генэрал-губэрнатар чырванасьцяжнай вобласьці. Калі існуюць генэ-

ралы і губэрнатары, да генэрал-губэрнатараў — адзін крок. Асабліва цікава назіраць, як гэтыя губэрнатары ходзяць з ордэнамі сярпа і молата на грудзёх. Эклектыка, скажаце? Жыцьцё, рэчаіснасьць, адкажу я! Яно тым і цікавае. Калі ўсё ў ім адпавядае адно аднаму, усё лягічна, дык гэта пачынае нагадваць казарму. А так таварышы генэралы пакуль ходзяць вакол гаспадзінаў губэрнатараў, ня ведаюць пакуль, як зь імі спалучыцца. Царква зь дзяржаваю фармальна існуюць паасобку, а насамрэч даўно моцна пасябравалі. Чыноўнікі прышпілілі побач зь серпа-молатнымі ордэнамі розных сьвятых пакутнікаў узнагароды.

## 2

Вось яшчэ падзея запамінальная: Занусі Кшыштаф прыяжджаў. Сымпатыю выклікаў у гарадзенцаў невыказную. Нам бы такога маштабу творцаў, на губэрнатараў бы прозьвішчы забыліся. Нават, што сказаў праўду-матку, не пакрыўдзіліся. Хацеў паглядзець, «наколькі Горадня выглядае эўрапейскім або савецкім горадам». Атрымалася, што болей, канечне, савецкім. Але агульнавядома: чым далей на ўсход, тым меней Эўропы. Мадэльер сталічны прыехаў — той наадварот, сказаў, што Горадня — улюбёны горад. Што ў нас нават паветра іншае — «эўрапейскае». Што ў горадзе ёсьць нешта арыстакратычнае. Што ён вызначаецца добрым стылем і густам. Што ў Горадні «высокі дух» і «прыгожыя твары». Дзякуй яму вялікі.

Мы не спрачаемся з Занусі, але й не пярэчым мадэльеру. Ён сказаў, што мы — спрэс цікавыя людзі, бо выхаваны на традыцыях, сярод помнікаў архітэктуры. Што ні кажы, прыемна такое чуць. Нават калі гэта не заўжды так. Бо ад начальства сталічнага нават калі пахвальбы гады ў рады дачакаешся, дык нейкай нягеглай, недарэчнай нават. Адзін, прыкладам, нам аднойчы сказаў, каб палесьціць, прыблізна так: глыбокаўважаныя жыцялі горада-гяроя Гродна... Карацей, парадаваў. Але чаму ён «горад-герой» — дагэтуль няясна.

Астрахан прыяжджаў. Рабіў фільм пра жыдоўскае гета ў Кіеве ў нас каля Брыгіцкага касьцёлу. Ахвотных да ўдзелу ў масоўцы паўтары тысячы сабралася. Рэжысэр выбраў 850 — на цывільных і 350 — на фрыцаў, у шэрагах якіх апынулася шмат нашых слаўных міліцыянтаў. Горад Астрахану спадабаўся. На шчасьце разьбіў на вуліцы талерку. На памяць пакінуў на бруку і асфальце вялікую колькасьць конскіх яблыкаў, якія спатрэбіліся для кіна.

Ледзьве не забыўся, прыяжджалі селязьнёвы-барадзіны. Вясельна-генэральскае мерапрыемства правялі. Апошні быў авеяны сьвежай славай манхэтэнскага вязьня. Своечасова выпусьцілі! Літасьцівая амэрыканская Фэміда! Трапіўся б ён да беларускай у кіпцюры. Але навошта пра сумнае! Яго высокапраасьвяшчэнства наведваўся, каб атрымаць honoris causa мэдыцыны ў нас. Усе, канечне, па-свойму стараліся разьвесяляць, расчуліць, пацешыць. Ведалі, што ў нас прэзыдэнцкая кампанія. Дзякуй ім усім. Дай бог ім здароўя.

Мне асабіста, праўда, давялося наведаць толькі выступ слаўных рок-дыназаўраў Slade. Яшчэ раз пераканаўся: нездарма з намі змагаліся, не давалі слухаць іхнюю музыку ідэалягічныя органы і функцыянэры, пачынаючы са школьных настаўнікаў і камсамольскіх правадыроў. Дзякуючы музыцы, якая несла пачуцьцё свабоды, мы ня сталі савецкімі. Часткова дзякуючы ёй разваліўся наш родны «лягер сацыялізму». Вечная памяць.

**3**

Год яшчэ стаў адметным тым, што часта завозілі васковых пэрсонаў выставы. Асабліва што да ўродцаў. Чалавек-воўк, двухаблічны Янус, 5-кіляграмовая карліца-кітаянка, мурын-цыклоп, чалавек-насарог. Не давезьлі адно «катаў і ахвяраў». Берасьцейскія ідэалягічныя органы пільна спынілі яшчэ ў горадзе над Бугам публічны паказ гільяціны і васковых абезгалоўленых арыстакратаў францускіх. Усё ж год выбараў! Усё ж прэса апазыцый-

ная плявузгае пра ахвяр рэжыму. Карацей, забаранілі і кропка. Цэнзар абудзіўся і жыве ў кожным беларускім чыноўніку ўжо сем гадоў.

Галоўны вось яшчэ памерлага галаву нашай «губэрні» ўзнагародзіў званьнем «героя». Горад пакуль застаўся героем адно на словах.

А потым была бітва за ўраджай. Адначасова адбылася прэзыдэнцкая кампанія з буйнамаштабнымі вайсковымі манэўрамі, на якія да нас прылятаў на верталёце асабіста галоўнакамандуючы. Калі працуюць гарматы, музы маўчаць. Голас апазыцыйнага кандыдата, які выступаў у горадзе ў дзень манэўраў, заглушылі артылерыйскія залпы.

Улады з бэпээсэмам зрабілі на пляцы беспрэцэдэнтную перадвыбарчую дыскатэку. Міліцыя адрапартавала: сабралася сорак тры тысячы моладзі!!! Ды-джэі біэй разам з камсамольскімі правадырамі заклікалі «галасаваць за бацьку». І зрабілі дзеля пераканаўчасьці шыкоўны фаерверк. За бітву за ўраджай і за выбары новы абласны галава атрымаў ордэн. «Мэра» таксама замянілі, і цяпер горадам і вобласьцю кіруюць магілёўцы — кіравалі ж віцябляне, розьніцы ніякай.

На пачатку году наша «Пагоня» выйшла пад нумарам 500. Паўтысячы нумароў! А ў канцы году яе забаранілі. Яшчэ на мяжы з Польшчай у Брузгах апусьцілі шлагбаўм, болей чым на год. І апошняя навіна. Нашае начальства на радасьцях пасьля выбараў выпусьціла лятарэю «200-годзьдзе царскай губэрні» па паўтары тысячы рублёў за штуку. Але не дачакаецца генэрал-губэрнатарскіх эпалетаў. Дальбог. З Новым годам!

*2001*

# Нёман не пасьпеў замерзнуць

Першы дзень вясны, па Нёмане імкліва плывуць сьнежна-лёдныя сподкі. Усю зіму Нёман жыў не хаваючыся. Цёплае надвор’е сыноптыкі абяцалі ледзьве не да Калядаў. Калі надышоў Новы год — паводле Варшаўскага часу —на Горадню пасыпаў сьнег.

Хвалісты чарапічны дах у маім акне асьнежаны таксама і першага сакавіка. Гэта — адзін са спрыяльных чыньнікаў маёй працы. Глядзіш на яго, на галубоў, на іхніх госьцяў — крукоў і пішаш сабе... І Нёман, бязь Нёмана было б ніякавата. Калі бываеш у бібліятэцы, якая ў Новым замку, выйсьці пастаяць на высокім беразе, паглядзець на плыню, на стары мост, на былы Фарштат — заўсёдная патрэба. Нават калі ўжо цёмна, рака адчуваецца ў доле, цьмяна паблісквае.

Узімку два гады таму я ўпершыню засьпеў, як лёднае покрыва апаноўвае раку, рухаючыся з поўдня. У доле паміж Старым замкам і Каложай была ягоная мяжа. Тут белы лёд, бліжэй да царквы — цёмная вада. Пяць гадоў таму мы спакойна ў сваіх Крэйдавых гарах шпацыравалі па Нёмане. Нават пайшлі былі па ім у бок гораду, туды, дзе Калоская царква. Але надта ж далёка аказалася, бо — лукавіны. Нейкі дзівак рабіў крос пасярэдзіне Нёмана. Бег крыху незвычайна — улукаткі. У кожнага свой спосаб. Нёман тае зімы быў моцна скаваны. Каля берагу — у празрыстым лёдзе здранцьвела хвалістая сакаўная папросту смарагдавая трава.

Такія ўжо мы — штозіму бярэмся разважаць, ці хопіць ім мазуту? Якое расчараваньне! Кожная наступная зіма робіцца цяплейшай за папярэднюю. Міжволі рыхтуюцца раставаць ледавікі ў далёкіх гарах, полюсныя панцы-

ры. І рэжым эканоміць на цэнтральным ацяпленьні. Як з гусі вада.

На пачатку зімы нашага С. Д. пачалі разглядаць у якасьці магчымага кандыдата на прэзыдэнцкую пасаду. Потым у родным «Слуцка-Варшаўскім» пантонным палку радасна адзначылі «300-годзьдзе нашых інжынэрных войскаў», створаных Пётрам Першым (!). Адна мясцовая газэта паведаміла, што тады — у 1701-м — быццам бы «Горадня знаходзілася на ўскраіне Расейскай імпэрыі...» І што расейскі цар рыхтаваўся ў тым самым годзе абараняць ад Карла XII наш горад. А дзякуючы гэтаму «нага швэдзкага жаўнера» ступіла на нашую зямлю толькі праз пяць гадоў. Вось такая ў нас «інцярэсная» гісторыя, дарагія землякі. Як паўтарае большы брат — век жыві, век вучыся...

Ат, зусім забыўся. Яшчэ перад самымі пантанёрскімі ўрачыстасьцямі ўлады сталі рыхтавацца адзначыць заснаваньне на акупаваных землях расейскім царом дзьвесьце год таму Гарадзенскай губэрні. Прэса паведаміла з гэтай нагоды, што «у губэрнскім горадзе Г.» будзе «закладзена юбілейная алея». Вось такімі часам загадкамі ў нас пішуць. І яшчэ. Камандзіру пантоннага, як ужо гаварылася — «Варшаўскага», палка маскоўскі міністар абароны прыслаў адмысловы мэдаль «За ўмацаваньне баявой садружнасьці». Нейкі мэдаль з падтэкстам атрымаўся.

А неўзабаве памёр ваявода, які бадай вельмі ня супраць быў стаць губэрнатарам. І прыехаў галоўны, і сказаў нейкай загадкай: дарма, маўляў, гавораць, што ты мог бы яшчэ жыць, мы ж з табой ведаем, што гэта няпраўда... Неўзабаве і зіма скончылася, а Нёман гэтак і не пакрыўся лёдам. Апошнім разам, калі рака замярзала, на яе роўнядзі каля заходняга берагу я па-школьніцку вытаптаў шыльду газэты СВАБОDА, якую неўзабаве закрылі.

*2001*

# Газэта з «Мытымі яблыкамі»

Для мяне новая «Наша Ніва» распачалася зь першага менавіта нумару. У ім на першай таксама старонцы ў падвале было надрукавана маё апавяданьне «Мытыя яблыкі». Яно ў С. Дубаўца праляжала ў партфэлі год, пакуль не атрымалася выдаць гэты нумар. І ўсё роўна для мяне друк аповеду стаў нечаканым, адным са станоўчых узрушэньняў. Наведаўшы тадышняе памяшканьне рэдакцыі «НН», я вяртаўся колішнім дызелем Вільня—Горадня дахаты. Сядзеў ля акна і перачытваў газэту. Было гэта на пачатку лета 1991 г. І ў Вільні, дарэчы, з таго часу я болей ня быў.

У студэнцкія часы «Наша Ніва» была для нас легендай, каштоўнасьцю, прыкладам. Мы шукалі і прачытвалі ўсё, зь ёю зьвязанае. Багдановіч? Пачынаў у «НН». Гарэцкі? Таксама! Ластоўскі Вацлаў... Паездкі да Зоські Верас у Вільню. Блуканьне па вуліцах. А вось у гэтым доме мясьцілася калісьці рэдакцыя, нават вядомы здымак існуе! Усё гэта было ў першай палове 1980-х. У 85-м у Індуры я аглядаў касьцёл, які з кожнага з чатыроў бакоў збудаваны ў розным стылі. Там быў вартаўнік ці даглядчык. Мы пачалі размаўляць. Ён сказаў, што ў яго захаваліся нумары «НН», надрукаваныя лацінкай. Чалавек гэты быў сваяком або нават бацькам аднаго зь дзеячаў сёньняшняга Саюзу палякаў.

Потым была падпіска на факсымільныя зборнікі «НН». Але ў кнігарні згубілі маю паштоўку. Пазьней увогуле аднавілася выданьне газэты. Напачатку друкаваліся мае зацемкі, бягучыя паведамленьні з Горадні. Затым увесь час стала забіраць у мяне газэта «Пагоня», сьледам — «Свабода». Але з 1996 г. я зноўку пачаў друкавацца ў «НН». Зь

пярэрвамі, але друкуюся дагэтуль. Паколькі яна найлепей адпавядае літаратару, які займаецца журналістыкай. Або журналісту, які піша прозу. У «НН» друкаваліся яшчэ мае апавяданьні: «Турэмны дворык», «Адбіткі пальцаў», «Калгасная плянёрка», «Біблейскі патоп», «Слава Акцябру», «Poeti Italiani».

*2001*

# Герой працы Быкаў…

Гарадзенскія ўлады прынялі нечаканае рашэньне — увекавечыць памяць пра Васіля Быкава, які пражыў у Горадні 24 гады і стаў тут сусьветна вядомым пісьменьнікам. Нечаканасьць гэтая прыемная. Другая рэч хутчэй чаканая, але непрыемная. Я маю на ўвазе тэкст. На дошцы напішуць, што быў ён героем сацыялістычнай працы і ляўрэатам ленінскай і дзяржаўнай прэмій. Праўда, такое рашэньне гарвыканкаму павінен яшчэ ўхваліць аблвыканкам.

Што было, тое было, скажуць мне. Правільна, адкажу я. Бо пасьля гэтай усёй ленініяны колькі ўсяго адбылося! Сёньня 2003 год, а тэкст прыдумалі 20-гадоўнай даўнасьці. Казённы савецкі тэкст. Канечне, улады не такія дурныя. Яны, што відавочна, — падстрахаваліся! Вядома стаўленьне «начальніка дзяржавы» да Народнага пісьменьніка. Дык лепей, маўляў, такую шыльду, чымся ніякую. Адвечная спрэчка. Што лепей — што Каліноўскага і Багдановіча ў Горадні ў больш-менш дэмакратычныя часы не паставілі, і іх дагэтуль няма, і невядома калі будуць? Ці хай бы паставілі тых, выкананых у савецкай традыцыі, і яны б добрых 10 гадоў фармавалі б аблічча Старога гораду? Я згодны зь першымі, але мне сумна так доўга жыць у горадзе безь беларускіх помнікаў.

Элемэнтарны людзкі крок: уявіць, а ці спадабалася б гэткая мэмарыяльная шыльда самому Быкаву? Я зь ім ня быў, па сутнасьці, знаёмы, але перакананы: ён быў бы супраць! А значыцца, бадай ня можа быць мовы пра падобны тэкст. Калі сёньня з гонарам афіцыйныя рупары паведамляюць пра актора ці сьпевака, што ён — дагэтуль ажно «народны арціст СССР», дык Васіля Быкава гэта

не датычыць. Я б напісаў больш па-людзку, што Васіль Быкаў — сусьветна вядомы пісьменьнік, што свае самыя вядомыя кнігі ён напісаў менавіта ў гэтым горадзе, дзе жыў і працаваў, які яго натхняў. А што да прэмій, дык для пісьменьніка маюць значэньне толькі сапраўдныя 100-працэнтова літаратурныя. Напрыклад, Нобэлеўская.

*2003*

# Піва пад часовай забаронай

Што п'юць ды ядуць у Горадні? Уласна кажучы, чарку і скварку, як і ва ўсёй «сінявокай рэспубліцы». Улады зьбіраюць каля ленінскай статуі дыскатэкі, дзе з задавальненьнем весяліцца моладзь. Вось апошняя здарылася днямі. Праўда, у Старым горадзе немагчыма было набыць пляшку піва. Прадаўшчыцы папросту раздражняліся: вы што, не чыталі абвесткі на дзьвярах? З дванаццаці гадзінаў піва ды іншага алькаголю не прадавалі. У пэўным сэнсе гэта станоўча. Раней на ўсе гэтыя афіцыйныя сьвяты ўчыняліся масавыя п'янкі (які прыбытак для бюджэту!). Тысячы людзей жлукцілі гарэлку зь півам. Ажно міліцыя Хрыстом-богам упрасіла гарадзкія ўлады забараніць продаж.

А якое ж сьвята без напояў? Я сутыкнуўся каля помніка Ажэшцы з маладзёнам, які накіроўваўся на дыскатэку з заторкнутымі за пас адразу трыма пляшкамі піва. Як герой-панфілавец, які абараняў Маскву, з гранатамі і бутэлькамі з кактэйлем Молатава. О, салодкае пачуцьцё ад «антыўладнага» ўчынку — працягнуць піва туды, дзе яго забаронена прадаваць.

Калісьці ў Старым горадзе існавалі чатыры рэстарацыі, зь якіх палова — гатэльныя. Сёньня працуе з усіх толькі адна. На пешаходнай вуліцы ў цэнтры былі блінная, пяльменная і рэстарацыя. Рэстарацыя шаснаццаць гадоў як зачынена на рамонт. З блінная год таму зрабілі кавярню. Пяльменная гераічна трымаецца. Апошняя навіна: зачыніўся некалі папулярны падвальчык з кавай, збанкрутаваў.

Кавярні, бары, рэстарацыі-начныя клюбы, якія сябе рэклямуюць, калі верыць, маюць эўрапейскую, каўкаскую,

«разнастайную», «хатнюю» кухню. Пару, найменш папулярных, прапануюць нібыта беларускую. Хаця паўсюдна ўсё прыблізна аднолькавае, бо рэцэпты старыя, савецкія. Калісьці нам выкладаў савецкую эканоміку, у прыватнасьці эканоміку «общепита», самы апазыцыйны выкладчык Юшкевіч. Ён гаварыў: савецкая ўлада зацьвердзіла хлебны шніцаль за дваццаць сем капеек для ўсіх ядальняў ад Бугу да Курылаў. Так, як і забудавала гэткія бязьмежныя абшары аднолькавымі шэрымі хрушчоўкамі.

Ёсьцека, канечне, некаторыя зьменкі. Мой сябра ў ранейшыя часы служыў у Петрапаўлаўску-Камчацкім. У рэстарацыі заказваў фірмовую страву — катлету «Вулкан», у якой падпальвалі кнот з папяровай сурвэткі. Сёньня ў гарадзенскай прыватнай рэстарацыі прапануюць сваю фірмовую страву — адбітае мяса, фаршыраванае вэнджанінай, сьвежым перцам, памідорам, цыбуляй. Назва — «Вэзувій». А «крэольскі» рыс? Безумоўны ўплыў лібэральных часоў з лацінаамэрыканскімі мыльнымі опэрамі.

*2003*

# Віно з «Баторыі»

Раптам алень, алень нашага дарагога і сьвятога Губэрта ўскочыў на камяніцу гарадзкой улады. Прыемная навіна на пачатак лета. Доўга пуставала месца, занятае калісьці «Славай КПСС». Лепей позна, як ніколі, напраўду. І на Днях культуры ва Ўроцлаве лунаў наш гарадзкі — сіні і менавіта з аленем сьцяг, а не чырвона-зялёная памяць аб здохлай імпэрыі.

Гадамі мы патрыятычна скрыгаталі зубамі: бальшавікі наламалі дроў у Старым горадзе, настаўлялі хрушчовак, Швайцарскую даліну ўздоўж Гараднічанкі ператварылі ў якуюсьці тайгу, а рачулку — у каналізацыйны сьцёк. Пачуты праклёны, зьдзейсьнены мары! Мосьцікі, мінівадаспады, выбрукаваныя сьцяжыны і аглядныя пляцоўкі з парэнчамі. Усё як мае быць.

Сьпяшаліся айцы гораду і нашай двухсотгадовай губэрні да «сьвята народаў Беларусі». Такі міні-СССР. Шмат народаў, і з кожным фэстам усё больш. Імёны іхнія вядомыя! Карэйцы, нашчадкі Гамэра і Пэрыкла, розныя джыгіты і самы новы беларускі народ — казакі. Так на вачах ствараюцца шчасьлівыя краіны дружбы народаў. Усё айцы выбрукавалі, каб зручна было танчыць лязьгінку, сіртакі і кракавяк. І цыганачку, само сабой.

Адна непрыемнасьць: ніколі не прыяжджаюць айцы рэспублікі маёй на сьвята дружбы сваіх народаў. Праўда, заўсёды прысылаюць тэлеграму-маланку: «паздраўляем зпт нашы дружныя народы з бальшой пабедай ітд тчк». У нас усё цяпер толькі з нагоды Вялікай перамогі. Піва сабраліся папіць, пагатоў гарэлкі, ці ў даміно згуляць — абавязкова з нагоды перамогі.

А сьвяточная калёна дружных народаў? Незабыўнае відовішча. Раней перад маўзалеем нябожчыка праходзілі

ў фальклёрных шатах, танчылі і сьпявалі. Цяпер у нас ходзяць. Нечакана самая доўгая частка калёны — палякі, быццам найбольшы з народаў рэспублікі. Беларусы несьлі птушку, званую буслом. Неспадзявана ў беларускай калёне крочыў міліцэйскі ўзвод. ??? Ат, паліцэйская краіна. Аказалася, што не — гэта ўзвод школьнікаў, закаханых у правапарадак.

А колькі было нагаворана пра Вялікую перамогу, мікрафон амаль сапсуўся! А потым па камандзе як кінуцца нацмены да зялёнага танка на пастамэнце. Наперадзе немцы ў баварскіх адзеньнях, габрэі ды іншыя. Удзячныя народы дзякуюць свайму танку, ускладаючы да ягоных гусеніц букеты і кашы з кветкамі. Цырк на дроце дый годзе.

Яшчэ ў нас манумэнт адкрылі з нагоды заканчэньня пакту Молатава-Рыбэнтропа. Сто тонаў граніту, дзясяткі тонаў бронзы. Лес слупоў з нашараваным гербам СССР — помнік савецкім заставам на тэрыторыі сучаснай Польшчы, дзе яны апынуліся — амаль пад самай Варшавай — дзякуючы ўсё тым жа наркому Молатаву і ягонаму нямецкаму калегу. Натуральна, што польскага вайсковага аташэ не запрасілі. Між іншым, на месцы манумэнту раней штогод выступаў вандроўны цырк.

Апроч слупоў ёсьць яшчэ пагранцы, як іх гарадзенцы на трасянцы называюць. Галовы з разяўленымі ратамі і са стрэльбамі ў руках. Адно сабакі няма. А які ж пагранец без сабакі? У дзень адкрыцьця зьявілася чутка, якая ператварылася ў паказку: сабака быў, але яго валацугі адламілі і здалі ў ламачча. Бадай, цяпер гэта будзе ўлюбёны помнік жыхароў, бо мае сваю легенду.

Зубра ў нас вельмі баяцца ў горадзе, і вершаў таксама. Напісалі маладзёны слова «Зубр» на сьцяне, і адразу — суд, выключэньне з унівэрсытэту. Страшнае слова. Амаль як НАТА. А за верш сядзіць чалавек у турэмнай камэры чацьверты месяц! Маўляў, абразіў важную асобу. Верш сьмешны. Сьледчыя, мабыць, рагочуць, чытаючы. Але справу «шыюць». Верагодна, гульня ў голага караля працягнецца і ў судзе, бо ня будзе ж судзьдзя вымаўляць уголас тое, што там напісана.

Зьедзеш на некалькі дзён за калючы дрот, падыхаеш вольным паветрам, прыедзеш, а ў «яшчыку» «рыэліці-шоў». Гадзінамі паказвае «бальшушчую сьцірку». У «прачачнай-дурачачнай» усіх на пральнай дошцы адмываюць, у пераносным, зрэшты, сэнсе. Карацей, прапясочваюць. Як у савецкім вершыку: «Умывальнікаў начальнік і мачалак камандзір».

Існуе ў горадзе крама «Баторыя». Дарэчы, на вуліцы караля Стафана Баторыя, побач зь яго колішнім палацам. Шмат у ёй віна, гарэлкі, піва і чарніла. Днямі ўбачыў я шыльдачку: наліваем віно ў плястыкавыя бутэлькі. Не паверыў я, але пацікавіўся: чаму цана памяркоўная? А яна, прадаўшчыца, паказвае на вялікія мэталёвыя бочкі, кегі. І як вашая «кадарка»? А мы яе ня п'ём: пацяплела і віно бурболіць...

Ах, кароль! Што б ён на гэта сказаў? Калі ён памёр, у склепе нявыпітым засталося мноства віна, але ў бочках дубовых. Панавала марозная зіма. Ад караля засталося віно, магчыма таксама «кадарка». Але гэта было каралеўскае віно.

*2004*

# Натаўскі Грунвальд

Наконт Грунвальду — аніякіх ілюзіяў: мы там замежныя турысты — ня болей. І нічога не зьмяняецца. Першы раз, дзесяць гадоў таму, езьдзілі аўтобусам зь нябожчыкам прафэсарам Ткачовым. Са сьцягамі бел-чырвона-белымі, з гарадзенскімі харугвамі. 580-я ўгодкі перамогі над крыжакамі. Усё было вельмі афіцыйна: Ярузэльскі, Ландсбэргіс, нейкі чыноўнік з ураду Расеі ад Ельцына. Трое пераможцаў. Наконт нас нямала зьдзівіліся, але прапусьцілі.

Некаторыя з нас нават пад'елі жаўнерскай «грахуўкі» ў палявой сталоўцы. Усё забясьпечвала Войска Польскае, так што мерапрыемства атрымалася някепскае. Ах, марылі мы, ад'яжджаючы, каб насталі часы і беларуская дзяржаўная дэлегацыя пад бел-чырвона-белым сьцягам прыехала... І сапраўды сьцяг стаў дзяржаўным. Але прафэсар Ткачоў памёр.

Наступным разам мы выбраліся на Грунвальд, калі сьцяг забаранілі. У 1996 годзе. Па-ранейшаму мы, як нейкія нефармалы, зьявіліся нечакана, без запрашэньня, зь «незарэгістраванымі» штандарамі. Зрэшты, усё было неафіцыйна, на ўзроўні харцарскага зьлёту. Дата неюбілейная.

А што адбылося цяпер, 15 ліпеня 2000 году! Вялікае сьвята польска-літоўскае! Дзясяткі тысячаў гледачоў. Сотні рыцараў. Нават беларускія, якіх, дарэчы, не запрашалі. Ва ўсякім разе, у афіцыйнай праграме былі пазначаныя розныя, апроч нашых. Нашы выглядалі нязгорш, не па-самадзейнаму, ім даверылі правы фланг інсцэнаванай праз 590 гадоў бітвы, у якой цяпер удзельнічалі з абодвух бакоў соцень восем ваяроў. І сярод іншых, несучас-

ных і мала зразумелых публіцы сьцягоў, быў таксама і наш «недзяржаўны» — бел-чырвона-белы.

Але напачатку афіцыйнае адкрыцьцё. На мэмарыяльным полі быў сшыхтаваны новы супольны польска-літоўскі альбо літоўска-польскі батальён, «літпольбат», як сказаў Адамкус. Створаны для ўсякіх міратворчых мерапрыемстваў. Цяпер адбылася яго прэзэнтацыя. Помнік грунвальдзкім героям аздаблялі сьцягі Польшчы, Літвы і, даволі нечакана, — НАТА. Пра якое, дарэчы, усё гаварыў у сваёй прамове Квасьнеўскі.

Прамовы абодвух прэзыдэнтаў былі панэгірыкамі польска-літоўскаму сяброўству і братэрству па зброі. Карацей, гэта была перамога палякаў і сёньняшніх літоўцаў. Нават дзіўна рабілася, што гэткае магутнае літоўскае войска больш ніколі ў гісторыі ня вызначылася. Перад Молатавым адразу капітулявала. Адно хіба што паваявала міжсобку ў кароткую літоўска-польскую вайну ў 1920 годзе. Хаця сп. Квасьнеўскі ўсіх запэўніваў, што ў Эўропе болей няма двух такіх народаў, якія заўжды гэтак моцна сябравалі. Хоць у міжваенны час былі на нажах, усім вядома.

Збройнае братэрства было дадаткова замацавана. Польскі палкоўнік Лех Стэфанюк — камандзір 15-й мэханізаванай Вармінска-Мазурскай дывізіі імя караля Ўладыслава Ягайлы — атрымаў ордэн Гедыміна. А польскі крыж далі літоўскаму палкоўніку Ёнасу Жукасу. «То поляк!» — радасна адгукнулася публіка, пачуўшы прозьвішча. (Вельмі верагодна, што гэта папросту Іван Жук. Але ж для палякаў, як кажуць, нават «Бітлы» — палякі, паколькі гэта «Жукі».)

Потым высокае кіраўніцтва частавалі у вайсковых намётах. Рыцарскі бой прэзыдэнты глядзець ня сталі, зьехаўшы. Зрэшты, ім было б няўтульна, бо на полі скупіліся дзясяткі тысячаў людзей, а схавацца начальству не было дзе. Між іншым, калі Квасьнеўскі з Адамкусам былі на Грунвальдзе, войска і паліцыі было няма-ла. Але публіка адчувала сябе цалкам вольна. У нас усё адбываецца зусім інакш.

Праз 590 гадоў гісторыя была перапісаная. Гогалем выехаў кароль Ягайла на поле, жадаючы паўторна разьбіць ушчэнт крыжакоў. Але польска-літоўскія гакоўніцы гэтак моцна стрэлілі, што конь паляцеў і скінуў караля на дол. У бітве ён удзельнічаць ня здолеў. Ня ведаю, што зь ім сталася. Спэктакль працягнуўся.

Што ж, малойцы палякі! Яны змагаліся за сябе, за Польшчу. Яны дамагліся. Яны адзначаюць свае польскія перамогі, а не Сталінградзкую бітву. Яны ведаюць, калі якая дата, і ня блытаюць дзень вызваленьня сталіцы з вызваленьнем усяе краіны і з прыняцьцем дэклярацыі аб сувэрэнітэце. Яны, урэшце, прывезьлі дзясяткі, прабачце, біяпрыбіральняў (дарэчы, амэрыканскіх). А ў Горадні на сьвяце «дружбы народаў» на такую ж колькасьць публікі была толькі адна-адзіная і зусім ня бія.

Увечары я стаяў сярод рыцараў і дамаў, слухаючы з захапленьнем у душы сярэднявечныя сьпевы, бачачы навокал, як танчаць бы ў часы Міндоўга. Па-над Грунвальдзкім полем луналі два сьцягі — літоўскі і польскі. Флягштокі былі таксама толькі два. Трэці сьцяг не прадугледжваўся. Зрэшты, цяжка было б сабе ўявіць тут вясковы сьцяг з арнамэнтам. Уначы на адным флягштоку зь літоўскім зьявіўся бел-чырвона-белы, наш.

*2000*

## Не арыштавалі толькі бюст Купалы

9 лістапада ў Горадні судзілі Пятра Анісімовіча і Міколу Ворана. Быццам бы на Дзень Усіх Сьвятых яны не падпарадкаваліся міліцыі, аблаяўшы яе мацюкамі. Суд апраўдаў абодвух. Дзеля абароны гонару міліцэйскіх мундзіраў, праўда, сп. Ворану далі невялікі штраф — мінімалку.

1 лістапада ў Горадні адбылося абуральнае здарэньне. Міліцыя схапіла адразу 23 чалавек. Са словаў аднаго з затрыманых, не арыштавалі толькі помнік. У цэнтры гораду перад унівэрсытэтам каля помніка Янку Купалу стаяла публіка з запаленымі сьвечкамі, слухаючы вершы паэта, якія чытала адна з жанчын. Раптам адусюль наехала міліцыі — больш за дзесяць машын. Усіх — жанчын і маладзенькіх дзяўчат у тым ліку — пачалі хапаць і запіхваць у машыны. Усё заняло сама больш пяць хвілін. Аднаго з прысутных, мужчыну 58 гадоў, пяцёра міліцыянтаў павалілі тварам у гразь. У той вечар у горадзе ліў моцны дождж. Пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэньні былі складзены толькі на дваіх з затрыманых. Навошта схапілі астатніх, не зразумелі, відаць, нават самі міліцыянты.

Спачатку ў судзе разглядалі паводзіны Пятра Анісімовіча. Міліцэйскі шафёр сяржант М., які яго схапіў удвух з напарнікам — такім жа шафёрам-сяржантам Л., патлумачыў суду, што «Анісімовіч не хацеў сядаць у машыну, размахваў рукамі, хапаўся за форму. Лаяўся і зьневажаў міліцэйскую годнасьць».

**А. Антанюк, кіраўнік філіі БХК:** «Вы ж не прадставіліся і за што хапаеце — не сказалі».

**Міліцыянт М.:** «Ён адмовіўся сядаць у машыну, упіраўся. Людзі яго хапалі за рукі, не хацелі адпускаць. Давялося сілай запіхваць».

**П. Анісімовіч:** «А вы хоць прадставіліся — хто вы?»

**Міліцыянт М.:** «А вы ў нас пыталі? Нам паступіла каманда з УУС, ад палкоўніка К.».

**Д. Іваноўскі** (адзін з затрыманых, сьведка)**, мастак:** «Я сам каталік, а ўсе каталікі ў гэты дзень запальваюць сьвечкі і кладуць кветкі да магіл і помнікаў. Мы прыйшлі, каб ушанаваць памяць Янкі Купалы — сьвятога для беларусаў. А тут міліцыя пачала ўсіх хапаць. На пытаньне "хто і завошта?" нам адказалі — калі ўсіх пасадзяць у машыны, тады і прозьвішчы назавуць».

**Міліцыянт Л.:** «"Прысядзьце, калі ласка". Мы пяць разоў яму паўтарылі. Астатнія грамадзяне прыселі па сваёй волі. Адмовіўся прысесьці ў службовы аўтамабіль — непадпарадкаваньне, артыкул 166».

У машыне ўжо не было месца, таму Анісімовіч запярэчыў: куды сядаць? Яго жорстка выцягнулі вонкі, начапілі кайданкі і закінулі назад. Справа адносна Анісімовіча спынена, паколькі міліцыянты ня здолелі давесьці, што ён быў у чымсьці вінаваты. Ён нічога не парушаў, канстатаваў суд.

М. Ворану ў пратаколе панапісалі ўсякага — несанкцыянаванае шэсьце, непадпарадкаваньне, ды яшчэ ён быццам бы нецэнзурна лаяўся і не рэагаваў на заўвагі. «Хлусьня ўсё гэта, — сказаў у судзе сам Воран. — Схапілі за шыю, заламалі рукі, пацягнулі, як бервяно. А я ім: прадстаўляйцеся!» У РАУС адмовіўся ад пратаколу на расейскай мове, каб усё — толькі па-беларуску. «Раз так — зоймемся з табою асобна», — паабяцалі. Хвілін празь пятнаццаць прынесьлі пазоў у суд — на ўкраінскай мове!

А вось тлумачэньні «сьведак», якія хапалі Ворана. Памочнік камандзіра ўзводу старшына С.: «Паступіла каманда — усім нарадам на вуліцу Ажэшкі. Каля помніка стаялі людзі, сабраўся народ. Усіх удзельнікаў мітынгу — даставіць. Выбралі яго з-за атрыбутыкі — бел-чырвона-белы банцік на грудзі... Мы прадставіліся і прапанавалі прайсьці. Пачаў выражацца нецэнзурнай лаянкай. Прапанавалі прэкраціць выражацца. Было нарадаў многа. Затрымлівалі ўсіх навокал. А ў адказ — сукі, сабакі,

нецэнзурная лаянка. З горам напалам падвялі да машыны, падштурхнулі. Не сказаць што моцна ўпіраўся, але не хацеў».

**А. Антанюк:** «На якой мове выражаўся?»

**Міліцыянт:** «Сукі, сабакі. Ну, як беларускі чалавек можа выражацца? Па-беларуску».

**А. Антанюк:** «Ну, а што вы ўбачылі каля ўнівэрсытэту? Якія парушэньні парадку?»

**Міліцыянт:** «Каля помніка — з атрыбутыкай, сьцягамі стаяць і гутараць».

**Прапаршчык Х.:** «Паводзіўся вызываюшчэ — “Сабакі пазьбягаліся”, нецэнзурная лаянка. Лаяўся, выражаўся. Біўся, крычаў, на заўвагі не рэагаваў. “Халуі, сабакі”».

**Судзьдзя:** «Нецэнзурна лаяўся?»

**Міліцыянт:** «Паводзіўся нагла, вызываюшчэ. Мы паспрабавалі па-беларуску: прайдзіце ў аўтамашыну. Упіраўся, не хацеў. Крычаў — пусьціце, не круціце рукі!».

**Суддзя:** «Гэта гучала як просьба?»

**Міліцыянт:** «“Чаго круціце рукі?!” І — мат».

**А. Антанюк:** «На якой мове?»

**Міліцыянт:** «На нашай».

**А. Антанюк:** «У чым была ягоная віна? Каб не было каманды, вы б яго затрымлівалі? Ці былі падставы?»

**Міліцыянт:** «Па-першае, быў сьцяг — недзяржаўная сымболіка. Па-другое — бант».

Тлумачыць міліцыянтам, што, напрыклад, сьцяг «Маладой грамады», зь якім прыйшла моладзь, — зарэгістраваны, не было сэнсу. Ясна было, што, каб пастуціла каманда хапаць усіх лысых, альбо рудых, ці мужчын пад капелюшамі — хапалі б не задумваючыся. Міжволі ўспамінаецца падобная камічна-злавесная сцэна з прызабытага грузінскага фільму «Пакаяньне».

Мікола Воран не хаваў свайго абурэньня: каб прыйшлі ўскладаць кветкі да помніка якому-небудзь расейскаму паэту, міліцыя толькі спрыяла б. Сапраўды, праз вуліцу ўскладаюцца кветкі зь бела-чырвонымі стужкамі да помніка Э. Ажэшкі, і ніхто нікога не хапае. По-

бач у парку адбываюцца падобныя мерапрыемствы зь незарэгістраванымі чырвонымі сьцягамі, і міліцыя іх спакойна ўспрымае, нават удзельнічае.

Па справе Ворана было апытана пяцёра сьведкаў. Адзін зь іх, А. Міхальчык, выказаўся даволі літаратурна: «Кінуліся на нас, як зграя ваўкоў. На мяне асабіста, паваліўшы, селі пяць адкормленых міліцыянтаў — кіляграмаў па восемдзесят». У сп. Міхальчыка падчас гэтай акцыі зьнік гадзіньнік. Можа, проста раменьчык разарваўся. Сябры параілі: пайдзі пашукай каля Купалы. Але ён сказаў: «Хай яны самі шукаюць», — і напісаў скаргу начальніку РАУС.

Адносна Ворана прысуд быў даволі мудрагелісты: міліцыянты дзейнічалі незаконна, таму лаянка цалкам апраўдана. Але лаяцца ўсё адно нельга, значыцца — штраф.

Міліцыянты, якіх у судовай залі было каля дзесяці, напачатку адкрыта сьмяяліся. Але пасьля першага прысуду, невыгоднага для іх, замоўклі. Бо калі людзі не вінаватыя і ніякага непадпарадкаваньня не было, значыцца, вінаватыя тыя, хто склаў хлусьлівыя рапарты. Пацярпелыя будуць зьвяртацца ў гэтай справе ў пракуратуру. Карацей, сяржанты мелі магчымасьць пераканацца, што начальства іх падставіла. А можа, і начальства хто падставіў? Адзін міліцыянт шэптам патлумачыў, што сапраўдная каманда зрабіць хапун паступіла ўвогуле з «установы».

*2000*

# Буслы на даху Іваноўскіх

Адразу варта ўдакладніць. Шаснаццаць гадоў таму, на пятым курсе журфаку БДУ я спрабаваў хоць штосьці высьветліць пра Іваноўскіх. Трэба было закончыць дыплёмную працу аб газэце «Свабода». У красавіку 1984 г. з братам Алесем мы паехалі зь Ліды ад бацькоў у суседні — Шчучынскі — раён, каб убачыць Лябёдку Іваноўскіх, дзе калісьці нібыта быў надрукаваны першы нумар газэты «Свабода».

З 1-га лістапада таго ж году я ў Горадні пачаў займацца журналістыкай настала — да гэтага часу. Працаваў таксама і ў адроджанай «Свабодзе», але ў Лябёдцы болей не бываў шаснаццаць гадоў. І вось адзін з апошніх дзён мінулага красавіка. У старэнькіх «Жыгулях» дзьвюхмоўнай газэты «Биржа информации» за Шчучынам збочваем налева — на Гернікі. Гравійка засталася па-ранейшаму белапыльнай гравійкай, толькі адмежкі яе у вёсках заасфальтавалі, як калісьці загадаў Кебіч.

На вясковых аселіцах стаяць высокія каталіцкія крыжы, аздобленыя да нядаўняга Вялікадня. Яны былі ўжо ўвесну 1984-га — са сьвежага дрэва. Тут ужо не баяліся паставіць крыжы зноў, але баяліся іх яшчэ раз сьпілаваць зноў — як калісьці. Вёскі каталіцкія, але не выглядаюць заможна. Саўгас мясцовы застаецца саўгасам. Сьцены кароўнікаў уздоўж дарогі выглядаюць нежыцьцёва, занядбана, зь дзіркамі, пазабіванымі сяк-так дошкамі.

У Галавічполі, дзе знаходзіцца дом Іваноўскіх, крыж надзвычай адмысловы — высокі, цалкам мэталёвы, з аздобамі, абапал на крыжавіне — малаток і абцугі. За вёскай скрозь дрэвы былога парку праглядаюць чырвоныя муры, на даху — бусел. Як казка. Дом у энцыкляпэдыях

падаецца як «Галавічпольская сядзіба», што яна называлася Лябёдкай Іваноўскіх — мала хто памятае. У стылі мадэрн з элемэнтамі нэаготыкі. Як гавораць, змуравалі яго з польскай цэглы, як і Чырвоны менскі касьцёл. Будаўніцтва дому закончана ў 1909 годзе. «Свабода» выйшла на сем гадоў раней. Так што, магчыма, надрукавалі яе — Вацлаў Іваноўскі зь сябрамі ў старым доме, якога даўно няма.

Сёньня тут, як вядома, інтэрнат для дзяцей-інвалідаў. Дзеля гэтага і дом захавалі, надта грунтоўна быў зроблены. Але зь левага боку пачала абсыпацца дахоўка, ды па іншым відно таксама, што патрэбны рамонт. Падлеткі паказалі кафляную печку — да столі — сапраўдную, Іваноўскіх. Праўда, у іхніх галовах яны ператварыліся ў «Івановых». Летась прыяжджаў нехта з нашчадкаў, прывёз пакункі з прысмакамі. Асабліва запомнілася, што — зь нямецкім печывам.

Парк захаваўся, як выглядае, у даволі значнай ступені, канечне, занядбаны. Ідзём алеяй — дрэвы абапал старыя, валатоўскія. Шпацыравалі прысадамі гэтымі Іваноўскія адназначна. Дзе быў фамільны склеп — ужо не зразумець. У адным месцы крушня. Уражвае памерамі пень, непадалёк — выдзерты зь зямлі вялізны камель, напалову абцяты пілой.

Карані роду Іваноўскіх. Наш праваднік зь мясцовых выхаванцаў наіўна абяцае паказаць нейкі магільны камень, вядзе ў сад. У траве — цэмэнтная пліта зь ледзь чытэльным надпісам «50 лет Октября». Пад яблыняй я знаходжу маленькае птушынае яйка, кладу яго бліжэй да камля. Два буслы на даху, стоячы ў гнязьдзе, дбайна чысьцяцца.

Каля вясковай крамы зьбіраюцца мужчыны. Заробкі апошні раз плацілі за сьнежань! Студзеньскія ў некаторых — па дзьве-тры тысячы ўсяго! І ніхто не абураецца. Людзі моўчкі здаюць малако. За дзень саўгас — дзьве тоны, вяскоўцы — пяць. Па шэсьцьдзесят тры рублі за літар. Сабе слоіка часам не пакінуць. Успамінаюць, што ў блізкай Літве заўсёды была лепшая жытка. Цяпер дачыненьні збольшага такія: па ўсім раёне крадзецца быдла, трактары — і перапраўляюцца нелегальна празь мяжу ў Літву.

На лепшае жыцьцё ніхто не спадзяецца. Што рабіць, каб стала лепей, — ня ведаюць. Лукашэнку абараняць стаў толькі адзін з трох мужчын. Прычым не саўгасьнік, санітар з дому-інтэрнату: там заробкі плацяць. Бацька ягоны яму расказваў, што стары Іваноўскі быў пэдантычным панам. Калі асаблівай працы не было, казаў сялянам пераносіць каменьне, каб не сядзелі. Успомніў таксама, як годзе ў 1947-м разрабавалі пахавальны склеп яго — Леанарда Іваноўскага з жонкай, і ў чыгунных трунах мылі потым інтэрнацкую бялізну.

Летась прыяжджалі зь Літвы сваякі Тадэвуша Іваноўскага — аднаго з сыноў Леанарда, якім хочацца лічыць Лябёдку «гняздом летувіскасьці». Зь месца, дзе быў магільны склеп, яны ўзялі пясочак і пайшлі ў бок мяжы пешшу, расьцерусіўшы пясок па дарозе. Каб мясцовыя бачылі. Гэта зрабіла пэўнае ўражаньне.

*2000*

# Каўбаскі ля палацу

4 лютага, нядзеля. Косаўскі палац уражвае сьлядамі барбарства. Усе сьцены густа сьпярэшчаны надпісамі з імёнамі, датамі, брыдкай плюганінай. Хроніка: калі хто піў гарэлку і зь якімі бабамі. Ёсьць і наскальныя прызнаньні ў каханьні, нават па-ангельску. Між іншым, савецкіх сьлядоў з «ДМБ» зусім няшмат. Мяркуючы па надпісах, аўтары — тутэйшыя людзі, моладзь. Носьбіты «вялікарускава языка». Ёсьць і адзіны прыклад афіцыйна рэклямаванага білінгвізму, які быццам бы пануе ў Беларусі, — слова «прыдурак» на сьцяне палацу вымалявана па-наску. Вельмі сымбалічна.

Нагода для прыезду нас, гарадзенцаў, у гэты дзень у гэтую мясьціну — настальгічная. 12 лютага 1746 г. быў ахрышчаны хлопчык — Касьцюшка Тадэвуш — пад гэтым імем ён стаў вядомы ў сьвеце. 255 гадоў таму. На жаль, пятры першыя не прысутнічалі падчас хросту. Таму, мабыць, зь Менску прыехалі толькі Мар'юш Машкевіч, польскі пасол, і Джон Кунстадтэр з амэрыканскага пасольства. «Кіраўніцтва рэспублікі» напэўна пакутавала ад галаўнога болю — як вызваліць з заморскага палону аднаго карупцыянэра, таму, мабыць, нікога не прыслала. Хаця зразумела, што сусьветна вядомы змагар за свабоду з-пад Косава — ніхто для нашага галоўнага, якога цікавіць толькі югаслаўскае Косава. Пагатоў, «рэспубліканскае кіраўніцтва» паранейшаму шануе славутага карніка Суворава, прысланага расейскім царом, каб зьнішчыць паўстанцкае войска касьцюшкаўцаў.

Вось пра такія відавочныя рэчы думаеш, упершыню апынуўшыся побач зь нягеглымі ланцугамі агароджы,

за якой быў дом польскага героя Касьцюшкі, аб чым парасейску паведамляе шыльда. А дом-музэй Суворава, як заўжды, у выдатным стане. Цытатам зь ягонай «навукі перамагаць» вучаць у сучаснай «беларускай арміі». Лепей лішні раз пра гэта сказаць, чымсьці папросту прамаўчаць. Дыпляматы паклалі кветкі да касьцюшкаўскага каменя. Шыльду зь яго, дарэчы, скралі злодзеі, косаўскія патрыёты мусілі замяніць яе недарагой чаканкай. Замежнікаў тутэйшае начальства павезла карміць. Пасьля гэтага прыехалі мы. Убачылі тутэйшых патрыётаў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. Людзі былі пераважна сталыя. Сьцягоў ніхто не высмыкаў з рук. Карацей, ледзьве не дэмакратыя. Малады мужчына зь відэакамэрай на пытаньне «Зь якога тэлеканалу?» прабачліва адказаў: «Самі разумееце, адкуль я».

Пад’ехалі да касьцёлу косаўскага, ведаючы, што там мусіла адбыцца імша ў памяць Касьцюшкі. Калі некалькі чалавек выйшлі з аўтобуса, тутэйшая цётка з разуменьнем спыталася: «Вы што — апазыцыя?» — і патлумачыла, што міліцыя не пускала ў касьцёл «тутэйшай апазыцыі». Але імша ўжо закончылася. А двух ксяндзоў мы ўбачылі потым каля касьцюшкаўскіх падмуркаў. Абодва размаўлялі па-беларуску. Далей усе пайшлі да Косаўскага палацу, што побач. Жанчына мясцовая пачытала польскія вершы пра Касьцюшку.

Сямён Домаш расказаў, што летась наведаў музэй Тадэвуша Касьцюшкі ў швайцарскім горадзе Салюры, дзе паўстанцкі генэрал пражыў свае апошнія гады. Паводле словаў сп. Домаша, у кнізе водгукаў ёсьць запісы, пакінутыя кіраўнікамі буйных дзяржаваў. Што да беларускіх палітыкаў, дык ён быў першым з тых, хто наведаў музэй славутага сына беларускай зямлі. Сямён Домаш распавёў аб сытуацыі напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, пагутарыў зь людзьмі.

Ля Косаўскага палацу публіка падсмажыла на вогнішчы каўбаскі. Сярод удзельнікаў былі заўважаны і дыпляматы. Праўда, не прыехалі запрошаныя літоўцы. Ня ведаю, ці не змаглі, ці, можа, вырашылі не аспрэчваць паходжань-

ня Касьцюшкі. Мне асабіста іхняя адсутнасьць не перашкодзіла. Усё ж такі, пры ўсім маім «інтэрнацыяналізме», мне робіцца ніякавата, калі суседзі называюць літоўцамі Дастаеўскага, Лышчынскага, Семяновіча, Міцкевіча.

*2001*

# Згарэлі жыўцом...

Рандзілаўшчыну, у якой у псыханэўралягічным дыспансэры згарэлі ў мінулую нядзелю раніцай трыццаць чалавек, даволі цяжка знайсьці. Пачнём з таго, што ажно да lenta.ru адразу дайшло паведамленьне, што пажар здарыўся ў Казлові-чскім інтэрнаце на Гарадзеншчыне. Беларускія сродкі масавай інфармацыі ўпарта паўтаралі гэта нават у панядзелак. Паленаваліся зазірнуць у даведнікі, узяць мапу. Праўда, пры канцы дня некаторыя справілі памылку: пажар адбыўся ў Казлоўшчыне. Але насамрэч дыспансэр знаходзіцца ў вёсцы Рандзілаўшчына, а паміж ёй і Казлоўшчынай яшчэ існуе цэнтар сельсавету Дзянісава.

Аднак гэта яшчэ ня ўсё. Калі даваць веры «Атласу Гарадзенскай вобласьці», Рандзілаўшчына месьціцца справа ад Казлоўшчыны, г. зн. на усход. А вось мапа аўтамабільных дарог выданьня 2002 году дае адваротныя зьвесткі: Рандзілаўшчына на захадзе ад Казлоўшчыны. І саму Казлоўшчыну яна разьмяшчае зусім у іншым месцы, чымсьці яна знаходзіцца ў рэчаіснасьці. Мы ехалі з поўначы, пераехалі церазь Нёман, мінулі Дзятлава, а далей аказалася, што мапа брэша. Тых вялікіх вёсак, якія былі пазначаны на шашы Дзятлава—Слонім, мы ня ўбачылі, затое раптам трапілі ў Казлоўшчыну. Мы вырашылі, што мапа аўтамабільных дарог складзена цалкам у духу антынатаўскіх манэўраў «Чыстае неба», якія ў гэтыя дні якраз адбываліся, і да іх падобных. Карацей, мэта — заблытаць ворага, каб у будучыні натаўскія танкавыя калёны трапілі ў рэшткі беларускіх балатоў.

Дарэчы, дарожнага паказальніка з шыльдай «Рандзілаўшчына» таксама не існуе. А ёсьць толькі

«Псыханэўралягічны дыспансэр». У вёсцы засталіся жылых хатаў дзесяць. Выглядае яна даволі міла. Спачатку ля дарогі спатыкае капліца у выглядзе высокага мураванага кантовага слупа з крыжам. Леваруч — касьцёлік у клясіцыстычным стылі, каля яго старыя могілкі. Ля касьцёлу прыбіралі жоўтае лісьце сталыя мужчыны і кабеты. Дарога вядзе далей — да былога панскага маёнтку з прысадамі, у якім — установа, якая раптам стала вядомая, хоць і зь пераблытанай назвай, бадай на ўвесь сьвет.

Міліцыя на тэрыторыю не пускала, але паводзілася досыць міралюбна. Наперадзе было відно гарэлішча, вакол якога бела-чырвоны пас. Насельніцы дыспансэру таксама прыбіралі лісьце, мусібыць чакалі Рыгоравіча. Бо ў сельсавеце мы пачулі: можа прыехаць сам... Але, напэўна, у прэзыдэнцыі ўзважвалі плюсы і мінусы ад магчымага візыту і, мабыць, налічылі мінусаў болей. Дый увогуле, відаць, да сельсавету дайшла запозьненая інфармацыя. Каб яго па-сапраўднаму чакалі, дык не пад’ехалі б мы да Рандзілаўшчыны, не размаўлялі б зь міліцыянтамі, са сваякамі хворых, якія прыехалі наведаць сваіх пасьля таго, як даведаліся пра здарэньне. Не аглядалі б мы кінутыя скрынкі гмахаў — дыспансэр гадоў дзесяць ці болей таму пачалі разбудоўваць. У «гарадзкіх» будынках былі б і ўмовы лепшыя. А так — прыбіральня на двары, старыя драўляныя, панскія яшчэ, дамы, у якіх хворыя жылі і адзін зь якіх згарэў. Прычым самы населены — шэсьцьдзеся два хворыя. Усяго іх было сто трыццаць чатыры.

Пасьля вайны быў тут дзіцячы дом, затым дом для састарэлых, а потым ужо — дыспансэр. Некаторыя пражылі у ім усё жыцьцё, па шэсьцьдзесят гадоў. Так нам сказалі ў сельсавеце. У Казлоўшчыне існуе месца на праваслаўных могілках, дзе хаваюць нябожчыкаў з дыспансэру. У мястэчку таксама пабудаваны і дом для пэрсаналу. Хадзілі некаторыя хворыя ў казлоўшчынскую царкву, а іншыя — у свой рандзілавіцкі касьцёл Сэрца Езуса, які зусім побач. І да споведзі прыходзілі, і камунію прымалі. Нават аднаго хворага хрысьцілі. Адзін мужчына прыйшоў раніцай да касьцёлу, а там людзі кажуць: «Дурдом згарэў», — гэта яго

так у вёсцы называлі, тлумачыць ён. Панаехала пажарных, міліцыі, начальства, нікога не пушчалі. А потым прыйшлі машыны і забралі трупы, гаворыць мужчына.

А дзявятай раніцы ў нядзелю ў касьцёле адбылося набажэнства, прыехаў ксёндз Аляксандар са Слоніму, маліўся зь людзьмі за ахвяраў пажару, «за інвалідаў», як сказаў адзін дзядзька. Пажарныя з Казлоўшчыны прыбылі хутка — за пяць-шэсьць хвілін. Аднак выклікалі іх запозна. Тэлефона ў будынку не было, трэба было бегчы ў мэдпункт — мэтраў сто пяцьдзесят дакладна... Калі мы на наступны дзень заехалі ў Казлоўшчыну, рознакаляровыя брандспойты сушыліся на плоце. Саміх удзельнікаў тушэньня пажару выклікалі ў Дзятлава — на «разбор палётаў».

Адная жанчына ў касьцёле расказала, што, калі пачаўся пажар, яна чула, як трашчыць у поўнай цішы шыфэр. Было дзіўна, незвычайна і незразумела, што адбываецца. Яна гаворыць, што шкада асабліва «разумнейшых». Быў там Сашка, які сядзеў каля іх у касьцёле. Прыйшоў аднойчы, яго пахрысьцілі, і ён стаў вельмі веруючым. Казаў: раней мог вылаяцца часам, а цяпер — не. Апавядаў пра сваё жыцьцё — сам зь Менску, — тэлефон маці пакінуў. Яго лепш апранулі, ксёндз дапамог. «Добры быў хлопчык», — гаворыць яна. А потым людзі гаварылі, чулі, як тыя енчылі. А яна ім — тыя задыхнуліся дымам. Енчылі — хто ўратаваўся.

*2003*

# Літаратурны працэс

Людзей пасадзілі за верш, якога не наважыліся агучыць ні пракурор, ні судзьдзя. Праўда, калі быць дакладным, прагучалі дзьве цытаты — па адным радку, але гэта была падвойная цытата: пракурор зачытаў урыўкі з допытаў у КДБ. Зачытаў, назваўшы прозьвішча маёра, які дапытваў Аляксандра Васільева са страйкаму прадпрымальнікаў, кіраўніка якога — Валерыя Леванеўскага падчас працэсу трымалі ў клетцы. І яшчэ, у цытаваным радку было нелітаратурнае расейскае слова, зь якога пракурор прачытаў толькі першыя літары. Зрэшты, у самім вершы так і было надрукавана.

В. Леванеўскага і А. Васільева пакаралі двума гадамі зьняволеньня кожнага за вершаваную ўлётку, якая нібыта публічна абразіла прэзыдэнта. Праўда, не было ў ім ні прозьвішча, ні імя, ні афіцыйнай пасады. Пра гэта дзясяткі разоў гаварылася ў сьледчых кабінэтах і на судзе. Але ў абвінаваўчага боку былі «неабвержныя доказы» — паказаньні сьведкаў, палова зь якіх, як звычайна бывае ў беларускіх судах, самі міліцыянты, якія хоць і невялікія знаўцы паэзіі, затое ў ідэалягічным сэнсе маюць неабходную пільнасьць і ўвогуле работу сваю знаюць.

Паводле суду, Леванеўскі і Васільеў вырабілі двухбаковую ўлётку: здымак Леванеўскага і заклік прыйсьці на першатравеньскі мітынг з аднаго боку, сатырычны вершык — з другога. У выніку начальства пакінула мітынг «ня солана хлябаўшы»: сьвяточна-пампезную імпрэзу прадпрымальнікі ператварылі ў мітынг пратэсту, сказалі рашучае «не!» трэцяму тэрміну і запатрабавалі адстаўкі Лукашэнкі. Акцыя атрымалася досыць гучная. Асабіста Леванеўскага перад мітынгам арыштавалі, каб не прамаўляў.

**З паказаньняў сьведкаў**

**Адвакат:** «Плякаты з выявай прэзыдэнта і словам “Далоў”, вы лічыце, абражаюць гонар і годнасьць?»

**Міліцыянт-сьведка:** «Так, лічу».

Затым адвакат паведамляе: у пракуратуры міліцыянт сказаў, што бачыў на мітынгу Васільева, а цяпер гаворыць, што ня ведае яго. Паўстае пытаньне: «Дык значыцца, вашыя паказаньні запісаны няслушна?»

**Міліцыянт:** «Я ня ведаю».

**Судзьдзя:** «Дык якія паказаньні браць за аснову — ранейшыя ці сёньняшнія?»

**Міліцыянт:** «Напэўна, тыя...»

Гэты сьведка быў адным з «каронных», бо дапыталі толькі невялікую іх частку, пасьля чаго пракурор сказаў, што яму для абвінавачаньня цалкам хапае пачутых паказаньняў. І хаця абвінавачваныя і адвакат патрабавалі выслухаць усіх астатніх, пракурор застаўся няўмольным, як само беларускае правасудзьдзе.

**Пракурор:** «З тэксту вы зразумелі, на адрас каго накіраваны яго словы?»

**Сьведка-пэнсіянэрка:** «Нашага прэзыдэнта».

**Пракурор:** «У адрас прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. А зьмест — нармальны?»

**Сьведка:** «Там пра жабрацтва — гэта праўда: я і мае знаёмыя жабракі, а маты у вершы мне не спадабаліся».

**Пракурор:** «Вы дабраахвотна аддалі ўлётку міліцыянту?»

**Сьведка:** «Так, нават не паглядзела пагоны. А цяпер думаю: навошта я яго ўпусьціла дамоў?»

**Адвакат:** «На падставе чаго вы вырашылі, што гэта да прэзыдэнта мае адносіны, — на падставе якіх фразаў, выразаў?»

**Сьведка:** «Там пра камунальныя паслугі напісана. З майго пункту погляду — хто ў нас самы галоўны ў нашым жыцьці? А я сама ніхто».

**Адвакат:** «Ці была там указана пасада?»

**Сьведка:** «Ня памятаю, не. Не зацыклівалася на дакладнасьці такой. Можа, я і памыляюся, у мяне сярэд-

няя адукацыя. Ня ведаю, кожнаму зразумела. А можа ў мяне мазгі тупаватыя?»

**Васільеў:** «Вы ня лічыце сябе спэцыялістам у галіне літаратуры, паэзіі? Ці чыталі Пушкіна, байкі Крылова?»

**Сьведка:** «У школе».

**Васільеў:** «На падставе вашых паказаньняў мяне могуць засудзіць».

**Судзьдзя:** «У нас ня ўрок расейскай мовы і літаратуры».

**Пракурор:** «На чый адрас накіраваны вершы ва ўлётцы?»

**Сьведка-мужчына:** «На адрас прэзыдэнта».

**Пракурор:** «З чаго зрабілі такое меркаваньне?»

**Сьведка:** «Дзіцяці было зразумела».

**Пракурор удакладняе:** «Што не прэзыдэнт афрыканскай рэспублікі».

**Сьведка:** «Вершы нармальныя, толькі пару словаў бязь літараў напісаны».

**Пракурор:** «Гэты верш, каб на ваш адрас — абразьліва было б?»

**Сьведка:** «Ня ведаю, я невялікі чалавек, на мой адрас такіх вершаў ніхто пісаць ня будзе».

**Пракурор:** «Шматкроп’і абражаюць гонар і годнасьць?»

**Сьведка:** «Думаю, што так».

**Адвакат:** «А абвінавачаньні былі на адрас прэзыдэнта?»

**Сьведка:** «Не, папросту абразьлівыя словы, усяго толькі».

**Адвакат:** «А ў зьдзяйсьненьні злачынства не абвінавачвае верш?»

**Сьведка:** «Толькі кепскія словы на ягоны адрас».

**Леванеўскі:** «Адкажыце — у чым абраза: мова ідзе аб прэзыдэнце РБ таму, што...»

**Сьведка:** «Я меркаваць не магу».

**Судзьдзя:** «Маеце цяжкасьці з адказам?»

**Сьведка:** «Маю цяжкасьці».

**Пракурор:** «Вось тэкст».

**Васільеў:** «У чым абраза прэзыдэнта?»

**Судзьдзя:** «Які з трох слупкоў абражае?»

**Сьведка:** «Першая частка — найбольш матных словаў».

**Васільеў:** «Яму адрасавана?»

**Сьведка:** «Хутчэй за ўсё яму».

**Васільеў:** «Значыцца, прэзыдэнт “надзеў патэльню”»?

**Судзьдзя:** «Ну, ён жа сказаў, што так».

Вось такі нязмушаны дыялёг вялі ўдзельнікі працэсу. Дарэчы, сьведкі зрабілі ўражаньне прыемных добрых беларускіх людзей, зьніякавелых ад выкананьня не ўласьцівай ім ролі. Пракурор — вельмі малады, сымпатычны, з інтэлігентным, крыху нэрвовым тварам. Адно казалі, што «яго падставілі», старэйшыя калегі чамусьці ня выказалі жаданьня трапіць абвінаваўцамі на такі літаратурны працэс. Мабыць, не адчувалі сябе дастаткова моцнымі ў паэзіі.

Судзьдзя — увогуле выдатна вядомая ўсім мясцовым дэмакратам асоба, у іх зь Леванеўскім усталяваліся амаль што цёплыя адносіны, ён нават дазволіў некалькі саступак. Леванеўскі, напрыклад, патрабаваў у клетку стол, паколькі пракурор сядзеў за сталом і зачытваў розныя дакумэнты, а Леванеўскі мусіў усе паперы раскладаць на лаве і на каленках. Судзьдзя паабяцаў. Праўда, даў толькі крэсла, у якім сядушка не трымалася. Але гэта ўсё ж лепш, як нічога.

Абарона і абвінавачваныя пратэставалі, праўда, што сьведкаў выкарыстоўваюць у судзе ў якасьці экспэртаў-лінгвістаў, але яксьці пракурор і судзьдзя не надалі вялікага значэньня гэтым пратэстам. Праўда такая, што не было экспэртных высноваў, гэтак патрэбных абвінавачаньню. Спэцыялісты — хто зусім адмовіўся ад гэткай непрывабнай ролі, хто напісаў штосьь няпэўнанэйтральнае. І тады абвінавачаньне выкарыстала «голас народу».

Другі істотны момант. Хрыстом-богам абвінавачваныя прасілі паведаміць — за што іх судзяць, канкрэтызаваць —

за якія сказы, фразы? Абарона падтрымлівала гэтае справядлівае патрабаваньне. Ажно пракурор ня вытрымаў і сказаў, што канкрэтыка будзе «на дэсэрт» — пад заслону працэсу. І выканаў сваё абяцаньне ў перадапошні дзень. Карацей, судзілі Леванеўскага і Васільева за тое, што ва ўлётцы было сказана, што «хтосьці» езьдзіць катацца на лыжах у Аўстрыю «дзеля ўласнага задавальненьня». А паколькі слова «хтосьці» было напісана вялікімі літарамі, то значыцца, гэта маецца на ўвазе самі ведаеце хто... Па-другое, паводле пракурора, у вершы гаворыцца пра гульню ў хакей і тэніс, што «зьяўляецца характэрнымі ўласьцівасьцямі» той жа самай пэрсоны.

Карацей, трэба даць ім па тры гады за верш і саму ўлётку — абвінавацца быў няўмольны. Судзьдзя падумаў-падумаў і даў па два. Усё ж Леванеўскі і Васільеў досыць сымпатычныя людзі, і судзьдзя не хацеў быць да іх занадта жорсткім.

Што яшчэ дадаць? Напачатку сьледчыя вельмі шукалі аўтара вершыка, нават да спэцаў зьвярталіся. Але ўрэшце суд прызнаў, што напісаў яго рабочы Мікалай, якога знайсьці не атрымалася. Паводле Васільева, то была цэлая паэма, старонак на трыццаць, «крык народнай душы». Ён таксама гаварыў, што ў КДБ паэму вывучалі «ледзьве не пад мікраскопам». Ужо ўсе начыталіся! І каб хто аўтарытэтна сказаў, што вершык-то — абы што, прымітыўныя, можна сказаць, куплеты. Дык не, падыход быў як да высокай паэзіі. Мабыць, трымалі ў галаве хрэстаматыйна-школьны прыклад пра Пушкіна і Мікалая І. Або пра Мандэльштама і Кобу.

Працэс гэты мае некаторую літаратурную афарбоўку бадай і дзякуючы апошняму слову Валерыя Леванеўскага. Гэта была ў пэўнай ступені літаратурная прамова. Ён пачаў з таго, што існуе яшчэ шмат крамольных вершаў. Напрыклад, байкі Крылова, «Тараканішча» Чукоўскага. Дарэчы, Аляксандар Васільеў некалькі дзён прыходзіў на суд менавіта з гэтай кніжкай — пра тараканішча...

*2004*

# Скрадзеная «Пагоня на Грунвальд»

У наднёманскім горадзе за мурам, які атачае цьвінтар Каложы, укапаны ў зямлю камень, на якім мэталічная дошка з гербом Вялікага Княства Літоўскага і надпісам «Пагоня на Грунвальд. 1410». Адзначыць на тым месцы 15 ліпеня ўгодкі Грунвальдзкай перамогі ўлады не далі, а самі яны такіх сьвятаў ня ведаюць. Кажуць, ля царквы шнырылі міліцыянты ў спадзяваньні лёгкай перамогі над аматарамі Грунвальдзкай бітвы.

Увечары горад брыняў прадчуваньнямі сьвята іншай перамогі, якую ўлада любіць да замілаваньня. І за грунвальдзкія ўгодкі выпілі па кілішку толькі некаторыя, зусім нешматлікія жыхары каменнага гораду, дзе кавалася калісьці перамога над тэўтонцамі. Ля кавярні, якая лічыцца месцам збору аматараў гербавага рыцара на кані, швэндаліся розныя падазроныя, занятыя змаганьнем з прыхільнікамі ўсяго рыцарскага і грунвальдзкага. Віжуны запаміналі, пра што гаворыцца за сталамі, выстаўленымі на брук, і дбайна запісвалі тосты.

А наступнай ранічкай сталі сыходзіцца да Каложы тыя, хто праз афіцыйныя літаўры не забыўся пра войска Вялікага князя Вітаўта. У царкве распачалося ўжо набажэнства. Было вядома, што замовілі малебен за герояў Грунвальду, але не было вядома — ці аплацілі яго? Параіліся ды вырашылі, што не аплацілі, а таму ўвайшлі і пад «Ойча наш, каторы ёсьць у небе» (у царкоўна-славянскім варыянце) паставілі запаленыя сьвечкі за грунвальдзкіх ваяроў. А знадворку сонца толькі спрабавала высьвеціць крыжы на сьценах царквы, якія надавалі ёй выгляд нетутэйшасьці.

Камень з крыжам на цьвінтары паказваў на легендарную магілу князя Давыда Гарадзенскага. І пра яго

ўспомнілі: капалі археолягі, але магілы не знайшлі, аднак камень усё адно паставілі. А потым да «Пагоні на Грунвальд» паклалі кветкі, і ўпершыню не стаялі хеўрай навокал міліцыянты, ня лезьлі нахабна ў твары сваёй відэакамэрай. І ўспомнілі пра даўнюю кніжку пісьменьніка Тарасава Кастуся, якая нават на расейскай мове зрабіла некалі вялізнае ўражаньне на тых, хто пасьля залюбіў грунвальдзкую гісторыю назаўжды. І называлася тая кніга менавіта «Пагоня на Грунвальд».

І ў гэтую суботнюю раніцу на нёманскім пагорку ўсе слухалі пераказ таго месца з кнігі, дзе пад гэтым пагоркам церазь нёманскі брод на заходні бераг перапраўлялася войска Вітаўтава, і апошняй была татарская коньніца, і ад татарскіх халатаў засеребрылася вада... Дзесяць гадоў таму з грунвальдзкага помніка ля Каложы скралі бронзавую шыльду. Сёньня яна са звычайнага мэталу, ня бронзавая, срабрыста-шэрая.

Непадалёк ад Каложы адкапалі нейк вялізны камень, на ім сёньня выразаны надпіс, прысьвечаны князю Давыду, «абаронцу ад крыжацкай навалы» «места Гарадзенскага». Пастаялі і ля яго, успомнілі пра Гарадзенскага Давыда, якога некалі так любіў чалавек, які раскопваў падмуркі нашай гісторыі і адкрываў нам вочы на нашую мінуўшчыну, седзячы ў архівах, а потым ствараючы свае кніжкі. Гэтым чалавекам быў Міхась Ткачоў...

У больш спрыяльныя часы на гэтым месцы нават рыцары біліся ў дзень угодкаў Аршанскай бітвы. І ў гэты дзень аднойчы ля «Пагоні на Грунвальд» прымалі беларускую прысягу людзі ў цывільным, калі кавалак былой Савецкай арміі не жадаў прысягаць беларускаму народу, а парлямэнт склаў тэкст прысягі толькі для салдатаў, каб не абражаць годнасьць савецкага афіцэра...

Існуе яшчэ адна «грунвальдзкая» мясьціна ў горадзе — паміж двума замкамі стаіць драўляная статуя Вялікага князя Вітаўта, які трымае свой драўляны меч. На гэтым самым месцы штогод прасілі людзі ўладу: дайце ля Вітаўта адзначыць угодкі Грунвальду! Не, мост паміж замкамі ў аварыйным стане, адказвалі ўлады. Мы не зьбіраемся

на мосьце танчыць! — казалі аматары «пагоні на Грунвальд», але іх ніхто ня слухаў. І аднойчы яны падалі ў суд на ўладу, і суд гэты быў клясычным фарсам, як і ўсе такія суды. На першай лаве сядзелі паляк, беларус, літовец, і гаварылі яны: пятнаццаць гадоў па аварыйным мосьце ходзяць людзі ў Стары замак, хай улада адказвае тады за гэта! Але зь яе як з гусі вада.

У дзень, калі ў Каложы паставілі сьвечкі за ваяроў Грунвальду, у горадзе стралялі залпамі, крочылі, як алавяныя жаўнеры, пагранцы зь ленінскімі сьцягамі, гралі бравурныя аркестры. Улады раптам абвесьцілі ўгодкі выгнаньня вэрмахту сьвятам гораду! Ня скеміўшы, што гэтым днём заўжды быў некалі дзень сьвятога Губэрта, алень якога аздабляе герб гарадзкі. Яны хіба звар'яцелі на апошняй вайне, заклінавала памяць. Як казала мая цётка, «дурдом і немцы».

А ўвечары я выхіліўся з акна, каб паглядзець на публіку, на пыркі салюту. Парахавыя хмары плылі ў бок саборнай царквы. Уздоўж старажытнай вуліцы прыпаркаваныя аўтамабілі спуджава рэагавалі ня толькі сыгналізацыяй на выбухі ў небе, але нават трывожным мігценьнем чырвоных падфарнікаў. Фаервэрк — увасабленьне радасьці, падумалася мне. У гэтай краіне існуе строгі падзел — на радасьць афіцыйна створаную, ідэалягічна падмацаваную і проста радасьць. На перамогі афіцыйна дазволеныя, разьдзьмутыя, растыражаваныя і перамогі гістарычныя, якія немагчыма перакрэсьліць, запэцкаць, закапаць дзяржаўным далакопам.

Хаця ім гэта ледзьве не ўдалося, ва ўсякім разе яны вельмі стараліся. Скінулі рыцара, пасадзілі на каня міліцыянта ў шлеме, замест мяча — друк гумовы. Але ён можа ім яшчэ спатрэбіцца, напрыклад, у выглядзе віцязя зь якім-небудзь сярпом і молатам на шчыце... А цікава, ці існуе дагэтуль дзікае паляваньне караля Стаха? Няма ў каго спытаць.

*2005*

# Зьмест

**Кніжная сэрыя «Кнігарня «Наша Ніва» заснаваная ў гонар 100-годзьдзя газэты «Наша Ніва»**

**Раней выйшлі ў сэрыі:**

**Андрэй Хадановіч.** «Сто лі100ў на tut.by»
**Андрэй Хадановіч.** «Бэрлібры»
**Пётра Рудкоўскі.** «Паўстаньне Беларусі»
**Андрэй Дынько, Андрэй Скурко.** «Беларусь за дзесяць падарожжаў»
**«Жанчыны выходзяць з-пад кантролю».** Беларускае жаночае апавяданьне
**Сямён Печанко.** «У Беларускім войску»
**«Застаемся!».** Сакавік 2006: прыватнае і агульнае»
**Наталка Бабіна.** «Крыві не павідна быць відна»
**Наталка Бабіна.** «Рыбін горад»
**Алесь Кудрыцкі.** «Суд на Каляды»
**«Бабілёнская бібліятэка».** Замежная літаратура ў перакладах «Нашай Нівы»
**«Найясьнейшая Рэч Паспалітая».** Цывілізацыя. Культура. Рэлігія. Палітыка. Авантура. Героіка. Успамін
**Віталь Тарас.** Звыклае зло.
**«Паветраны шар».** Беларускае мужчынскае апавяданьне
**Павал Севярынец.** Лісты зь лесу
**Павал Севярынец.** Люблю Беларусь
**«Вясна народу».** Эсэістыка 1991 — 2007
**Пётр Краўчанка.** «Беларусь на ростанях: нататкі дыпламата і палітыка»
**Валянцін Тарас.** «На высьпе ўспамінаў»
**Наталка Бабіна.** «Рыбін горад»
**Ева Вежнавец.** «Шлях дробнай сволачы»
**Франц Сіўко.** «Дзень Бубна»
**Артур Клінаў.** «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца»
**Лёлік Ушкін.** «Левым вокам»
**Васіль Быкаў.** «Пахаджане»
**Васіль Быкаў.** «Сьцяна»
**Павал Касьцюкевіч.** «Душпастарскія спатканьні для дачнікаў»
**Алесь Белы.** «Наша страва»
**Анджэй Суліма Камінскі.** «Рэспубліка супраць аўтакратыі: Рэч Паспалітая і Расія, 1686—1697»
**Алесь Кудрыцкі.** «Плястыляндыя»

**У выдавецкіх праектах «Кнігарні «Наша Ніва» на 2009 год**

**Спадчына Вялікага Княства.** Вялікае Княства Літоўскае на старонках «Нашай Нівы» 1991—2006.
**Арсень Ліс.** «Gloria victis». Збор твораў

**Пытайцеся ў кнігарнях і незалежных распаўсюднікаў**

Кнігарня Наша Ніва